# ДА ЧЫТАЧА

Шаноўны чытач! Кніга, якую ты чытаеш, часткова друкавалася ў газетах «Народная Воля» і «Наша Ніва» пад рубрыкай «Камертон». Гэта нарысы і эсэ пра розныя падзеі, часам нават як бы нязначныя. Агульнае, што яднае іх, — гэта Памяць. Мне заўсёды здавалася, што зразумець сучаснасць і зазірнуць у будучыню немагчыма без памяці пра мінулае, без адчування няспыннай плыні жыцця. Свайго жыцця, сваёй сям'і, грамадства, краіны.

Толькі праз такое адчуванне памяць уплецена ў кожнае цяперашняе імгненне.

Толькі праз такое адчуванне жыццё падаецца бясконцым.

# І. ПА КІМ МАЎЧЫЦЬ ЗВОН

*Чалавек рэдка зважае на сваё здароўе, калі нічога не баліць. А калі нават пабольвае, трывае. Бо звык. Між тым хвароба паціху падточвае ягоны арганізм — і ўрэшце выбухае нясцерпным болем. Так здараецца і з грамадствам...*

## ПЕРАХОДНЫ ПЕРЫЯД

31 снежня, літаральна за некалькі гадзін да Новага года, раптам высветлілася, што недзе згубіліся лямпачкі на ялінку. У пошуках я наткнуўся на пашарпаную скрынку з-пад цукерак, а ў ёй — паперкі, на якія даўно забыўся. «Глянь ты, чэкі, — з пэўным здзіўленнем вымавіў я. — Колькі яны тут праляжалі?» — «Бяжы па лямпачкі, — адазвалася жонка. — Пакуль няма лямпачак, нельга вешаць цацкі...» — «Бяжы, бяжы... Ты ведаеш, колькі яны зараз каштуюць? Тысяч сто пяцьдзясят, не меней... Слухай, а давай замест лямпачак гэтыя паперкі падвесім. Бачыш, як яны гараць сінім полымем? Вось маіх бацькоў чэкі, і сястры, і тваёй маці, і нашы з табой... Усё напрацаванае за іхняе і нашае жыццё...» — «Не марнуй час, — раззлавалася жонка, — бяжы...»

Праз колькі хвілін я ўжо бег на Камароўскі рынак, на падыходзе да якога патрапіў у натоўп, сціснуты ў прыцемках падземнага пераходу. Не, ён рухаўся ў абодва бакі не так ужо й марудна, нават хутчэй, чым я спрабаваў бегчы. Але з той натоўпнай хуткасцю, якая заўсёды замінае асабістаму руху...

Шукаючы сваю сцежку між сотнямі людзей, я кідаўся ва ўсе бакі, пакуль не прыціснуўся да сцяны. І раптам пачуў нейкі дзіўны гук.

Праз цяжкую вільгаць падзямелля, быццам аднекуль здалёк, даносілася дрогкая, прарэзлівая і адначасова журботная мелодыя. Паціху ўздоўж сцяны, абмінаючы бабулек, што прадавалі вязаныя шкарпэткі, хусткі, ручнікі і абрусы, я праціснуўся да таго месца, адкуль лілася мелодыя. Хлопчык гадоў

дванаццаці, прыклаўшыся пачырванелай шчакой да скрыпкі, павольна вадзіў смыкам па струнах і час ад часу адкідваў саламянага колеру чупрыну. Ён, мусіць, толькі вучыўся граць, часта фальшывіў, я ніяк не пазнаваў мелодыю, пакуль ён не ўзяў некалькі чысцюткіх нот: «Ты ж мая, ты ж мая перапёлачка...»

Натоўп рухаўся і рухаўся, не запавольваючы кроку, абмінаючы раскладзены перад музыкам чорны футляр з пацёртым бардовым аксамітам. Не бачна было аніводнага асобнага твару — толькі твар натоўпу, ягоны злеплены адзіным клопатам твар. Хто-ніхто, праўда, кідаў усё ж нейкія грошы. А я, забыўшыся пра лямпачкі, глядзеў і глядзеў на хлопца, на ягоны непаслухмяны смык і ўсё намагаўся зразумець, што ж адбылося ў гэтым пераходзе за доўгі час. Не «Раскинулось море широко...», не «День Победы», нават не «Стюардесса Жанна», якую мы з пісьменнікам Віктарам Казько чулі ў гэтым пераходзе напачатку 90-х. «Культура пераходнага перыяду», — выдаў ён тады трапную фармулёўку. І вось здарылася, перайшлі — пачулі нарэшце беларускую песню...

Колькі ні жывём, думаў я, усё то маршыруем, то паўзём праз нейкі «пераходны перыяд».

І дзяды, і бацькі нашы ўсё пераходзілі да розных сацыялізмаў і камунізмаў «праз 20 год»...

І мы, ужо самі бацькі і дзяды, усё пераходзім да «незалежнасці і дэмакратыі» на чале з дыктатурай...

І вось ужо дзеці нашы і ўнукі пераходзяць і пераходзяць да ўсяго, што трапляе на гнуткі язык праўладных ідэолагаў і прапагандыстаў...

Што за пачвара загнала і вядзе нас па цьмяным пераходзе, ператвараючы нашы твары ў нейкі адзін твар то агрэсіўнага, то абыякавага натоўпу?

Здавалася б, што дрэннага: з аднаго боку пераходу філармонія, з другога — рынак. Хадзі туды-сюды, купляй кітайскія лямпачкі, слухай сусветную класіку, атрымлівай, хто якую можа, асалоду ад жыцця...

Але чамусьці не атрымліваецца.

Чамусьці ўзгадваецца, выплывае з цемры часу здымак 50-х гадоў мінулага стагоддзя: узнятая на дыбкі Камароўская ба-

гна, дзіўна, але ўжо ўзвышаюцца слупы з ліхтарамі, а паміж імі — чорны правал у бездань, нібыта ў пекла...

...Пакуль наплывалі пад «Перапёлачку» гэтыя карціны і думкі, хлопчык са скрыпкай некуды знік, я не паспеў пакласці ў футарал хаця б нейкія грошы. І ўвесь тыдзень да самых Калядаў я цікаваў яго ў пераходзе, каб пагаварыць, спытаць імя, разлічыцца. Але не, цёмны пераход быў пусты, толькі дзьмулі з канца ў канец ад рынку да філармоніі і ад філармоніі да рынку цемнаватыя падземныя скразнякі...

І тады я выйшаў да святла на плошчу.

Ці, можа, на Плошчу?

Усё тут было, як заўсёды ў выхадны дзень: і матулі з дзіцячымі вазочкамі, і юнакі, што з кветкамі чакалі спаткання, і падобны да Леніна Якуб Колас з героямі сваіх цудоўных твораў, увасобленых у не надта зграбным помніку...

Нават наваголдзе адчувалася нечым звыкла-ўмоўным.

Толькі на Сымона-музыку я глядзеў чамусьці зусім іншымі вачыма.

## АПОШНІ САЛЮТ

Пішу 8 траўня, заўтра будзе салют.

Ужо і не памятаю, у якім годзе тое было. Здаецца, у 1992-м, калі міністрам абароны быў прызначаны Павел Казлоўскі. Тады ўпершыню і толькі аднойчы за ўсе мінулыя дваццаць два гады 9 траўня а 22.00 мясцовага часу па загадзе міністра абароны ў Мінску павінен быў узляцець у нябёсы «святочны феерверк», што ў перакладзе з нямецкай мовы азначае «дэкаратыўныя каляровыя агні».

Што праўда, сапраўдных феерверкаў, гэтых цудаў піратэхнікі, мінскае неба да таго часу не бачыла. Куды больш звыклымі былі традыцыйныя салюты «...цаццю артылерыйскімі залпамі». То бок дзея класічна строгая, якая мусіць сімвалізаваць д з я р ж а ў н у ю сутнасць свята. Вясёлая легкадумнасць феерверкаў, калі душа, што прагне святочнай забавы, атрымлівае магчымасць пракаціцца па небе на агнявой калясніцы, заўжды была далёкай ад ідэолагаў дзяржаўнай велічы.

I, канечне, было нешта нечаканае ў рашэнні тагачаснага міністра абароны адмовіцца ад звыклай мілітарысцкай традыцыі, адсвяткаваць Дзень Перамогі не артылерыйскімі залпамі, а «дэкаратыўнымі каляровымі агнямі».

Ні таго, ні іншага ў Мінску тады не адбылося. Калі не лічыць некалькіх «букетаў», што бязгучна распусціліся і адразу завялі над аддаленымі мікрараёнамі. Увесь дзень пасля афіцыйнага ўскладання вянкоў у горадзе панавалі нудота і пустэча. Між тым у цэнтры горада, на плошчы Перамогі і вуліцах паблізу, на мосце праз Свіслач, у цёмных водах якой зіхацелі рэдкія начныя агні, сабраліся ў чаканні святочнага феерверку дзясяткі тысяч людзей.

Я слухаў размовы ў натоўпе. Нехта палічыў, што вайскоўцам не хапіла пораху, што салюты і феерверкі — справа дарагая, а мы жабракі, у бюджэце спрэс дзіркі. Нехта з горыччу заўважыў, што войска развалілася і дрэнна выконвае загады. «Пры чым тут войска? — запярэчылі яму. — Гэта ўлады памыліліся, думалі, што народ па хатах сядзець будзе, піць горкую. Ды і як зараз дадому дабірацца? У транспарт не ўлезці, а таксоўка — самі ведаеце...» — «Ды не, — адгукнуўся малады чалавек у акулярах і белай, не па начной прахалодзе, кашулі, — яны проста страшацца, калі збіраемся больш за трох...» Недалёка моўчкі прыхінуўся да дрэва вясковага выгляду стары на кавяле і з трыма медалямі на прымятым пінжаку. «Усё, бацька, — махнуў рукой той, што ў акулярах, — здымай узнагароды, скончылася свята...»

Я не ведаў тады, скончылася яно 9-га ці скончылася назаўсёды. І ці не было прадвесцем гэтага канца нейкае падабенства глухога салюту над гарадскімі ўскраінамі?

Напярэдадні маскоўскае тэлебачанне паказала тоўстага чалавека ў падцяжках, «незалежнага маскоўскага журналіста». Седзячы ля каміна, ён з гэткай любай у народзе грубаватай праставатасцю выказаў між іншым думку, што Дзень Перамогі святочным быць не павінен. Падцяжкі на жываце «незалежнага маскоўскага журналіста» і ўтульны камін у кадры рабілі даволі няпростую для масавага ўспрымання думку хатняй, даходлівай: разам з таталітарным рэжымам мусіць быць раз-

бураны і гэты пераможна-святочны Карфаген. Хопіць, маўляў, прыніжаць адоленага ворага...

Насамрэч — якое на крыві свята?!

Але хіба не дзіўна, што «вораг» сам лічыць гэты дзень ці не галоўным у сваёй трагічнай гісторыі?

Колькі разоў мы чулі ад суграмадзян традыцыйна-савецкае здзіўленне: немцы вайну прайгралі, а як жывуць! Хто ж перамог?.. Парадокс!

Але ніякага парадоксу няма. Немцы, паражыўшы ў той вайне перамогу над сабой, перамаглі вайну ў сябе. А мы ўсё ваюем, цешымся перамогай над імі, бразгаем зброяй...

Мо таму так і жывём?

Мо таму так і жывём, што не зважаем на тое, як спекулюе на перамозе ўлада, якая толькі тым і займаецца, што завіхаецца ў пошуку знешніх і ўнутраных ворагаў. Вось і ўзнікае пытанне: хто вораг?..

Ды як бы там ні было — перамога ёсць перамога, і колькі б ні казалася пра яе ганарліва-пафасных альбо абвяргальна-злавесных слоў, непарушнай, упэўнены, застанецца яе сутнасць: перамога над нацызмам была і застаецца прадвесніцай перамогі над уласным таталітарызмам.

Над вайной.

Час пасцірае з твару Перамогі фальшывыя рысы, усе грымасы прапагандысцкай крывадушнасці — і ўрэшце яна паўстане калі не перад намі, дык перад дзецьмі нашымі і ўнукамі ў чыстым выглядзе перамогі людскага над звярыным.

Перамогі народа. Перамогі таго салдата, якога «закапалі ў шар зямны». І таго, з кавенькай, які ў чаканні салюту ціха прыхінуўся да дрэва, і на грудзях ягоных — медаль за горад Будапешт...

Салют!

## ЧОРНЫ ПАКЕТ

Нядзельнай раніцай я заўважыў на лесвічнай пляцоўцы ля суседскіх дзвярэй чорны, перавязаны крыж-накрыж пакет. Кінуў позірк ды пайшоў сабе далей. Праз колькі гадзін вярнуўся — пакет быў на тым жа месцы...

Пад вечар я ціскануў суседскі званок. Дзверы расчыніліся. «...Чулі? — суседка, былая доктарка, хуценька дашпільвала на хатнім халаце апошні гузік. — Расстралялі... Я б такіх на месцы расстрэльвала, без суда і следства. Нелюдзі...»

Увесь нядзельны вечар я слухаў тлумачэнні афіцыйных каментатараў і прапагандыстаў, чаму трэба было расстраляць Кавалёва і Канавалава. У пацвярджэнне іх слоў экран дыхаў полымем, дымам і пылам выбуху, стогнамі і крывёю параненых, нерухомасцю мёртвых... І ў падобны да гранаты мікрафон усе крычалі, праклінаючы расстраляных маладых людзей: «Нелюдзі!», «Так ім і трэба!»...

Раптам я адчуў, што жыву ў краіне, якая ператварылася ў лобнае месца, вакол якога гайдаецца натоўп, усцешаны нібыта найвышэйшай справядлівасцю смяротнага пакарання...

Але ці вынікае найвышэйшая справядлівасць з адчування бязмежнага Страху?

«Так ім і трэба...»

Але ці трэба нам? Не натоўпу — грамадству.

Грамадства — гэта не проста супольнасць людзей. Гэта супольнасць цывілізацыйных каштоўнасцяў. І найпершае сярод гэтых каштоўнасцяў — жыццё.

Можна сказаць «нелюдзі». Але нельга — «не людзі»...

Калі афіцыйныя каментатары і прапагандысты, даводзячы неабходнасць смяротнага пакарання, спасылаюцца на ЗША, яны хітруюць, бо ведаюць, што менавіта Еўропа, да цэнтра якой так любяць яны прылічваць Беларусь, здолела пасля вогнішчаў інквізіцыі, безлічы рэлігійных, грамадзянскіх, пасля дзвюх сусветных войнаў здзейсніць цывілізацыйны, духоўны, а потым і заканадаўчы прарыў ад пакарання злачынцаў смерцю да пакарання... жыццём.

У Еўропе даўно зразумелі, што калі дзяржава ператвараецца ў забойцу, у ката, яна нішчыць свой духоўны падмурак, стымулюючы распаўсюд страху — ці не самай спрыяльнай глебы для злачыннасці. Між тым і ў ЗША нарастае рух за адмену смяротнага пакарання, падмацаваны, дарэчы, найноўшымі дасягненнямі генетыкі. Менавіта дзякуючы даследаванням ДНК з’явіліся доказы невінаватасці шмат каго з тых, хто быў пакараны смерцю. Да таго ж ЗША — дэмакратычная дзяржава, там незалежнае правасуддзе, да якога як да дзяржаўнай інстытуцыі існуе непахісны давер.

Да інстытуцый аўтарытарнай дзяржавы, а тым больш дыктатуры калгаснага кшталту, даверу няма. Няма каму верыць у такой дзяржаве — ні суду, ні тэлебачанню, ні прэзідэнту... Нават царкве, якая, калі не трэба, шмат што гаворыць, а калі трэба ўзняць голас, маўчыць...

«Каб непанадна было...» Што непанадна?

Нават калі злачынства адбылося так, як гэта малюе ўлада, яна робіць усё, каб знішчыць слабыя праявы грамадзянскай нязгоды, сутыкнуць натоўп з грамадствам, высмактаць з гэтага сутыкнення дадатковыя магчымасці ціску на людзей дзеля свайго бясконцага ўладарання...

Такі вось адбываецца ў нашай краіне «тэракт», такая вось хаваецца «бомба» ў чорным пакеце страху...

...«Ваш? — паказаў я былой доктарцы на пакет ля дзвярэй. — Увесь дзень стаіць...» — « А я думала, ваш, — доктарка баязліва саступіла ў кватэру. — Можа, сапёраў выклікаць ці МНС?.. Пачакайце, што вы робіце?»

Я нахіліўся і рашуча развязаў пакет. Бліснула нейкае шкло, узняўся слупок пярхучага пылу... Смецце, звычайнае смецце. Толькі й усяго.

## АЛЕ Ж ХУСТКІ Ё...

Для ўсіх, хто цікавіцца, так бы мовіць, трэндамі, цудоўным чынам сышліся тры навіны.

Першая паведамляла пра тое, што наша сінявокая краіна ў сусветным спаборніцтве пад назвай «хто колькі вып’е» дасяг-

нула недасяжнай вышыні: 17 з паловай літраў чыстага спірту на чалавека ў год. Вельмі важкі ўнёсак у сярэднія 6,2 літра на ўсё чалавецтва.

Не ведаю, як вылічваецца колькасць чыстага спірту з так званых «чарніл», але, дзякуючы нястомным клопатам улады пра спатоленне смагі, вытворчасць апошніх толькі ўзрасце. І гэта другая навіна.

Трэцяя навіна проста ашаламляе сваёй навізной: МУС прапануе ўвесці забарону на ўжыванне алкагольных і слабаалкагольных напояў для тых, каму няма 18 гадоў. Плануецца ўвесці адміністрацыйную адказнасць бацькоў за такое парушэнне...

За сваё слабаалкагольнае жыццё я ўжо стаміўся падлічваць падобныя забарончыя ініцыятывы. Апошнім разам, мо пяць год таму, адзначылася Генеральная пракуратура — прапанавала ўвогуле спыніць вытворчасць «чарніл», а замест іх ціснуць сокі.

Але куды там нашаму МУС, Генпракуратуры ды ўсяму беларускаму ўраду да ЦК КПСС з ягонай памятнай «гарбачоўскай» ініцыятывай!

Народ, помніцца, азваўся на яе ўсеагульным ухваленнем, пра што ахвотна распавядаў на старонках газет, з трыбун шматлікіх сходаў і з нудных тэлевізійных экранаў. Але мне больш за іншае запомнілася, як адазваліся таварышы алкаголікі з перадавога ва ўсіх адносінах Светлагорскага ЛПП. Яны застрайкавалі. Як? Адмовіліся ад лекаў і чорнай працы, па-навуковаму, працатэрапіі.

Гэта быў, мусіць, першы і па-свойму адзіны страйк, калі людзі патрабавалі не таго, без чаго не могуць жыць, а таго, з чым жыць не ўмеюць. То бок свабоды і справядлівасці, адсутнасць якіх выяўлялася, па іх меркаванні, у турэмным рэжыме, у кепскім (з-за крадзяжу персаналам прадуктаў) харчаванні і псеўдалячэнні — з-за таго ж крадзяжу дарагіх лекаў.

Не буду стамляць чытача апісаннем тых сустрэч, размоў і шумных сходаў, на якіх высокія міліцэйскія чыны, што былі накіраваны ў тое злашчаснае ЛПП па даручэнні ЦК КПБ, пераконвалі хворых на алкаголь людзей, як нядобра страйкаваць і, тым больш, піць.

Камандзіроўка тая скончылася... Правільна, сытнай вячэрай і вясёлай п'янкай, вось толькі каньяк начальнік ЛПП і галоўурач налівалі з імбрычыка...

Каньяк з імбрычыка... Да «чарнілаў» ні вялікае, ні маленькае начальства не апускалася.

Праз «чарніла» засмучалася цётка Гэля з вёскі Малышкі, куды ў той час мне выпадала шматкроць наязджаць. Аднойчы якраз праз тыдзень пасля выбараў першага прэзідэнта Рэспублікі Беларусь.

Знайшоў я Гэлю ў напаўцёмнай кухні, дзе сядзела яна за выскраблым да бляску сталом. У куце, на скрыўленай лаўцы, паклаліся адзін на аднаго мо з тузін боханаў чорнага хлеба...

«А ты Лукашэнку бачыў? Ну, які ён?» — «А то сама не бачыла...» — «Ды дзе там... Часу няма... А праўда, што хлеб аж у тры разы даражэй стане? І "чарніла"?»

Так, слова за слова, высветлілася: тэлевізар, што завешаны прыгожа вышытым ручніком, цётка Гэля даўно не глядзіць, перайшла, так бы мовіць, на энергазберагальную тэхналогію; Лукашэнку ні зблізку, ні здалёк не бачыла. Але галасавала за яго, бо ўсе казалі, што ён абяцае лёгкае жыццё. «Як пры Брэжневе, — нешта добрае згадала ў сваім жыцці цётка Гэля. І, падумаўшы, дадала: — ...ці як у Польшчы...»

З Польшчы, куды яна ездзіла да сястры, прывезла Гэля хусткі. «А якія ж прыгожыя! — прыжмурыла вочы і адчыніла куфар. — Глядзі!»

...Ну, навошта цётцы Гэлі патрэбныя былі ў гэткіх колькасцях «чарніла» і хлеб, тлумачыць і сёння не трэба. Ды й мяне яна запаважала толькі пасля таго, як адстаяў з ёй, ледзь пазбегнуўшы панажоўшчыны, даўжэзную чаргу ў сельмаг, каб узяць для яе яшчэ пару пляшак.

Карацей кажучы, пра Гарбачова яна і слухаць не жадала, пра Шушкевіча таксама, бо пры адным ані «чарніл», ані гарэлкі не стала, пры другім — не стала краіны, у якой тых «чарніл» і гарэлкі было хоць заліся... Уся веліч дзяржавы ўвасаблялася для яе ў магчымасць адкарміць хлебам жывёліну і расплаціцца «чарніламі» за ўзараныя соткі ды іншыя паслугі, без якіх тагачаснае вясковае жыццё, жаночае асабліва, ураз

магло скалануцца. Жыццё, пра якое, калі пытаўся, Гэля казала: «Гаўнянае, але ж хусткі ё...»

Не ведаю ні таго, колькі хустак засталося ў Гэлі за дваццаць гадоў «пры Лукашэнку», ні таго, ці здараюцца сёння страйкі ў ЛПП. Але які-ніякі жыццёвы досвед падказвае, што як толькі справы ў дзяржаве зусім пагаршаюцца, адразу абвяшчаецца барацьба з «алкагалізацыяй насельніцтва». Гэткі ілюзіён — ці то ў выглядзе «сокаў замест "чарніл"», ці то розных там дзён цвярозасці, ці то забароны бацькам спойваць малалетак...

Пра сусветна вядомы вынік гэтай барацьбы чытай у навіне № 1.

*P. S.* Палітолагі, аналітыкі ды іншыя настрадамусы да сёння гадаюць, чаму адна вялікая дыктатура пад назвай СССР развалілася на дзясятак маленькіх і што будзе, калі яны праз пуцінскі «мірны план» ізноў зліюцца, па Дастаеўскаму, «в припадке общежития».

Не ведаю, ці зліюцца, але пра тое, што сап'юцца, у мяне асабіста здагадка маецца. Бо калі людзі співаюцца па розных прычынах, то народы — ад немагчымасці годна жыць.

## АНТЫФАШЫСТ МІРАНОВІЧ

Кожны год, калі набліжаецца 25 студзеня, я адчуваю штуршкі ў сэрца, як быццам нехта намагаецца, каб аж да скону стукаўся ў яго балючы напамін.

25 студзеня 1980 года памёр Яўген Фёдаравіч Мірановіч.

Каб я, хай сабе ўскосна, не меў дачынення да папярэдніх падзей, штуршкоў у сэрца, магчыма, і не было б. Не было б, магчыма, і той заўчаснай, у 63 гады, смерці, каб не тыя падзеі. Бо я бачыў, як дрэнна яму за састаўленымі вялізнай літарай «П» сталамі ў саўгаснай сталоўцы, дзе ладзіўся заключны банкет для прафсаюзных босаў з Масквы і рознага кшталту адмыслоўцаў з прафсаюзаў савецкага блока.

Адзін за адным прамаўляліся тосты — за сяброўства паміж народамі і краінамі, за росквіт сельскай гаспадаркі... Падняўся П., намеснік галоўнага рэдактара, і, дачакаўшыся цішыні, узняў поўную чарку: «За ВЦСПС!» Я толькі пачынаў працаваць

у «Труде», але ўжо ведаў, што гэта каронны тост кончанага цыніка, з якога пачыналіся і якім заканчваліся рэдакцыйныя п’янкі. А тут усе паўставалі, забразгалі відэльцамі, талеркамі, танным крышталём... Мірановіч падняўся неяк бокам і адразу сеў, паставіўшы чарку. Я падышоў да яго: «Вам дрэнна, Яўген Фёдаравіч?» — «Не, не, нічога, — па счырванелым стомленым твары прабегла ўсмешка, — мабыць, павысіўся ціск. Такое здараецца...»

Тыдзень таму я доўга чакаў яго ля канторы, каб паведаміць, што «Труд» будзе ладзіць у яго семінар. Нарэшце пад’ехаў «газік», і разам з Мірановічам выйшаў хударлявы чалавек у дублёнцы і агромністай рыжай шапцы, працягнуў руку: «Аграноўскі». І, працяўшы мяне з’едлівым позіркам, прабурчэў: «Толькі вас тут не хапала!» І тое праўда: знакаміты на ўсю краіну журналіст прыехаў працаваць, а тут нейкі семінар пра падсобныя сялянскія гаспадаркі і саўгасныя промыслы...

Знаёмства з Мірановічам адбылося мо гадоў за дзесяць да таго і было трохі дзіўнаватым. З дзяцінства, з першага падарожжа на Нарач, мяне вабілі пявучая назва Любань і таямніцы старога парку пры самай дарозе. Але ўсё міма, міма... Пакуль аднойчы не спыніўся і, сустрэўшы нейкага прысадзістага, каржакаватага, сялянскага выгляду мужчыну, не стаў распытваць яго пра Любань. Так я даведаўся, што спрадвек тут была моцная гаспадарка паноў Любанскіх, якія паходзілі з польскай Любані, а зараз саўгас... Я падзякаваў і пайшоў глядзець парк, а мужчына, трохі нязграбна падымаючы гумавымі ботамі сухаваты травеньскі пыл, накіраваўся да хаты, над якой чырванеў узняты да Дня Перамогі сцяг... У машыне, калі вярнуўся, ляжала сетка з агуркамі. Я азірнуўся і раптам зноў пабачыў на ганку таго мужчыну.

— Не ведаеце, хто паклаў?

— Скажыце, у вас маленькія дзеткі ёсць? Што, вітаміны ім не патрэбны?

— Ёсць, д-дачка... — няўпэўнена адказаў я, заўважыўшы, як з-пад старой ватоўкі бліснула начэпленая да свята «Залатая Зорка» Героя...

Усе дзесяць гадоў нешта ўтрымлівала мяне ад таго, каб пісаць пра Мірановіча і ягоную ўнікальную гаспадарку, хаця

сустракаліся мы часцяком і я шмат што ведаў. У тым ліку пра тое, з якой непрыязнасцю ставіцца ён да ўсялякага ўсхвалення. Сціпласць ягоная была настолькі фанатычнай, што навакольная брэжнеўшчына з цацкамі, лозунгамі і ўсёабдымнай хлуснёй выклікала яшчэ большую моташнасць. Але галоўнае — ён насамрэч ставіў простага чалавека вышэй за ўсялякія лозунгі, «лініі партыі» і чыны. Аднойчы заспеў у яго кагосьці (ужо не памятаю каго) з сакратароў ЦК. Раптам нехта паскробся ў дзверы: «Заходзьце, Мікалаеўна...» Ці не з паўгадзіны сакратар моўчкі чакаў, пакуль Мірановіч, падставіўшы вуха, слухаў патаемны шэпт старой... Вось Арлоўскі, думаў я, «моцная рука», «жалезны парадак», мардабой... А вось Мірановіч — заўжды ціхі голас, спагадлівасць, уважлівы, нават з адценнем нейкай вінаватасці, позірк...

...Ён памёр на другі дзень пасля згаданага банкету. У пяць раніцы, як заўжды, правёў штодзённую нараду і памёр.

А неўзабаве папаўзлі чуткі пра тое, што ў Мірановіча знайшлі ці не з пуд золата, нейкія рахункі ў Амерыцы, з якіх ён дапамагаў сіяністам, бо сам утоены габрэй...

Але я памятаў, як аднойчы ў нейкай задумёнай роспачы, бы не верачы самому сабе, ён сказаў: «Сярожа, у краіне фашызм...» Мо таму, што найпершай прыкметай фашызму лічыў антысемітызм і хлусню.

...Яны змагаліся з фашызмам разам, габрэй Тэвель Фінкельштэйн са Смілавіч і беларус Яўген Мірановіч з Оршы, партызанскія камандзіры, баявыя сябры. За галовы абодвух немцы абяцалі шалёныя грошы. І тады яны далі адзін аднаму клятву: калі хто застанецца жывы, возьме прозвішча таго, хто загіне...

Ён застаўся. Усё жыццё клапаціўся аб жонцы і дзецях сябра. А ў сваіх анкетах пісаў: «Мірановіч Яўген Фёдаравіч, беларус, выхадзень з беднай яўрэйскай сям'і. Бацька Фінкельштэйн — яўрэй. Брат Фінкельштэйн — яўрэй...»

*P. S.* Анатоль Аграноўскі застаўся на семінар, нават нешта распавядаў пра вопыт Вугоршчыны... Зазнаўшы, што Мірановіч памёр, адразу з'ехаў. А праз нейкі час у «Известиях» з'явіўся нарыс «Логика Мироновича».

## АПОШНЯЯ КРОПКА

Уладзімір Мацкевіч, самаабвешчаны лідар інтэлектуальнага, так бы мовіць, супраціву рэжыму, вызначыў, нарэшце, сваю пазіцыю па найвастрэйшаму, падобнаму да гамлетаўскага, пытанню беларускай сучаснасці: жыд ці не жыд? І зрабіў гэта ў найбольш натуральнай для філосафа форме дыскусіі, абраўшы ў якасці апанента нейкага Гену Варковіча. «Ты, Гена, — супакоіў Мацкевіч свайго нібыта суразмоўцу, — яшчэ тая морда, але нічога жыдоўскага ў табе няма! Звычайны беларус яўрэйскай нацыянальнасці»...

Супакоены адсутнасцю ў сабе «жыдоўскай морды», выцягнуты на «Бел. партызан» Гена тым не менш не супакоіўся: цягам усёй дыскусіі настойліва, нібыта ад імя ўсёй яўрэйскай супольнасці, даказвае абразлівасць для яўрэяў ужывання ў беларускай мове слова «жыд». Адваротная думка Мацкевіча проста ўражвае сваёй інтэрнацыянальнай глыбінёй і празрыстасцю: няма чаго рускамоўнаму Гену з усёй ягонай супольнасцю ўсталёўваць у беларускай мове свае нормы. З чаго вынікае, што «жыд» па-беларуску — гэта жыд, а па-руску — «жидовская морда»...

Я не лінгвіст, каб спрачацца з Мацкевічам, і не Гена, якога Мацкевіч як нарадзіў, так і забіў «логікай, перад якой ні жыда, ні бульбаша... усе роўныя...» Далёка мне да Мацкевіча і з ягонымі ведамі гістарычных абставінаў, праз якія ўзнікла ці добраўжыванае, ці злоўжыванае цягам стагоддзяў слова з трох літараў. Але мне вельмі блізка да Косціка, нават праз 60 з гакам гадоў...

Косцік, сябра майго дзяцінства, быў першым на маёй памяці, хто не стаў высвятляць этымалогію слова «жыд», а наўпрост даў Нехаю ў морду, абцукраваную з густа пасыпанага цукрам бутэрброда.

Няхай быў старэйшы і дужэйшы за Косціка. Заўжды чырвоным, пляскатым, нібыта блін, тварам ён быў падобны да свайго бацькі, які служыў нейкім эмгэбэшным начальнікам і адзіны ва ўсім двары раскатваў на трафейным БМВ. Вядома, нас душыла зайздрасць, мы душылі яе і трымаліся ад Нехая

як мага далей, бо менавіта ад яго сыходзіла спакуса зазнаць нешта недасягальнае ў параўнанні з іржавымі абручамі, што паганяліся загнутым у крук дротам. Аднойчы не вытрымалі, наблізіліся да аўто. Няхай стаяў, абапёршыся на бліскучае крыло, і дажоўваў бутэрброд. «А мой бацька быў на вайне адміралам», — з выклікам сказаў Косцік. «Хлусіш, — прашамкаў Няхай, — жыды адміраламі не бываюць...»

Праз імгненне рэшткі бутэрброда ляцелі з Няхаевага рота...

Паўстагоддзя лягло паміж Косцікам і Карасікам — на жаль, забыўся імя. Хаця тапаграфічна стаяць яны зусім побач: як і мы з Косцікам, Карасік жыў у адным з чатырох дамоў на Маскоўскай вуліцы, што перажылі акупацыю і вайну. Было, праўда, і адрозненне: наш дом перажыў акупацыю і вайну без нас, а Карасікаў дом — разам з Карасікам. Гэта высветлілася адразу, як толькі ён неяк нязграбна ледзь увабраўся ў машыну і я выказаў меркаванне, што пасля вайны мы былі суседзямі. «Так, мусіць, былі, — адазваўся Карасік, — але я жыў у сваім доме яшчэ да вайны...» — «А ў вайну?» — запытаўся я. «І ў вайну»...

Колькі хвілін ехалі моўчкі. «Вас цікавіць, як я застаўся жывы? Суседзі выратавалі. Бацька загінуў на вайне, маці — у гета, а мяне схавалі суседзі...»

Мы ехалі на Карасікаву дачу, ён — прадавац, я — купляць. Машыну кінулі недзе кіламетры за два, пасярод сумётаў па абодва бакі вузенькага прасёлка і непераадольнай слізгаты. Астатні шлях ішлі гадзіны паўтары — дзе коўзаючыся, дзе правальваючыся ажно да пояса ў снег. Я ці не цягнуў Карасіка на сабе, што пры ягонай вазе было амаль немагчыма. Ён цяжка дыхаў, потым з нейкім вінаватым адчаем сказаў: «Прабачце — сэрца, інфаркт...»

Таргавацца былы лётчык грамадзянскай авіяцыі не ўмеў. Амаль адразу ён зразумеў, што ні ягоны ладны домік, ні дагледжаныя, што было відаць нават пад снегам, соткі я купляць не буду. І раптам заплакаў: «Думаеце, я хачу прадаваць? Трыццаць гадоў... столькі працы... столькі жыцця... І ад'язджаць не хацеў. Але як убачыў на дзвярах кватэры намаляванае белай фарбай "ЖЫД", вырашыў: усё, кропка!»

...«Жыд» Карасік памёр у Амерыцы ці не праз год, у 97-м.

Звыш двух гадоў няма і Косціка. Бацька яго, дарэчы, ніколі не быў ні «жыдом», ні «адміралам». Хто хоча даведацца, кім ён быў, хай паглядзіць сайт www.tarasau.com, прысвечаны Кастусю Тарасаву, і пачытае ягоныя кнігі...

А саматужнаму гуру хачу нагадаць тыя часы нашай гісторыі, калі слова «жыд» было не словам, а хваробай. Смяротнай, нават літаральна, хваробай для людзей і грамадства.

Ці вылечаная?..

Пытальнік там, дзе, здавалася б, пастаўлена апошняя кропка.

## БАРЫКАДЫ ХЕОПСА

Я пачуў гэта на Камароўскім рынку, у радах, дзе ўзвышаюцца горы заморскай садавіны і гародніны. «Ды тут у вас сапраўдныя барыкады Хеопса!»

Бальзакаўскага ўзросту дамачка, рызыкуючы зламаць высачэзны абцас, намагалася ўручыць гандлярцы статысячную купюру, не дацягваючыся да працягнутай насустрач рукі. З-пад густога макіяжу на цалкам правінцыйнай фізіяноміі прабіваўся пасярод марознай зімы медна-чырвоны загар. У Егіпце, мусіць, пабывала. («В *Египете*» — наткнуўся днямі ў некалі паважанай расійскай газеце.)

Я не вытрымаў, разрагатаўся.

Чорт мяне пацягнуў «узнікаць». Такой лаянкі ў свой адрас я не чуў за ўсё жыццё...

Да вечара эпізод забыўся. І, магчыма, забыўся б назаўсёды, каб не «Панорама!.. На Первом!»... Зразумела, можна было б і не глядзець, колькасць і якасць адборнай прапаганды добра вядомыя загадзя. Але набліжаліся 90-я ўгодкі БНР, вакол гэтай падзеі і таго, як яе адзначаць, разгарнуліся спрэчкі. І тут «солидные люди», якіх сабрала за «круглым сталом» «солидная газета», нечакана нарадзілі «сенсацыю»: дазволілі нарэшце БНР прысутнічаць у беларускай гісторыі, ды яшчэ ў якасці папярэдніцы незабыўнай БССР! Цікава стала, як абвесціць пра ўсё гэта «телевидение твоей страны»...

Абвясціла. Па звыклай завядзёнцы пайшло на вуліцу паслухаць так званы «глас народа». І, як заўсёды, пачула тое, што хацела: «народ» пра БНР нічога не ведае і — вось яно! — ведаць не жадае! Якое ж тут свята?! Які юбілей?! Якія шэсці з нацыянальнымі сцягамі?!

Замест таго, каб засмуціцца правалам у нашай гістарычнай памяці, так і перла з экрана пачуццё глыбокага задавальнення. Прасцей сароміць «тупых янкі», якія не ведаюць, што Александрыя знаходзіцца не ў Егіпце, а недзе пад Шкловам, чым самім адчуваць сорам ад страты гістарычнай арыентацыі.

І што ж адбылося пасля таго выяўлення «народнай думкі»? Нагадаю: святочнае шэсце было жорстка разагнана. Пры абыякавасці і нават падтрымцы «народа». «А чаго лезуць?!» — рашуча рэзала рукой паветра суседка, вечная скаржніца на малую пенсію і хапуг з ЖЭСа, наглядзеўшыся рэпартажаў ды апытанняў БТ...

У савецкія гады падпоркай рэпрэсіўнаму механізму з'яўляўся ваяўнічы атэізм.

Сёння ваяўнічае невуцтва — адна з самых угноеных ідэалагічных дзялянак рэжыму.

Справа нават не ў «вершах Быкава» ці ў «Скарыне, што жыў у Пецярбургу»...

Справа ў тым, што дзяржава, калі яна насамрэч незалежная, павінна самастойна, без ліслівай аглядкі на былую імперыю, вызначаць падзеі і асобы, якія крок за крокам — праз турмы і шыбеніцы, праз узлёты духу і страты надзей, праз «сонца ў аконца» і «стрэльбу, хлопчыкі, бяры», праз ГУЛАГ і «кожнага трэцяга» — да яе, гэтай незалежнасці, прывялі.

У грамадстве могуць быць розныя думкі наконт гістарычных падзей і асоб. Гэта цалкам натуральна, калі яны, гэтыя думкі, грунтуюцца на фактах і не прыцягваюцца за вушы дзеля апраўдання палітыкі сучаснай улады.

У дзяржавы ж, якая насамрэч незалежная, такой раскошы — мець розныя думкі ці не мець аніводнай — няма. У незалежнай дзяржавы павінна быць адно стаўленне да вызначальных гістарычных падзей і асоб, якія гэтыя падзеі здзяйснялі — як да агульнанацыянальных, у тым ліку юбілеяў і святаў.

Сёння такой дзяржавы ў нас няма.

Пакуль праўладныя ідэолагі і палітолагі пужалі насельніцтва «палякам» і «тэрарыстам» Каліноўскім, дзяржава, па сутнасці, праігнаравала магчымасць пацвердзіць сваю прыхільнасць да незалежнасці і дэмакратыі, з набыццём якіх непарыўна звязана імя Каліноўскага. «СБ», галоўнае дзяржаўнае выданне, абмежавалася 2 лютага сціплым, на два-тры радкі, «аб'ектыўным», так бы мовіць, паведамленнем пра 150-годдзе з дня нараджэння «...публициста, поэта, революционера-демократа, одного из руководителей восстания 1863–1864 гг.» Між тым у нумары за 1 лютага тая ж газета з бальшавіцкім размахам адзначыла 100-годдзе народзінаў Сяргея Прытыцкага, які сапраўды здзейсніў «за польскім часам» тэрарыстычную акцыю. Добра, што адзначыла. Але чаму такая няроўнасць?

Ці не таму, што стаўка на ваяўнічае невуцтва — асноўная ў змаганні ўлады з іншадумствам і ў намаганнях апраўдаць жорсткасць. Колькі мы чулі, што ў заходніх краінах паліцыя, маўляў, не цырымоніцца... Што ж, наглядзеўшыся БТ, людзі, мусіць, і сапраўды думаюць, што паліцыя паўсюль толькі тое і робіць, што лупцуе дэманстрантаў...

Хутка ізноў будзе свята, ужо 95-я ўгодкі БНР — гераічнай і трагічнай спробы стварыць незалежную беларускую дзяржаву.

Калі б наша сённяшняя дзяржава была насамрэч незалежнай, свята, безумоўна, было б дзяржаўным, а шэсці ў ягоны гонар не разганяліся б з дручкова-гарачкавым энтузіязмам. Такое свята магло б стацца сапраўдным урокам нацыянальнай гісторыі, зрабіць прабоіну ў яе няведанні, якое, у адрозненне ад невуцтва на мяжы цемрашальства, ваяўнічым не бывае.

Не «круглыя сталы» з іх двухсэнсоўнай дыскусійнасцю, ды яшчэ з прысмакам палітычнай фальшывасці, вядуць да пазнання нацыянальнай Гісторыі, а яе арганічная прысутнасць у штодзённым жыцці, у грамадскай атмасферы і свядомасці грамадзян.

Не будзе так — будзем і надалей жыць на «барыкадах Хеопса».

То бок у цемры...

## ВАЙНА ПАД ДАХАМІ,
## альбо КАМПОТ З ВОСЕНЬСКІХ ДЗІЧАК

У нашай «стабільна квітнеючай» краіне ідзе грамадзянская вайна.

Гэтае сумнае адкрыццё я зрабіў, калі чытаў у камп'ютары ліст ад стрыечнага брата з Казані. Якраз на тым месцы, дзе ён паведамляў пра хлеб, я пачуў брудную лаянку за сцяной, што аддзяляе мяне ад суседзяў: «Пайшла ты ў ж... са сваёй эканоміяй!»

Трэба сказаць, што суседзі мае — маці з дачкой, зяцем, унукам і ўнучкай — людзі ціхія, ні крыку, ні ляманту ад іх я ніколі не чуў. Гаспадыня заўсёды віталася стрымана, маўклівым кіўком галавы, адпаведна сваёй даволі высокай, наменклатурнай яшчэ ад савецкага часу, пасадзе. Праўда, як толькі страціла па ўзросце пасаду, стала больш добразычлівай, пры сустрэчах цікавіцца, як жыццё...

І вось на табе, на дачку — «пайшла ты...»! Вайна!

Раптам падумаў: «А я ж таксама што ні дзень безнадзейна б'юся з жонкай і ўнучкай, каб тушылі за сабой святло, не лілі залішне ваду, калі мыюцца, а посуд шаравалі пад тонкім струменьчыкам...»

Пра сябе ж ведаю, што звычка эканоміць нарадзілася з таго даволі далёкага ад апошняй вайны часу, калі маці падкручвала кнот смуроднай газоўкі, каб святла, што кідала на столь жахлівыя цені, хапіла да раніцы...

Але сёння што за вайна?!

Ціхая, малапрыкметная, але сапраўдная вайна пад дахамі — з лініяй фронту, што пралягае праз сем'і, з тэрорам «жыровак» і ахвярамі ў выглядзе зруйнаваных адносінаў...

Вайна, якую распачала дзяржава.

Дарэчы, гэта традыцыйны занятак і былой савецкай, і цяперашняй незалежнай нашай дзяржавы, любімая гульня — правакаваць вайну людзей супраць людзей, толькі каб не супраць яе.

«Мама, — піша брат, — у 47-м годзе паехала ў Казань шукаць свой дыплом аб вышэйшай будаўнічай адукацыі, які адабралі пры яе арышце і ссылцы пасля расстрэлу бацькі ў

37-м. Калі знайшла, гэта адразу зрабіла яе ІТР, якім больш давалі хлеба. Раней адразалі ад буханкі, а цяпер мелі цэлую...»

Пры чым тут, спытаеце вы, наша «квітнеючая» дзяржава?

Пры тым, што, усталёўваючы так званыя нормы спажывання, зноўку пачала «адразаць ад бохана» і, сама збяднелая ўшчэнт, заўзята вучыць беднату эканоміць і вышукваць «ворагаў». Нават вакол сябе.

Нядоўга, аднак, цягнулася «мірнае суіснаванне». Вайна!

Як узбудзілася раптам, пайшло ў атаку дзяржаўнае чынавенства! То міністр, то намеснік... То прэм'ер, то віцэ...

Апошнюю натацыю ад імя дзяржавы прачытала сп. Ермакова: «У рэшце рэшт, чалавеку не многа трэба! А на жыццё скардзяцца, як правіла, не самыя бедныя. Вы памятаеце пратэставыя акцыі, калі ледзь падаражэла паліва? Хто пратэставаў? Людзі на крутых іншамарках... Так, сёння трэба эканоміць, лічыць. Але так жыве ўвесь свет».

Такі вось «класавы падыход» захавальніцы пазычанага валютна-залатога рэзерву.

Так, у краіне ёсць бізнесоўцы, але бізнес-класа няма.

Ёсць прадпрымальнікі, але «сярэдняга класа» няма.

Амаль усё насельніцтва ператварылася, так бы мовіць, у «эканом-клас», які на сабе пазнае зараз вялікую, нават лёсавызначальную розніцу паміж «лічыць грошы» і «лічыць апошнія грошы»...

...Праз які тыдзень я ледзь не сутыкнуўся з суседкай ля пад'езду. Трохі расчырванелая, яна шпарка йшла насустрач, трымаючы ў руках стары жаночы капялюшык, з коптурам набіты цвёрдымі і маленькімі, нібыта дзіцячыя кулачкі, зялёнымі яблычкамі. Адно звалілася, пакацілася па асфальце, другое... Я кінуўся падымаць: «Гэта ж дзічкі, навошта вам?» — «А кампот навару... Даўно не піла кампоту»...

Калісьці тут, у самым цэнтры горада, квітнелі сады на прыватных сялібах. У 60-х і хаты і сады пайшлі пад бульдозер. Ды ўсё ж захаваліся дзе-нідзе яблыні. Здзічэлі, праўда, але ўвесну квітнеюць, а восенню звонка сыплюцца яблычкамі на асфальт.

Дзякуй Богу, дзівосная сёлета, нескончоная восень. Няма на што наракаць...

## ГОЛАС КРЫВІ,
## альбо ІСТЭРЫЧНАЯ СПРАВЯДЛІВАСЦЬ

Моцная ўсё ж штука — пульт дыстанцыйнага кіравання. Адным націсканнем кнопкі можна пачаць вайну ці падоўжыць Алімпіяду...

«Да пайшлі яны ўсе на!.. — раздражнёна кінуў прыяцель і ўзгадаў прыказку пра куслівую казурку, што лёгка пераскоквае з аднаго цёплага месца на іншае. — Зараз лягу і буду глядзець Алімпіяду...»

Эпізод тычыцца падзей шасцігадовай даўніны — расійска-грузінскай вайны. Я падумаў тады: як ад яе мы далёка! Дакладней, якія далёкія...

Сёння вайна на расійска-ўкраінскім парозе. На адлегласці кроку. Але мы па-ранейшаму далёкія ад яе. Па-ранейшаму паміж намі і тым, што адбываецца насамрэч, Вялікая Хлусня. Якія там «падвойныя стандарты»!

Гэта толькі падаецца, што мы кіруем кнопкай. Гэта яна кіруе намі, робіць з нас не толькі ўдзельнікаў інфармацыйных войнаў, але й іх ахвяр.

І вось ужо спрачаемся — да хрыпаты, да кідання слухавак, да разрыву сяброўскіх адносін!

«Бачыў, як "Беркут" стаіць на каленях? Такая знявага!» — «Дык гэта ж ён сам прасіў у людзей прабачэння». — «А як губернатара прыкавалі кайданкамі да слупа... Табе падабаецца?» — «Не, не падабаецца. А хто сказаў, што рэвалюцыя павінна падабацца?» — «Якая рэвалюцыя? Дзяржаўны пераварот...»

І гэтак далей і далей...

Напрыканцы XIX стагоддзя, падчас англа-бурскай вайны, свет быў куды бліжэй да праўды, чым сёння, ва ўладаранні Кнопкі.

І вось ужо страляніна з-за вугла завецца «абаронай роднага дому», а смяротнае скавытанне «Града» — «абаронай тэрытарыяльнай цэласнасці», знішчэнне гарадоў і вёсак — «навядзеннем канстытуцыйнага парадку», а вайна на чужой тэрыторыі — «прымушэннем да міру»...

Сёння да расійскай прапагандысцкай тэрміналогіі часоў вайны з Чачнёй і Грузіяй дадаліся «неафашысты» ў Кіеве і «руская кроў на святой крымскай зямлі».

«Колькі рускай крыві праліта за вызваленне Крыма!» — «раве та стогне» Валянціна Мацвіенка. Імаверна перад тым, як на «мэрсе», ці на чым там яшчэ, адправіцца на чарговы масаж... Трэцяя, дарэчы, асоба ў расійскай дзяржаве.

Вы што-небудзь чулі ад «фашыстаў» з Майдана пра «ўкраінскую кроў»?

Пра нацыянальную рэвалюцыю — так. Пра «ўкраінскую кроў» — не...

Але віск на ўвесь свет: фашысты... антысеміты... рускія перамаглі нацызм, астатнія служылі ў тылавых войсках... дзяржавы «Украіна» няма... украінскай мовы няма...

Гэта Жырыноўскі. Блазен, скажа нехта. Але «блюзнерства» ягонае транслюе дзяржаўнае расійскае тэлебачанне, ці не з гадзіну дазваляючы ліцца бруду і атруце, за якія ў любой цывілізаванай краіне — краты. За распальванне міжнацыянальнай варожасці і заклікі да вайны...

І гэтак бліжэй і бліжэй...

І вось ужо гіне на гэтай вайне «нябесная сотня» — каб назаўжды вырваць краіну з імперскіх ці то абдымкаў, ці то кіпцюроў...

Але нам па-ранейшаму падаецца, што вайна немагчымая, што Пуціну хопіць розуму, каб не ставіць свет на край непрадказальнай па маштабах і наступствах катастрофы.

Пакуль што Пуціну хапае розуму збольшага маўчаць.

Навошта гаварыць, калі «фігуру змоўчання» надзейна агучаць мацвіенкі, жырыноўскія, думцы, палітолагі невядома з якіх «няўрадавых» цэнтраў, так званыя «рускамоўныя» ды іншыя «верныя ленінцы», дый простыя падманутыя людзі, якім нагадалі пра «голас крыві»...

Навошта гаварыць, калі «фігуру змоўчання» надзейна агучаць прапагандысты з дзяржаўных СМІ «дэмакратычнай» Расіі — спрэс наўмыснае маніпуляванне фактамі ды й наўпрост фальсіфікацыі... Адзенне скінута, кароль голы.

Навошта гаварыць, калі «фігуру змоўчання» надзейна агучыць нехта з мясцовых так званых лідараў з паводзінамі падсаднай качкі. Дакладней, таго разняшчаснага пацанчыка, які па падбухторванні дарослых бандытаў у патрэбны момант пракрычыць: «Нашых б'юць!»

«...калі грамадзянін Ізраіля недзе трапляе ў бяду, альбо грамадзянін ЗША, там падключаецца ўся дзяржаўная машына ў абарону гэтага чалавека». Гэта зноў Мацвіенка. Засталося толькі зрабіць «нашых» грамадзянамі Расіі. Што не цяжка, нават новапрызначаны з дапамогай «калашнікавых» крымскі прэм'ер якраз яе грамадзянін.

...Учарашнія падзеі на Каўказе і сённяшнія вакол Крыма, ды ўвогуле Украіны, нават больш яскрава (для нас, ва ўсялякім выпадку), чым колішнія падзеі ў Югаславіі, высвятлілі адну з самых небяспечных традыцый у суіснаванні народаў і дзяржаў — традыцыю легалізаванага забойства, якім з'яўляецца вайна. Традыцыю, ад якой, здавалася, назаўсёды адвярнулі крывавыя катастрофы XX стагоддзя.

Не адвярнулі. Больш за тое, яна працягваецца з новай жахлівай сілай і ў новым «цывілізаваным» выглядзе, намагаецца састроіць з сябе ўвасабленне высокай маралі. І самая цынічная частка гэтага падману — закліканне да «гістарычнай справядлівасці», што набывае цяжкія формы шавіністычнага псіхозу ды істэрыі.

Кожны раз, калі палітыкі енчаць пра «гістарычную справядлівасць», чакайце загаду на распачынанне новай вайны. І не шукайце справядлівасці — яе ў гісторыі наўпрост няма. Ёсць гістарычны досвед, каторы немагчыма засвоіць без гістарычнай праўды.

Гэты досвед і гэтая праўда наўпрост лямантуюць супраць адраджэння ў Расіі імперскага духу.

Нагадаю, дарэчы: матрос Кошка, самы знакаміты герой колішняй Крымскай вайны, быў украінцам.

Па крыві.

## ЧОРНЫ КОЛЕР, ЧЫРВОНЫ АЛОВАК

Познім вечарам у мінулую сераду праглядзеў на «Белсаце» «Размову са Святланай Калінкінай» з уласным удзелам.

Настрой быў зусім дрэнны — удзень на «нейтральнай» Беларусі быў пастаўлены чарговы (ці не апошні?) крыж. Мо таму, а мо, як яно часцяком здараецца «пасля бойкі», застаўся вельмі незадаволены: тое не сказаў, тое недасказаў, тое сказаў не так, а нешта і ўвогуле сказаў не тое...

Што праўда, тэма была даволі складаная — інфармацыйныя войны. На пытанне, ці ёсць пераможцы ў сённяшняй інфармацыйнай вайне паміж Расіяй і Украінай, я адказаў, што пераможцаў няма, спрэс ахвяры. І памыліўся. Ну, вось, да прыкладу — ці можна лічыць ахвярамі журналістаў партала Lenta.ru, якія не пажадалі ўдзельнічаць у інфармацыйнай вайне з Украінай, далі слова «фашысту» і салідарна са сваёй звольненай галоўнай рэдактаркай сышлі, так бы мовіць, з поля бою?

А вось іншае пытанне: ці можна лічыць пераможцамі тых дзеячаў расійскай культуры, што «цвёрда» заявілі «аб падтрымцы пазіцыі Прэзідэнта Расійскай Федэрацыі па Украіне і Крыму»?

Ці перамога гэта — паставіць сваё, паважанае нават у свеце, імя побач з папсовымі зоркамі, чые «думкі» — што «скакуны»?

Карэн Шахназараў, адзін са знакамітых падпісантаў, сцвярджае, што не ведаў, хто яшчэ падпісаўся, увогуле яго гэта мала цікавіла, бо тэкст, які яму прачыталі па тэлефоне, цалкам адпавядаў ягонай уласнай пазіцыі.

Нічога сабе «ўласная пазіцыя», якую фармулююць чыноўнікі з Міністэрства культуры!

Не, ніякай «уласнай пазіцыі» ў тым тэксце няма.

З насамрэч уласнай пазіцыяй, калі яна не мяжуе з ксенафобіяй, шавінізмам, расізмам і заклікам да вайны, можна заставацца нязгодным, але паставіцца да яе з павагай. Як, напрыклад, да «імперскай» пазіцыі Іосіфа Бродскага ў вершы «На независимость Украины», што быў напісаны на пачатку 90-х і праз які шмат хто «адракаецца» ад некалі любімага па-

эта. Але «імперская» крыўда, «імперскі» боль паэта — гэта не «боль» імперскага палітыка.

«...Вашего хлеба, неба, нам, подавись мы жмыхом и колобом, не треба...»

Пуціну — трэба...

Гэтую «пазіцыю Прэзідэнта» падтрымліваюць «дзеячы культуры Расіі»? Пазіцыю, якая да іх жадання, «каб супольнасць нашых народаў і нашых культур мела трывалую будучыню», не стасуецца ні з якога боку?

Нічога сабе «супольнасць» — праз прыніжэнне нацыянальнай годнасці, раз'юшаную прапаганду і неахайна прыхаванае злачынства, то бок анексію чужой тэрыторыі...

Уся гэтая «падтрымка Прэзідэнта» з'явілася пасля запісу згаданай «Размовы...». Але як прадчувалася — пытанне пра расійскую інтэлігенцыю ўзнікла зусім натуральна. У тым сэнсе, што, у адрозненне ад недасведчанага электарату, ачмурыць яе лепшых прадстаўнікоў Вялікай Хлуснёй амаль немагчыма...

Так, немагчыма.

Што, Алег Табакоў не здольны адрозніць прапагандысцкую лухту, якая памыямі ліецца з дзяржаўных тэлеканалаў, ад таго, што адбываецца насамрэч?

Што, Уладзімер Співакоў так аглух, што ўжо не чуе фальшывасці пуцінскага, так бы мовіць, аркестра?!

Што, Павел Лунгін, які фільмам «Цар» вынес ці не самы суворы прысуд апрычніне і яе венцаносным завадатарам, не бачыць, як штодня адраджаецца сталіншчына?!

Між тым, што праўда — лепшыя прадстаўнікі, эліта, краса нацыі...

Якое ж, па словах Аляксандра Сакурава, найшло на іх «страшэннае зацьменне»?

Здагадак, тлумачэнняў шмат — ад «імперскага мыслення» да страху страціць дзяржаўнае фінансаванне сваіх тэатраў, аркестраў, музеяў... Заўважана, што амаль кожны з падпісантаў — той ці іншы начальнік...

Але зацьменне таму і зацьменне, што не падлягае спектраграфічнаму аналізу. Яно цалкам чорнае. І гэты колер мае гене-

тычнае паходжанне — ад часоў, калі адных дзеячаў культуры ставілі да сценкі, а іншыя пляскалі ў далоні...

Вось такая «ўласная пазіцыя», якая нават і зместам і формай нагадвае пратаколы допытаў, пад якімі следчыя НКУС вымагалі калісь подпісы Ліхачова і Меерхольда...

Сёння, дзякуй Богу, за адмову ставіць подпіс у падтрымку ўлады не расстрэльваюць, а за подпісы даюць грошы і вешаюць ордэны. Але кары, сапраўднай кары, усё адно не пазбегнуць.

Свой першы журналісцкі досвед я набываў з нататкі пра сельскага настаўніка. Памятаю, як трымцеў, калі на дрыжачых нагах нёс яе да першага намесніка галоўнага рэдактара першай у маім жыцці газеты. Праз некалькі хвілін нататка вярнулася да мяне з разадранай чырвоным алоўкам старонкай. Я не ведаў яшчэ, што слова «інтэлігент» было ў таго газетнага ваўкадава пад забаронай.

Што ж, гісторыя пацвердзіла рацыю чырвонага алоўка, які раздзірае яе старонкі і выкрэслівае з рускай мовы слова «інтэлігент».

*P. S. Пакуль я з адчаем намагаўся зразумець учынак адных дзеячаў культуры, з'явіліся іншыя, не менш знакамітыя. І звярнуліся з заклікам правесці Кангрэс інтэлігенцыі «Супраць вайны, супраць самаізаляцыі Расіі, супраць рэстаўрацыі таталітарызму».*

*Нарэшце.*

## ГРОШ ЦАНА

Прамільгнула і зноў пахавалася пад абвалам больш важкіх падзей абвестка пра тое, што за пад'ём на шырока вядомы Курган Славы пад Мінскам трэба будзе плаціць грошы: школьнікам 1500 рублёў, дарослым аж 3 тысячы.

Зведаўшы пра гэта, я кінуўся шукаць старую фотку, хаця і без пошукаў яна адразу ўзнікла перад вачыма: 1967 год, слізкая пад першай лістападаўскай шэранню глiністая зямля, недзе ззаду ўзвышаецца ўжо даволі высокі капец, па якім коўзаецца бульдозер, а паперадзе мы, некалькі маладых журналістаў «Знамёнкі». Толькі што кожны з нас высыпаў на той капец па

вядру прывезенага пяску. Трохі пазней мы даведаліся, што дзеля гэтага пяску, перамешанага з глінай і дробнымі каменьчыкамі, быў зрыты натуральны курган пад Смалявічамі, на якім узвышаліся рэшткі ці то старажытнай крэпасці, ці то царквы...

Старэйшы з нас — Ігар Садоўскі, вядомы на той час спартовы аглядальнік газеты. Ну, як старэйшы? Гадоў на 8–9. Яму, бадай, столькі і было, калі ён разам з маці здолеў збегчы з Мінскага гета ў Налібоцкую пушчу, да партызанаў... Калі яго хавалі напачатку 70-х, наперадзе неслі на чырвонай падушачцы партызанскі медаль. На пахаванні і памінках гаварылі, што яго дагнала вайна. Было неверагодна шчымліва...

Чаму ж сёння я не магу намацаць тую шчымлівую чалавечую сувязь паміж вайной, што дагнала Ігара, і тым вядром пяску, якое ён высыпаў разам з намі на патрыятычны курган?

Ці не таму, што з таго вядра пачало набіраць сваю фальшывую моц услаўленне быццам бы гераізму і мужнасці народа, а насамрэч — услаўленне ўлады, якая скарысталася пачуццямі людзей, іх памяццю дзеля свайго манументальнага ўсталявання, здавалася, на вякі...

Чаму ж сёння я не магу намацаць простую чалавечую сувязь паміж тым першым вядром і вайной, што даганяе апошніх яе ахвяр?

Ці не таму, што і сённяшняя ўлада, учапіўшыся, як ёй здаецца, у вечнасць, аж заходзіцца ў сутаргах афіцыйнага патрыятызму, які раве танкамі на парадах, танчыць пад рытмы гімна на плошчах і б'е галовамі цэглу ў дні немаведама якіх святаў, лезе ў вочы псеўдапатрыятычнымі лозунгамі на дахах дамоў, фальшывымі выявамі звышзадаволеных жыццём, усмешлівых ветэранаў на так званых білбордах...

З дэманстрацыяй такога кшталту патрыятызму мы працягваем сутыкацца на кожным кроку. Нават Хатынь няўлоўным пераводам маральных стрэлак становіцца падставай для нейкай мазахісцкай фанабэрыі — у каго яшчэ было такое! Не гавару ўжо пра «лінію Сталіна», мілітарысцкую прапаганду і бясконцую страляніну з тэлеэкранаў...

Наперадзе, безумоўна, Расія з яе нястрымным уздымам «патрыятычнага духу». Але ж і лукашэнкаўская ўлада са сваімі

прыхільнікамі працягвае лічыць усё расійска-патрыятычнае родным, надзімаецца, як быццам і сёння распасціраецца «ад Буга да Курыл».

Гістарычная напышлівасць у той ці іншай меры ўласціва любой дзяржаве, вялікай асабліва. Але для дэмакратычнай дзяржавы і яе грамадзян вайна — заўжды зло. Нават калі палітыкі лічаць вайну непазбежнай, адносіны да яе і ў палітыкаў, і ў грамадзян — як да непазбежнага зла.

Мне здарылася наведаць у Вашынгтоне Музей амерыканскай гісторыі. Дарэчы, бясплатны. Там поўна школьнікаў — без усялякіх экскурсіяў і ідэалагічнага прымусу яны вольна гуляюць па залах, пазнаюць гісторыю Амерыкі, ваенную ў тым ліку. Уявіць іх у якасці суб'ектаў «ваенна-патрыятычнага выхавання» немагчыма. Упэўнены, што такога словазлучэння няма нідзе ў цывілізаваным свеце — настолькі відавочна вар'яцтва намаганняў выхоўваць патрыётаў на вайне.

Я не лічу сябе спецыялістам па выхаванню патрыётаў, але ўпэўнены: рабіць з вайны, з яе крывавых параз і, тым больш, крывавых перамог выток патрыятычных пачуццяў — амаральная справа...

...Нехта абураўся: як можна браць грошы, нават такія мізэрныя, за патрыятычны ўздым на вышыню «ўсенароднай славы»?!

Гістарычна курганамі пазначаюцца месцы старажытных пахаванняў.

Цяжка сказаць, калі пад «Курганам Славы» будзе назаўжды пахаваны так званы савецкі патрыятызм. Вельмі танны патрыятызм, якому, як раптам высветлілася, грош цана.

У адрозненне ад таго вядзерца жоўтага, уперамешку з глінай і дробнымі каменьчыкамі пяску, што падсыпаў некалі ў падмурак памяці Ігар Садоўскі, якога так хутка дагнала вайна...

Вядзерца, якому няма цаны.

## ДЗІЦЯЧЫЯ ГУЛЬНІ ДАРОСЛЫХ

Даўно цягне выказацца пра так званыя ваенна-гістарычныя рэканструкцыі.

Лічыцца, што яны паглыбляюць гістарычныя веды, стымулююць цікавасць да гісторыі і выхоўваюць патрыятызм.

Так, мусіць, паглыбляюць, стымулююць ды выхоўваюць. Але вось жа нешта стрымлівае ад захаплення, калі чытаеш, як сёлета святкуецца 600-годдзе Грунвальдскай бітвы, якая адбылася ў 1410-м, ці як «парламентарии машут белыми платками...» падчас рэканструкцыі падзей 1-й сусветнай вайны пад Смаргонню.

Усё гэта, зразумела, дробязі, памылкі ў датах ці ў словах лёгка папраўляюцца. Тое, дарэчы, і зрабіла на сваім сайце газета «Вечерний Гродно», памяняла «парламентариев» на «парламентеров». Што праўда, «белые платки» засталіся...

Але ж я — пра іншае.

Пра тое, як «...За полчаса зрители прожили четыре года: увидели наступление войск, закрепление линии обороны, газовую атаку, момент братания и окончание войны...» Дарослыя пры тым «плакали», а «дети просили больше не стрелять»... То бок так было ўсё праўдзіва.

Чаму ж не пакідае адчуванне нейкай фальшывасці? І ад гульні ў Грунвальд, што адбываецца ў Дудутках, і ад ігрышч на «Лініі Сталіна», і ад згаданай страляніны пад Смаргонню...

Я доўга не знаходзіў адказу на гэтае пытанне, пакуль у чарговых жахлівых «карцінках» з Данбаса не ўбачыў двух хлопчыкаў, гадоў мо дзевяць-дзесяць, з драўлянымі «калашамі»...

Я не ведаю, хто з іх быў «бандэраўцам», а хто «апалчэнцам». Адзін хутка прамільгнуў, мусіць, недзе па-за кадрам абраў зручную пазіцыю. Камера засяродзілася на другім. І вось тут я знайшоў адказ: ён так натуральна, так прафесійна то хаваўся за выступам паўразваленай сцяны, то высоўваўся на хвіліну, каб хуценька выпусціць у «ворага» смяротную кулю, што стала зразумела: на сапраўднай вайне дзеці не просяць, каб дарослыя больш не стралялі.

Шмат аб чым дзеці просяць дарослых на сапраўднай вайне — піць... есці... не даць памерці... не паміраць... Але аб тым, каб не стралялі, не просяць. Бо якая ж гэта вайна, калі не страляць?!

Быў у маім журналісцкім жыцці эпізод, калі давялося самому ствараць «рэканструкцыю». У 1985-м, напрыканцы сакавіка, газета «Труд», дзе я тады працаваў беларускім сабкарам, з нагоды 40-годдзя Перамогі над Германіяй вырашыла зладзіць семінар галоўных рэдактараў прафсаюзных газет з краін сацлагера. Пачаць было даручана з Брэсцкай крэпасці. А пасля ўжо рухацца «па маршрутах партызанскай славы» — так было сказана ў пісьмовым даручэнні — на Мінск.

...Пад Івацэвічамі аўтобус сустрэлі дзяўчаты з хлебамсоллю, «газікі» і БТРы. Усім параздавалі гумавыя боты, парасселіся па «газіках» ды БТРах і па гразкім праселым сакавіцкім снезе ды глыбокай каламутнай вадзе рушылі ва ўрочышча, дзе падчас вайны месціўся штаб Брэсцкага партызанскага злучэння. Да ўзгорка, пад якім той штаб і месціўся сярод соснаў, дабіраліся яшчэ з кіламетр пешшу, праз балота і непралазны хмызняк. Не паспеў я падумаць, што назва ўрочышча — «Хаваншчына» — цалкам адпавядае партызанскай патрэбе хавацца, як пачуў нейкія ўсхліпы. «Тут... тут... у Беларусі... загінуў бацька», — амаль нячутна прамовіла рэдактарка з ГДР. Захінуўшы шалем твар, на якім засталіся толькі счырванелыя вочы, яна ледзь перасоўвала ногі, а потым і ўвогуле апусцілася ў снег...

Яна ўсхліпвала ўвесь час, пакуль мы аглядалі дыхтоўныя, з моцных бярвёнаў хаты, дзе па версіі рэканструктараў месціліся сам штаб, шпіталь, друкарня, побач — лясная школа... Усё гэта нагадвала хутчэй базу адпачынку. Але на парозе «штаба» нас чакаў ягоны сапраўдны, які быў падчас вайны, начальнік, у «шпіталі» — той самы хірург, у «друкарні» — той самы наборшчык, у «лясной школе» — тая самая настаўніца. Нават мужчыны, што варылі ў вялізным катле бульбу і ахалоджвалі ў снезе бутлю з мутнаватым самагонам, абодва былі з колішніх партызанаў.

Немка працягвала бязгучна плакаць.

Я прыабняў яе за дрогкія плечы. І раптам пачуў нешта нечаканае — страшнаватае і зусім не гэдээраўскае: «Яны... яны жывыя... А мой татачка...»

І яна ізноў захлынулася нябачнымі слязьмі.

Мабыць, упершыню я хутчэй адчуў, чым зразумеў, якая ненатуральная для чалавека і чалавецтва гэтая з'ява — вайна. Але ж коціцца смяротным колам праз лёсы, пакаленні, стагоддзі...

Дык, можа, натуральная?

Што ж натуральнага ў тым, калі адных вайна пакідае жывымі, а іншых малоціць ушчэнт?! Не, заставацца на вайне жывымі зусім ненатуральна. Адзінае, што можа зрабіць вайну натуральнай, — усеагульная пагібель, усеагульнае скančэнне жыцця на зямлі.

Вось я і думаю: што ж фальшывага ў дзіцячых гульнях дарослых? А тое, думаю, што яны ствараюць ілюзію натуральнасці войнаў. То бок даводзяць, што чалавецтву без войнаў не жыць.

...Аляксандр Гардон, расійскі тэлевізійны гуру, пытаецца ў нябачнага апанента: «А ці памятаеце вы, як у дзяцінстве гулялі ў вайну, у "немцаў" і "рускіх"?» І выцягвае аднекуль з недасяжных глыбінь інтэлекту выснову: «Вось і вы, украінцы, зараз немцы для нас...»

Такая вось ваенна-гістарычная рэканструкцыя.

## ЕХАЎ КОНІК...
## альбо УМОЎНАЯ БЕЛАРУСЬ

Бабка Кастуся, мая вясковая сяброўка гадоў настаўніцкай маладосці, неаднойчы, калі падпівала прыхаванай яшчэ за польскім часам «Выбаровай», распачынала гэтакі спеў: «Ехаў конік да вады — залатыя павады. Конік не напіўся, мальчык утапіўся. Ідзе пані ратаваць — нідзе сына не відаць. Ідзе пан за вадой — бачыць сына пад вадой: толькі ножкі тырчаць, толькі вочкі блішчаць...»

Проста жахлівая гісторыя.

— Не плач, Сярожа, — супакойвала бабка Кастуся, даспяваўшы і размазаўшы па шчацэ сваю слязу. — Усё яшчэ будзе...

Бабка Кастуся з яе «мальчыкам» і аптымістычнай абяцанкай на будучыню ўзгадалася, калі прачытаў артыкул Сяргея Дубаўца «Беларусь — гэта мова».

«Беларусь — гэта мова»,— сцвярджае Сяргей Дубавец. Бо мова па-ягонаму — гэта ўсё, што засталося ад Беларусі: «...апошні рубеж... адзіны інструмент і адзіная зброя шырокага цывілізацыйнага руху».

Прыгожы тэкст, прывабна завостраная думка, глыбокі падтэкст...

Але, як ні паглыбляйся, вынікае, што ўсё астатняе — не Беларусь, а немаведама што, якое «зноў па горла ў Расеі»...

Я ведаю чалавека, які прыкладае шмат намаганняў, каб улезці ў Расею па горла. Лукашэнка? Не, апазіцыянер, так бы мовіць. Да таго ж дастаткова вядомы пісьменнік. Некалькі гадоў таму спрабаваў надрукаваць у расейскіх газетах адкрыты ліст да... Пуціна, каб ён «остановил русификацию» і пасадзейнічаў вырашэнню нашага моўнага пытання. Як быццам Беларусь зноў у складзе Расіі. Дарэчы, пад лістом стаялі подпісы шмат каго з паважаных дзеячаў беларушчыны...

Праз некаторы час, праглядаючы часопіс «Наш современник», вядомы сваім дэмагагічна-пячорным антысемітызмам, я заўважыў ліст нашага «змагара за мову» да Станіслава Куняева, галоўнага рэдактара і нястомнага імперца. З ліслівасцю чалавека, якога, маўляў, мала хто разумее, ён запэўніваў адрасата ў сваёй прыхільнасці і прапанаваў надрукаваць свой новы раман, які цалкам супадае з палітыкай часопіса і поглядамі яго галоўнага рэдактара...

Такі вось апошні рубеж... адзіны інструмент... адзіная зброя...

Калі распачаць бойку катэгарычных фармулёвак, то чаму б не выказацца такім чынам, што сённяшняя Беларусь — гэта якраз усё астатняе, а тая Беларусь, каторая, па Дубаўцу, мова — гэта, выбачайце, умоўная Беларусь, якую стварыла і якой цешыцца інтэлектуальная беларускамоўная эліта. Але падобная бойка — не лепшы шлях да паразумення паміж людзьмі і рознымі дэмакратычнымі плынямі, без якога немагчымы з’яднаны супраціў лукашызму.

І ўсё ж цяжка зразумець, чаму паэту (у Дубаўца маецца на ўвазе светлай памяці Валянцін Тарас) дазваляецца так званы білінгвізм, а простаму народу гэткі білінгвізм што тая шыза. Быццам паэт — гэта адно, а народ — нешта іншае. Навошта ж білінгвістычную шызу ды элементарную непісьменнасць чынавенства ляпіць да народа, блытаць чынавенства з ягонай лянотай і звычкай шукаць ісціну ў роце начальства з мільёнамі тых беларусаў, што трапілі ў пастку русіфікацы?! Тым больш нельга ладзіць з мовы «прыбор», падобны прыбору для распазнання «свой-чужы». Дубавец, вядома, такі прыбор не ладзіць. «Распазнанне» само выпрастоўваецца з-пад штучных тэзісаў аб «водападзеле» і «адзінай зброі»...

Цемрашальства ці проста глупства — яно пярэчыць разгортванню шырокага цывілізацыйнага руху на падставе распаўсюду ведання, валодання ды ўжывання роднай мовы. Тут я з Дубаўцом згодны, нават гатовы ўсклікнуць: «Даўно пара!» Але лічыць, што мова — гэта адзінае, што выцягне краіну з багны лукашызму і гарантуе сапраўдную незалежнасць, значыць не проста памыляцца ў стылі Мюнхгаўзена, а зноў, як напачатку 90-х, небяспечна збочваць у каляіну, якая насамрэч спрыяе таму, каб улезці «па горла ў Расею» накшталт Татарстана ці Удмурціі... Ці там не існуюць татарская ды удмурцкая мовы? Існуюць. Нават квітнеюць.... А якія-небудзь, умоўна кажучы, «неглюбскія бабулькі» заўсёды знойдуцца...

Я не фармацэўт з рэцэптурнага аддзела палітычнай аптэкі, але ўпэўнены, што адпаведныя лекі для Беларусі трэба гатаваць з нашмат больш складаных рэчываў. Тым больш, што для мільёнаў беларусаў, што купіліся на подлы рэферэндум аб дзяржаўным двухмоўі, яна сталася толькі ўскосна роднай. Бо цяжка лічыць роднай, ад першых слоў маці і першага буквара, мову, якая на працягу звыш паловы мінулага стагоддзя вывучалася, ды і сёння вывучаецца накшталт іншаземнай...

Не напіўся конік... утапіўся «мальчык»... толькі вочкі блішчаць...

Але гэта не шыз, а сюр.

Не шыз падвоенай свядомасці, а сюр няўмольных гістарычных абставінаў.

Ці здолее пераадолець гэтыя абставіны і стварыць новыя, спрыяльныя для беларускай будучыні, не ўмоўная, а нанова народжаная, маладая Беларусь? Здолее. Калі гэтае пытанне паўстане перад ёю як пытанне ўжо не мары, а дзеяння.

Тады і конік з «мальчыкам» нап'юцца чысцюткай празрыстай вады.

...Мудрая ўсё ж была бабка Кастуся. Што Саламон. Толькі той — «усё пройдзе», а тая — «усё яшчэ будзе». Па сутнасці, тое ж...

## ЗАБАРОНЦЫ АЙЧЫНЫ

23 лютага ўжо зранку я пачаў атрымліваць віншаванні ад родных і проста знаёмых жанчын. На маю сціплую заўвагу, што з-за адсутнасці арлінага зроку ні ў савецкім, ні тым больш у беларускім войску ніколі не служыў, жанчыны адказвалі, што гэта не мае аніякага значэння. «Мужчынскі дзень», — гаварылі яны. «Ну, так, — жартаваў я ў адказ, — як у райцэнтраўскай лазні... Хутка будзе жаночы...»

Жарт успрымаўся з насцярогай, як быццам жартаваў я з чагосьці святога... «Мой дзед, — ледзь не пакрыўдзілася адна з віншавальніц, — чвэрць стагоддзя праслужыў у царскай арміі... А бацька — у польскай, загінуў ад немцаў... Нельга цурацца традыцый...»

Так, пагадзіўся я, нельга.

Але адна справа — традыцыі. Іншая — звычкі...

Савецкая ўлада знішчыла спрадвечныя традыцыі, а замест нарадзіла процьму святочных, кшталту дня 23 лютага, звычак. Але народная прага традыцый заўсёды была неўміручай. Менавіта неўміручасцю традыцый можна патлумачыць тое, што народ сам ператвараў звычкі ў традыцыі, надаючы ім зусім іншы, чалавечы сэнс, не надта паглыбляючыся ў вір гістарычных падзей, у блытаніну ўрачыстых дат...

Лукашэнка ўчапіўся ў гэтую блытаніну, бо менавіта з яе нарадзіўся і на ёй трымаецца рэжым ягонай асабістай улады. Вынікам стаў самы, мусібыць, вялікі, вар'яцкі парадокс сучаснай беларускай гісторыі: вайна дзяржавы супраць Айчыны...

Ці не абвесткай гэтай вайны з’явіўся сумнавядомы травеньскі рэферэндум 1995 года?! Вайны супраць такіх спрадвечных духоўных каштоўнасцяў, як родная мова, нацыянальныя сімвалы і святыні. Вайны супраць таго, з чаго складаецца пачуццё Айчыны...

Айчына, безумоўна, шырэйшае за дзяржаву, можа, нават зусім іншае паняцце. Калі дзяржава — палітычнае ўтварэнне, краіна — геаграфічнае, то Айчына альбо Бацькаўшчына — ад Айца... Ад продкаў, дзядоў, прадзедаў і бацькоў...

Спекулюючы на гістарычнай недасведчанасці насельніцтва, застрашваючы яго міфічнымі пагрозамі з боку нейкіх незразумелых «бэнээфаўцаў», дзяржава ў асобе Лукашэнкі доўгі час намагалася начапіць на сябе твар Айчыны. Але нічога, апроч скажонай саўковай хлуснёй маскі, не атрымалася. Нават Бацькам ужо амаль ніхто яго не называе. Нездарма, віншуючы 23 лютага сваіх генералаў з новымі пагонамі, Лукашэнка абвясціў, што «дзяржава заўсёды будзе падтрымліваць сваіх абаронцаў». Заўважце, абаронцаў дзяржавы, а не Айчыны...

Насамрэч — *забаронцаў* Айчыны.

Дзе, у якой яшчэ краіне «абаронцы Айчыны» сілкуюцца іншаземнымі грашыма?

Дзе, у якой яшчэ краіне «абаронцы Айчыны» — ці то кіраўнік дзяржавы, ці то вайскоўцы з міліцыянтамі, ці то суддзі з пракурорамі ды іншыя памагатыя — пад рознымі хлуслівымі зачэпкамі цягнуць за краты тых, хто шануе нацыянальныя герб і сцяг?

Суд над Сяргеем Каваленкам, які ўзняў бел-чырвона-белы сцяг над плошчай у Віцебску, безумоўна, працяг бясконцай ганебнай вайны дзяржавы супраць Айчыны.

Але ні забараніць, ні перамагчы Айчыну немагчыма.

Нават калі яна застанецца жыць у знясіленым целе апошняга яе абаронцы.

...На гэтай трохі пафаснай ноце я, магчыма, паставіў бы кропку, каб не гісторыя з касманаўтам Кавалёнкам, амаль цёзкам Сяргея па прозвішчы і, мабыць, радні па кавальскаму радаводу. Колькі бруду вылілі на яго заўзятыя, так бы мовіць, па-

трыёты толькі за тое, што ён адцураўся ад бел-чырвона-белага сцяга, маўляў, сцяга калабарантаў часоў нямецкай акупацыі...

Па-лукашэнкаўску абразліва ганіць савецкага беларуса, чыё дзяцінства, дарэчы, прайшло праз тую жахлівую акупацыю — не лепшы спосаб пераканаць яго, далучыць да сапраўднай гістарычнай спадчыны. Тым больш, што ён сам ужо — частка гэтай спадчыны.

Я добра памятаю сонечную раніцу ў вёсцы Белай пад Крупкамі, святочна-насцярожаны натоўп аднавяскоўцаў Кавалёнка і сакратара райкама, які, надрываючыся, цягнуў у беднаватую матчыну хату тэлевізар... Памыляюцца тыя, хто думае, што гэта быў усплёск так званага савецкага патрыятызму. Усе, партыйны сакратар таксама, адчулі гонар за беларуса і Беларусь...

Ёсць нешта глыбока агульнае паміж подзвігам Кавалёнка і патрыятычным учынкам Каваленкі — абодва, самаахвярна рызыкуючы, узнялі Айчыну да нябёс.

Астатняе — непаразуменне, якое, упэўнены, скончыцца, як толькі скончыцца гэтая, распачатая дзяржавай, вайна.

## РУКІ ДЗЕДА

Разгарнуліся спрэчкі вакол «дзеда Талаша» — фільма з такой жа назвай, асобы і вобраза з коласаўскай «Дрыгвы».

Фільма я, на жаль, не глядзеў. А вось спрэчкі...

Спрэчкі нагадалі мне знаёмага вясковага ксяндза. Кожны раз, калі я сустракаў яго на ўскрайку той вёскі, на прасёлкавым раздарожжы, ён хітравата заплюшчваў вочкі і пытаўся: «А ці не ведае пан, дзе тут шлях да Варшавы?.. А да Пецярбурга?»

«Пан» ужо ведаў, што ставіцца да пытанняў старога ксяндза трэба ўважліва і насамрэч паказваць адпаведны кірунак, каб пазбегнуць ксяндзовага кійка.

Такі вось урок гісторыі з геаграфіяй.

Наогул гэта быў дзіўнаваты стары. І ўлетку і ўзімку хадзіў у дзіравай ватоўцы і чырвонаармейскай вушанцы з адбіткам пяціканцовай зоркі на лбе... Часцяком яго знаходзілі на адсе-

леным хутары, дзе ён спаў на печы, якую сам паліў рэшткамі пасечанага саду і разбуранага гумна...

Праз колькі год, калі ксёндз ужо адышоў у лепшы свет, я даведаўся, што ён добра прамёрз на гулагаўскім лесапавале. І да сканчэння жыцця не здолеў сагрэцца. Але пра тое, дзе «тут» шлях да Сібіры, не пытаўся ніколі...

Такім чынам, той даўні ўрок на скрыжаванні прасёлкаў можна лічыць няпоўным.

Ці не падобныя мы ў сваім стаўленні да гісторыі на згаданага старога ксяндза? Носім да апошніх рэштак гулагаўскую ватоўку, чапляем на сябе вушанку з адбіткам чырвонай зоркі і ніяк не можам сагрэцца ля ўласнага вогнішча. А калі падаецца, што нехта збіўся з кірунку, пагрозліва падымаем кіёк...

Са спрэчак вакол фільма пра «дзеда Талаша» вынікае, што яго стваральнікі паднялі на Польшчу пагрозлівы «бальшавіцкі» кіёк. У адказ — «дэмакратычны» польскі кіёк: артыкул у газеце «Rzeczpospolita» пра непараўнальна добрае з савецкім жыццё беларусаў «за польскім часам», нават пратэст польскага МЗС...

Але гістарычная праўда не можа быць ні «бальшавіцкай», ні «дэмакратычнай». Інакш яна губляе самае істотнае сваё вымярэнне — чалавечае.

Бо сапраўдная гісторыя краін і народаў складаецца з чалавечых лёсаў.

І гэта адзінае вымярэнне, якое дапамагае суцішыць боль ад гістарычных стасункаў. І ладзіць стасункі без болю...

А тут Лукашэнка раптам — плясь! У Варшаве быццам зноўку «спяць і бачаць» як аднавіць «усходнія крэсы»...

Пра тое, што ў Маскве «не спяць» — адпаведны маўчок...

А наўздагон — фільм пра «дзеда Талаша», пра ягоную барацьбу супраць «белапольскіх акупантаў».

Што «акупанты» з’явіліся праз бальшавікоў, грамадзянскую вайну і савецкую ўладу — адпаведны маўчок...

Чаму «Катынь» Анджэя Вайды не выклікала пратэсту ні афіцыйнага расійскага боку, ні простых расійцаў, акрамя «вечна жывых»? Ці не таму, што ўпершыню, мусіць, расійцы ўбачылі чалавечы твар не толькі жахлівай польскай, але і ўласнай

трагедыі, твар праўды, без якой немагчыма зазнаць пачуццё гістарычнай адказнасці і віны?!

Спробы адшукаць гістарычную праўду ў спарахнелым ідэалагічным куфры, са спрытнасцю штукара выцягваючы адтуль толькі тое, што адпавядае палітычнай патрэбе, небяспечныя для стасункаў паміж народамі і людзьмі.

Але перш-наперш небяспечныя для нас саміх.

Адшукаць уласнае месца ў гісторыі і сучасным свеце немагчыма, блукаючы вакол дрыгвы і спрабуючы намацаць цвёрдую зямлю з дапамогай кіёчка.

Але ж дрыгва — яна і ёсць дрыгва. Нездарма, мусіць, Якуб Колас так назваў сваю аповесць.

...А фільм пра «дзеда Талаша» абавязкова пагляджу пры першай нагодзе. Цікава ўсё ж, ці здолеў Генадзь Гарбук стварыць вобраз знакамітага палешука без двукоссяў.

Яшчэ цікавей, ці супадзе гэты вобраз з маім уласным уяўленнем пра дзеда. Не з аповесці — з прыватнай сямейнай гісторыі, з жыцця. Дакладней, з яго пачатку, з 1943 года.

У тым годзе мяне, двухгадовага, маці прывезла з Казані ў Маскву і, падаўшыся бліжэй да Беларусі, родных мясцін, пакінула на сваю сястру, цётку Надзею. Аднойчы яна гуляла са мной ля гатэля «Якорь». Стаміўшыся, цётка пасадзіла мяне на высокі парапет. Але, відаць, жвавенькі быў хлопчык. У нейкі момант з’ехаў з парапета і быў падхоплены з лёту праходзячым міма дзядком. «Куды глядзіш, старая варона?! Ледзь дзіця не загубіла...» А «старая варона», з яе слоў, аж разявіла рот, гледзячы на дзеда і ордэн Чырвонага Сцяга, што паблісківаў з-пад расхінутага кажуха...

Ордэн ордэнам, у Талаша з ім свая гісторыя. Але ж і сёння мне зусім не цяжка ўявіць сабе, нават адчуць рукі дзеда.

Уратаваў ад калецтва, а мо яшчэ ад чаго горшага.

Жыве Беларусь...

## КАМЯНІ СПАТЫКНЕННЯ

«...Што, немцы і сваіх габрэяў забівалі?!»

Ягонае ўзрушэнне было такім моцным, што ён абышоў камяні з усіх бакоў, убачыў сляды старанна зацёртай свастыкі...

Тады, пяць гадоў таму я сустрэў яго ля «Трох камянёў», што ў розныя часы былі пастаўлены ў памяць аб тысячах габрэяў з Гамбурга, Дзюсельдорфа і Брэмена, якія загінулі ў Мінскім гета і Трасцянцы. Сюды ён патрапіў выпадкова — прыехаў са Стоўбцаў наведаць сябра ў лякарні непадалёк.

Я спытаў яго, колькі яму гадоў і ў якой сферы працуе. Гадоў яму аказалася за сорак, працуе інжынерам у камунальнай гаспадарцы.

Я не ведаю, чаму я спытаўся ў яго пра гэта. Мабыць, таму, што сам быў узрушаны: мне здавалася, што няма на зямлі чалавека, які нічога не ведае пра халакост...

Мікалай зашпіліў пінжак, схіліў у задумёнасці галаву з рэдкімі русымі валасамі, потым шырока перахрысціўся і павольна накіраваўся у бок Сухой.

Я вярнуўся поглядам да камянёў. Не, не да тых трох ад немцаў, а да іншых, хаатычна параскіданых проста ля іх падножжаў.

Гэта былі мацэйвы — помнікі з габрэйскіх могілак на Сухой, што знішчаны яшчэ ў 70–90-х гадах мінулага стагоддзя. Але камяні-помнікі працягвалі выкараскавацца з зямлі. Тады, пяць гадоў таму, калі пракладвалі цеплацэнтраль уздоўж Перакопскай, не менш за два дзясяткі сцягнулі і кінулі ля «Трох камянёў».

Я ўзгадаў дзеда Саламона.

Я ўявіў, як хавалі яго ў 1914 годзе, калі ён, рабочы разніцы, памёр ад сухотаў, а майму бацьку, наймалодшаму з ягоных чатырох дзяцей, не было і двух месяцаў.

Яго везлі, мабыць, сюды, на Сухую, па Габрэйскай вуліцы, пазней чамусьці названай Калектарнай. Вось тут была брама, побач майстэрня могілкавых каменячосаў...

Я, вядома, не спадзяваўся, што знайду мацэйву з ягоным імем. Але дух ягоны пэўна лунаў над гэтым месцам, прымушаў сціскацца сэрца...

Здалёк, мусіць, мы выглядалі дзіўнавата — Леў Слобін, вядомы кінадакументаліст, Сямён Ліакумовіч, адзіны мо ў Мінску знаўца ідышу, і я. Нехта праходзіў міма, нехта спыняўся, назіраючы, як немаладыя людзі нахіляюцца над нейкімі камянямі... «...Карп, дакладна, гэта прозвішча Карп... А вось Ціне Файленбоген...» — Сямён Львовіч прашараваў шматком сухой травы імя памерлай у 1920 годзе жыхаркі Мінска, што па волі лёсу і экскаватара аказалася ў месцы, дзе выгульваюць сабак... «А вось па-руску, “Бася Уфляндъ, 26 января 1907”...»

Побач прыпынілася маладая сям’я — тата, мама ды хлопчык гадоў дзесяці. Раптам тата — густыя валасы з сівізной, нагавіцы ў стрэлку, кашуля пад гальштукам, без пінжака — усклікнуў: «Глядзі, які добры будаўнічы матэрыял!» — «Гэта ж помнікі, тата!»...

Потым мы са Слобіным, усё жыццё якога пасля вайны прайшло ў гэтых вуліцах і дварах, вуліцах і дварах колішняга гета, дзе згінула без вестак ягоная сястрычка Таня, спусціліся да Перакопскай, зараз Ерусалімскай. Мы ішлі, спатыкаючыся аб рэшткі мацэйваў, углядаючыся ў напакаваныя смеццем правалы склепаў, дзе хаваліся пакутнікі гета...

Мы прайшлі ў пачатак вуліцы, міма гародзіка са счаўрэлым, запыленым бульбоўнікам, што нейкім цудам доўжыў жыццё на месцы знесеных прыватных сядзібаў. Вялізны бетонны куб схаваўся ў зарасніку пустазелля, вакол валяліся пустыя бутэлькі, пачкі з-пад цыгарэт, абгорткі цукерак... На кубе было пазначана, што вуліца названая «...у гонар святкавання 3000-годдзя Ерусаліма»...

«...можно с уверенностью говорить о привлекательности Беларуси для туристов с еврейскими корнями из Беларуси, которым есть что предложить, будь то духовные, материальные или просто человеческие ценности, связанные с еврейским наследием в Беларуси...»

Гэта з рэкламнага тэксту «Белінтурыста».

У спісе турыстычных аб’ектаў — могілкі на Сухой.

Могілкі, якіх няма.

...Прайшло пяць гадоў. Да «Трох камянёў» дадаліся яшчэ чатыры — ад жыхароў Кёльна ды Бона, Берліна, Франкфуртана-Майне і з Аўстрыі. Але мінскія мацэйвы як ляжалі, так і ляжаць покатам, зарастаючы быллём няспыннага часу.

...Калі мы, хто завецца беларускім народам, не спатыкнёмся аб хрысціянскія, яўрэйскія, мусульманскія, пратэстанцкія, уніяцкія камяні, не апрытомнеем у граху не толькі перад продкамі, але і як браты перад братамі, то невядома колькі яшчэ пражывём у дзікунстве. Мо калі гэтую духоўную гістарычную працу не зробяць за нас (не, замест нас!) нашчадкі.

Магчыма, той самы хлопчык, што ўсклікнуў: «Гэта ж помнікі!»

Таму што камяні ўсё роўна выкараскаюцца з зямлі.

## ІВАН, КАЛОДЗЕЖ І АНЁЛ

На мінулым тыдні я ездзіў у вёску Далёкія, што на Браслаўшчыне.

Па геаграфічных прыкметах не такая ўжо і далёкая — нейкіх 7 кіламетраў ад Опсы, мястэчка, праз якое па вялікай шашы звычайна едуць у райцэнтр. Зараз дарога ў асфальце, а паўвека таму на Браслаў вяла яшчэ не пабітая брукаванка. Што праўда, на Браслаў ездзіў зрэдку, бо настаўніцкай працы ў Далёкіх было шмат. А вось на Опсу — штотыдзень. Ці то на ровары, ці то на матацыкле, які браў у Івана, а іншым разам і на грымучым «газоне» з цыстэрнай, на якім Іван вазіў у Далёкія са спіртзавода ў Відзах брагу. Але часцей за ўсё я хадзіў у Опсу пешшу.

Мне падабалася дарога. Падабалася вітацца са старымі бярозамі, якія разам з прасёлкам узбіраліся на пагоркі, з пакручанымі на ветры соснамі... Так, я ведаў кожнае дрэва на прасёлку з Далёкіх у Опсу. І чым больш працяглы быў той шлях, тым мацней нарастала хваляванне ад сустрэчы з сябрамі, такімі ж настаўнікамі, што, як і я, па ўласным жаданні размеркаваліся ў тыя мясціны...

Школу сёлета зачынілі. Таму і еду цяпер у Далёкія. Па тым жа шляху, які ані тым жа, ані ўвогуле шляхам ужо й не назавеш — траская, бы пральная дошка, запыленая гравійка. Ні дрэўца абапал, ні тых бярозаў ды соснаў...

Еду я да Івана, адзінага з тых часоў сябра, што жыве ў Далёкіх. Калі-нікалі я, вядома, у Далёкія наязджаў, сёе-тое пра Іванава жыццё ведаў. Але цяпер было чамусьці такое адчуванне, што не быў там усе пяцьдзясят гадоў. І разам з тым — наадварот: нібыта тых пяцідзесяці гадоў і не было.

Пра тое, чаму сёння памерла школа і памірае вёска, — асобны аповед. А пакуль — пра Івана. Узяў пад руку, вядзе па Далёкіх, па падворках кінутых хат, знаёміць з новымі вяскоўцамі, бо нікога, каго ведаў калісь, нават нікога з маіх вучняў у Далёкіх няма. І дзве Іванавы дачкі разляцеліся па свеце — адна, пажыўшы ў Чэхіі, прытулілася да Віцебска, другая ўгразнула ў Грэцыі. «Ага, цяжка ёй там, — уздыхае Іван, — ой, цяжка... А я, скажу табе, у дзяцінстве быў на крок ад смерці. Вось тут, дзе быў калодзеж. Мо памятаеш?»

Як жа не памятаць той калодзеж? Зімовым ранкам адхінеш коўдру, скінеш паліто, якім хаця б троху бараніўся ад марозу, што за ноч выстуджваў жытло, ногі ў валёнкі, за вядро і да калодзежа. Ён увесь у лёдзе, нібы ў казачнай пячоры зіхаціць пад ранішнім месяцам... І — аблівацца да пояса. Каб прачнуцца і жыць.

«...у 43-м было, пяць гадоў мне. Калодзеж тады быў абгароджаны плоцікам. А побач — купка пяску. Ну, гуляю ў пясочку, і бачу — самалёцік ляціць. Ага, нямецкі, нават крыжы відаць. Ага, я ручкай яму, а ён як гвраздане з кулямёта! Ад плоціка толькі трэскі і разляцеліся... Потым я тыя кулі, вялікія такія, пазбіраў... І чаго ён па мне лупіў?

Анёл мяне зратаваў... Мой анёл-ратавальнік... А вось тут, побач, яшчэ хата стаяла. Ага, паліцаева хата. Дык партызаны і хату спалілі, і паліцая забілі, і жонку з дзецьмі расстралялі... Я вось думаю: а дзяцей з матуляй — за што?»

...Да нейкай чарговай пераможнай гадавіны калодзеж засыпалі, а на ягоным месцы паставілі помнік загінулым землякам. Не ўсім. Толькі тым, каго, мусіць, у 44-м забралі ў са-

вецкае войска. Інакш з чаго гэта насупраць прозвішчаў адны гады нараджэння? А так — помнік як помнік, якіх шмат па беларускіх вёсках.

Гляджу на Івана, на помнік, і думаю: як яно добра было б, калі б замест жаўнера з аўтаматам лунаў тут нябачны белы анёл.

Мо і землякі былі б жывыя, і вада ў калодзежы, і школа, і вёска...

## СЕРП І ГОЛАД

Днямі, калі Украіна ізноў стагнала ад незагоенай і праз 80 гадоў раны Галадамору, а Беларусь намаганнямі сумленных даследчыкаў і для сябе адкрывала дзесяцігоддзямі затоены жах, нейкая маскоўская дама з навамоднай пароды так званых «незалежных палітолагаў» так выказалася аб трагедыі: «...Галадамор? Гістарычны тэрмін».

Чамусьці ўзгадалася адно мінскае застолле напрыканцы 70-х гадоў мінулага стагоддзя. Пад апладысменты падалі бутэрброды з ікрой, якой, дзякуючы блізкаму знаёмству з адным з распарадчыкаў дэфіцыту, расстаралася гаспадыня. «А вы памятаеце, — спытаў сусед па застоллі, выціраючы рот сурвэткай, — як у пяцідзясятых гадах прадавалі ікру проста з бочак?»

Вядома, я памятаў. Я нават памятаў, дзе прадавалі — у гастраноме насупраць Дома ўрада, што месціўся на першым з пяці паверхаў будынка ў стылі ампір. І не толькі ікру — кансервы «Снатка» з сапраўдных крабаў, вяндліну і кілбасы, ад якіх ішоў галавакружны пах, і селядцы, таксама з бочак, з дзівоснай назвай івасі...

Яшчэ ў тым жа часе я памятаў цётку Полю. Бразгаючы ўраніцы бітонамі, у галёшах на босую нагу, разносіла яна па начальніках і блізкай да ўлады інтэлігенцыі малако, зрэдку — цяляціну, пералічваючы пасля кожнага продажу пакамечаныя дарэформенныя траякі ды рублі. Ці каштавала сама?

Памятаў я і Мацея з нарачанскай вёскі Купа, куды ў згаданыя часы ікорна-кілбаснага росквіту пачалі наязджаць з Мінска першыя савецкія дачнікі. Неверагодна худы, да чарна-

ты высахлы на ветры і сонцы, гарбаціўся — у яго і сапраўды ўжо тады, у трыццаць гадоў нарос горб — ад золку да золку, раз на дні харчуючыся заціркай і поснай бульбай. Рыбу, якой у Нарачы было тады зашмат, прадаваў за капейку, сам амаль што не еў...

І Тафілю, жонку Мацея, адразу і канчаткова аглухлую і знямелую ад ягонага п'янага кулака, запомніў на ўсё жыццё. Нешта мыкаючы, яна аднойчы павяла мяне ў поле, уручыла серп і пачала вучыць, як трэба жаць жытнія каласы і вязаць снапы. Праз паўгадзіны я выдыхнуўся ад гэтай працы і схаваўся ў цень, пад куст на ўскрайку поля. Расплюшчыў вочы бліжэй да вечара — Тафіля ўсё яшчэ вязала снапы...

І Веранічку памятаю, іхнюю трохгадовую дачушку. Сунуўшы за мурзатую шчочку цукерку — чарговы дачны гасцінец, — выводзіла з недзіцячай сур'ёзнасцю: «Добра ў горадзе жывуць — па радыё пяюць і цукеркі ядуць...»

Ужо тады, падлетак з адносна багатай гарадской сям'і, я намагаўся знайсці і не знаходзіў адказу на пытанне, чаму людзі, якія вырошчваюць і жнуць жыта, самі жывуць надгаладзь. І не жывуць нават, а, як пра тое стала вядома пазней, мільёнамі паміраюць...

Да адказу, падаецца, бліжэй за ўсіх падступілася Украіна, вызначаючы трагедыю страшным словам — генацыд.

У розных краінах і часах, аж да сённяшніх, голад касіў і косіць цэлыя плямёны і народы па розных прычынах, сацыяльных у тым ліку, — сухмень, паводкі, войны...

Але толькі бальшавіцкі эксперымент утварыў Галадамор свядома, у выглядзе сацыяльна-палітычнага праекта, які займеў у савецкіх падручніках назву «ліквідацыя кулацтва як класа». Пад знакам, зразумела, сярпа і молата...

Некалькі гадоў таму, калі Украіна ці не ўпершыню на ўвесь свет аплаквала ахвяр той «ліквідацыі», расійскі істэблішмент з прыцягненнем тэлегледачоў высвятляў, хто з найбольш крывавых гістарычных асобаў заслугоўвае атаясамлення з Імем Расіі...

Якое ўжо тут прызнанне генацыду?! Ці хаця б прызнанне права Украіны лічыць генацыдам ліквідацыю голадам і

ГУЛАГам спачатку сялянства, а за ім і мільёнаў гарадскога насельніцтва...

І такога ж права беларусаў, казахаў ды саміх расейцаў...

Толькі праз гэта сённяшнія пакаленні могуць зразумець, чаму трагедыя камунізму сталася агульным лёсам усіх народаў СССР.

Але замест такога прызнання — халодная вайна тэрмінаў вакол памінання бязвінных ахвяр.

Усяму гэтаму можна, мусібыць, адшукаць мноства тлумачэнняў. Але адно, на мой погляд, навідавоку. Расія, абвясціўшы сябе па зразумелай гістарычнай логіцы юрыдычнай правапераемніцай СССР, катэгарычна цураецца маральнай адказнасці за свайго папярэдніка, за ягоныя неверагодныя злачынствы. Мабыць, таму, што прызнанне такой адказнасці вымагае Пакаяння, Ачышчэння і Выракання ад бальшавізму.

Але, відаць, генетычна моцная сувязь.

Што ж да афіцыйнага Мінска, то ягоная маўклівая безуважнасць ганебная.

І сапраўды: каму «чарка і скварка», каму — «каласы пад сярпом...»

## ЛЮДЗІ І РЭЧЫ

Ледзь не кожны дзень у пад’ездзе дома, дзе жыву, па падлозе, па лесвіцы, ля паштовых скрыняў раскідваецца процьма паперак з прапановамі разнастайных паслуг і лёгкіх заробкаў.

З’ява не новая. Пакуль улада дурыла людзям галовы так званым «рыначным сацыялізмам», прымітыўны капіталізм шукаў і знаходзіў любую шчыліну, каб выцягнуць з людзей апошнія грошы. Апошнія, бо самаробная рэклама разлічана найперш на пенсіянераў, а іх у нашым доме больш за палову. Не ведаю, ці купляўся хто на яе, апытанне не праводзіў. Але вось сам ледзь не купіўся, калі нядаўна падняў з падлогі паперку, з якой кінулася ў вочы: «КУПЛЮ ДОРАГА».

А што, падумаў я, чаму ж не прадаць «старыя савецкія значкі... граматы... графіны і талеркі... фарфоравыя фігуркі і статуэткі СССР... падшкляннікі... падсвечнікі... партсігары...»?

Грошай да пенсіі амаль не засталося, а тых самых значкоў... Мо ўпершыню я пашкадаваў, што няма і ніколі не было ў нашай сям'і бюстаў Леніна і Сталіна, бо нехта таксама купіў бы іх ДОРАГА... А танна я і не прадаў бы...

Але ж колькі каштуе СССР?

Я адчыніў шуфлядку пісьмовага стала і дастаў стары бацькаў партсігар. Цікава, колькі дасць пакупнік за кавалак дзюралюмінію? Што праўда, не зусім кавалак, бо на фотаздымку пад зжаўцелым цьмяным плексігласам — мама і я. Мне тры гады, я моцна абхапіў маму за шыю. І вось зараз яна таксама быццам пытаецца ў мяне: «Ну, і якую ж ты пазначыш цану?»

Я не ведаю, што адказаць. Бо, вядома, трэба спачатку добра і дакладна ўсё падлічыць: і колькі мама зэканоміла грошай, калі, цяжарная мной, цягнулася з Мінска ў чэрвені 41-га пешшу да Магілёва; і колькі каштавала ёй зрабіць партсігар на казанскім заводзе, дзе выраблялі самалёты; і ў якія выдаткі абышлася адпраўка партсігара ад майго імя бацьку на фронт... Няблага было б з агульных выдаткаў на палявую пошту вылічыць кошт ліста, у якім бацька напісаў мне ў падзяку за падарунак невялічкі вершык: «Есть у папы портсигар. В нём махорочный товар. Смотрят с крышки прямо Серёжа и мама»... І ўвогуле, без падліку таго, колькі грошай каштаваў шматмесячны пошук бацькамі адно аднаго, сённяшнюю цану партсігара вызначыць наўпрост немагчыма. Паспрабуйце з гэтага агульнага кошту вылічыць эканомію на тытунь, бо бацька пасля вайны не курыў. Зрэшты, паспрабаваць можна. Але наўрад ці хопіць таго, што засталося, жыцця...

Затое я дакладна ведаю, колькі каштуе сёння раяль — 1 мільярд рублёў, альбо 100 тысячаў даляраў.

Менавіта за такія грошы збіраецца купляць раяль Галоўнае гаспадарчае ўпраўленне справамі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, пра што са спасылкай на сайт дзяржзакупак паведамляе ўсюдыісны інтэрнэт. І як вы думаеце, дзе ўсталюецца гэты музычны цуд? Правільна, у Мінску ўжо з'явіўся палац з мармуру, бронзы і пазалоты, да якога гэткі раяль якраз пасуе...

Што ж да майго сціплага, пашкрабанага падчас вандровак з кватэры на кватэру, раяля, дык шкада, канечне, што пакупнік

савецкіх значкоў і партсігараў на яго не спакушаецца. А то старгаваліся б. І тых 100 тысячаў даляраў хапіла б на ўсё жыццё, што засталося, каб падлічыць кошт партсігара з дзюралю.

Шкада не шкада, але з гэтым раялем трэба нешта рабіць, бо ён са сваіх ста з нечым гадоў паўстагоддзя маўчыць. Так, калі-нікалі вывергне з сябе нешта хрыплаватае...

Аднойчы, праўда, ужо быў пакупнік, і цану прапанаваў неблагую. Не 100 тысяч даляраў, але ж...

Але ў апошні момант нешта зварухнулася, і я вырашыў, што цана ўсё ж не тая. Не тое каб малая, але не суадносная. Бо суадносная павінна складацца з кошту матчынай маёмасці, якая дашчэнту згарэла разам з домам падчас першай бамбёжкі і замест якой быў атрыманы пасля вяртання ў 1944 годзе ў Мінск пашкоджаны кабінетны раяль. Але хто ведае той кошт? Нават тады ніхто не ведаў. Прывялі ў нейкі пакгаўз, куды звальваліся розныя рэчы, што засталіся ад немцаў, выбірайце... Магла, вядома, выбраць і нешта менш грувасткае, напрыклад нейкую карціну ці сабе паліто. А выйшла так, што ў паўразваленай кватэры, куды збіраліся ацалелыя сваякі, раяль уладкаваўся ці не на ўвесь пакойчык. І як добра было мне пад ім жыць!..

А, кіну настальгічныя дзіцячыя ўспаміны. Тут іншы клопат: як адлічыць ад 100 тысячаў даляраў грошы, што былі змарнаваны на выхаванне з мяне «Рахманіна», як пра тое марыла баба Гіта? Маці, вядома, у сваіх марах такіх вышынь не дасягала. Але небеспадстаўна лічыла, што даражэйшага за музыку ў мірным жыцці нічога няма і не будзе...

Пакуль цягнуўся гэты ўяўны гандаль з пакупнікам СССР, я ўсё думаў, думаў і надумаў: не людзі валодаюць рэчамі, як тое ім падаецца, а рэчы ўладараць над людзьмі.

Думка, вядома, не новая, але кожны разумее яе па-свойму.

Вось як разумела яе баба Гіта: калі разам з дачкой і ўнучкамі сыходзіла з мінскага пекла, таксама пешшу — нічога не ўзяла з сабой, акрамя касцюма малодшага сына. Старэйшага забіў у 1938-м Сталін. А тут вось малодшы наважыўся змагацца з Гітлерам — хто каго...

Які цудоўны быў касцюм з шэрага бастону, адзіны ў бацькі, калі ён вярнуўся з вайны. Жывы. Нават не паранены.

Толькі вось баба Гіта пачала размаўляць сама з сабой. Усё размаўляла, размаўляла, а я нічога не разумеў...

Ну, а пілотка, гімнасцёрка і кабура дасталіся мне. І я доўга яшчэ хадзіў на вайну з Гітлерам. З-пад раяля...

Пакупнік СССР, дарэчы, купляе і гімнасцёркі... Дорага.

Мо хто і прадасць.

## МУЗЕЙ-ШОУ, альбо КУДЫ ПАДЗЕЎСЯ ШТЫК-НОЖ

...Той нямецкі штык-нож з вострымі зазубінамі па краях і рудымі плямамі крыві мы з Яшкам Курцэрам знайшлі ў крушнях на спуску ад плошчы Свабоды да Нямігі.

Яшка жыў на задах разбуранага касцёла і музычнай школы, куды мы абодва пайшлі ў першы клас.

Быў 1948 год, толькі распачаўся залаты верасень, калі пасярод урока нешта выбухнула, з расчыненага акна пасыпалася шкло, а ў паветры адчуўся смуродны пах. Мы кінуліся глядзець. На галінах каштана, якія ледзь не краналіся высокіх вокнаў былога дома губернатара, віселі нечыя вантробы... Праз колькі хвілін мы ўжо ведалі, што гэта вантробы хлопчыка, які спрабаваў раскруціць «лімонку». Тое, што засталося ад яго, хутка некуды звезлі. А ў скверы насупраць яшчэ мо гадзіны дзве нерухома сядзела бабуля, ціхамірна ўгравалася на верасеньскім сонейку. Асколак патрапіў ёй у скронь...

Не, аніякімі трагічнымі выпадкамі і пагрозлівымі папярэджваннямі з боку дарослых немагчыма было ўтрымаць нас ад вандровак па мінскіх крушнях, дзе паміж узнятых на дыбкі рэшткаў былых будынкаў утварылася столькі загадкавых пячор. Чаго толькі там ні было! Штык-нож яшчэ не самае дзіўнае ў параўнанні з іншай зброяй...

Але на ім была кроў...

І мы панеслі гэты штык-нож у музей.

Я нават не ведаю, ці магчыма з сённяшняга ўяўлення пра музеі лічыць музеем тыя некалькі пакояў на трэцім паверсе старадаўняга будынка на плошчы Свабоды, у якім ад тых часоў і да сёння месцяцца розныя прафсаюзы. Мы гадзінамі

хадзілі па тых пакоях, надоўга затрымліваліся ля гарматаў і кулямётаў, разглядвалі выбухоўкі і авіябомбы, самаробныя партызанскія вінтоўкі і аўтаматы, зваленыя ў кучы жалезныя нямецкія крыжы...

Штык-нож прыняў ад нас высокі хударлявы чалавек у чорным пінжаку з медалём і ў светла-зялёных галіфэ, увабраных у скураныя боты. Распытаў, дзе знайшлі, падзякаваў і, вядома, папярэдзіў, каб па крушнях больш не бадзяліся. «Чулі пра хлопчыка, што падарваўся?»

...Праз шмат, вельмі шмат гадоў я пазнаёміўся з Пятром Лавецкім і спытаў у яго, ці памятае ён пра двух хлапчукоў, што ў 1948 годзе прынеслі ў музей штык-нож. Не, ён не памятаў, такіх штык-нажоў, відаць, ад самага пачатку ягонай працы ў музеі была процьма...

А пачатак гэты прыпаў на 1943 год, калі партызаны атрымалі загад збіраць матэрыялы для будучага музея.

16 ліпеня 44-га, пракрочыўшы ў нястройных шэрагах знакамітага партызанскага парада, былы школьны настаўнік прыйшоў у дом на плошчы Свабоды з партфелем, напакаваным гітлераўскімі крыжамі. Потым разам з Пятром Ганчаровым пазычылі ў ваенных карэспандэнтаў «віліс» і паехалі ў Лошыцу, куды была звезена зброя партызан. Да «віліса» прычапілі гармату на драўляных колах. Па дарозе нязвыклыя да бруку колы парассыпаліся, «віліс» давялося адпусціць, і яны пайшлі на Чэрвеньскі рынак па дапамогу. Дапамога сустрэлася ў выглядзе мужыка з партызанскім медалём. «Браток, ты чый? Капыльскі? Дапамажы...» Утрох яны цягнулі гармату праз увесь горад, потым — на трэці паверх. Так «браток» стаўся першым наведвальнікам музея, які яшчэ не адкрыўся.

...У найноўшы музей пад бліскучым шкляным купалам, што нібыта сімвалізуе звергнуты рэйхстаг, я ішоў з патаемнай надзеяй адшукаць той штык-нож з плямамі крыві і тую гармату. Але ўжо ад пачатку прагляду зразумеў, што надзея дарэмная. Бо ад той сапраўднасці, з якой нараджаўся музей і якая, нягледзячы на спробы схаваць непрыемную для ўладаў праўду пра вайну, усё ж захоўвалася ў музеі на Кастрычніцкай плошчы, не засталося анічога.

А-ні-чо-га!

І гэта пры тым, што, мусіць, як ніводны ў былым СССР ці нават у свеце, музей валодае безліччу артэфактаў часоў Другой сусветнай вайны.

Вайны, пасля якой немагчыма было праціснуцца да здабытых першымі супрацоўнікамі музея фотаздымкаў загінулых падчас акупацыі, да акуляраў, жаночых сумачак ды іншых рэчаў з трасцянецкага пекла, па якіх тыя, хто застаўся ў жывых, шукалі сваякоў, сяброў...

Часам адшуквалі. Трагічныя лёсы...

Не, мусіць не ў артэфактах справа, якія літаральна губляюцца пад коламі, гусеніцамі і крыламі непераможнай арматы. Артэфактаў, што сталіся чужынцамі на свяце нахабнага хайтэкаўскага дызайну і ў шоу, зладжаным з дапамогай найноўшых тэхналогій.

І нават не ў «канцэпцыі» — правінцыйным адбітку ідэалагічных штампаў савецкага ГалоўПУРа — справа. Яе, канцэпцыі, увогуле няма. Бо ці можна лічыць канцэпцыяй скіраваны на самазадаволенне ўлады хаос?

Хаос, створаны з фальшывасці і псеўдасімволікі, якая ахоплівае наведнікаў яшчэ звонку, ад так званай «Трыумфальнай аркі» і да чырвонага сцяга над «рэйхстагам»...

...«А ці можна ўключыць гук?» — «Так, можна, — наглядчыца залы, жанчына ў гадах, цяжка ўзнялася з крэсла, падышла да вялізнага, амаль у палову сцяны, экрана і націснула кнопку. — Прабачце, галава не вытрымлівае слухаць увесь дзень...»

На экране чырвонаармейцы сцягваюць з палутаркі палонных нямецкіх лётчыкаў. Бадзёры голас тлумачыць пра збітыя нямецкія самалёты, вакол іх рэшткаў гуртуюцца задаволеныя сялянкі ў белых строях...

Хроніка круціцца ў зале, прысвечанай чэрвеню 1941 года, першым дням нападу Германіі на СССР...

## МЕСЦА Ў ГІСТОРЫІ

Нейкія людзі з «горада трох рэвалюцый» наладзілі нейкую таемную сувязь з нейкімі людзьмі з розных «мірных» гарадоў былога СССР і рыхтуюцца напярэдадні 9 Мая пусціць па іх вуліцах так званы «сталінобус» з выявай даўно ўжо сатлеўшага генералісімуса. Маўляў, трэба вярнуць Сталіна з гістарычнай трупярні на ягонае пачэснае месца ў гісторыі.

Вось гісторыя.

Пачалася яна на хутары Аполіны, што на Случчыне, напрыканцы 20-х гадоў мінулага стагоддзя. Жылі на тым хутары дзве сям'і — Бузукі і Філіпчыкі. У Бузукоў — чацвёра дзяцей, у Філіпчыкаў — адзінаццаць. У Бузукоў — зямля, спраўная хата, дыхтоўныя хлявы, сытая скаціна. У Філіпчыкаў — анічога, акрамя лапленай-пералапленай развалюхі і невынішчальнай веры ў шчаслівую будучыню.

На шляху да гэтай будучыні апынуліся Бузукі.

Не, у Мікалая Філіпчыка, галавы сямейства, не было аніякай зайздрасці да суседа, ён не збіраўся паліць ягоную хату. Ён наогул быў не злы чалавек, Мікалай Філіпчык, і зусім не лайдак, як тое, магчыма, уяўляецца сучаснай моладзі. Але цяжкая, ад раніцы да раніцы, праца не давала выйсця з жабрацтва. Выйсце намалявалі бальшавікі. І Філіпчык, начапіўшы на нос падвязаныя шнурком акуляры і запаліўшы газоўку, з надыходам цемры браў у рукі пяро, каб напісаць чарговую нататку ў газету. У тым ліку пра Бузукоў, ворагаў ягонай светлай мары ў камунізм.

Не, яны нічым не замінalі Філіпчыку. Акрамя як сваім існаваннем, якое савецкая ўлада абвясціла несумяшчальным са шчаслівай калгаснай будучыняй. Праўда і тое, што яны гэта і не аспрэчвалі...

Бузукоў саслалі ў Сібір. Там яны і памерлі. Выжыў толькі малодшы.

Перад вайной Бузук-малодшы пасяліўся ў саўгасе пад Ленінградам, ажаніўся. А калі немцы наблізіліся, кінуў капаць акопы, перайшоў да іх і паступова дабраўся да Слуцка, дзе ўладкаваўся камандзірам батальёна паліцыі...

Падрабязна, з пратакольнай абыякавасцю ён распавядаў, як у сонечны марозны студзеньскі дзень прыехаў са сваімі падначаленымі да Філіпчыкаў; як пагналі іх да старога дуба на ўскрайку хутара; як плакалі дзеці, калі маці завязвала ім вочы; як стаяў Мікалай Філіпчык, зняўшы акуляры і праціраючы іх скамечаным у дрыготкай руцэ канцом кашулі... «Ты заб'еш мяне, — сказаў тады Філіпчык, — але лапці мае пойдуць за табой...»

«Лапці» Філіпчыка дагналі Бузука ў 1977 годзе. Ніна, Філіпчыкава пляменніца, адзіная з дзяцей, што паспела схавацца ў лесе, увесь час пасля вайны дамагалася, каб яго шукалі. Адшукалі ў тым жа саўгасе пад Ленінградам, у той жа жонкі...

І быў суд. Беларускі і яўрэйскі, гарадскі і сялянскі Слуцк сатрасаўся ад успамінаў аб ягоных крывавых злачынствах...

Бузук, лядашчы нізкарослы стары, сядзеў на доўгай лаве падсудных тварам да суда. «Павярніце яго! Хай павернецца! Хай паглядзіць людзям у вочы!» Перад тым, як зачытаць прысуд, яму загадалі павярнуцца. І тады ён ускочыў з лавы і, хістаючыся на нямоглых нагах, пабег да выхаду з залы Дома культуры...

...Ад смерці пабег? Ці, можа, ад незгасаючага ў памяці бляску акуляраў Філіпчыка? А мо хацеў збегчы з жахлівай гісторыі, у каторую зацягнуў яго аднойчы бязлітасны вір «класавай барацьбы»?..

Яго злавілі. Увесь астатні час, пакуль ён стоячы слухаў расстрэльны прысуд, месца на лаве заставалася пустым...

Ці трэба тлумачыць, якое месца ў гэтай гісторыі займае Сталін?

Ці трэба тлумачыць, якое месца ў Гісторыі ўсё яшчэ чакае яго?

Пакуль нехта лічыць, што дастаткова пахаваць Сталіна ў гэтай гісторыі, заўсёды будуць з'яўляцца тыя, хто зноў і зноў нацягне на сябе сталінскі мундзір.

Між тым любая праява сталінізму — ад правакатарскага фарсу са «сталінобусам» да ўсёабдымнага страху перад уладай — дыхае злачыннай варожасцю паміж людзьмі, крывёю ды грамадзянскай вайной...

Не дзіва, што менавіта на прасторы, дзе ўладарыў «пераможца фашызму», нараджаецца найноўшы фашызм.

Вось чаму патрэбен суд, і як мага хутчэй. Бо канчаткова сыдзе апошняе пакаленне, здольнае беспамылкова пазнаваць у падрабязнасцях ды агульнай атмасферы сённяшняга жыцця рысы і подых сталіншчыны.

Канчаткова сыдуць у нябыт ахвяры, сведкі і суддзі...

## НЕШТА ПА-БЕЛАРУСКУ, альбо ЦВІК У КОРАНІ

Нехта Kus, каментуючы на сайце «Нашай Нівы» мае перадапошнія нататкі пра мову, «ykusiў»: «...ледзь не большую частку жыцця тварылі па-расейску і толькі часам нешта па-беларуску»...

І зноў Амерыка, 25 жніўня 1991 года, з Нью-Ёрка рухаемся ў Балтымар. У дэлегацыі журналістаў маскоўцы з газеты «Труд», украінцы з розных выданняў. З Беларусі я адзін. Раптам аднекуль з'яўляецца дзіўнаватая слухаўка. «Спадарожнікавы, — ганарліва паведамляе Гліб, — можна паразмаўляць з любой кропкай планеты»...

Гліб — палкоўнік ЦРУ, прафесар геаграфіі. Падрабляе тым, што падстрыгае траву, бо вельмі любіць гэты занятак. Пра ЦРУ і траву мы даведаемся пазней. А пакуль што ведаем, што каранямі ён з Валыні, перакладае нам з ангельскай мовы на рускую і ўкраінскую і чамусьці, захлынаючыся жалем, спявае пра «сотню юных бойцов»...

Тэлефон нарэшце трапляе да мяне, Рэпін смяецца: «Ну, давай, тэлефануй жонцы...» Але я тэлефаную Бураўкіну, на той час прадстаўніку Беларусі ў ААН. Генадзь Мікалаевіч здзіўляецца, моўчкі слухае, як весела мы рухаемся ў Балтымар, і раптам пытаецца: «Ды ты ці ведаеш навіну?!»

Праз хвіліну я крычу: «Ціха! Ціха! Беларусь абвясціла незалежнасць!..»

І сапраўды стала ціха. «Ну вось, — са скрухай вымавіў Рэпін, — і магілы бацькоў без візы не наведаеш...» — «Ды слухай ты яго! — усхапіўся Варламаў. — Незалежнасць... У іх

нават мовы сваёй няма...» — «Як гэта — няма?» — я ўстаў і накіраваўся да Варламава. «А так, дрэнная руская... Трапкай па бруху...» — «Супакойцеся, — Рэпін падняўся з месца і стаў паміж намі, — не хапала яшчэ за мяжой пабіцца... А мова, Юра, у беларусаў ёсць, свая мова...»

Варламаў нешта прамармытаў, а я прыгадаў мінулую восень, сухі, да пярхоцця ў горле, сонечны дзень, разварушаны танкамі палігон, пасохлую траву на выпасе і пыльны прасёлак у гару, да могілак. Узбраўшыся, мы — Рэпін, ягоны брат Барыс і я, — рассцілаем ля магілы, дзе пахаваныя іх мама і тата, посцілку, разбіраем валізку з няхітрай ежай — яечкі, памідоры, цыбуліны, нешта яшчэ, сядаем на сагрэтую вераснёўскім сонейкам зямлю і пускаем па коле гранёную шклянку на памін і супакой душаў іх бацькоў... І так штогод.

Унізе патанае ў садах Мар'іна Горка, дзе прайшло пасляваеннае дзяцінства братоў Рэпіных, дзе стаіць яшчэ тая хата, куды з Мінска перабраўся з жонкай Барыс, і родзяць дрэвы, што насадзілі бацькі... Мар'іна Горка, станцыя, калматыя вароніны гнёзды на старых бярозах, пах чыгункі, гудкі паравозаў і дарога — у Маскву, вучыцца міжнароднай журналістыцы... А потым — у Каір. А потым — у Вашынгтон, на доўгія шэсць гадоў... І той нялётны дзень, калі памерла матуля, і ён не паспеў...

Дзень, з якога пачалося наша сяброўства.

...Бойкі за мяжой, дзякуй Богу, не адбылося. А недзе ў кастрычніку прагучаў тэлефонны званок, і я пачуў сіплаваты голас Варламава: «Ты знаешь, что у Репина юбилей? Мы тут газету ему делаем, напиши поздравление другу». — «Конечно, напишу. Только на белорусском». — «На каком хочешь...»

Праз некалькі дзён я пачуў: «Что ты тут навалял?! Ничего понять невозможно...» — «Репин поймёт...»

У мяне няма звычкі друкаваць свае вершы, тым больш прыватныя вершы-віншаванні. Але зараз паспрабую. Ён мне самому падабаецца, той верш. І назва падабаецца — «Карані».

Якая восень! Чырванее лес.
Прыціх на варце вартаўнік-ядловец.

Такі неперакладны ціхі змест
ва ўсім. Такая, Толя, споведзь.
Чаму ж, скажы, той стрыт, як ні мані,
так вабіць нас? Але ж на сэрцы горка.
Мо быццам нейкі цвік у корані,
што ёсць і быў спрадвек — Мар'іна Горка...
Калі пачуцці прагнуць цішыні,
той, што святлом крынічным льецца з небасхілу,
не авеню нас цягнуць — карані.
Той родны кут, які табе так мілы...

Рэпін адгукнуўся сваім вершам на беларускай мове. Там рыфмавалася «Русь — Беларусь»...

Ён быў цалкам савецкі чалавек, жыў не ў Вялікім Княстве Літоўскім, не ў Расійскай імперыі, а ў Савецкім Саюзе, і вельмі балюча ўспрыняў распад дзяржавы, у якой нарадзіўся. Імаверна яшчэ таму, што адчуваў пагрозу быць назаўжды адарваным ад Бацькаўшчыны, нават пахаваным недзе далёка. «Табе добра, — казаў ці то жартам, ці то ўсур'ёз, — пахаваюць побач з бацькамі. А што мне рабіць?»

Мы не раз спрачаліся з ім наконт тагачасных падзей, якія можна ўжо лічыць гістарычнымі. Але ж ён ніколі не выказваў пагардлівых адносін да Беларусі і яе мовы. Дарэчы, ведаў ён мноства моў, ці не восем.

...Памёр Рэпін на пачатку 2000-х, у красавіку. Ад інсульту, хваробы, якой сцярогся больш за іншыя, бо вельмі страшыўся згубіць памяць. Амаль суткі па ягоным перадсмяротным пажаданні везлі аўтобусам з Масквы ў Мар'іну Горку труну з простых дошак. Да бацькоў, у родны кут.

Разам з труной прыехаў і Варламаў. Калі хавалі, трымаўся воддаль, а па дарозе да хаты, дзе ўжо накрыты быў памінальны стол, наблізіўся да мяне.

«Ты, Сяргей... вось што... прабач мне...»

Я запытальна паглядзеў яму ў вочы.

«Ну, за тое... у Амерыцы...»

## НЯМАЯ ЯМА,
## альбо ПРА ГЕТА Ў ПРАЙМ-ТАЙМ

21 кастрычніка, праз 70 гадоў пасля «канчатковага вырашэння габрэйскага пытання» ў Мінску, АНТ паказала фільм «Хроніка Мінскага гета» (Сцэнарыст Барыс Герстэн, рэжысёр Уладзімір Луцкі, прадзюсар Уладзімір Бокун).

Фільм створаны на грант Claims Conference, габрэйскай арганізацыі, што размяркоўвае нямецкія грошы сярод былых вязняў нацысцкіх канцлагераў. Беларуская дзяржава на аповед пра Мінскае гета чамусьці не раскашэлілася.

Напярэдадні адбыўся грамадскі прагляд у кінатэатры «Перамога». Прыблізна за гадзіну да яго на Мінск абрынулася залева, і машыны на вуліцах сталі. Пазней я даведаўся, што тыя, хто ўсё ж здолеў патрапіць у кінатэатр, прасілі затрымаць прагляд, каб дачакацца ўсіх. То бок усіх, хто, натуральна, чакаў ад стваральнікаў фільма праўды.

...У 22.05 я ўключыў тэлевізар... У 22.10 АНТ распавяло пра нейкія новыя цуда-макароны... У 22.15 я пачуў, як габрэйскія матулі душылі сваіх немаўлят, каб яны не выдалі сваім плачам астатніх... У 22.20 тэлеэкран паведаміў мне пра новыя лекі ад нястраўнасці...

Прайм-тайм...

На наступны дзень я зноў паглядзеў фільм на партале tut.by. А потым чытаў выказванні, так бы мовіць, суседзяў па віртуальнай інтэрнэт-зале. «...Собрались евреи и сделали фильм о евреях... Теперь его купят продюсеры евреи и т. д.». «...Спасибо немцам. Они сделали наш город чище»...

Пара цвярозых галасоў проста патанае ва ўзнятай хвалі антысемітызму, адкрытага альбо прыхаванага. Узнятай не старымі закаранелымі антысемітамі, бо старыя па інтэрнэце наўрад ці шнараць. Але чаму іх нашчадкаў не напалохалі жахі Мінскага гета, а кранальныя споведзі былых ягоных вязняў, і ўвогуле эмацыйная насычанасць фільма, не вымусілі страсянуцца ад лёсу іх колішніх землякоў?!

Чаму?

Я працягнуў руку да кніжнай паліцы і ўзяў адтуль невялікую кніжку ў мяккай пажоўклай вокладцы з малюнкам, на

якім быццам імкнуцца ў бой дзядок у вушанцы ды дзяўчына ў хустцы — абое з дубальтоўкамі...

Гэтая кніжка была сярод першых, што я прачытаў у дзяцінстве, яшчэ мала разумеючы, што там напісана і што адбываецца наўкол. «Тата, — пытаў я, — а што такое гета?» Ён тлумачыў, я сціскаўся, нейкі шостым пачуццём адчуваючы здрадніцкую палёгку ад таго, што ў гета не быў...

Колькі год кніжка стаяла ў бацькоўскай бібліятэцы на бачным месцы, а потым знікла...

Знікла адусюль.

Так пачыналася другая, ідэалагічная ліквідацыя Мінскага гета ў межах «канчатковага вырашэння габрэйскага пытання» па-сталінску.

Я вось думаю: чаму ў фільме АНТ так няўцямна ўзгадана пра Гірша Смоляра і існаванне ў гета нейкага супраціву, а пра ягоную кніжку «Мстители гетто» — ані слоўца? Кніжку, з якой, дарэчы, нягледзячы на забарону, колішні Інстытут гісторыі партыі злічаў усё, што таемна даследавалася пра Мінскае гета...

Дык вось чаму? Ці не таму, што фільм, так бы мовіць, трапіў у прайм-тайм, то бок у зручны для ягоных стваральнікаў час ідэалагічнага «новабуду» ў стаўленні ўладаў да «габрэйскага пытання». Ахвяры, жахі, помнікі, жалобныя мітынгі з удзелам афіцыйных асоб? Колькі заўгодна. Масавы ўдзел габрэяў, у тым ліку з гета, ва ўзброеным супраціве нацызму? Праз зубы. Дзяржаўны антысемітызм у СССР і на постсавецкай прасторы? Калі не табу, то маўчок.

У фільме цытуюцца «Адмысловыя правілы ратавання» невядомага аўтарства, якія нібыта існавалі ў Мінскім гета: «Не высоўвайся, сядзі ціха. Прыкінься, што цябе тут няма. Не глядзі ў вочы нацыстам і паліцаям. Дзеля выратавання прыдатны ўсе сродкі, акрамя здрадніцтва — даносчыкаў немцы забіваюць таксама. Калі ў цябе ёсць грошы, паспрабуй выкупіць сваё жыццё, але не спадзявайся, што яго табе прададуць...» І апошняе: МАЛІСЯ... Не ведаю, ці насамрэч існавалі такія правілы, ці гэта літаратурнае падсумоўванне трагічнага досведу жыцця на мяжы смерці. Але дакладна ведаю, якое правіла існавала насамрэч, і пра якое забыліся стваральнікі фільма: ЗМАГАЙСЯ!

Практычна ўсё, што ёсць у гэтым фільме, ёсць у кніжцы Гіршы Смоляра. Але ўсяго, што ёсць у кніжцы Гіршы Смоляра, у фільме няма.

Нічога з дзясяткаў фактаў падпольнага і партызанскага супрацiву вязняў гета. Нічога з мноства лічбаў і прозвішчаў, у тым ліку здраднікаў і нацысцкіх памагатых з боку габрэяў. Нічога з трагічных і гераічных лёсаў мсціўцаў і барацьбітоў...

Так, ёсць жудасная гісторыя, паводле аўтараў фільма — «хроніка» Мінскага гета.

Але ёсць яшчэ гісторыя гісторыі Мінскага гета, якая пачалася менавіта з кніжкі Гіршы Смоляра — падпольшчыка, партызана, пісьменніка, журналіста — яшчэ ў 1947 годзе, першай у СССР.

Гісторыя забаронаў, афіцыйнага замоўчвання і палітычна-крымінальнага пераследу. Але не толькі.

Па-за межамі забаронаў і афіцыйнага замоўчвання гэтая гісторыя налічвае сотні ўспамінаў і дзясяткі навуковых даследаванняў, мноства газетных артыкулаў і фотаздымкаў... Неяк дзіўнавата бачыць аўтараў «Хронікі...» у якасці першаадкрывальнікаў, якія «...Работали в архивах Америки, Германии, Беларуси... В конце концов... удалось воссоздать картину трагедии».

Трэба было працаваць у архівах, каб суправаджаць тэкст шырокавядомымі кадрамі з Варшаўскага гета. Пра гэта, праўда, аўтары папярэджваюць, спасылаючыся нібыта на забарону немцаў здымаць у Мінску. Каму забарона — самім сабе? У Варшаве можна, у Мінску — нельга? Нават калі была такая забарона, навошта вось так?

Трэба было працаваць у замежных архівах, каб спасылацца на даўно вядомыя звесткі, факты і дакументы кшталту «цукерак Кубэ» і загадаў акупацыйных уладаў...

Прадбачу пярэчанне: вядомае старэйшым людзям, моладзі невядома, таму пра жахі гета трэба распавядаць зноў і зноў. Безумоўна, трэба. Але чаму так, як быццам ніхто ніколі пра гета не распавядаў?

Я зноў цягну руку да кніжнай паліцы і бяру адтуль «Пісьмы маёй памяці» Ганны Краснапёркі. Кніжка выдадзена ў 1984 го-

дзе і стала вядомай у свеце. Толькі ў Нямеччыне яна выдавалася чатыры разы.

Я зноў цягну руку да кніжнай паліцы і бяру адтуль касету з фільмам светлай памяці Самсона Палякова «Яма...», што быў створаны ім у відэацэнтры ПЭНа яшчэ ў 1999 годзе, але паказаны толькі раз у мінскім хэсэдзе. Мусіць, таму што ў жахлівыя ўспаміны трох былых вязніц урываюцца звар'яцелыя антысеміцкія заклікі сумнавядомага генерала Макашова...

«Хроніка Мінскага гета» пачынаецца з выявы даваеннага герба БССР і замілаванай згадкі нібыта пра чатыры мовы, на якіх заклікаліся яднацца пралетарыі ўсіх краін. Быццам аўтары фільма не ведаюць, што хавалася за гэтай дэкарацыяй інтэрнацыяналізму. Дэкарацыі, якая і была выкінута якраз да вайны, у 1938 годзе, калі ідыш і польская мова зніклі з герба канчаткова.

Дык ці маральна сёння распавядаць пра гета і нічога не казаць пра народжаную Сталіным ці не ад самага пачатку вайны палітыку дзяржаўнага антысемітызму, што стварыла глебу да будучага славяна-фашызму? Пра безліч ахвяраў гэтай палітыкі — ад забароненых кніжак да падпольшчыкаў, што з гета ды канцлагераў траплялі ў сталінскі ГУЛАГ; ад былых франтавікоў да партызанаў, што амаль усё далейшае жыццё пражылі пад ціскам 5-й графы...

Ці маральна сёння згадваць пра беларусаў, якія, рызыкуючы жыццём, ратавалі габрэяў, і нічога не казаць пра антысемітызм пэўнай часткі іх супляменнікаў, за якім цягнецца крывавы след не толькі паліцэйскіх, але і партызанскіх расправаў...

Дзеля чаго?

Дзеля праўды.

Бо антысемітызм вельмі ўтульна пачувае сябе ў «прайм-тайме», хаваецца за паўпраўдай ды сілкуецца атрутай хлусні.

А дзеля чаго тая праўда?

Адказ я знайшоў у кніжцы Гіршы Смоляра. Усё ж бацька схаваў яе не зусім.

Дзве рэчы я захоўваю ў гэтай кніжцы — уласную памяць і верш «Над Ямай», падораны Рыгорам Барадуліным.

Галовы сьхілім
Над жахлівай Ямай.
Яна нямая,
Бо ня мае дна.
...Па радасьці і па бядзе браты,
Мы ўсе стаім
Над апраметнай Ямай...

Усе?

## ПА КІМ МАЎЧЫЦЬ ЗВОН

Адзначаліся 70-я ўгодкі хатынскай трагедыі. Ад улады шчыраваў на мітынгу-рэквіеме сп. Кабякоў. Прамармытаўшы нешта звыкла няўцямнае пра памяць аб загінулых, ён запэўніў журналістаў, што «...кіраўніцтва краіны робіць усё, каб у нас не скралі перамогу»...

«Перамогу», мабыць, скрала нейкая дзяўчына з Барысава, з тамтэйшага медкаледжа. З нервовым хіхіканнем адказваючы пад дыктоўку настаўніцы на пытанне, дзеля чаго яе разам з іншымі студэнтамі прывезлі ў Хатынь, дзяўчо зусім заблыталася паміж рэквіемам і юбілеем, трагедыяй і святам.

Узгадалася, як упершыню я прывёз у Хатынь унучку. Праз 15 гадоў ад яе нараджэння і роўна праз 65 — ад хатынскай трагедыі.

Не магу сказаць, што прапанову паехаць у Хатынь яна ўспрыняла з вялікім жаданнем. «Нам у школе распавядалі... Але калі хочаш, давай з’ездзім».

У Хатыні яна прыціхла, адасобілася, абмінаючы групкі экскурсантаў і затрымліваючыся каля комінаў і калодзежаў, у якіх скурчыліся на зацягнутай лядком вадзе беларускія дваццаткі ды старублёўкі, а важкія замежныя манеты паблісквалі на дне... Потым стала фатаграфаваць аблокі. Дакладней, неба, па якім павольна напоўзвалі адна на адну цёмныя хмары, неахвотна прапускаючы ў блакітныя нябесныя праталіны прахалодны сакавіцкі прамень... Раптам спытала: «Дзеда, а чаму ў Хатыні няма крыжа?»

У Хатыні былі крыжы. Тры крыжы на трох магілах, у якіх праз тры дні пахавалі хатынцаў жыхары навакольных вёсак...

Не ўсе ведаюць, а мне распавядалі ацалеўшыя Уладзімір Яскевіч і абодва Жалабковічы — Віктар і Аляксандр, што Хатынь спалілі двойчы. Апошні раз у жніўні. Мусіць, таму, што сюды вярнуліся тыя, хто выпадкова пазбег неймавернай кары, каго ў вёсцы не было на той дзень... Выкапаў зямлянку паблізу магіл Рудак. Пазбіраўшы апаленыя бярвёны, паставіў хатку Клімовіч. Па вясне зарунелі азімыя — яшчэ з таго, мінулага жыцця. Але і ў гэтым, згубленым, здавалася, назаўсёды, яны пасадзілі бульбу, пасеялі жыта...

Аляксандр Жалабковіч успамінаў, як у тым палаючым жніўні гарэлі снапы. Тады ж, мімаходзь, карнікі спалілі і крыжы на магілах.

Былі яшчэ крыжы ў Хатыні — на старадаўніх вясковых могілках. Калі будавалі мемарыял, могілкі зрылі. Разам з крыжамі. Вядома, на тых могілках даўно ўжо не было каго хаваць. Але даўнія, *дахатынскія* магілы — з прозвішчамі і межамі жыцця — яшчэ былі. Сёння, кажуць, дзякуючы верніка́м з парафіі лагойскага касцёла яны быццам адноўленыя. Але я памятаю, як перажывалі Яскевіч і Жалабковічы: навошта было знішчаць старадаўнія хатынскія могілкі?..

Навошта было пазбаўляць Хатынь каранёў і сувязі з небам?!

Але атрымалася тое, што атрымалася: замест Хатыні — «Хатынь». Выдатны твор манументальнага мастацтва.

Толькі вось крыжа няма.

Мне здаецца, што калі б 70 гадоў таму ў Хатыні ўзвялі крыж, не руйнавалі б сёння крыжы ў Курапатах і не малявалі б свастыку ў «Яме».

Мне здаецца, што калі б тады ў Хатыні ўзвялі крыж, мы не ведалі б сёння пра АМАП з усёй ягонай ваяўнічай амуніцыяй. Ці ж не прайшлі ў свой час праз Хатынь УСЕ беларусы, будучыя амапаўцы ў тым ліку? Чаму ж не атрымалі прышчэпку ад звярынай лютасці?

І яшчэ: мне здаецца, што калі б тады ў Хатыні ўзвялі крыж, мы не спальвалі б уласную гісторыю ў ідэалагічных топках, не пераўтваралі б трагедыі ў святы, а Памяць у попел...

Але крыжа няма. І зноўку пляцецца вакол беларускіх трагедый — ад БНР праз Курапаты, Хатынь і да Чарнобыля — вытанчаная павуціна фальшу.

Учора — пра камандзіра карнікаў Васюру, які нібыта быў «заходнеўкраінскім нацыяналістам». Сёння — пра «перамогу», якую нібыта хтосьці намагаецца «скрасці» ці то ў кіраўніцтва краіны, ці то ў сп. Кабякова...

Але ж не быў Васюра ані заходнеўкраінскім, ні наогул нацыяналістам. Да вайны, да Хатыні, і пасля вайны, да выкрывання — «просты савецкі чалавек».

А курапацкія карнікі — ці ж не «простыя савецкія людзі»?!

Але прызнаць гэта — значыць, прызнаць злачыннасць абодвух таталітарных рэжымаў. І паставіць нарэшце знак трагічнай роўнасці паміж Хатынню і Катынню, паміж Хатынню і Курапатамі...

...«Гэта ад ветру, дзеда?» — уздрыгнула, пачуўшы кароткі металічны звон, унучка. «Не, ад электрычнасці», — патлумачыў я.

А сам падумаў: калі б ад ветру, хатынскі звон званіў бы не сціхаючы. Таму што не сціхае над Хатынню вецер беларускай гісторыі, нясе над ёй цёмныя, з блакітнымі пралталінамі, аблокі...

Але маўчыць звон у прамежку паміж кіруемымі сігналамі.

Маўчыць па мільёнах загубленых жыццяў.

І не пытайся, па кім яшчэ маўчыць звон.

Ён маўчыць па табе.

## ПЛЮС-МІНУС БЕЛАРУСЬ

...Нас было двое ля барнай стойкі ў чаканні кавы — я і малады, каротка падстрыжаны, усмешлівы хлопец у стракатай спартовай куртцы, які нецярпліва пакручваў на пальцы бірульку з ключом да аўто. Нешта здарылася з кававаркай, праз яе пыханне і шыпенне пары даносілася з тэлевізара навіна аб стварэнні ў Беларусі расійскай авіябазы. «Вось паглядзіце, яшчэ і ракеты вернуць!» — з нейкім заўзятым выклікам раптам усклікнуў хлопец. «Што ж тут радавацца? — не ўстрымаўся я. — Вы хочаце, каб краіна зноў стала мішэнню?» — «А што,

плакаць? Трэба будзе — пaваюем!» — і хлопец напружана сціснуў бірульку...

З усяго, што было напісана і нагаворана пра расійскую авіябазу — ад акупацыі да скрупулёзных падлікаў разнастайных выгод, — гэты нязначны эпізод чамусьці вяртаўся да мяне зноў і зноў. Зноў і зноў я пытаўся ў самога сябе: чаму ў краіне, што стагоддзямі ўдоўж і ўпоперак прасавалася крывавымі нашэсцямі, так лёгка стала вымаўляцца слова «вайна»?! Не толькі ж таму, што галоўнакамандуючы шчыра верыць у гатоўнасць беларусаў «легчы пад танкі», дзеля чаго яму так не хапае двух дзясяткаў расійскіх знішчальнікаў...

Тут нешта яшчэ.

Успомнілася вёсачка Бармуты, што прытулілася да старадаўняга шляху на Брэст, цётка Зося, яе сумныя вочы, пасма валасоў з-пад старой хусткі, зморшчаныя кулачкі, прыціснутыя да грудзей, і раптоўны ўскрык: «Дзетачкі вы мае даражэнькія, я б усіх вас ад вайны засланіла...»

У Бармуты я паехаў у сярэдзіне 80-х гадоў мінулага стагоддзя, калі пачуў, што жывуць там адны ўдовы загінулых падчас вайны — хто на чужыне, хто на радзіме... «18 кулек у яго папала, 18 дзірачак, — лямантавала цётка Зося. — І галава ўся пабіта. Як вязла на могілкі, усё тыя дзірачкі лічыла... І зараз, як вочы сплюшчу, чую: ідзе мой Алёшачка, снедаць просіць. Паліцаі ж нават даснедаць яму не далі... А ён мне: не хвалюйся, Зося, вярнуся — даснедаю...»

Дваццаць гадоў таму, калі Станіслаў Шушкевіч адмаўляўся падпісваць дамову аб далучэнні да АДКБ і пагражаў рэферэндумам, яшчэ было ў каго пытацца аб нейтралітэце. Бо жыла памяць.

Не тая памяць, што бразгае зброяй, а тая, што намагалася засланіць жывых чаканнем забітых вайной. Каб даць ім даснедаць...

Рэферэндум не здзейсніўся, кампрамісны, так бы мовіць, запіс у Канстытуцыі пра імкненне да нейтралітэту ператварыўся ў пустую паперку, а здраджаная памяць згінула разам з удовамі вайны, саступіўшы месца падлікам.

І ў каго зараз пытацца пра нейтралітэт — сапраўдную, на ўсе часы, заслону ад вайны?

Нейтралітэт як магчымасць сапраўды незалежнага існавання, засвойвання новай гістарычнай практыкі самастойнага будавання жыцця.

Не, лепш уцягнуцца ў згаданыя падлікі выгод. Дзіўна, але нават незалежная газета пытаецца ў сваіх чытачоў: ці патрэбна Беларусі расійская авіябаза? Неяк не ўкладваецца ў галаве, што сама пастаноўка такога пытання азначае магчымасць станоўчага адказу там, дзе і пытання быць не павінна...

Чаму звычка жыць чужым розумам, чужымі ваяўнічымі інтарэсамі аказалася мацнейшай за памяць, сумленне, пачуццё нацыянальнай годнасці і абавязку перад будучымі пакаленнямі? Чаму страта незалежнасці хвалюе менш, чым салодкая залежнасць ад нібыта танных энерганосьбітаў, ад замоваў расійскага ВПК — чым пагроза таго, што замест Рэспублікі Беларусь зноўку з'явіцца ў лепшым выпадку тэрыторыя, у найгоршым — плацдарм?!

А што яшчэ можа чакаць нашу краіну і наш народ у цёмных завулках імперскай палітыкі?

Ці ж не тэрыторыяй і плацдармам была Беларусь звыш двух стагоддзяў расійска-савецкай імперскай гісторыі, перажыўшы ў яе сутаргавым заканчэнні ядзерную катастрофу?!

Дык тое ж не вайна, запярэчыце вы, проста вецер так няўдала для Беларусі дзьмуў. Але чарнобыльскі вецер — гэта вецер вайны. Бо савецкі атам сапраўды мірным ніколі не быў. Ні ў Чарнобылі, які выбухнуў у выніку таемнага эксперыменту, ні на ракетных базах, чыя колькасць на душу беларускага насельніцтва была найвялікшай у Савецкім Саюзе. Хто-небудзь лічыў, колькі заўчасна вымерла гэтых душ, што жылі наўкол прыхаваных у беларускіх лясах ракетных базаў?

Не, падлікі рабіліся з іншай мэтай.

Памятаю, як недзе дваццаць гадоў таму «вядучыя расійскія палітыкі і эканамісты» падлічвалі «плюсы і мінусы» ад уваходжання Беларусі ў расійскую рублёвую зону. Сярод плюсаў была «магчымасць захаваць у папярэднім выглядзе ваенныя аб'екты, узаемаадносіны ў ваеннай сферы», а заадно «выключыць магчымасць далучэння Беларусі да НАТА».

Што праўда, быў для Расіі і мінус: «павелічэнне фінансавага ўдзелу ў ліквідацыі наступстваў чарнобыльскай аварыі».

Расія пазбегла гэтага «мінуса». Аж да таго, што, вяшчаючы пра падзеі 26 красавіка, ніводзін дзяржаўны расійскі тэлеканал нават не згадаў трагічную гадавіну!

Але штогод Расія здабывае плюсы: да дзвюх існуючых базаў + дваццаць знішчальнікаў + авіяполк + авіябаза + ...

...Быў у мяне знаёмы расеец Фёдар. Пасля вайсковай службы ажаніўся, застаўся ў Беларусі і працаваў на ракетнай базе, схаванай у калісьці дрысенскіх, зараз верхнядзвінскіх, лясах. Ён быў вельмі задаволены гэтай працай, бо яна давала неблагі прыбытак і дазваляла трымаць ці не самую заможную ў вёсцы гаспадарку.

Фёдар першым памёр ад пухліны ў галаве. За ім — жонка. А за імі пухліна прайшлася па ўсёй вёсцы. Выратаваліся толькі тыя, што з'ехалі. Хто куды...

## ПАЧВАРНАЯ З'ЯВА

Калі скандал вакол помніка «Мужнасць», што ў Брэсцкай крэпасці, дасягнуў найвышэйшай віскலівай ноты, я ўспомніў, як у сакавіку 2008 года Францыя развітвалася з апошнім жаўнерам Першай сусветнай вайны. Яго звалі Ладзара Панцічэлі. Яму было 110 гадоў.

У снежні 1915-га Гіём Апалінэр напісаў, а ў лістападзе 1917-га надрукаваў верш з недарэчнай, на першы погляд, назвай — «Цуд вайны»: «Якія ракеты прыгожыя, калі яны ноч асвятляюць!.. І трэба так шмат агню, каб засмажыць людскія целы!..»

9 лістапада 1918 года Апалінэр памёр. Яму было 38 гадоў. На вайне ён атрымаў цяжкое раненне ў галаву.

...Не ведаю, ці чытаў Ладзара Панцічэлі «Цуд вайны», але ён доўга адмаўляўся ад прапановы наладзіць яму пахаванне нацыянальна-дзяржаўнага маштабу. Ён казаў, што «гэта будзе абразай для ахвяр Першай сусветнай, якія не былі па смерці гэтак уганараваныя». Потым пагадзіўся — «у імя ўсіх жанчын і мужчын, што загінулі ў Першай сусветнай вайне».

Гэта была сапраўды нацыянальная цырымонія: прыспушчаныя па ўсёй краіне дзяржаўныя сцягі, хвіліна маўчання ва ўсіх дзяржаўных установах, імша ў саборы Сен-Луі дома інвалідаў з удзелам двух прэзідэнтаў — былога і тагачаснага, усіх чальцоў урада і нават міністра абароны Італіі, бо грамадзянін Францыі Ладзара Панцічэлі быў італьянцам...

Аніякай помпы, аніякага эрзац-патрыятычнага пафасу. Толькі смутак. Толькі малітва. Толькі апошняе «бывай». І апошняе «выбачай»...

Я не ўпэўнены, што праз колькі год мы гэткім жа чынам развітаемся з апошнім беларускім жаўнерам Другой сусветнай вайны.

Кажучы «гэткім чынам», я маю на ўвазе развітанне не толькі з апошнім жаўнерам, але і з вайной як крыніцай патрыятычных пачуццяў.

Падобна на тое, што *такога* развітання не будзе.

Падобна на тое, што ва ўладных кабінетах загадзя будуць рыхтавацца спісы «апошніх», каб абраны для цырымоніі ветэран цалкам адпавядаў «задачам военно-патриотического воспитания».

Падобна на тое, што такім чынам падоўжыцца «абраза ахвяр».

Нядаўнія даты далі не адзіны прыклад падобных абраз.

Ці не абраза паводзіны Пуціна і ягонага ідэалагічнага атачэння на 70-х угодках прарыву Ленінградскай блакады — ад бясконцых напамінаў пра тое, як пацярпела ад блакады сям'я расійскага прэзідэнта да вайсковага парада на Піскароўскіх могілках, ці не самых вялікіх у свеце могілках ахвяраў вайны?

Ці не абраза — патрыятычнае, так бы мовіць, скрыгатанне прапагандысцкімі зубамі вакол тэлеканала «Дождь», які сваім пытаннем нагадаў пра адказнасць не толькі гітлераўскага, але і сталінскага рэжыму за мільёны ахвяраў?

А памятаеце неаднаразовае абяцанне забяспечыць кватэрамі ЎСІХ удзельнікаў вайны? Памятаю, як на адным з чарговых рытуальных чаяпіццяў з ветэранамі Мядзведзеў, што быў тады прэзідэнтам, удакладніў — у спісах 50 тысяч чалавек. На ўсю Расію. Астатнія забяспечаныя. Назаўжды. Мільёны — на-

вечна... Пры гэтым твар маладога прэзідэнта выяўляў упэўненасць, інтанацыя — дзелавітасць, жэстыкуляцыя — правільнасць... Толькі адно адсутнічала на ягоным твары — пачуццё сораму. За што? За нацыянальную ганьбу, што выявіла сябе ў гэтай лічбе...

Аднак вернемся да савецкай «Мужнасці».

Не трэба звышінтэлектуальнага напружвання, каб зразумець, што залічэнне журналістамі CNN гэтага помніка ў спіс «пачварных» не выходзіла за межы іх эстэтычных уяўленняў пра сэнс прыгажосці. Ніякай абразы тых, каму ён падабаецца, у гэтым не было — спрэчка пра густы бясконцая...

Падобная спрэчка, дарэчы, адбывалася ці не ад самага стварэння мемарыяла «Брэсцкая крэпасць».

«Агромністая бетонная кампазіцыя "Мужнасць", што ўсталявана ў самым цэнтры комплексу... душыць несуразмерную ёй прастору цытадэлі...» — ці не самая лагодная мастацтвазнаўчая адзнака скульптуры.

Але яна душыць не толькі прастору цытадэлі. Яна душыць праўду.

Ніколі не забуду, як увосень 1956-га мы ўсім класам упершыню трапілі ў Брэсцкую крэпасць.

Мы ішлі да крэпасці па хісткім мосце, асцярожна абыходзячы правалы ў драўляным насціле. Я ўхапіўся за адлітыя, здавалася, на стагоддзі чыгунныя парэнчы і адразу ж раздзёр руку ў кроў — на ўсім працягу яны былі пабітыя, парваныя асколкамі...

Яна вельмі вострая, гэтая праўда. Праўда пра крывавую трагедыю кінутага гарнізона. Праўда, на доўгія гады кінутая ў нябыт...

«Сяргей Сяргеевіч, Сяргей Сяргеевіч, там яшчэ восем знайшлі!» — задыханы ад бегу маладзенькі, амаль падлетак, жаўнер цягне Смірнова за рукаў... Смірноў прыпыняе страшны аповед. «Не-не, дзеці, вы туды не хадзіце... Чакайце, я вярнуся...»

Ён вярнуўся праз некалькі год. З імёнамі. З трагічнымі лёсамі загінулых і цудам жывых...

Гэтая кніжка — «В поисках героев Брестской крепости» — вартая усіх яе помнікаў, бо ўпершыню ачысціла свядомасць

ад сталінскага бруду, адмяніла правіла запісваць усіх тых, хто патрапіў у палон, здраднікамі...

А ці не душыць праўду мемарыял на Мамаевым кургане, які Віктар Някрасаў называў «жудасным залачоным нагрувашчваннем мускулаў і безгустоўнасці»? І лічыў гэта абразай для жаўнераў ягонага 1047-га стралковага палка 284-й стралковай дывізіі, чые косткі ляжаць якраз на тым месцы, дзе ўзвышаецца нешта зусім не падобнае ні на радзіму, ні на маці... Ці ж сапраўдная маці ўзніме меч над перамолатымі косткамі сваіх сыноў?

У рэшце рэшт непрыманне падобнай эстэтыкі прывяло аўтара «У акопах Сталінграда», першай у СССР праўдзівай аповесці пра вайну, да непрымання самой таталітарнай дзяржавы...

Але з чаго сёння, праз дзясяткі гадоў, узнікла такая нервовая рэакцыя розных палітыкаў, службовых асобаў і дзяржаўных установаў Расіі і Беларусі? Ажно два МЗС спрычыніліся да надзімання мыльнай бурбалкі. А такі разумнік, як сп. Швыдкі, спецпрадстаўнік прэзідэнта па міжнародных культурных сувязях, з лісьлівым крывадушшам раптам акультурыў, так бы мовіць, «праблему»: «...любы помнік, прысвечаны вайне, знаходзіцца за межамі эстэтычных катэгорый...» Што іх так зачапіла? Што напалохала?

Перадусім, на мой погляд, адно: калі прызнаць пачварнай эстэтыку помніка, прыйдзецца прызнаць пачварнай ідэалогію, якая гэтую эстэтыку спарадзіла.

На сёння — ідэалогію так званай «дзяржаўнасці», а ў яе межах — так званага «дзяржаўнага патрыятызму».

Ідэалогію, якая не толькі не знікла, але ў розных праявах — ад сталінізму да неанацызму — набывае агрэсіўную моц.

Ідэалогію, у якой «жывыя і мёртвыя» — найбольш звыклае, зручнае і добра апрацаванае прыстасаванне для замацавання ўлады.

Лепш мёртвыя. Бо час ужо адлічвае жывых да апошняга. А мёртвым, як мы ведаем, не баліць.

## ПРА МАСТАЦТВА І КАЦЯНЯ

Раз на год, а менавіта 7 лістапада, аднекуль з падсвядомасці ўзнікае хваравітая патрэба шукаць адказ на пытанне, як ставіцца да Кастрычніцкай рэвалюцыі: святкаваць ці не святкаваць, адзначаць ці не адзначаць...

З уладамі ды нашчадкамі ўсё больш-менш зразумела: шаманіць ля помніка Леніну — іх святы, зацверджаны найвышэйшым указам абавязак.

Незразумела — больш, чым менш — з прагрэсіўнай грамадскасцю. «Можна не святкаваць, — дазваляе гісторык і мастацтвазнаўца Сяргей Харэўскі, — а вось адзначыць варта». З дзвюх прычынаў: «...здабылі незалежнасць Фінляндыя і Польшча, краіны Балтыі, а ўрэшце, праз 74 гады, прайшоўшы стадыю сацыялістычных эксперыментаў, і Беларусь...»; «... рэвалюцыя спарадзіла і вялікае мастацтва. Перакананы — феномен Віцебска, узлёты Шагала, які багоміў тую рэвалюцыйную віхуру да канца дзён, і Малевіча былі б немагчымыя...»

Наўрад ці трэба нагадваць, якім чынам здабылі незалежнасць пералічаныя краіны, каб замест пляскання ў далоні адчуць смутак і жах.

Наўрад ці ёсць падстава папракаць сп. Харэўскага ў падобным пляcканні.

Аднак з ягоных развагаў вынікае, што адзначаць Кастрычніцкую рэвалюцыю ўсё ж варта са знакам плюс.

Такі вось нечаканы адказ на вядомы цяжкі выбар, што ці каго найперш ратаваць з полымя: вялікі твор мастацтва ці кацянё...

Між тым, у Мінску ёсць месца, дзе мастацтва і «кацянё» спалучаюцца ў безвыніковай дасюль спрэчцы: што рабіць з помнікам завадатару «каласальнага гістарычнага перавароту», ад якога «здабылі незалежнасць...» і «нарадзілася вялікае мастацтва»?

І тое праўда: з аднаго боку — мастацтва, з іншага — «сусветны пажар»...

З гэтай нагоды ўзгадваецца забытая старонка з найноўшай беларускай гісторыі: неўзабаве пасля жнівеньскага путчу ў

Маскве гарсавет збіраўся дэманціраваць манумент, а замест яго стварыць «скульптурную кампазіцыю», якая сталася б «сімвалам імкнення беларускага народа да свабоды і незалежнасці».

Я памятаю, як напярэдадні гудзеў на плошчы распалены народ, як збіраліся подпісы — хто за помнік, хто супраць. Людзі таўкліся вакол агітатараў, спрачаліся да хрыпаты, нават хапалі адзін аднаго за грудзі, намагаючыся зацвердзіць сваю праўду з дапамогай сілы. Раз-пораз з натоўпу чуліся воклічы «Такіх страляць трэба!», звернутыя да найбольш заўзятых прадстаўнікоў варожых бакоў. Што наўрад ці можна было лічыць сімвалам імкнення да свабоды, затое доказна сведчыла аб наяўнасці Леніна «в башке» і нагана, хай сабе ўяўнага, у руцэ...

У руцэ, якую, як некалі сталіністы на Сталіна, паднялі ў «бягучы момант» на Леніна «верныя ленінцы». Але ж хуценька схамянуліся...

Між тым сам помнік Леніну дзесяцігоддзямі займаў у будзённым мінскім жыцці толькі архітэктурнае, так бы мовіць, месца — талентам Лангбарда і Манізера літаральна ўлітаваны ў цяжкаваты канструктывізм Дома ўрада. Сёння, праўда, шкляны пухір пасярод плошчы сапсаваў стрыманы дзяржаўны ландшафт. Але што тычыцца помніка, то мінчукі ў масе сваёй падчас БССР не адчувалі да яго нейкіх асаблівых пачуццяў. Нешта не згадваю, каб хтосьці добраахвотна ўскладаў да яго кветкі — рытуальныя кветкавыя паднашэнні не лічацца. Да помніка прызвычаіліся, абыякавасцю абараняючыся ад удзелу ў крывадушным ідалапаклонстве, што ладзілася, і па сёння ладзіцца, напаказ.

Часам антыгуманная сутнасць гэтай паказухі выяўляла сябе самым абсурдным чынам. Не адно пакаленне былых студэнтаў гістфака, які пэўны час выходзіў вокнамі на плошчу і манумент, прайшло праз па-езуіцку каверзнае пытанне тагачаснага спецыяліста па беларускай гісторыі: якая рука ўзнята ў Ільіча — правая ці левая? Амаль ніхто не здольваў адказаць правільна, паколькі правадыр абапіраецца на ўяўную трыбуну дзвюма рукамі. Ну, а калі нехта адказваў правільна, прафесар пытаўся, у каторай руцэ Ільіч трымае кепку...

Запытайцеся пра тое ж сёння хаця б у тых, хто працуе ў Доме ўрада, — не адкажуць. Затое ўпэўнена, як аднойчы тагачасны віцэ-прэм'ер Кабякоў, адзначаць, што «...чалавеку, катораму помнік, Беларусь абавязана тым, што яна ўпершыню набыла сваю дзяржаўнасць...».

Дык ці ёсць розніца паміж кастрычніцкім вытокам незалежнасці па Харэўскаму і дзяржаўнасці па Кабякову?

А вось розніца паміж мастацтвам і «кацянём», якое ледзь не згарэла ў «сусветным пажары», ёсць.

Ёсць розніца, калі памятаць аб тым, што дзяржава, створаная ідэалогіяй і катаўніцкай практыкай бальшавізму, паставіла беларускую нацыю ў рэшце рэшт на мяжу гістарычнага выжывання.

Памятаць, каб разумець, чаму сённяшняя дзяржава захоўвае ў сваім календары «чырвоны дзень».

Памятаць, а не адзначаць.

Незалежна ад таго, што вялікі Шагал, народжаны ўсё ж не рэвалюцыяй, а Богам, да скону «багаміў рэвалюцыйную віхуру».

## ПРАБАЧ, ЛЮБІМЫ ГОРАД...

Патэлефанаваў даўні знаёмы, папрасіў аб тэрміновай сустрэчы. «Што здарылася?» — не на жарт занепакоіўся я. «Не чуў? Зносяць Маскоўскі аўтавакзал! Трэба нешта рабіць...»

Мы сустрэліся. Трымаючыся за сэрца, мой знаёмы ледзь не плакаў, уяўляючы сабе, з якімі пакутамі на сваім восьмым дзясятку (ды яшчэ пасля інфаркту) будзе дабірацца на дачу пад Лагойскам, калі на месцы вакзала ўзнімецца газпрамаўскі хмарачос. «Трэба пісаць!» — заключыў ён.

Што пісаць?

Мой няшчасны знаёмы наіўна верыць, што Лукашэнка, калі з газетаў ды сайтаў даведаецца пра тое, як «падстаўляе» яго звар'яцелае ад шалёных грошай чынавенства, не дазволіць здзекавацца з горада ды з людзей, пашкадуе ягонае хворае сэрца, слабыя ногі і не скалупне з мапы Мінска мо адно з лепшых і зручнейшых гарадскіх збудаванняў...

Пакуль мой няшчасны знаёмы ўсхвалявана выкладаў вядомыя аргументы і доказы, чаму нельга зносіць Маскоўскі аўтавакзал і як пераканаць Лукашэнку спыніць гэта дзікунства, я глядзеў на збялелы, у чырвоных плямах твар і моўчкі пытаўся ў яго: «А дзе ж ты быў, калі зносілі старадаўні чыгуначны вакзал ды руйнавалі Нямігу? Чаму не енчыў, што трэба тэрмінова пісаць?»

Але раптам, бы халодная хваля: «А дзе ж быў я?..»

Прабач мне, любімы горад, але я быў у дзяцінстве, калі ты пачынаў пасля вайны сваё найноўшае жыццё. Аднойчы мама павяла мяне паглядзець на цябе, бо далей за двор свайго паўразваленага дома я цябе ніколі не бачыў. Я бадзёра крочыў побач з ёй, пакуль не заўважыў пасярод крушняў будынак казачнай прыгажосці. Нейкі мужчына ў прапыленых ботах, шэрым шынялі і з рэчмяшком за плячыма глядзеў, узняўшы галаву, на калоны і раптам спыніў нас: «Прабачце, мадамачка, які гэта тэатр?» Матчын твар адразу набыў стрыманую пільнасць: «Гэта адміністрацыйны будынак». — «А-а-а», — з паразуменнем прамовіў мужчына, а я тузануў маці за руку: «Што гэта, што?» — «Сакрэт...»

І сёння, дарэчы, на галоўным уваходзе ў таямнічы «адміністрацыйны будынак», то бок КДБ, адпаведнай шыльды няма...

Прабач, мой горад, але тое, што адбываецца з табой сёння, пачыналася з першага, ажно з вясны 45-га, будынка таго «тэатра». Другім будынкам быў жылы дом насупраць, для сябе ж. Трэцім збудаваннем — «Дынама». Хто шкадаваў тады мінчукоў, што туліліся па сутарэннях, ацалелых хатках ды спехам пазбіваных з дошак бараках? Сярод выжыўшых болей шукалі тых, каго куды падалей саслаць...

Прабач мне, любімы горад, за тое дзіцячае захапленне тваім жахлівым нечалавечым пачаткам.

Але тое, з чаго ты пачынаўся, доўжылася, раскідваючы па свеце тваіх карэнных жыхароў, тваіх старажылаў, пакідаючы цябе без нашчадкаў. Прабач...

З цягам часу ты, вядома, узбагаціўся жыццём, працай і памяццю пакаленняў, набыў свой твар. Памятаеш, як я кпіў з твайго сталінскага ампіру? Прабач...

Але больш за ўсё прабач мне за тое, што я зноў дазволіў уладарыць табой нашчадкам тых, хто разбіў калісьці «Хлопчыка з лебедзем», вычварэнцам, хворым на забыццё...

Прабач, што моўчкі назіраў, як руйнавалася Няміга, па якой хадзіў у школу...

Прабач, што не паўстаў, калі зносілі стары чыгуначны вакзал, дзе пачыналіся мае падарожжы і адкуль я вяртаўся ў родны дом...

Прабач, што не лёг пад бульдозер, калі рушылася твая электрастанцыя, ад якой я ўбачыў першае пасля вайны міргаючае святло...

Прабач, што не пайшоў на сякеры, калі высякаліся дрэвы парку, каб пабудаваць кітайскі гатэль...

Прабач, што не ўзяў рыдлёўку, каб засыпаць катлаван, пакуль высока ўзляцелы Чыж не забіў цябе, тваю гістарычную і нябесную прастору...

Учора — Цанава. Сёння — Чыж. Заўтра — Мілер...

Ты разумееш, горад, што справа не ў архітэктурных, па большасці сумніўных, вартасцях таго ці іншага твайго збудавання. Справа ў тым, што з таго кадэбэшнага «тэатра» да сённяшняга лужкоўскага «а-ля рюс» і будучага газпрамаўскага «хайтэку» чалавек ніколі не з'яўляўся і не з'яўляецца галоўнай, абсалютнай вартасцю. З ім можна рабіць што заўгодна — саслаць на варкуцінскія шахты, як пасля вайны, прыціснуць агромністым, на паўнеба, монстрам ці нават давесці да скону немагчымасцю праўна жыць.

А дзе няма чалавека, там няма грамадства. Каго здольны ўвесці ў зман так званыя грамадскія слуханні, калі на ўсю моц працуе сістэма задушэння чалавечых правоў? Глядзі, горад, як схапілася за гэтую ілюзію дэмакратыі чынавенства, як правакуе гучныя, ці не на ўсю краіну, скандалы вакол лакальных, якія не вырашаюць твой лёс, праектаў, каб цішком, пад выглядам нібыта выратавальных інвестыцый, зацвердзіць нахабнае ўладаранне замежных, па-большасці расійскіх грошай. А праз іх — чужынскае, каланіяльнае, па сутнасці, тваё становішча, горад, дзе побач з біццём сябе ў грудзі «Я люблю цябе, Беларусь!» пырхае ва ўсе бакі «Финская обувь для русской зимы»...

Што ж дзівіцца, калі цябе канчаткова прыдушыць газпрамаўскі хмарачос?!

Мой любімы горад, прабач. Прабач за тое, што ты стаўся такі нелюбімы...

## САМАГУБСТВА ПРЫВІДУ

Знаёмы токар на маё пытанне «Як справы?» звычайна адказваў: «Магло быць і лепей». Дазнацца, што магло быць лепей, было немагчыма. А нядаўна я даведаўся, што ён з'ехаў некуды ў Расію. Бацька навучыў яго класці печы, дык вось ён...

Другі знаёмы, селянін з-пад Іўя, колькі год таму збег з паміраючага калгаса і саматужна пачаў весці сялянскую гаспадарку, прадаваць прадукты. «Ну ўсё, — уздыхнуў ён пры апошняй нашай сустрэчы, — даціснулі мяне з маім "бізнесам". Вось атрымаю "карту паляка" ды з'еду ў Польшчу. Тут няма чаго рабіць...»

У нядзелю БТ, аб'еўшыся, мусіць, уласнай хлуснёй пра шчаслівую ад падвышанай пенсіі бабулю, з захапленнем, быццам у краіне растуць вытворчасць і заробкі, паведаміла, што ці не ў разы вырасла колькасць вакансій. Я веру гэтым лічбам — людзі звальняюцца, з'язджаюць хто ў Расію, хто ў Польшчу, хто куды...

Вось вам і байкот.

Так, ёсць падстава спытаць: якое дачыненне мае дзейнасць беларускай палітычнай апазіцыі да таго, што адбываецца ў краіне? Не выказванні, не заклікі, не заявы, не дэкларацыі, не дэманстрацыя светапоглядаў — менавіта дзейнасць, цяжкая праца з людзьмі. На жаль, аніякай.

Калі лідар незалежнага прафсаюза пагражае ўладам арганізацыяй у замежжы байкоту беларускіх вырабаў, хочацца запытацца: а што гэты прафсаюз зрабіў дзеля таго, каб не было патрэбы ў такім байкоце? Зладзіў забастоўку, распачаў гучныя судовыя справы ў абарону пацярпелых працаўнікоў, стварыў стачкамы, як тое было напрыканцы 80-х, дапамог аб'яднацца падманутым акцыянерам, арганізаваў грамадзянскі супраціў продажу «фамільнага срэбра»?.. Можа, нешта і

дзеецца. Але ўсё, што вядома пра гэты прафсаюз, — заявы ды справаздачы ў Жэневе...

Калі прыватная, хай сабе на падставе палітычнай непаўнавартасці, сварка асоб ператвараецца, у тым ліку іх намаганнямі, ледзь не ў прынцыповы канфлікт, ад якога аж заходзіцца ў асалодзе «сенсацыі» апазіцыйная прэса, не гаворачы ўжо пра БТ, міжволі прыходзіш да сумнай высновы: адказнай палітычнай апазіцыі ў Беларусі няма.

Ёсць, безумоўна, духоўная апазіцыя, з’яднаная ўнутраным супрацівам пачварнаму злу.

Ёсць вялізная колькасць незадаволеных уладай, упэўненых, што «магло быць лепей», і самастойна шукаючых выйсця, усё часцей за мяжой.

І ёсць прафесійныя апазіцыянеры, сярод каторых здольныя і на самаахвяраванне, і на здраду, гатовыя і пайсці ў турмы, і паціху ладзіць гешэфт...

Але сапраўднай палітычнай апазіцыі няма.

Сапраўдная палітычная апазіцыя была жорстка збіта падчас вядомай галадоўкі дэпутатаў ад БНФ. А тая, што пазней мелася стаць сапраўднай, знікла ў нябыт...

Застаўся прывід.

Прасцей за ўсё патлумачыць такое становішча толькі вар’яцкім ціскам дыктатуры пры маўклівай абыякавасці насельніцтва. Але тое ж насельніцтва, калі адчувае пагрозу сваім непасрэдным жыццёвым інтарэсам, праяўляе здольнасць да з’яднанага супраціву. Прыкладаў усё больш — ад супраціву аўтааматараў узлёту коштаў на паліва да супраціву знішчэнню парку і таму ці іншаму будаўніцтву... Праблема ў тым, што нашы прафесійныя апазіцыянеры не ў стане спалучыць жыццёвыя інтарэсы насельніцтва з сапраўднай незалежнасцю краіны, з нацыянальным адраджэннем, з дэмакратыяй, з неабходнасцю кардынальных зменаў палітычнай сістэмы. Не дзіва, што ўлада, напалоханая тэктанічнымі зрухамі ў свеце, сама ў звыклай манеры заяўляе аб неабходнасці зменаў...

Мяне зусім не абурае тое, што апазіцыя жыве на замежныя грошы. Калі ўлады, не саромеючыся, адбіраюць грошы ў настаўнікаў, дактароў ды пенсіянераў на падтрымку БРСМ,

дзяржаўных СМІ ды іншых праўладных структур, чаму апазіцыя павінна жабраваць?

Шкада толькі, што гэтыя грошы ідуць галоўным чынам на падтрыманне прывіду. Прывіду, які нясе адказнасць толькі, умоўна кажучы, перад Бруселем. І не нясе аніякай адказнасці перад уласным народам...

Ці не прывід гэта, калі праз увесь уладны век Лукашэнкі ў яго, так бы мовіць, апазіцыйным суправаджэнні знаходзяцца амаль адны і тыя ж персоны? Дыктатура, безумоўна, не зацікаўленая ў моцных палітычных партыях і грамадскіх рухах. Але ці зацікаўлены ў тым жа нязменныя лідары гэтых малакалькасных і мала каму вядомых утварэнняў? Хаця б ад каго з іх вы чулі прызнанне ва ўласных памылках? І што яшчэ горш — ці чулі вы, акрамя як ад Някляева, прабачэнні за тое, што не здолелі супрацьстаяць правакацыі на Плошчы і падставілі пайшоўшых за імі пад арышты, турмы і здзекі? Так, самі патрапілі ў турмы, у палітвязні. Але што ж дзіўнага ў тым, што няма масавых патрабаванняў іх вызвалення, што ўся надзея на міжнародную супольнасць?!

...Сябра, з якім я падзяліўся гэтымі думкамі, нагадаў вядомы выраз: «не страляй у піяніста, ён грае, як можа». Але ж «піяніст» страляе ў сябе сам...

## СТРАШНАЕ СЛОВА

Ці даводзілася вам задумвацца над спалучэннем неспалучных па сваім сэнсе слоў?

Ну, вось узяць, напрыклад, Першамай. Гаворачы па-расейску, «праздник труда».

«Праздник» — ад слова «праздный», ні з якой справай, ні з якім дзеяннем не звязаны. Які «труд»? Гуляй, душа!..

На беларускай мове — свята, святы дзень... Слова духоўнае, працаваць у такі дзень — вялікі грэх. Яшчэ больш — «гуляць», бадзяцца без мэты...

У савецкія часы, калі першамайскае бадзянне збівалася ў калоны, ніхто не адважваўся называць яго «народным гуляннем». Хаця менавіта такім яно і было, калі народ, разышоўшы-

ся па хатах, праводзіў у гісторыю чарговую нагоду расслабіцца ды паслухаць казку аб тым, якое неверагодна добрае жыццё чакае яго наперадзе...

Але ж не ўсё так проста было ў савецкія часы. Асабліва для тых, хто іх помніць.

Вось старая фотакартка, адна з нешматлікіх з даваеннага жыцця бацькоў. 1939-ы, першамайская дэманстрацыя. Фон — апошнія паверхі Дома ўрада, высока над галовамі партрэт чалавека з вусамі. Бачны толькі нізкі лоб і вусы, але ўгадваецца беспамылкова. А наперадзе — маладыя мужчыны і жанчыны ў доўгіх паліто, крочаць весела, размашыста, вольным крокам. Не маршыруюць — крочаць пад музыку, гэта бачна па здымку, нават чутна: «...вставай, не спи, кудрявая...»

Колькі ні гляджу на гэты здымак, не магу зразумець, якому цуду так шчыра радуюцца гэтыя людзі, радуецца бацька, які на большасці іншых здымкаў з сямейнага архіву задуменны, нават сумны... Разумею — малады, усяго 25, побач жанчына, якую ён кахае, сябры, калегі... Свята, у рэшце рэшт, Першамай!

Але ўжо два гады, як у Казані раздзёрта сям'я старэйшага брата — сам расстраляны, жонка на Калыме, малалетнія дзеці, сястрычка з брацікам, у дзіцячых дамах у розных кутках СССР...

І ўсё ж ёсць на тым здымку адна незалежная ад часу падрабязнасць, якая, можа, больш за бацькоўскую весялосць не дае мне спакою: усе яны, маладыя мужчыны і жанчыны ў доўгіх паліто, ідуць, узяўшыся пад рукі. Іх многа, у тым ланцугу, амаль усіх я ведаю — і тых, каго выбіла вайна, і тых, хто дажыў да сярэдзіны майго ўласнага жыцця. І ведаю, што калі б гэты ланцужок разарваўся, я не выжыў бы. Магчыма, і не з'явіўся б на свет...

Вялікая сіла — чалавечае сяброўства і салідарнасць паміж людзьмі!

...Ці існуе ў нашым сённяшнім грамадстве хаця б ланцужок салідарнасці?

На чалавечым узроўні так, існуе. Людзі, дзякуй Богу, яшчэ не пазбавіліся імкнення і здольнасці дапамагаць адзін аднаму, асабліва калі размова ідзе пра выратаванне жыцця.

Чаму ж на грамадскім узроўні пануе ўсеагульная абыякавасць?

Адкуль яно, гэтае бясконцае маўклівае чаканне таго, што нешта пераменіцца ў лепшы бок — ці само, ці прапагандысцкімі намаганнямі ўлады, ці з дапамогай замежных дабрадзеяў?

На мой розум, у гэтай сумнай з'явы адна крыніца — страх. Страх перад уладай і страх перад незалежным жыццём.

Няўжо французы, немцы, гішпанцы ды туркі жывуць бядней, горш за нас, калі выходзяць 1 мая на шматтысячныя дэманстрацыі ў абарону сваіх правоў?!

Чаму ж мы, якія жывём не ў беспаветранай прасторы, нават не за «жалезнай заслонай», як у колішнія часы, такія абыякавыя да ўласнага жыцця? Можа, нас не хвалюе нястрымны, як нідзе, нават у краінах СНД, катастрафічны рост цэнаў, падзенне рэальных заробкаў, пенсій, сапраўднае, а не статыстычнае беспрацоўе?

Хвалюе, безумоўна. Але ж выйсце шукаецца не ў салідарным супрацьве, а ў прыстасаванні да жыцця — і, што найперш тычыцца моладзі, усё часцей за мяжой.

А што апазіцыя? Што незалежныя прафсаюзы? Нешта варухнулася на левым ускрайку, ды зноў прыціхла... Як чорт ад ладану, апазіцыя бяжыць ад усяго савецкага, забыўшыся, што 1 мая — далёка не савецкая традыцыя.

Нідзе ў свеце і ніколі, пачынаючы ад 1886 года ў Чыкага, 1 мая не было святочным днём. Толькі Днём салідарнасці — самай моцнай зброі працоўных у змаганні за свае правы.

Страшнае слова — салідарнасць.

Страшыць уладу, палохае людзей, насцярожвае апазіцыю...

Такое страшнае, што нават выкрэслена з сутнасці Першамая... з ужытку... з жыцця.

## ТАНКАВАЯ АТАКА

На мінулым тыдні Міністэрства абароны пасля адмовы, як паведамляецца, баранавіцкіх уладаў усё ж такі ўсцягнула танк «ІС-3» на пастамент у горадзе Ваўкавыску.

Але навошта? Навошта палкоўнікам ды генералам такі цяжкі клопат? Каб народ не забываўся пра вайну, а моладзь

адчувала наплыў патрыятычных пачуццяў? Так, яны тлумачаць свае безупынныя выхаваўчыя намаганні менавіта гэтым. Між тым не здольныя патлумачыць нават тое, чаму ці каму паставілі гэты помнік. Ці то вызваліцелям Ваўкавыска ў ліпені 1944-га, ці то самому танку «ІС-3», які, дарэчы, амаль не ваяваў, ці то ўсім танкістам... А мо хочуць хаця б такім чынам ушанаваць «ІС» — Іосіфа Сталіна?..

У мяне ёсць свая версія, пакінутая светлай памяці стрыечным братам Мікалаем.

Упершыню я ўбачыў Мікалая ўвесну 45-га, калі ён завітаў да сваёй маці, маёй цёткі Надзі ў Мінск. Я з захапленнем глядзеў на ягоныя старшынскія, літарай «Т», наплечнікі, мацаў бліскучы ордэн ды звонкія медалі. І не разумеў, чаму плача цётка Надзя, калі кожны вечар, перад сном, крыж-накрыж абвязвае Мікалая бялюткім бінтам. Мне, чатырохгадоваму, здавалася, што гэта нейкая гульня, бо я, памятаю, прасіў, каб яна перакрыжавала і мяне, таксама геройскі параненага... Пакойчык поўніўся вострым пахам нейкіх лекаў, Мікалай стагнаў, але на маё пытанне, ці баліць, падміргваў і моўчкі падымаў вялікі палец... Пазней я даведаўся, што завітаў ён да маці са шпіталя, па дарозе ў Харкаў, дзе яго чакала Галя, любая па ліставанні дзяўчына. На развітанне ён каляровымі алоўкамі, што прывёз мне ў падарунак, намаляваў танк. Як цяпер, я бачу той імклівы танк — зялёны, з чырвонай зоркай і гарматай, адкуль вылятае чорны снарад... Трохі падумаўшы, Мікалай зноў падсунуў да сябе паперу і дамаляваў чырвонажоўтую пляму: «А вось так танкі гараць...»

Мікалай гарэў у танку недзе за Одэрам.

Усё астатняе жыццё ён пражыў у Баку, здабываў нафту, гарэў і на свідравальнай, на пенсіі падаўся ў пажарныя...

Кожны год, пакуль жыла маці, Мікалай прыязджаў у Мінск, няспынна цытаваў «Новую зямлю» і амаль кожную раніцу ездзіў збіраць грыбы ў Коласава, у знакаміты грыбны лес. «Не надакучыла? — спытаў я аднойчы. — Вось так, кожны дзень...» — «Ціха там, разумееш, ціха...»

У 1991-м ён прыехаў у жніўні, і, пачынаючы з 19-га, тры дні праседзеў, забыўшыся пра грыбы, ля тэлевізара, моўчкі глядзеў, як пруць на Маскву танкі...

Напрыканцы кастрычніка 93-га прыйшоў ліст з Баку. «У нас вялікае гора, — паведамляла Галя, — Коля павесіўся, не пакінуў нават ніякага пісьмовага тлумачэння. Апошнія гады, праўда, адразу пасля бакінскіх падзей, стаў нейкім замкнёным, вельмі перажываў распад Савецкага Саюза, казаў, што ўжо немагчыма будзе ездзіць да маці і па грыбы...»

Узрушаны, я некалькі разоў перачытаў ліст і раптам зразумеў: ён паглядзеў па тэлевізары, як танкі паляць у Маскве па Белым доме...

Дык навошта палкоўнікам ды генералам новыя, у дадатак да амаль ужо сарака існуючых, танкавых помнікаў? Яны што, напішуць на пастаментах, што вось гэты танк паліў у 1956-м у Будапешце па вугорцах, вось гэты ў 1968-м трушчыў чэхаў у Златай Празе, вось гэты — літоўцаў у 1991-м, а вось гэты толькі і чакаў загаду дайсці хуткім маршам аж да Ла-Манша?..

Свядома ці падсвядома, палкоўнікі ды генералы ідуць у сваю «танкавую атаку», каб доўжыць так званы «савецкі патрыятызм» кшталту гатоўнасці «легчы пад танкі»; каб навечна зацвердзіць пагрозлівы для незалежнасці Беларусі напамін аб моцнай дзяржаве, якая існавала і ўтрымлівалася на трагічных лёсах людзей.

Мушу думаць, што для тых, хто сапраўды гарэў у танках на войнах той дзяржавы, такі сталёвы напамін будзе, па сутнасці, гістарычнай абразай. Для моладзі — ваяўніча-хлуслівым уяўленнем пра моц імперыі, у якой Беларусі было быццам бы сытна, цёпла і недасягальна для ворагаў. А для дзяцей — небяспечным уяўленнем пра вайну, на якой гінуць толькі ворагі і гараць толькі варожыя танкі...

На цырымоніі ў Ваўкавыску міністр абароны Жадобін з гонарам паведаміў, што міністэрства вырашыла працягнуць традыцыю ставіць помнікі з танкаў. Такім чынам, ёсць пагроза, што ў краіне ўвогуле не застанецца вялікіх і малых гарадоў, дзе на плошчах ды перакрыжаваннях не стаялі б гэтыя страшыдлы, дэманструючы сваю нікому не патрэбную моц.

**ПАРАДНЫ РАЗЛІК**

Кожны раз, калі баба Гіта, адстаяўшы чэргі, прыносіла ў хату нешта ці занадта дарагое, ці ўвогуле непатрэбнае, на ўсе матчыны папрокі «навошта?» яна адказвала вычарпальна: «Усе палкоўнікі і генералы бяруць!»

Палкоўнік Макараў, вядома, не баба Гіта. Але кожны год, калі набліжаецца 3 ліпеня, галоўны прапагандыст, «сцяганосец», так бы мовіць, ад Міністэрства абароны намагаецца пераканаць грамадства ў тым, як патрэбны яму, грамадству, вайсковы парад. На ўсе пытанні адносна коштy «тавару» і сумненні адносна гістарычнай нагоды ён адказвае не горш за бабу Гіту: якія грошы ў параўнанні з высокім маральным духам, патрыятычным уздымам і свяшчэннай памяццю?!

Насамрэч грошы турбуюць палкоўніка Макарава не менш за «патрыятычны ўздым» і «свяшчэнную памяць».

У маім архіве захаваліся дакументы да гісторыі, якая цягнулася больш за сем гадоў. Аднойчы мінчук Пётр Папоў, прачытаўшы віншаванне ад прэзідэнта да 60-годдзя Перамогі і пачуўшы прэзідэнцкія словы пра тое, што « кожнаму ўдзельніку вайны трэба аказаць асаблівую ўвагу і выканаць іх жаданне», пажадаў атрымаць у падарунак ад прэзідэнта шуйскі гармонік.

«Я з дзяцінства, — пісаў Папоў у «Народную Волю», — граў на гармоніку і ўсё жыццё марыў пра шуйскую гармонь. Гармонь была нам адзінай радасцю. Як яна ўздымала дух у тыле і на фронце! Дзе гармонь грала, там гора і слёзы забываліся. Калі вярнуўся з вайны, ужо ні родных, ні хаты не было. Не да гармоні... Галеча, жыць няма дзе... Ну, а потым Мінск, будоўля, праца на аўтазаводзе, вучоба, сям’я... А што па капейчыне назапасіў у ашчаднай касе, прапала... Вось і не вытрымаў, вырашыў (магчыма, і недарэчна), напісаць Аляксандру Рыгоравічу... Мо і яму аўтарытэт...»

Сем гадоў запар выпрабоўваў ветэран вайны аўтарытэт дзяржаўнай улады, то бок «усіх палкоўнікаў і генералаў»: ад Адміністрацыі прэзідэнта праз дырэкцыю аўтазавода, якому аддаў усё працоўнае жыццё, да Палаты прадстаўнікоў, Савета ветэранаў і Міністэрства абароны.

Генералу Новікаву, старшыні Савета ветэранаў, Папоў пісаў ўжо ў стане роспачы: «Чатыры гады мне даказвалі, што я не толькі капейкі — слова не каштую... Таварыш генерал, спадзяюся, Вы не падведзяце гвардзейца...»

Генерал Новікаў «не падвёў». Адказаў, што Савет ветэранаў «...не имеет полномочий...» і «искренне» павіншаваў з Днём Перамогі — адказ пісаўся 8 мая. Праўда, усё ж папрасіў Міністэрства абароны знайсці «финансовую возможность».

«Фінансавую магчымасць» шукаў палкоўнік Макараў. І адшукаў, што «...военное ведомство не имеет возможности»...

Магчымасць знайшлі чытачы газеты, скінуліся на падарунак. І сярод іх, напэўна, нашчадкі тых, хто ад пачатку вайны так і не запатрабаваў свае ўклады ў былую дзяржаву, бо загінуў альбо згінуў без вестак. Звыш за 2 з паловай мільёны гэтых грашовых укладаў дасюль захоўваюцца ў Цэнтрабанку Расіі...

Такі вось парад.

Такі «маральны дух». Такі «патрыятычны ўздым». Такая «свяшчэнная памяць».

Не ведаю, што там на памяці ва «ўсіх палкоўнікаў і генералаў». На маёй памяці Ён.

...Ён быў, як тое завецца, знакавай фігурай майго дзяцінства. Пачынаючы гадоў з пяці, калі я ўпершыню ўбачыў яго. Дакладней, пачуў, як грукочуць па крутым брукаваным спуску вуліцы Берсана падшыпнікі ягонага самаката. А потым убачыў, як ён тармозіць рукамі ля газавай крамы, куды я пайшоў разам з маці. Яна кінулася яму дапамагчы, ён закруціў галавой і нават замахнуўся на яе. А я не разумеў, як гэта можна рухацца на карачках, адштурхоўваючыся ад брукаванкі нейкімі дзеравяшкамі. Пазней даведаўся, што яны так і зваліся — штурхачы.

Потым я сустракаў яго ледзь не кожны дзень, калі ішоў у школу па вуліцы Нямізе ўздоўж яшчэ не загнанай у трубу Нямігі-ракі. Я трохі палохаўся яго, ягоных аблямаваных тлустай, зацёртай да люстранога бляску, скурай абрубкаў ног, ягонай грузнай фігуры, што невядома як змяшчалася на дошачках з падшыпнікамі.

Зімой ён апранаўся ў стары, заўсёды расшпілены бушлат — яму, відаць, заўжды было горача ад цяжару ягонай, можна сказаць, *падзвіжніцкай* працы. З-пад бушлата цьмяна паблісквaў медаль. Я разгледзеў гэты медаль аднойчы летам, ужо пад штрыфлем пінжака, апранутым проста на цяльняшку, — «За отвагу», такі ж быў у бацькі...

А потым ён са сваім медалём знік. З горада. З жыцця. Але, як бачыце, не з памяці...

Не, я не супраць парада, калі б наперадзе замест танкаў каціў, грукаючы падшыпнікамі, Ён. А за ім Папоў з гармонікам. А за імі ўсе знішчаныя і пакалечаныя вайной беларускія людзі...

І «ўсе палкоўнікі і генералы» аддавалі б ім чэсць.

Але я добра разумею, на што і на каго разлічанае іх параднае, пад грукат браніраваных страшыдлаў, рытуальнае енчанне пра загінулых, іх ваяўнічая рыторыка пра «нашу победу» — на пацеху адным, што вечна прагнуць відовішчаў, і на патрэбу іншым, што прагнуць вечнай улады над людзьмі.

**ЧАС «ЧЫ-Ы-Ы-ЫЗ»**

Бліжэй да апоўначы, у час паўсоннага забыцця, ці не над самым вухам прагучаў аглушальны выбух. Потым яшчэ, яшчэ. І несціханая страляніна... Я падскочыў да акна.

Дом, у якім я жыву, стаіць на высокім узгорку, звычайна з акон далёка відаць. Відаць салюты з іх дрыготкім адбіткам у шкле ды праблiскамі на аблоках. Відаць успышкі ад выбуховых пакетаў, якімі дурэе па начах у цёмных дварах непрыкаяная дзятва. Не кажу ўжо пра бліскавіцы па ўсім набраклым летнімі навальніцамі даляглядзе.

Гэтым разам за акном было туманна, шэра і сыра. Спакойна свяціліся ліхтары, ішлі, не азіраючыся, быццам нічога не чуючы, рэдкія прахожыя. «Мусіць, за горадам, — падумаў я, — мо які склад выбухнуў... Ці не, гэта ў цэнтры, недзе зусім побач. Але чаму нічога не відаць?» Узгадалася, як аднойчы выбухнула на ўскрайку Мінска газабалонная станцыя. Але тады шугала на паўнеба, па начным горадзе з жахлівым выццём імчэлі

«хуткія» і міліцыя. А тут ні сірэн табе, ні выцця — мяккая туманная цішыня, нібыта толькі ў маім пакоі ляскочуць ці то аўтаматы, ці то кулямёты і гулка бухае нешта танкавае, гарматнае ці то яшчэ якое... А дзе ж трасёры? Павінны ж быць трасёры... Нават я, чалавек наскрозь цывільны, як і ўсе, каго прамінула калі не «гульба, то пальба», навучыўся па тэлекарцінках апошніх гадоў пазнаваць прыкметы сапраўднай пальбы. Але трасёраў не было. Начное неба было начным і толькі...

Я ўключыў тэлевізар. На беларускім канале чарговы канцэрт.

І раптам званок.

«Ты чуеш? — голас жонкі з лякарні быў стрымана-трывожны. — Мо на ўсялякі выпадак апрануцца? Тут у нас усе апранаюцца...» — «Пачакай, — сказаў я, — а што ты чуеш?» — «Страляюць... здаецца... зусім побач. І нешта гарыць...» — «Не палохайся і не панікуй. Зараз прыеду. Толькі высветлю...»

У слухаўцы нешта затрашчала, і я пачуў жаночы лямант: «Так-так, з нашай палаты ўсё відаць... Ля рэзідэнцыі танкі... Чуеце? Там ідзе бой!.. Даскакаліся!.. Дагуляліся!..»

«Ды супакойцеся вы!» — закрычаў я ўжо ў пустату, у кароткія гудкі.

Ад лякарні да прэзідэнцкай рэзідэнцыі метраў трыста, не болей. І прыблізна столькі ж ад рэзідэнцыі да дома, дзе жыве Уршуля.

«Сяр’ёжа? — здзівілася яна позняму званку. — Што здарылася?»

...Апошнім разам з Уршуляй, польскай журналісткай, мы сустракаліся заўчора, у нядзелю, на плошчы Незалежнасці, дзе адбываўся чарговы мітынг праціўнікаў Лукашэнкі. Людзей сабралася не больш і не менш, чым збіралася ўвесь лістапад да рэферэндуму, — тысячы дзве, мо тры. Тыя ж прамовы, тыя ж лозунгі, тыя ж твары і ўсё той жа мегафон з пашарпанай міліцэйскай машыны, што час ад часу хрыпеў звыклымі страшылкамі пра адказнасць. Але было ў тым мітынгу і нешта новае, што адрознівала яго ад папярэдніх. Не трывога праз тое, што невядома, чым скончыцца супрацьстаянне на плошчы, а адчуванне нейкай новай свабоды пратэставаць, калі ўжо загадзя

вядома, што пратэст асуджаны на нішто, нікім не будзе пачуты, падтрыманы і растане ў паветры, як растае пасля стрэлу дым...

Але ў паветры ўжо нават дымам не пахла, хаця з плошчы пратэстоўцы пайшлі па горадзе, а міліцыя і АМАП выстройваліся ў шчыльныя камуфляжныя ланцугі. Асабліва шчыльным быў ланцуг ля рэзідэнцыі прэзідэнта, куды павярнула шэсце і... прайшло міма, пакінуўшы грозную ахову ні з чым. Уздоўж ланцуга бегаў туды-сюды міліцэйскі палкоўнік. Наткнуўся на нас з Уршуляй, мармытнуў: «А, вольная прэса...» Стала смешна.

Між тым шэсце рухалася далей, паслухмяна спускаючыся ў падземныя пераходы і цярпліва чакаючы зялёнага святла там, дзе пераходаў няма. «Паслухай, — сказала Уршуля, — мне ў Польшчы ніхто не верыць, што мінскія дэманстранты пераходзяць вуліцы толькі на зялёнае святло...»

Потым была расійская амбасада, потым будынак тэлебачання, потым ужо звыклыя арышты і затрыманні арганізатараў.

І аніякіх навін.

...«Ты нешта чуеш? Падобна на страляніну... Жонка з лякарні тэлефанавала, хворых ужо апранаюць... Кажуць, танкі... ля рэзідэнцыі...» — «Паслу-у-хай, — прамовіла Уршуля ў сваёй некалькі цягучай манеры. — Не ведаю, што там кажа твая жонка, але гэта “Макдональдс”». — «Які да д’ябла “Макдональдс”?!» — «Яны адчыняюцца. У іх феерверк... Ну, хочаш я вазьму сабаку і прагуляюся?» — «Выбачай, дзеля Бога... Дабранач...»

І зноўку званок, жонка: «Гэта “Макдональдс”». — «Так-так, гэта “Макдональдс”, у іх феерверк... Чуеш, ужо скончыўся...» — «Чую», — сказала жонка. І заплакала. Трэці дзень ёй аніяк не могуць паставіць кропельніцу. «Сышлі» вены...

Раніцай я даведаўся, як тое было. У начное метро немагчыма было праціснуцца. Тысячы людзей рынуліся да цэнтра горада, збіўшыся ў агромністы натоўп, які запаланіў галоўны праспект і ўсе, што паблізу, вуліцы і скверы. Натоўп пад кананаду феерверкаў рашуча ціснуў АМАП. Дзе-нідзе мільгацелі дручкі, і ўрэшце выстраілася доўгая — патыліца ў патыліцу —- чарга. Напярэдадні хадзілі чуткі, што ў тую ноч будуць бясплатна раздаваць чызбургеры.

Час «чы-ы-ы-ыз»...

А днём насупраць «Макдональдса», што так шумна ўварваўся ў даволі прэснае мінскае жыццё, каля Нацыянальнага банка з'явіўся нешматлікі пікет. Людзі сталі тварам да сцяны, заклаўшы рукі за галовы.

Быў 1996 год, 10 снежня, Міжнародны дзень абароны правоў чалавека...

* * *

2013 год, 13 ліпеня, адкрыццё гандлёвага цэнтра «Мільённы» ў Брэсце, халяўны «цукерачны дождж». Сцвярджаюць, што на галовы берасцейцаў арганізатары высыпалі амаль тону цукерак. Але для пяцітысячнага натоўпу гэтага аказалася мала...

## ЧЭСНЫ ВАЛЬКА

З нагоды чэмпіянату свету па хакеі абвастрыліся спрэчкі аб патрыятызме.

Насамрэч — на тле ўкраінскіх падзей, да якіх бессаромна далучыўся хакей.

Зміцер Панкавец, калега па «Нашай Ніве», сцвярджае, што «спартовыя перамогі добра развіваюць у людзях патрыятызм. Усім падабаецца, калі твае суайчыннікі "дзяруць" немцаў, рускіх і фінаў. Хай гэта і патрыятызм "ніжэйшага гатунку", самае яго першаснае праяўленне...».

Адказу на пытанне, што развіваюць у людзях спартовыя паразы, няма.

Сяргей Плыткевіч увенчвае сваю мудрагелістую канструкцыю ў падтрымку згаданага чэмпіянату сцвярджэннем, што «нельга быць патрыётам і жадаць паразы сваёй краіне»...

У мяне не было б намеру сцвярджаць нешта супрацьлеглае, калі б гэта тычылася толькі згаданых аўтараў. Каму якая справа, у каго з якіх крыніц нараджаюцца патрыятычныя пачуцці «ніжэйшага» ці «вышэйшага» гатунку?! У мяне, напрыклад, з іншых, якія не маюць да спорту аніякіх адносінаў. І што з таго?

«З таго» тое, што абодва прыхільнікі спартовага, так бы мовіць, патрыятызму, хочуць яны таго альбо не, адмаўляюць у патрыятызме, то бок у любові да радзімы, тым, хто абыяка-

вы да спартовых перамог ці, крый Божа, «жадае паразы...». Бо «дзерці...» падабаецца *ўсім*, а «...быць патрыётам і жадаць паразы...» *нельга*.

Мне не падабаецца. Бо я памятаю, як «аддзёрлі» Вальку.

Не ведаю, ці існуюць цяпер так званыя дваровыя футбольныя каманды, але ў часе, калі я быў падлеткам, у нашым двары такая каманда існавала. Як ён гуляў у футбол, наш Валька! Маленькі, хударлявы, ён бегаў па полі, як... Нават не ведаю, з чым параўнаць. Хай будзе — як ртуць. Бо нават не бегаў, а імгненна, ніхто і не заўважаў, паўставаў побач з мячом. Карацей, дзе мяч, там і Валька. Яны літаральна ліплі адзін да аднаго. І ў той гульні, дзе ўжо вырашаўся лёс міждваровага чэмпіянату, уся надзея была на Вальку, бо супернікі, у асноўным з фабзайцаў, папярэднікаў пэтэвушнікаў, былі вельмі моцныя, у іх нават трэнер быў. Да апошніх хвілін трымаўся лік 2:3 на іх карысць. Але Валька ўсё ж здолеў вырвацца адзін на адзін з варатаром, цыбатым хлопцам у доўгіх трусах, што ўсю гульню ані секунды не стаяў спакойна — падскокваў, выраблял нейкія мудрагелістыя па... Ён выбег насустрач Вальку, паслізнуўся, вароты засталіся пустыя. Валька прыпыніўся і... прабіў убок. Палічыў, што біць па пустых варотах у той сітуацыі было б не па-спартоваму. Не па сумленні.

«Аддзёрлі» яго, ці, па тагачаснай тэрміналогіі, адмяцелілі старэйшыя хлопцы, дваровыя заўзятары, у якіх з фабзайцамі былі свае адносіны. Валькавы бацькі нават выклікалі міліцыю. Скончылася тым, што ўчастковы, стары ўжо дзядзька з тоўстым жыватом, што выпіраў з-пад кіцеля, паляпаў Вальку па плячы і павучальна, каб і мы чулі, прамовіў: «Патрыётам трэба быць. Сёння каманду падвёў, заўтра радзіму...» Хлопцы, якія мяцелілі Вальку, патлумачылі свае дзеянні тым, што ён зрабіў «непатрыятычны ўчынак». Абвінавачванне ў непатрыятызме было вельмі папулярным у Савецкім Саюзе. Чаго б ні тычылася. Ажно да дрэннай адзнакі ў школе...

Не, не разумею, якое дачыненне мае патрыятызм да таго, што беларускія хакеісты кагосьці там «надзяруць», а ўлада набудуе процьму хайтэкаўскіх спартовых збудаванняў, якія, па Сяргею Плыткевічу, застануцца, і пасля сыходу рэжы-

му будуць упрыгожваць беларускія гарады. Так, застануцца. Толькі вось старых жыхароў гэтых гарадоў, якіх улада вось ужо трэцяе дзесяцігоддзе дурыць абяцанкамі вярнуць савецкія даўгі, не застанецца зусім. Нейкая непатрыятычная атрымлівавецца ўлада...

Ці патрыятычная, бо так добра зладзіла чэмпіянат?

Пайшла, праўда, гаворка, што на чэмпіянаце зароблены шалёныя грошы. Але штосьці не верыцца, што хаця б нешта з іх перападзе падманутым старым. У лепшым выпадку, на дробныя падвышэнні пенсій і смешных, напалову са слязьмі, заробкаў так званых бюджэтнікаў. Ды і хто калі ведаў, на што ўлада выдаткоўвае шалёныя грошы? Хто-небудзь кантралюе гэты таямнічы працэс?

Цёзка можа запярэчыць: пра ўладу не казаў, пісаў пра краіну. Але краіна лядовых палацаў не будуе і чэмпіянаты не зладжвае. Краіна — гэта тое, што на цудоўных здымках Плыткевіча. І яшчэ ў сэрцах.

Што праўда, беларуская ўлада вельмі любіць атаясамліваць сябе не толькі з дзяржавай, але і з краінай. І так лёгка праглынуць гэтую справакаваную блытаніну!

Зрэшты, нічога новага. Толькі дыктатарскія ды аўтарытарныя рэжымы робяць са спорту палітыку на сваю карысць, гатуюць з яго — ці толькі з яго?! — атрутны прапагандысцкі булён.

Так было і ў нацысцкай Германіі.

Так было і ў камуністычным Савецкім Саюзе.

Добра памятаю, якой пажаданай, для мяне, ва ўсялякім разе, і маіх сяброў, была параза савецкай зборнай у матчы з камандай Чэхаславакіі падчас хакейнага чэмпіянату 1969 года, праз колькі месяцаў пасля сумнавядомага здушэння «Пражскай вясны». Пры тым, што былі за «нашых». Такі вось парадокс. Унутраны падзел паміж палітыкай і спортам.

Падзел, якога асабіста я не вытрымаў. І ўрэшце страціў усялякую цікавасць да чэмпіянатаў, алімпіяд і ўвогуле да спартовых спаборніцтваў. Мне ўсё роўна, якое месца зойме БАТЭ ці хакейнае «Дынама». Нават Домрачава мяне не хвалюе. Што, вядома, дрэнна. Непатрыятычна...

У жыцці зусім няшмат з’яваў, вакол якіх ствараюцца тыя ці іншыя людскія еднасці. Спорт — не выключэнне. Але, папярэджваў у сваёй «Планеце людзей» Антуан де Сэнт-Экзюперы, «...колькі адкрываецца фальшывых шляхоў...».

Еднасць вакол так званага «спартовага патрыятызму» — фальшывая еднасць, еднасць на падставе «патрыятызму натоўпу». Бо спалучэнне спорту з палітыкай — гэта і ёсць той фальшывы шлях, што вядзе да ўзмацнення аўтарытарных рэжымаў і стымулюе іх агрэсіўнасць. Ці ж не сведчыць пра тое не толькі гістарычны, але і сучасны досвед?!

Патрыятызм асобы ў сваёй найвышэйшай праяве вымагае гатоўнасці за радзіму памерці.

Патрыятызм натоўпу, то бок «ніжэйшага гатунку», — забіць.

...А Валька знік з майго жыцця разам з дваровым футболам. З яго, упэўнены, мог стацца геніяльны футбаліст. Але не стаўся.

Я б ведаў.

## ШКОЛЬНЫ ДЫКТАТ

Прачытаў у «Нашай Ніве» сумны аповед маладога настаўніка гісторыі «Два гады — і я валю». Узгадалася, як аднойчы, будучы госцем знаёмай сям’і, стаў міжвольным сведкам маленькай драмы.

На той момант над школай навісла пагроза чарговага рэфармавання. У самы разгар абмеркавання праблемы, што раптам звалілася на тую сям’ю — «а калі адзінаццаць?.. а калі дванаццаць?» — празвінеў званок. Да тэлефона жвавенька падбегла дачка, мусіць, чакала... Але голас яе адразу стаў сумны: «Так... так... прабачце... забылася... заўтра ж данясу... да пабачэння... Ну вось, — паклала слухаўку, — яшчэ дзве тысячы, на “Юный спасатель”...» — «А вы адмоўцеся», — параіў я...

Тата з мамай моўчкі ўтаропіліся ў мяне — мо яшчэ што параіш?

Пра школьныя паборы чулася тады з усіх бакоў. Але ў той сям’і і яе адносінах са школай існавала істотная падрабязнасць: класная, чый званок так патрапіў «у тэму», паспела адпомс-

ціць — уляпіла «тройку» за беларускі дыктант, з-за чаго за год атрымлівалася «сямёрка». «І гэта дзяўчынцы, — са скрухай усклікнула мама, — якая бліскуча ведае і беларускую, і рускую, і ангельскую мовы, польскую вывучае!» Такое вось наступства адмовы ад школьных абедаў... «Можаш не есці, толькі прынясі грошы, — ледзь не плачучы, прасіла класная, — бо мяне пазбавяць прэміі...»

Бедныя дзеці, бедныя настаўнікі...

Я не ведаю, пра што гаворым мы, калі гаворым пра школу.

Я не ведаю, што час ад часу з навязанай зверху ліхаманкавай экспрэсіўнасцю нібыта абмяркоўваем.

Рэфармацыю?

Але **такую** школу нельга рэфармаваць. **Такую** школу трэба толькі зачыніць. З-за шкоды, што прычыняе грамадству **такая** школа, год ад года рэпрадукуючы манюкаў і прыстасаванцаў, распаўсюдваючы пошасць канфармізму, страху і крывадушша. А калі сям’я закладвае ў нашчадка супраціў хлусні і дыктату, школа гатуе яму незайздросную долю «белай вароны», «пудзіла»...

Нават 10-бальная сістэма адзнакаў, і тая вучыць крывадушнічаць: «сямёрка» — гэта «чацвёрка з мінусам», а не «тройка з плюсам»...

Праграмы... падручнікі... методыкі...

Усё гэта, безумоўна, важна для адукацыі грамадства, ягонага самаадчування ў ХХІ стагоддзі.

Але куды больш важны маральны выбар. Самаадчуванне грамадства вызначаецца менавіта ім.

Пра тое, якое гэта самаадчуванне насамрэч, можна меркаваць, калі ўявіць настаўніка, які перад такім маральным выбарам апынуўся. «Два гады — і валю» — не самы цяжкі. А калі жыццё?

Калі жыццё — гэта выбар паміж жыццём і смерцю. Бо пайсці з прафесіі, якой прысвяціў жыццё, усё адно што памерці. Асабліва калі гэты сыход абумоўлены знявагай тваёй прафесійнай і чалавечай годнасці.

А што гэта — годнасць настаўніка? Гэта найвышэйшая справядлівасць у адносінах да сваіх вучняў.

Ці не перад такім выбарам апынулася ў свой час Вольга Сянькова, дырэктарка 4-й салігорскай школы, калі чыноўнікі ад адукацыі выключылі са школы актывіста «Маладога фронту» Івана Шылу, ды яшчэ напярэдадні апошняга выпускнога іспыту? Не ведаю яе далейшага лёсу, але тады, пратэстуючы, яна пакінула і пасаду, і школу. Між тым прыклад не будзе поўным, калі не сказаць пра астатніх настаўнікаў: ледзь акрыяўшы ў сваёй падтрымцы дырэктаркі, яны хутка змоўклі і прагаласавалі «за» выключэнне аднаго з лепшых вучняў. Такая вось дэмакратыя па-чыноўніцку — выключэнне шляхам галасавання...

Кожны чалавек, не толькі настаўнік, робіць у сваім жыцці, і не аднойчы, маральны выбар. Але ў тым, што тычыцца школы, падобны выбар вызначае жыццё пакаленняў. Вось чаму, выбіраючы сістэму адукацыі, немагчыма ігнараваць маральнасць, найперш праз сапраўдную дэмакратычнасць. Бо дэмакратыя — гэта яшчэ і маральнасць у суадносінах паміж грамадствам і дзяржавай. Безумоўна, у спалучэнні з законам.

А што ў нас? У лепшым выпадку — псеўдадыскусіі ў рэжыме дыктату.

І каго мы чуем у гэтых псеўдадыскусіях, акрамя чыноўнікаў ад адукацыі? Мо ведаем, што думаюць аб ёй бліскучыя педагогі, маральныя аўтарытэты, высокія інтэлектуалы? Мо чытаем іх кнігі, артыкулы, чуем іх у адкрытых дэбатах? Усё, што можна назіраць, — гэта перацягванне каната рознымі чыноўніцкімі кланамі: адзінаццацігодка-дванаццацігодка...

Як ніякая іншая дзяржаўная інстытуцыя, сучасная беларуская школа ўяўляе сабой злепак з улады, з яе аўтарытарнай канструкцыі, стылю паводзін, інтэлектуальнага ўзроўню і манер. Нездарма абвешчана арыентацыя на ўсярэднены, прабачце, узровень сярэдняй адукацыі, што, безумоўна, адбіваецца на адукацыі вышэйшай.

А там, дзе няма найвышэйшай, маральнай адукацыі, гэтага падмурка прафесійнай і чалавечай годнасці, угнойваецца і пашыраецца прастора для «жэстачайшых мер»...

## ШПАЦЫР У КУРАПАТЫ

Ні ў якім разе я не хачу абразіць тых, хто ў мінулую нядзелю, на Дзяды, прайшоў з бел-чырвона-белымі сцягамі 12 кіламетраў у Курапаты. Для іх гэта было насамрэч Шэсце. Але для тых, хто бачыў працэсію, як выказалася адна з удзельніц, «з вокнаў», яна нагадвала малазразумелы шпацыр.

«Запытаемся ў мінчукоў, — кажа журналістка, што вядзе анлайн-рэпартаж, — што яны думаюць наконт свята Дзядоў і шэсця ў Курапаты...» Мінчукі збольшага шарахаюцца ад мікрафона, хто-ніхто нешта мямліць, а сярэдняга ўзросту дзядзечка заўважае, гледзячы ўслед малалюднай калоне: «На Дзяды са сцягамі не ходзяць...» Журналістка падносіць мікрафон да аднаго з маладзёнаў, якія цягам усяго шляху нясуць крыж: «Што вас вымусіла пайсці ў Курапаты?» — «Ну... сябра паклікаў... мой дзед ваяваў... прадзед...»

Падумалася: а дзе шэсце апазіцыі да Вечнага агню на плошчы Перамогі? Дзяды, калі ўжо надаваць ім палітычны сэнс, не для тых продкаў?

Дык што адзначалася 2 лістапада шэсцем у Курапаты? Дзяды? А мо чарговая гадавіна падзей, што адбываліся на Дзяды 30 кастрычніка 1988 года?

Я не збіраюся яшчэ раз апісваць падрабязнасці таго дня і тых падзей — успамінаў пра іх дастаткова. Часцей за ўсё згадваюцца жорсткія эпізоды — як хапалі, збівалі, атручвалі газам, цягнулі ў аўтазакі...

Праваобраз будучага хапуна выяўляе сябе ў гэтых успамінах ва ўсім сваім мярзотным абліччы.

На жаль, хапуна, і толькі.

Адказу няма.

Няма адказу на пытанне, чаму крыжовы шлях у Курапаты ва ўяўленні маўклівай большасці ператварыўся ў шпацыр.

Няма адказу на пытанне, чаму стаўся адарваным ад грамадскай свядомасці аднойчы выверджаны боль.

Я яшчэ раз прачытаў артыкул Зянона Пазняка і Яўгена Шмыгалёва «Курапаты —дарога смерці», ад якой пачаўся крыжовы шлях: «Ачышчэнне сумлення неабходна грамадству,

якое дапусціла і спарадзіла генацыд... Раскайвацца павінны наступныя пакаленні, якія не бачылі той бяды, раскайвацца за грахі продкаў. Маральныя пакуты павінны браць на сябе нашчадкі...»

Дык, можа, народ спалохаўся пакаяння? Цяжару маральных пакут?

Але ж ён быў, быў бясстрашны народ супраць азвярэлай улады.

І не толькі 30 кастрычніка.

Артыкул быў надрукаваны 3 чэрвеня, а ўжо 19-га народ пайшоў у Курапаты...

Натоўпамі і па адным, асфальтам кальцавой дарогі і сцежкамі, пратаптанымі ад горада наўпрост, сцякаліся мінчукі, старыя і маладыя, у курапацкі лес: «Сталінскі генацыд!»

Сёння Сталін зноўку ў пашане, квітнее ягоны атрутны пасеў...

Але ці толькі таму пазарос крыжовы шлях у Курапаты, што ў розных сваіх праявах адраджаецца сталінізм?

А можа, таму і адраджаецца, што пазарос шлях?

Ці не самі згубілі мы яго, гэты шлях, ператварыўшы традыцыйнае шэсце, пры ўсёй ягонай пякучай эмацыйнасці, толькі ў партыйна-апазіцыйна-мемуарнае мерапрыемства, якое збірае колькі-небудзь паплечнікаў, пакідаючы астатні народ, заклапочаны сваім будзённым існаваннем, нерухомым? Што праўда, ужо і пякучая эмацыйнасць сышла ў пясок часу...

Справа нават не ў тым, колькі людзей пройдзе ў шэсці — 500 ці, як было заяўлена, 5000. Справа ў тым, што курапацкі боль так і не стаўся народным.

Але чаму?

Чаму хатынскі боль стаўся ў свой час народным, а курапацкі — не? Ці толькі таму, што тагачасная ўлада звозіла людзей ў Хатынь цэлымі аўтобуснымі калонамі?

Так, не было амаль аніводнага жыхара Беларусі, які не праслязіўся б па папялішчы Хатыні. І прапагандысцкае, аж да хлусні аб Хатыні, фарысейства ўлады тут ні прычым.

Дык што, грошай, якія марнуюцца на розныя, у асноўным замежныя, семінары, сімпозіумы ды іншыя праявы апазіцый-

най дзейнасці, не хапіла б на тое, каб ладзіць заўсёднае наведванне Курапат жыхарамі розных вёсак і гарадоў Беларусі? Што, гэтых грошай не хапіла б на тое, каб доўжыць даследаванні, выдаваць адпаведныя кнігі і стварыць хаця б невялічкі народны музей?

«Для таго, каб адбылося пакаянне ў грамадстве, — лічыць лідар партыі БНФ Аляксей Янукевіч, — трэба, каб як мінімум ад улады адышлі ідэйныя нашчадкі тых, хто ўдзельнічаў у гэтых палітычных рэпрэсіях...»

Што ж, будзем чакаць ад улады, каб яна здзейсніла нарэшце гэты «мінімум»?

Ці працягнем апеляваць да ўлады ў спадзяванні, што народ паслухмяна вернецца ў Курапаты, калі яна паставіць там абяцаны яшчэ ў мінулым стагоддзі помнік?

Але ў памяці і пакаянні не народ павінен хадзіць за ўладай, а ўлада за народам. Калі, зразумела, яны не страшацца адно аднаго.

Не, у мяне няма адзінага адказу на пытанне, чаму згублены крыжовы шлях у Курапаты.

Але я памятаю.

Я памятаю старую.

Яна стаяла, прытуліўшыся шчакой да сасны, быццам сама была часткай дрэва, якое вырасла на крыві... Сагнутая пад цяжарам гадоў, у замытым халаце і хатніх тапках на босую нагу, яна трымала ў непаслухмяных пальцах тонкую свечку. Ціхае полымя ледзь не дакраналася да вуснаў і было гучнейшым за тысячы гнеўных і справядлівых слоў, што разносіў хрыплы мікрафон па прыціхлым курапацкім лесе.

Яна згасла сёння, тая свечка.

Але вырас у курапацкім лесе, па абодва бакі стромкага, як на Галгофу, шляху, яшчэ адзін лес — лес крыжоў. На некаторых таблічкі з прозвішчамі ды імёнамі, іншыя з цэлымі сем'ямі, як у Хатыні. Дзе-нідзе бачны перакуленыя лампадкі да пагаслыя свечкі...

Сапраўды крыжовы, яшчэ не пройдзены шлях.

## ЭКСГУМАЦЫЯ БОЛЮ

Упершыню я ўбачыў гэта месца на малюнку, што выменяў у палоннага немца за кавалак хлеба і дзве цыбуліны. Добра памятаю, як ён сам паклікаў мяне пальцам, выцягнуў з-пад ірванага шыняля той малюнак і паклацаў счарнелымі зубамі, паказваючы, што хоча есці...

На фанерцы, мо ад нейкай скрыні, быў намаляваны ўзгорак, пад ім рака, скаваная лёдам, драўляны мост, дрэвы, што нахіліліся над ракой, жаночая постаць з каромыслам і двума вядзерцамі... І шмат, вельмі шмат снегу...

Я пазнаў гэтае месца ў верасні 1958-га, калі са здзіўленнем і хваляваннем углядаўся ў XI стагоддзе — на драўляныя мінскія вулачкі, падмурак царквы, рэшткі жытла...

У тое стагоддзе нас, студэнтаў першага курса гістфака, прывёў Эдуард Міхайлавіч Загарульскі, які толькі распачаў раскопкі старажытнага Мінска. Малады, натхнёны... Мы з зайздрасцю глядзелі на яго, уладальніка нейкіх спрадвечных таямніц Часу.

Першай маёй знаходкай быў жалезны шруб, што раптам бліснуў з-пад пяску. Загарульскі пакруціў яго ў руках, сунуў у кішэнь і незадаволена прабурчэў: «Забаўляюцца хлопцы, рабіць няма чаго. Унь, бачыце?» Я падняў вочы. На рыштаваннях будоўлі, што навісла на самым раскопам, парасселіся, бы нейкія пеўні на седалы, будаўнікі і, смеючыся, час ад часу кідалі ў XI стагоддзе здабыткі XX: цвікі, шрубы, гузікі...

Днямі я патэлефанаваў Загарульскаму і спытаў, што ён чуў пра праект аднаўлення мінскага Замчышча. Адказ здзівіў мяне: нічога. «Як нічога?! — усклікнуў я. — Хіба да вас, самага грунтоўнага даследчыка Замчышча, ніхто не звяртаўся?!» Прыйшлося падрабязна распавесці пра тое, як са слоў аўтара праекта архітэктара Сяргея Багласава будзе выглядаць так званы «нацыянальны гісторыка-археалагічны цэнтр “Замчышча”». Праект існуе ўжо трэці год, вакол яго вядуцца нейкія няўцямныя спрэчкі. Калі верыць Багласаву, на месцы таго самага, падобнага да стайні, збудавання і пачнецца вяртанне сучаснаму Мінску ягонага, так бы мовіць, старажытнага пачатку...

Загарульскі ўважліва выслухаў, а потым сказаў: «Забаўляюцца хлопцы... Ніякага замчышча там ужо няма...» — «Адбудуюць...» — «Як гэта — адбудуюць?» — «Ну, там шмат чаго прадугледжана: галерэі, амфітэатр, нават вуліцы, дамы, брама, абарончыя валы, лазеры-шмазеры для нейкага гістарычнага шоу... Нават тое, што вы калісьці раскапалі, зноў адрыюць — і падмурак першай царквы, і частку драўляных вуліц...» — «Падмурак, магчыма, і захаваўся...» — з нейкай скрухай вымавіў Загарульскі.

Я разумею яго. Старажытны Мінск — ягоны пажыццёвы боль, які ўвабраў у сябе і лепшыя гады жыцця, і адчайныя навуковыя спрэчкі, і кнігу «Возникновение Минска», і шкадаванне аб тым, як са згоды акадэмічных калег руйнавалася — ажно да сучаснага магазіна «Алеся» — пад лязом бульдозераў, каўшамі экскаватараў тое, што пакінулі гораду бязлітасныя стагоддзі.

Але людзі яшчэ бязлітаснейшыя — і тыя, што руйнавалі, і тыя, што наважыліся эксгумаваць сцішаны боль.

Чаму ж тых, хто выказвае супраціў усялякаму навабуду ў гістарычным цэнтры Мінска, называюць «плакальшчыкамі», лічаць нейкімі дурнямі, якія толькі замінаюць гораду стаць еўрапейскім, цікавым для замежнікаў і турыстаў? Адна журналістка так і абазвала падобны супраціў «дурасцю страху».

Але сапраўдная дурасць, калі не дзікунства, узнаўляць гістарычную спадчыну дзеля замежнікаў і турыстаў. Замежнікам і турыстам насамрэч цікава тое, як захоўваецца ці рэстаўрыруецца гістарычная спадчына для гараджан. Рэстаўрыруецца, а не будуецца нанова пад выглядам так званай «рэканструкцыі» і ўводзіць у зман фальшывым рэнесансам ці то Нямігі, ці то Траецкага прадмесця, ці то Верхняга горада... Ці то Замчышча, калі тое адбудзецца насамрэч.

Сапраўдная дурасць, калі не дзікунства, адрываць гістарычную памяць ад гістарычнай праўды.

А дзе яна, тая праўда? На дошцы, што вісіць на сцяне таго спартовага збудавання, з рыштаванняў якога кідалася смецце ў XI стагоддзе: «На гэтым месцы у XI ст. узнік горад Мінск (Менеск, Менск) і размяшчалася Мінскае замчышча — помнік

археалогіі XI–XVI стст. Знаходзіцца пад аховай дзяржавы». Такі вось помнік месцу, якое знаходзіцца «пад аховай». Дык калі месца пад аховай, чаму дзяржава мусіць даваць згоду на праекты, якія да «помніка археалогіі» не маюць аніякага дачынення?

У свой час, пра што дбаў і Загарульскі, і іншыя навукоўцы, яшчэ магчыма было стварыць на Замчышчы так званы «музей пад адкрытым небам» накшталт таго, што трохі пазней быў створаны на месцы старажытнага Бярэсця. Існавала і адпаведная тэхналогія доўгатэрміновай кансервацыі дрэва, якую распрацаваў тагачасны рэктар Мінскага тэхналагічнага інстытута Віхроў. Але ж — во дзіва! — нават грошы на археалагічныя даследаванні Загарульскага з'явіліся ў межах праекта, які прадугледжваў на тэрыторыі Замчышча збудаванне не толькі згаданага Дома спорту «Працоўных рэзерваў», але і цэлага спартовага гарадка з адпаведнымі пляцоўкамі і памяшканнямі. На гарадок грошай не хапіла. Адпаведна не хапіла іх і на старажытны горад — толькі на тое, каб ізноў яго закапаць, схаваць пад асфальтам...

Загарульскі лічыць, што на былым мінскім Замчышчы можна правесці сапраўдную рэканструкцыю хаця б часткі таго драўлянага горада, які тут быў, але строга па навуковых планах і з выкарыстаннем досведу па кансервацыі «Бярэсця». І стварыць, хай сабе з новага дрэва, але рэальны музей старажытнага Мінска. «Усе планы захаваліся, нават надрукаваныя, — кажа ён. І сцвярджае: — Пад зямлёй нічога няма, дрэва, глытнуўшы падчас раскопак паветра, спарахнела...»

Што ж, каму шалёныя грошы, а каму сціплая, але ж праўда.

Праўда, якая без гісторыі пра тое, як знішчалася Замчышча, будзе няпоўнай.

Яно вельмі балюча — губляць гістарычную памяць.

Але, калі ўжо так здарылася, я за тое, каб памяццю стаўся і сам боль.

* * *

Малюнак таго палоннага немца, дарэчы, таксама згубіўся. Але гэта ўжо мая прыватная памяць, мой прыватны боль...

# II. ПУЛЬТ АСОБЫ

*«Не ўсё так дрэнна было пры Гітлеры...» Можна працягнуць: «Не ўсё так дрэнна было пры Сталіне... пры Мусаліні... пры Кадафі... пры Пінагэце... пры... пры...» Усе дыктатуры, нягледзячы на так званыя «нацыянальныя асаблівасці», яднае адна галоўная рыса — асоба дыктатара перадусім...*

*«Не ўсё так дрэнна...» Тут — пра ўсё дрэннае.*

## КРОЎ ЛЯЛЬКІ

Адзін з маіх сяброў, раней за мяне паглядзеўшы па тэлевізары, як забівалі Кадафі, вымавіў з нейкай разгубленасцю:

— Ведаеш, мне было яго вельмі шкада...

То праўда — шкада.

На вачах лялька, з якой лісліва-стрымана пацяшаўся свет, ператварылася ў звычайнага чалавека з лямантам ад невыноснага болю і чырвонай крывёю са знявечанага кулямі і здзекамі цела.

Чалавека — шкада...

Цяпер свет робіць высновы з таго, што адбылося ў Лівіі і здарылася менавіта з Кадафі. Уласна кажучы, галоўная выснова адна: рана ці позна дыктатары, у якія б лялькі яны ні гулялі, выкідаюцца на памыйныя ямы гісторыі — ці то гэта лядоўня ў мясным складзе, ці то велічны маўзалей.

Так то яно так, але ў сутнасці сваёй выснова бачыцца памылковай. Бо не знікаюць чэргі ў лялечныя тэатры — незалежна ад таго, якое чакае там відовішча: скокі на касцях ці крывадушная містэрыя жальбы...

З таго, што бачылася з Лівіі амаль што ў прамым эфіры, самае выразнае і самае ўразлівае нават не кроў забітай лялькі, а бясконцыя да яе чэргі — жахлівы доказ таго, якую, так бы мовіць, джамахірыю робіць дыктатура з людзей.

З людзей, якія яшчэ нядаўна раўлі ад захаплення лялькай, пакуль не трапіў у іх рукі яе залаты пісталет...

Можна, безумоўна, спасылацца на арабскі тэмперамент і менталітэт, на жаданне рэвалюцыянераў прыстасавацца да перамогі і ўпэўніцца, што крывавай лялькі больш няма.

Але яна ёсць.

У кожным, хто спяшаецца заняць месца ў падобнай чарзе, хаваецца і выспявае эмбрыён будучай лялькі.

Ці не таму доўжыцца і наша кволая дамарослая джамахірыя, што амаль уся былая краіна прайшла ў свой час праз чаргу да лялькі, якая і сёння захоўваецца ад небыцця?

Я добра памятаю гэту чаргу, якая бясконцым ланцугом цягнулася праз савецкую прастору і час.

Упершыню я патрапіў у чаргу да лялькі, нават да дзвюх лялек, у 1955 годзе. Стаяў і чакаў прычашчэння да таямніцы. Уздоўж чаргі хадзілі нейкія людзі ў чорных паліто, час ад часу, па толькі ім вядомых прычынах, выцягваючы з чаргі таго ці іншага «экскурсанта».

Дзіўна, але ніякага прычашчэння не адбылося. Толькі холад і страх.

Страх ад холаду. Холад ад страху.

...Ніхто не ведае, чым скончыцца так званая «арабская вясна» — новай крывёю, з'яўленнем новых лялек ці канчатковым знікненнем чаргі. І ўвогуле — што нам да арабаў з іх чэргамі?

У адказ на падобнае пытанне прыгадваю даўні, амаль анекдатычны эпізод, які аднойчы распавёў бацька. Было тое ў шпіталі. Суседа па палаце, зусім старога, за 90 гадоў, габрэя, прывезлі пасля аперацыі, паклалі на ложак. Ляжыць, не варушыцца, бацька хвалюецца, ходзіць вакол, прыслухоўваецца — ці дыхае? Нарэшце схіляецца да яго, а той, не расплюшчваючы вачэй, раптам пытае:

— Ви не знаете, игде сейчас Дювалье?

Было такое, увесь свет гадаў, куды знік крывавы гаіцянскі дыктатар...

Сёння свет непараўнальна цяснейшы, час непараўнальна хутчэйшы...

Толькі памяць стала карацейшай.

Памяць пра страх, на якім трымаецца дыктатура лялек.

Памяць пра рэкі чалавечай крыві, якой сілкуецца ці прагне сілкавацца ўсялякая дыктатура лялек.

Але і ў лялек вельмі кароткая памяць. Забываюць яны, што і ў іх жылах таксама цячэ жывая балючая кроў...

## ДРАЗДЫ ПРАЎЛЕННЯ

Чытаю размову з адной шматпісучай і звышпапулярнай у маскоўскіх ліберальных колах журналісткай. Разважаючы аб тым, як Расія пагражае Еўропе, Украіне і Беларусі сваёй энергетычнай зброяй, яна раптам заўважае: «...хаця Беларусь не вельмі шкада...»

Еўропу шкада, Украіну шкада, а Беларусь — не вельмі...

Дурная справа — чакаць ад расійскіх лібералаў шчырага спачування незалежніцкім пакутам Беларусі ды шкадавання аб імперскіх адносінах да яе крамлёўскіх уладароў. Яшчэ дурнейшая — вінаваціць іх у гэтым ды намагацца паразумення. А ўсё ж прыкра, крыўдна — чаму не шкада?..

...«Ведаеце што? — Стась нахіліўся да майго вуха і гарача зашаптаў, — калгас расійцам прадалі, кажуць, за дваццаць мільёнаў... Пачалося...»

Стась — мой добры знаёмы з Камароўскага рынку. Калгас, дзе шафёрыў, кінуў яшчэ гадоў дзесяць таму, завёў невялічкі статак кароў, разам з жонкай пачаў вырабляць уласны сялянскі прадукт і два разы на тыдзень вазіць на Камароўку. Я быў у тым калгасе — руіны... Чаму ж не прадаць? Хоць расійцам, хоць кітайцам, хоць якому іншаму меху з грашыма...

Але Стась аж змяніўся ў твары: «Вы што, яны ж адбяруць у мяне пашу ці такія за яе грошы заломяць... Дзе кароў пасвіць буду?! А вы думаеце, Камароўку пакінуць? Паадчыняюць тут казіно з бардэлямі, панабудуюць гатэляў... Дзе гандляваць буду?! Вось паглядзіце, распрадасць краіну, мо толькі Дразды застануцца... Народ? А што народ? Народу да лямпачкі...» — «Вам жа вось не да лямпачкі...» — «Дык то мне. А народу... Пойдзем, запытаемся ў народа»,— і Стась, падхапіўшы мяне пад руку, павёў праз мітуслівы натоўп...

«Народ» у бялюткім фартуху паверх спраўнай дублёнкі і гэткіх жа бялюткіх нарукаўніках узвышаўся над пірамідамі шклянак з мёдам. Я ўспомніў, як жонка вучыла мяне выбіраць мёд. Глядзі не на мёд, гаварыла яна, а на прадаўца. Калі кроў з малаком, дык і мёд будзе сапраўдны, без цукру...

«Слухай, — незаўважна падміргнуў мне Стась, — вось ты казаў, што табе ўсё роўна, пад кім жыць: ці то пад Расіяй, ці то пад Польшчай...» — «Пад Польшчай не казаў», — адгукнуўся «народ». «Казаў, казаў, — няўмольна настойваў Стась, — а краіны не шкада?» — «Якой краіны?» — не зразумеў «народ». «Тваёй, роднай тваёй краіны!» — пайшоў Стась белымі з чырванню плямамі. «А чаго яе шкадаваць? Жылі ж пад Расіяй, і не блага, лепш за расійцаў. А зараз у асноўным расійцы мёд у мяне купляюць... Багатыя...» — «Ну, а калі рэферэндум правесці, — улез я ў размову, — пад Расію пайсці ці самім гаспадарыць, як адкажаце?» — «Трэба падумаць», — буркнуў «народ»...

Дурная справа — думаць, калі трэба рабіць.

А што? Што рабіць? Можа, тое, што зрабіў на маіх вачах у нейкі брэжнеўскі год знакаміты старшыня знакамітага калгаса «Светлы шлях» Уладзімір Калачык?

«Лазню, гарэлку, абед і бабу!» — уваліўся да Калачыка заезджы чын з маскоўскай цэкоўскай газеты... Увечары Калачык выцягнуў непрытомнага «госця» з-пад ложка, пагрузіў у «газік» і павольнай хуткасцю адправіў светлым шляхам у Маскву...

А мы ўсё думаем, думаем... Усё разважаем ды ўзважваем, што будзем мець, калі так, а што, калі гэтак...

Толькі што можна мець, страціўшы краіну?!

У Калачыка для пачуцця чалавечай годнасці быў галоўны падмурак — напрацаваная ўласным гарбом незалежнасць, падмацаваная, што ні кажы пра калгас, падтрымкай людзей...

А куды падзеўся падмурак у сённяшняга «народа»? Чаму яму «ўсё роўна» і «не шкада»?

Ці не таму, што аднойчы паставіў сябе ў залежнасць ад «галоўнадумаючага», а той, услаўіўшы «чарку і шкварку», прывёў яго да залежнасці ад расійцаў, кітайцаў, катарцаў і гэтак далей?.. «Багатыя...»

Не, не ў тым усё ж справа, як купляюць яны сёння нашыя пашы, нашу «кроў з малаком»... А ў тым справа, як мы іх прадаём.

Не, «мы» — гэта не пра нас. Ён... Дзеля нас, думаеце? Не, дзеля захавання ўласнай улады. Але ці разумее ўладар, што застанецца ўрэшце сам-насам са сваімі знянслаўленымі ў свеце Драздамі, са сваёй тамтэйшай *прэзідэнцыяй*?

Зрэшты, заўсёды, ад самага пачатку свайго ўладарання ён блытаў краіну з Драздамі...

## ЖЭСТАЧАЙШЫЯ

З уласцівай яму сціпласцю Аляксандр Рыгоравіч Лукашэнка абвясціў свету, што да Сталіна яму яшчэ тупаць і тупаць.

Аднойчы я таксама тупаў да Сталіна. Тупаў недзе гадзіны тры.

Гэта была ці не самая доўгая чарга ў свеце. Памятаю, як два чалавекі ў аднолькавых скураных паліто цягнулі з чаргі трэцяга, зусім старога, як па ягоных нагах бездапаможна стукаўся на доўгім раменьчыку фотаапарат «Зоркий»...

1958 год, мне 17.

Сышоўшы ў халоднае падзямелле і павольна прайшоўшы вакол саркафага, я быў проста ўражаны ад той неадпаведнасці аблічча яшчэ нядаўняга ўладара паўсвету з пасмяротнай рэальнасцю. Больш за ўсё мяне ўразілі нізкі лоб і рэдкія бялявыя валасы, з-пад якіх адсвечвала сінюшная скура абяскроўленай галавы. Не выключана, зрэшты, што віной таму гідкаму ўражанню было яркае нерухомае святло ў саркафагу, вакол якога, па задуме творцаў відовішча, павінен быў заставацца густы, такі ж нерухомы змрок...

Сёння мне падаецца, што, калі б Сталіна не выкінулі з маўзалея, у гэтым было б менш сталіншчыны: няхай не адразу, але ўрэшце ўсе ўбачылі б, які нікчэмны, пачварны і нават убогі гэты стары, што наводзіў жах на агромністую краіну і паўсвету. Разам са знішчаным ім настаўнікам яны зжылі б

сябе ў новых пакаленнях, ператварыліся б, як адзін з іх, у дурнаватых жывых лялек на маскоўскіх плошчах.

Але замест цела пакінулі дух.

Па-сталінску спадзяваліся, што «няма чалавека — няма праблемы». Атрымалася, што чалавека няма, а праблема ёсць...

Другім разам я тупаў да Сталіна ў 1961-м, якраз пад 7 лістапада, у Мінску.

Мы, чатыры студэнты-гісторыкі, выйшлі пасля заняткаў у золкую восеньскую ноч. І праз якія сто метраў наткнуліся на свінцова-шэры жаўнерскі ланцуг... «Праходзьце, праходзьце, няма чаго тут затрымлівацца», — прыспешваў афіцэр. І на пытанне, што тут робіцца, нервова-загадліва махнуў рукой у бок ад схаванай за дрэвамі гарадскога сквера плошчы, дзе пульсавалі нейкія сінявата-бэзавыя сполахі...

Праз скразныя пад'езды ды падваротні мы абышлі той шэра-жывы ланцуг і, крадучыся, трапілі ў цёмны двор дома, што фасадам выходзіць на плошчу. Чапляючыся за пякуча-слізкія, зледзянелыя прыступкі пажарнай лесвіцы, узлезлі на дах і амаль паўзком дабраліся да нізенькай агароджы на самым краі. Мы праседзелі там, абняўшыся, усю ноч, калоцячыся ад холаду. Дзіўна, але я не запомніў нейкіх асаблівых падрабязнасцей. Толькі цягачы, мяхі з пяском, тросы, аўтаген, пражэктар... Пад раніцу застаўся пастамент, аздоблены па чырвоным з пражылкамі мармуры беларускім арнаментам. А да сярэдзіны дня месца, дзе стаяў помнік правадыру, было агароджана драўляным плотам. Увесь тыдзень да 7 лістапада даносіліся адтуль глухія выбухі ды раз'юшаны дробат перфаратараў. Знаўцы тлумачылі, што ў помніка вельмі глыбокі і трывалы падмурак...

Сёння мне падаецца, што калі б народ, які яшчэ нядаўна так горка рыдаў, страціўшы свайго куміра, лёг пад цягачы, што валілі бронзавага балвана, у гэтым таксама было б менш сталіншчыны, чым у маўклівай згодзе, з якой ён успрыняў знішчэнне помніка. Каб так адбылося, магчыма было б паверыць у рыданні ад Вялікай Любові.

Насамрэч — ад Вялікага Страху...

Маё пакаленне нараджэння 40–50-х гадоў мінулага стагоддзя, мусіць, апошняе, здольнае беспамылкова пазнаваць у падрабязнасцях і агульнай атмасферы сённяшняга жыцця знаёмыя рысы сталіншчыны. Нават знешнія — праз жэсты.

Увогуле жэсты — ці не самая пазнавальная рыса ў паводзінах «жэстачайшых». Мусіць, каб не пераблытацца ў стагоддзях. Вы памятаеце, напрыклад, жэсты Рузвельта, Мітэрана, нават «жалезнай лэдзі» Тэтчэр? А вось фюрар акрамя нацысцкага «хайль» вельмі любіў паціраць рукі, Ленін — змінаць кепку альбо запіхваць вялікія пальцы за камізэльку, Сталін — трымаць руку за лацканам фрэнча.

Жэст помніка...

Неўміручы жэст!

А за жэстам — праслед ды знішчэнне палітычных працаўнікаў; намаганні здзейсніць татальны кантроль калі не над розумам, дык над паводзінамі цалкам залежных ад начальства грамадзян; перамога загаду над законам; пошук ворагаў унутры краіны і кругавая абарона звонку; падазронасць, помслівасць, нематываваная жорсткасць; сацыяльная дэмагогія і хлусня з усіх крыніц прапаганды...

Дастаткова, да прыкладу, прачытаць у прэзідэнцкай газеце побач з прызнаннем праўды Курапат (адмаўляць яе ўжо немагчыма) пра тое, што «новыя пакаленні палітыкаў ужо не нясуць адказнасці за Курапаты...», пра «ўсялякія спекуляцыі на трагедыі...», пра нейкіх нядобрых людзей, якія «трызняць “дэмакратычным трыбуналам” і мараць пра расправу са “сталіншчынай”, якая ўжо даўно стала гісторыяй», каб разгледзець ва ўсіх гэтых піруэтах крывадушны жэст у бок легкавернага грамадства. Каб яно не перашкаджала тупаць і тупаць...

## КАЛГАСНАЯ ПРАЎДА

Даніла Еўзікаў, мой першы настаўнік у газетнай справе, на пытанне «А што такое шапка?» моўчкі выцягнуў скрыню пісьмовага стала і працягнуў папярэднюю «Сельской газете», дзе я толькі ўладкаваўся, «Колхозную правду». «Вось, глядзі, — ён разгарнуў пажоўклую паперу, — гэта і ёсць “шапка”...» Уверсе,

вялізнымі літарамі праз дзве старонкі, цягнуўся ці то лозунг, ці то заклік: «Лекции — колхозникам, хлеб — государству!»

Еўзікаў быў негаваркім, знешне сумным, але вельмі з'едлівым чалавекам. І сёння, праз паўстагоддзя, я памятаю яго глыбока схаваную ў вачах усмешку...

Не ведаю, ці ёсць у Генадзя Давыдзькі, галоўнага сёння тэленачальніка, пачуццё гумару ў прыватным жыцці. Публічны ягоны твар заўсёды вельмі сур'ёзны. Не дзіва: чалавек глыбока заклапочаны пошукам зруйнаваных духоўных каштоўнасцяў... Усе памятаюць ягоны слізкі першы крок на гэтым шляху — «калгасную», так бы мовіць, «праўду» пад назвай «Жалезам па шкле». Ну, а нядаўняя хлусня пра сувязі Андрэя Саннікава з крымінальнікамі — увогуле вяршыня духоўнасці...

Здавалася б, адшукаў, дасягнуў...

Але ж не, скуголіць.

Вось і ў нядаўнім інтэрв'ю беларускім «Аргументам и фактам» так пазначыў сваю «галоўную думку»: «...чаму раней людзі жылі адпаведна духоўным прынцыпам, па сумленні, а зараз галоўнае грошы, поспех, кар'ера, мамоны? Чаму мы прайгралі духоўную вайну? Трэба шукаць адказы на гэтыя пытанні...»

Не буду спрачацца аб тым, што было раней, што зараз, хто прайграў «духоўную вайну», а хто катастрафічна перамог...

Цікава іншае: дзе Давыдзька шукае згубленую духоўнасць?

Мусіць, у прэзідэнцкай «абойме»? Там што ні «патрон», што ні твар — кожны аж зіхаціць святлом узнёсласці, спажыўшы духоўнай ежы з прэзідэнцкай сталоўкі. Месца, дзе частуюць такім простым, як калгасная праўда, «самагонам», што і «казла Барозу» моўчкі з'ясі, і «яйцамі Сарказі» не папярхнешся...

А можа, шукае Давыдзька духоўнасць у так званым «Клубе галоўных рэдактараў», дзе разам са сваімі газетнымі калегамі шмат пра яе разважае? Слухаеш гэтых волатаў прапагандысцкай думкі — і міжволі губляеш пачуццё часу: ці сапраўды мінула звыш пяцідзесяці гадоў ад той «Колхозной правды»?! Ад той хвіліны, калі я ўпершыню даведаўся, што такое «шапка»?

Вярнуцца да рэчаіснасці можна толькі тады, калі здолееш разглядзець у вачах згаданых волатаў ды іншых дзяржтэлетвараў глыбока захаваную ўсмешку. Юрлівую. У адрозненне ад еўзікаўскай, трохі сумнай...

Хачу падказаць Давыдзьку і ягоным паплечнікам, дзе выступіць з чарговай лекцыяй пра духоўнасць: у даўжэзных чэргах па таннейшае, аж на 2 тысячы, чым у крамах, малако на мінскай Камароўцы. Навошта баязліва ўлазіць у хаты праз тэлевокны? Навошта траціць дзяржаўныя сродкі на марныя пошукі? А ў чэргах якраз збіраюцца людзі, для якіх галоўнае — грошы. Яны падкажуць, дзе згубілася духоўнасць...

...Дарэмна ўсё ж я пакрыўдзіў газету «Колхозная правда», узгадаў недарэчную быццам бы «шапку». Між тым, як ні хаваў мой настаўнік з'едлівую ўсмешку, тая «шапка» ў адрозненне ад сучасных была праўдай без усялякага прапагандысцкага слovаблудства. Больш выразнай дзяржаўна-ідэалагічнай канструкцыі — што паўстагоддзя таму, што сёння — і знайсці цяжка...

А для Давыдзькі ў мяне сюрпрыз — тыднёвай даўніны аб'ява з рэкламнай газеты: «Продам “Колхозную правду” 1951 г. — 3 экз.». Прозвішча, тэлефон...

Раптам купіць.

Каб дакладней ведаць, каму сёння лекцыі, а каму хлеб...

## НАМЕНКЛАТУРНАЕ ПАЛІТО

«Ну, усё, — з усмешкай прамовіла жонка, — ты цяпер наменклатура. Трэба шыць рацінавае паліто»...

Такім нібыта жартам адзначыўся пачатак маёй працы ўласным карэспандэнтам усесаюзнай па тым часе газеты «Труд». І то праўда: усе ўласныя карэспандэнты тагачасных маскоўскіх газет аўтаматычна траплялі ў наменклатуру ЦК КПБ...

Жарт жартам, але жонка ведала, што казала. Па рацінавым паліто ды андатравай шапцы наменклатура пазнавала «свайго».

Але дзе прыдбаць гэты кляты рацін?

Ангельскі рацін захоўваўся чамусьці ў Дзяржынскім КБО, там жа працаваў і кравец, які шыў з яго паліто для наменклатуры...

І вось першы раз у новым паліто едзем з маскоўскім калегам на Палессе праз славуты горад Бабруйск, травім пад чарачку розныя байкі ды анекдоты. Тут якраз і прыгадаўся стары анекдот, як сустракаюцца два бабруйскія габрэі і адзін пытае ў другога, дзе ён шыў такі добры касцюм. «У Парыжы», — адказвае другі. «А ці далёка ён, гэты Парыж?» — «За 3 тысячы кіламетраў». — «Во дзіва! Такая глуш, і так добра шыюць!»...

Парагаталі, а праз колькі хвілін размінаалі ногі ля нейкай крамы. І раптам аднекуль збоку, ледзь перастаўляючы ногі, наблізіўся дзядок і, асцярожна дакрануўшыся да гузіка, спытаў: «І дзе вы шылі такое добрае паліто?» Мы з калегам аж прыселі ад рогату...

Дома жонка перавесіла паліто з вешалкі на плечыкі ў шафу — «так лепш захаваецца...»

...Амаль праз 40 гадоў былы маскоўскі калега, пабываўшы на аўто ў Мінску, з нейкім зайздросным расчараваннем падзяліўся, мабыць, самым моцным сваім уражаннем: «Ды ў вас тут не жыццё, а казка! Вуліцы перакрываюцца дзеля ўсяго аднаго чалавека, а ў нас...» І ён пачаў загінаць пальцы, намагаючыся падлічыць, дзеля каго перакрываюцца вуліцы ў Маскве. А потым запытаўся: «Што, у вас тут зусім няма наменклатуры?»

Я разгубіўся, не ведаючы, што адказаць. Сапраўды, ці ёсць у нас наменклатура? На першы погляд, ёсць, нават зашмат, калі ўявіць сабе ўсю вертыкаль. Але ж якая гэта наменклатура, калі дзеля яе, згодна з маскоўскім разуменнем, не перакрываюцца вуліцы?!

Вось раней, памятаю, адзін правінцыйны партыйны ўладар не тое што вуліцу, а ўсё галоўнае ў райцэнтры скрыжаванне перакрыў. Не спадабалася яму, як даішнік рэгулюе рух, затрымлівае праезд начальніцкай «Волгі». Раз, другі... А на трэці адабраў у рэгуліроўшчыка жазло, сарваў фуражку і, начапіўшы яе на запацелы лоб, узняў жазло ўгору...

Трэба заўважыць, што наступствы былі для яго самыя спрыяльныя: праз выцвярэзнік у прафсаюзы, было такое сховішча ад народа. Але ж з наменклатуры не выпаў. Тагачасная наменклатура сваіх не здавала. У адрозненне ад сусветна пралетарскай, існавала сапраўдная наменклатурная еднасць...

А сёння?

Ну, дзе вы знойдзеце сёння такога адчайнага наменклатурщчыка, які адважыўся б адабраць «жазло» ў галоўнага «рэгуліроўшчыка» краіны?

Нават калі і знойдзеце, хто яго падтрымае?

Кволыя спробы падчас рэферэндуму 1996 года і выбараў 2006 года яскрава паказалі, як раструшчылася былая наменклатурная еднасць. У адрозненне ад Расіі, ад Масквы, дзе, як сцвярджаюць некаторыя даследчыкі, менавіта яна з'явілася падставай для канчатковай і незваротнай перамогі наменклатурна-капіталістычнай рэвалюцыі. Рэвалюцыі, што падзяліла былую і народжаную наменклатуру на некалькі дзяржалігархічных груповак, якія чамусьці завуцца партыямі. Нават тузаюць адна адну ў барацьбе за ўласнасць і ўладу. Можа, і датузаюцца калі-небудзь да «честных выборов»...

Карацей кажучы, «такая глуш», а ўсё ж нешта шыюць...

У нашай жа нацыянальнай, так бы мовіць, наменклатуры, акрамя «цэнтра Еўропы», хутка нічога не застанецца: ні ўласнасці, ні аніякай улады. Нават таго, што скралі — пацiху ці з дазволу «моцнай рукі». Рукі, якая ўсё часцей шые для яе не «паліто», а турэмную робу...

Але спачування няма і наўрад ці будзе. Бо пачуццё ўласнай годнасці ў беларускай наменклатуры ніколі не распаўсюджвалася далей рацінавага паліто («мэрса», «лексуса», катэджа за глухім плотам... — з папраўкай на гістарычны працэс)...

Адно хвалюе: як бы разам з яе ўласнасцю не згубіць краіну.

...А тое паліто, дарэчы, так і правісела на плечыках у шафе больш за 30 гадоў, пакуль цешча не аднесла яго ў камісіёнку.

Ну, не любіў я насіць паліто. Ні рацінавых, ні якіх-небудзь іншых.

## ПУЛЬТ АСОБЫ

Спатрэбілася мне па журналісцкіх справах паразмаўляць з адным фермерам. Цікава было, што ён, самастойны, так бы мовіць, гаспадар, думае пра тое, чаму катастрафічна старэе калгасная вёска.

Спярша, зразумела, пазваніў фермеру. Што праўда, толькі пад вечар — увесь час фермер быў «часова недаступны». Нарэшце ў мабільніку прарэзаўся сіпаты голас: «Што вам трэба?» Праз трэск і піск чулася, як недзе паблізу працуе тэлевізар. Я назваўся, папрасіў прабачэння і пачаў тлумачыць, дзеля чаго турбую і прашу аб сустрэчы. Маўляў, хачу ведаць вашу думку... «А што, ва Украіне нешта залежыць ад маёй думкі?!» І раптам, не паспеў я запярэчыць, што Украіна тут ні прычым, як мабільнік ледзь не выбухнуў: «Усё з-за такіх, як ты, підарасаў!.. Пайшоў ты!..»

Так, падумаў я, такога ў тваім журналісцкім жыцці яшчэ не было. Было, што настаўлялі «пушку». Дык тады справа тычылася крымінальніка, рэцыдывіста, якому, смеху варта, намагаўся дапамагчы ўладкавацца на працу. А тут?! Нават калі п’яны, дык ці не з цвярозай думкі скінуліся на язык тыя праклёны? А якая яна, ягоная цвярозая думка пра Украіну, на які схіляецца бок?.. Ці гэта тэлевізар, так бы мовіць, дастаў?..

Яно, канечне, забыцца б на непрыемны выпадак: ну, нявыхаваны чалавек, бескультурны... Але чамусьці не забываецца. Усё часцей і часцей я ўяўляю сабе, як ён, зрабіўшы ўсе свае штодзённыя фермерскія справы, цяжка валіцца ў крэсла, бярэ пульт і націскае кнопку за кнопкай...

Нібыта на гашэтку.

Так, думаю я, нават калі ён адзін такі нявыхаваны на ўсю краіну, у іншай, нармальнай рэчаіснасці гэты нястрымны выкід агрэсіі быў бы немагчымы. І наадварот: магчымы толькі ў той рэчаіснасці, асяродак якой — вайна, а ўсе мы ў той ці іншай ступені, у тым ці іншым сэнсе яе ўдзельнікі і ахвяры.

Вайны, распачатай яшчэ задоўга да пуцінскай, калі агрэсіўнасць сталася ўсёабдымным сродкам суадносін беларускай улады з грамадствам.

Ёсць відавочныя ахвяры гэтай вайны — збітыя дэпутаты колішняга Вярхоўнага Савета, зніклыя з жыцця папулярныя палітыкі, сотні злупцаваных амапаўскімі дручкамі ўдзельнікаў Плошчы, дзясяткі палітычных вязняў... Нават лукашэнкаўская наменклатура — спрэс відавочная ахвяра гэтай вайны, нягледзячы на катэджы і прывілеі...

Але ёсць і невідавочныя ахвяры — ці не ўсе мы. Бо над усімі і ва ўсіх пануе яўны ці загнаны ў падсвядомасць Вялікі Страх.

Знешне — мітуслівая абыякавасць. Насамрэч — страх.

Сёння да страху пазбавіцца заробку, не дацягнуць да пенсіі, не дайсці да доктара... — да безлічы маленькіх страхаў дадаўся Вялікі Страх рэальнай вайны і канчатковай страты незалежнасці. Што праўда, розны ў розных ягоных носьбітаў.

Страшыцца фермер — згубіць сваю гаспадарку...

Страшыцца нацыянальная апазіцыя — згубіць Айчыну...

Страшыцца імперская Расія, лямантуе: «Згубім Беларусь!»

Страшыцца Лукашэнка — згубіць дзяржаву.

Мо ўпершыню за 20 гадоў страх згубіць уладу стаўся роўным са страхам згубіць дзяржаву. Нават памяняўся месцамі, з чаго і пачаўся нібыта пошук падтрымкі з боку «хороших националистов»...

З таго боку ўжо хто толькі не выказаўся — ад сур'ёзных аналітыкаў да апазіцыйных палітыкаў і публіцыстаў. Сяргей Навумчык нават зрабіў спробу псіхааналізу, што, па шчырасці, асабіста мне падаецца найбольш набліжаным да разумення лукашэнкаўскіх нечаканасцей і супрацьлегласцей накшталт «добрых нацыяналістаў» і «ненавіджу нацыяналізм». Ды іншых, усім добра вядомых...

Але ці сапраўды, як лічыць Пётра Рудкоўскі, адчынена «акно», калі не робіцца а-ні-чо-га практычнага ў накірунку стварэння нацыянальнай і грамадскай еднасці? Па фактах — роўна наадварот: ад утрымання за кратамі палітычных вязняў да расійскіх авіябазаў.

Ці сапраўды нечаканасці, калі нязменнай застаецца створаная ў краіне сістэма кіравання праз своеасаблівы пульт: хачу — націсну кнопку «жэстачайшэ», хачу — «лібералізацыя»... За дваццаць гадоў тых кнопак не пералічыць. Сёння

ліхаманкавае націсканне кнопак на пульце самаўладнага кіравання тлумачыцца, па-мойму, тым самым Вялікім Страхам. Не апазіцыі, не, тут амаль усе «харошыя». Страхам Вялікай Вайны і разяўленай пуцінскай пашчы. Страхам таго, што не ў ягонай магчымасці прадухіляць фатальнае развіццё падзей, няма на ягоным пульце такой кнопкі. Вось і застаецца націскаць на кнопку «страх» — пужаць народ вайной і Майданам.

Між тым менавіта з Вялікага Страху нараджаюцца Вялікія Войны.

...Колькі гадоў таму на сустрэчы з прадстаўнікамі рэгіянальных расійскіх СМІ Аляксандр Рыгоравіч прызнаўся: «У галоўных рэдактараў буйных беларускіх выданняў ёсць прамая кнопка сувязі з прэзідэнтам». Не ведаю, ці скарыстаўся ёю галоўны рэдактар прэзідэнцкай газеты, калі ў сваёй калонцы «Жизнь по уставу» (нумар «СБ» за 2 снежня) пужаў Майданам, тым, які ён «бессэнсоўны, бязлітасны і злы». «Нам... гэта трэба?» — пытаецца Павел Якубовіч, забыўшыся на тое, што Майданы з націскання кнопкі не ўзнікаюць.

І сапраўды, адкуль яму ўзяцца, гэтаму бязлітаснаму Майдану, калі, па Якубовічу, у нашай краіне «...цалкам нармальны жыццёвы лад, які ўяўляе сабой штодзённы беларускі быт»?

Тут ёсць нагода параіць Паўлу Ізотавічу ўдакладніць гэты аптымістычны тэзіс у згаданага фермера.

Нумар тэлефона ў мяне захаваўся.

## ТАПАМІМІКА

1 верасня, калі традыцыйна адзначаўся Дзень ведаў, адбылася цырымонія, наўрад ці заўважная большасцю менчукоў: кіраўніцтва Мінгарвыканкама і гарсавета надавала парку на праспекце Любімава імя Міхаіла Паўлава. Такім чынам згаданае кіраўніцтва ўшанавала памяць аб сваім былым начальніку, які ў 2010 годзе заўчасна памёр.

Не буду аспрэчваць заслугі Міхаіла Паўлава перад горадам, які пры ім, як сцвярджаюць ягоныя паслядоўнікі, «набыў сучасны выгляд еўрапейскай сталіцы». Хай сцвярджаюць.

Мяне цікавіць іншае: якое дычыненне маюць да ініцыятывы Мінгарвыканкама самі менчукі? Яны што, паабівалі там усе прыступкі, патрабуючы ўвекавечыць імя былога граданачальніка? Ці паставілі свае подпісы пад адпаведнымі лістамі, як зрабілі гэта ў адносінах да Васіля Быкава, прапануючы назваць сталічную вуліцу ягоным імем?

Мінску амаль тысяча гадоў. Але хто з безлічы граданачальнікаў ушанаваны хаця б нейкім сціплым чынам? Яны што, нічога дзеля горада не рабілі? Хто з сучасных гараджан хаця б каго-небудзь помніць?

Камуністычная наменклатура ўшчэнт руйнавала гістарычную памяць і намагалася на стагоддзі захаваць памяць аб самой сабе. У Беларусі гэтая наменклатурная традыцыя неўміручая.

Ад самага пачатку камуністычных гадоў усё было прыдатным для «вялікай» справы: вуліцы, плошчы, шахты, заводы, вёскі і гарады. Калі б камуністычнае праўленне, як тое ўяўлялася бальшавікам, насамрэч доўжылася стагоддзі, дык «ад Буга да Курыл» не засталося б аніводнага карэннага імені, магчыма, нават імёнаў народаў і краін.

Нехта, мабыць, лічыць, што няма нічога страшнага ў тым, каб жыць у бязглуздзіцы кшталту горада Дзяржынска, плошчы Калініна, яйкаў імя Надзеі Канстанцінаўны Крупскай, вуліц Свярдлова, Валадарскага, не кажучы ўжо пра вуліцу Бяды. Ці пра вуліцы з прозвішчамі людзей, пра якіх увогуле мала хто ведае. Таго ж Ісідара Любімава... Што ж такога добрага, векапомнага зрабіў для горада гэты расійскі бальшавік, старшыня гарадскога Савета, калі ўлетку 1918-га затрымаўся ў Мінску на пару месяцаў?

Ёсць пэўная, але нейкая вар'яцкая логіка ў тым, што жыхары праспекта, які носіць яго імя, будуць адпачываць у парку імя чарговага наменклатурнага граданачальніка.

Звыкнецца?

Яно і праўда — звыкнецца. Але і на гістарычных крушнях звыкаецца жыць, і ў доме для хворых на розум. І думаць пры гэтым, што і ты нармальны, і ўсё навакольнае жыццё...

Адным з такіх звар'яцелых на бясконцых савецкіх святах быў дзядок, які жыў у невялічкім гарадку на вуліцы Леніна

і які быццам сустракаў правадыра ў красавіку 1917-га на Фінляндскім вакзале. Жыў ён бедна, калі не сказаць пажабрацку, днямі спаў на печы пад бруднымі коўдрамі, калінікалі злазіў адтуль і, збіраючыся пад ненавіснымі поглядамі сваякоў на чарговы піянерскі збор, апранаўся ў завешаны бліскучымі значкамі фрэнч з цёмна-зялёнай дыяганалі. Казалі, што падчас рэпрэсій ён застаўся жыць толькі таму, што сам нястомна даносіў. У рэшце рэшт яго так зацягалі па піянерах і па старонках газет, што, калі паміраў, прасіў пахаваць яго каля Крамлёўскай сцяны, а гарадок, дзе жыў, назваць ягоным імем. Так і напісаў у сваім тастаменце: пахаваць... назваць... Нехта з райкама партыі, каб хоць неяк выканаць апошнюю волю нябожчыка, прапанаваў пабудаваць у гарадку нешта падобнае да той самай сцяны...

Але ці не з могілак ля Крамлёўскай сцяны пачалася тая псіхічная хвароба?!

На мой погляд, ёсць нешта брыдотнае, зняважлівае да людзей у тым, каб называць вуліцы і г. д. імёнамі дзяржаўных дзеячаў, палітыкаў, вайсковых і цывільных начальнікаў, іншых розных асоб — хоць тройчы вядомых. За вельмі рэдкім, безумоўна, выключэннем, калі на імені стаіць бясспрэчны знак гістарычнай якасці для той ці іншай мясцовасці ці краіны. Помнікі, музеі — іншая справа, тут кожны можа самастойна вырашыць, шанаваць ці не шанаваць тое ці іншае імя. А вось жыць з імем, якое навязана табе чыймсьці там густам ці палітычнай старонасцю, няўтульна, а то і немагчыма...

Такім чынам, тое, што завецца тапанімікай, тым, чым у розных мясцінах Зямлі пазначаюць сваю непаўторнасць у часе і прасторы нармальныя людзі, у нашых палясцінах застаецца *тапамімікай*, нейкай палітычнай грымасай, скажэннем, а то і адмаўленнем здаровага сэнсу...

Сам я, дзякуй Богу, жыву на вуліцы Берасцянскай. Кажуць, што яна займела гэтую назву ў памяць пра птушку берасцянку, што спявала тут некалі, а потым зляцела...

## ФАЛЬШЫЗАЦЫЯ КРАІНЫ

Свой першы ў жыцці высакародны ўчынак я здзейсніў гадоў васьмі ад нараджэння, па дарозе ў школу, у трэці клас. Набліжаўся прыём у піянеры, мяне проста распірала ад жадання здзейсніць высакародны ўчынак.

І вось пашанцавала: я ўбачыў сляпога. Імжэў халодны лістападаўскі дождж, сляпы напружана рухаўся па вузкім тратуары Нямігі, пастукваючы палачкай па баках. Я дагнаў яго: «Давайце я вас правяду...» — «Дзякуй, хлопчык, не трэба...»

Я ўсё ж учапіўся ў вільготнае рукаво ягонага чорнага, не па памеры вялікага паліто...

З нецярплівасцю я дачакаўся пачатку ўрока і, ускочыўшы з-за парты, закрычаў: «Фрума Ізральеўна! Фрума Ізральеўна! Я дапамог сляпому!» — «Малайчына, — ухваліла Фрума Ізральеўна. І паморшчылася: — Толькі навошта пра тое крычаць?!»

Не, наўрад ці я здолею выразна патлумачыць, чаму ўвесь урок я прасядзеў з тварам, залітым чырванню, і чаму сёння ўзгадаў той эпізод. Але хто ведае, па якіх лабірынтах блукае наша памяць, які след пакідаюць у ёй нават дробныя, на першы погляд, выпадкі і простыя словы...

Ці ўспомніць калі-небудзь чарнявы хлопчык з дзіцячага санаторыя з ласкавай назвай «Пралеска», як нібыта гуляў з сябрам у шашкі і нібыта не ведаў, які зрабіць ход, а тут з'явіўся сам прэзідэнт і замест хлопчыка — раз... два... і ў дамкі?

Бяспройгрышны ход!

Бяспройгрышны ход — раз на год адорваць хворых ды кінутых бацькамі дзяцей падарункамі.

Замілаваныя тэлегледачы, удзячныя дзеткі, угодлівыя міністры: «Правільна, Аляксандр Рыгоравіч, усё правільна гаворыце...»

Насамрэч усё фальшыва наскрозь.

За гады прэзідэнцкай улады мы настолькі прызвычаіліся да фальшывасці абяцанняў, тлумачэнняў, выбачэнняў, увогуле палітыкі, што абыякавасць сталася ці не адзінай рысай у адносінах да жыцця, нават уласнага. Пра грамадскае жыццё і ка-

заць няма чаго. Замест яго — «Правільна гаворыце, Аляксандр Рыгоравіч...» Які там «Стоп-падатак»?! «Панакуплялі “мерседэсаў” па 100 тысяч даляраў, а 70 даляраў шкадуюць», — правільна гаворыце, Аляксандр Рыгоравіч... І пра айчынную медыцыну правільна гаворыце — «конь не валяўся...»

З чаго ж яна пачалася, гэта фальшывая «правільнасць»? Шмат што прыгадваецца, але найважнейшае сярод іншага — адказ на апошняе пытанне сумнавядомага рэферэндума-96: «Ці згодны вы, што фінансаванне ўсіх галінаў улады павінна ажыццяўляцца галосна і толькі з дзяржаўнага бюджэту?»

«Не, не згодны», — адказала пераважная большасць... Мо вырашыла, што з бюджэту толькі дактары ды настаўнікі жыць будуць, а «галіны ўлады» знойдуць, з чаго пракармíцца. Яно так, знайшлі. Акрамя бюджэту. Але навошта нам тая галоснасць?

Вось і пытайцеся сёння, скуль бяруцца грошы на прэзідэнцкія падарункі і падарункі ад прэзідэнцкіх дзяцей.

Зрэшты, можна здагадацца адкуль — з эканоміі на прыбіральніках Палаца незалежнасці. Унь які, усім палацам палац! «А ведаеш, колькі там прыбіральнікаў? — з павучальным гонарам пытаецца прэзідэнт ці то ў міністра, ці то ў губернатара. — Усяго пяць!»

Колькі эканомяць на прыбіральніках прэзідэнцкія сыны, нават не ўявіць...

Не, я зусім не супраць, каб прэзідэнт адорваў дзяцей падарункамі з уласных заробкаў. А калі не з уласных, дык дзеткі павінны ведаць, што падарункі ім дорыць не прэзідэнт, а беларускі народ.

Але ў любым выпадку — навошта пра тое крычаць?

За гэтым крыкам не чуваць саміх дзяцей — нямых статыстаў у тэлеспектаклі пад назвай «Прэзідэнт і дзеткі».

Я не ведаю, якія падарункі прывёз прэзідэнт. Але добра ведаю, чаго насамрэч хочуць бедныя беларускія дзеці. Дастаткова высунуць шуфлядку з пісьмовага стала і перачытаць стос лістоў, з якімі яны звярталіся да Дзеда Мароза. Лісты, якія я захоўваю з часоў працы ў беларускім выданні газеты «Труд», выкінуць іх няма сілы...

Гэта асобная гісторыя, мо калі-небудзь я распавяду пра яе падрабязна. Нагадаю толькі, што ніхто — ні бізнесоўцы, ні чыноўнікі, ні нават айцец Фёдар Поўны з ягоным Домам міласэрнасці не адгукнуліся на просьбу газеты задаволіць веру дзяцей у цуд. І які ж той цуд? Алоўкі, каб малюваць; гітара, каб граць; мабільнік для сястрычкі, бо тая прыкавана да ложка; рубероід для бацькі-інваліда, бо няма грошай пакрыць дах... З таго, што здолела тады падарыць сама рэдакцыя, я памятаю толькі нейкую прыладу, без якой немагчыма было зрабіць аперацыю глухой дзяўчынцы...

Якая ж прылада патрэбна, каб пачуць хлопчыка Колю сямі гадоў, што піша пра сястрычак Волю, Пелагею, Марыю, Еўфрасінню, Апалінарыю, кабылку Ластаўку, казу Ладу, тату, які «п'е і з намі не жыве», і маму, якая «ўмее рабіць усё»?!

«Дзядуля Мароз, — піша хлопчык Коля, — нам вельмі хочацца мець вялікі дом, каб і мы, і конь, і каза былі ўсе разам. І каб у нас былі яшчэ брацік і сястрычка...»

Зрэшты, такі дом ёсць. У Мінску, на праспекце Пераможцаў. Той самы Палац. Мо падарыць яго хлопчыку Колю з ягонымі сястрычкамі, мамай, Ладай і Ластаўкай? Вось была б эканомія на прыбіральніках!

Бо прыбіраліся б самі.

...А мая першая настаўніца па-геройску змагалася з фашыстамі, у яе было шмат баявых медалёў і ордэн. Але я даведаўся пра тое толькі праз шэсцьдзясят гадоў, калі выпадкова пазнаёміўся з яе сынам...

# III. ПРАЗ МЕЖЫ ЧАСУ

*Людзі сталага веку па-рознаму ўглядаюцца ў мінулае, тым больш на мяжы стагоддзяў. Адны — нібыта праз падзорную трубу выхопліваюць з яго тыя ці іншыя дэталі ды эпізоды. Перад вачыма тых, хто глядзіць у мінулае нібыта праз бінокль, узнікае шырокая панарама адышоўшых у гісторыю падзей. Але ёсць яшчэ ўнутраны зрок. Зрок, праз каторы мінулае ажывае, уплятаецца ў сучаснае жыццё, дапамагае лепш зразумець яго і нават зазірнуць у будучае...*

## БАЦЬКОЎСКАЯ ЛОДКА

Прачытаў артыкул Віктара Марціновіча «Беларусь удалася». Адной з наяўных прыкметаў гэтай гістарычнай удачы папулярны аўтар лічыць бігборд на трасе, што вядзе з Мінска ў Заслаўе, які рэкламуе агратурызм. «На бігбордзе, — піша Віктар Марціновіч, — выяўленыя лодка і возера...»

Я не бачыў гэтую натхняльную выяву. Але ўпэўнены, што лодка на ёй з тых прыгажунь, што імкліва рэжуць быстрыню і лёгка гойдаюцца на хвалях. Але на плыткіх. Бо стромкая хваля перакульвае такую лодку ўмомант. Што праўда, яе зусім не цяжка выцягнуць на бераг ці спіхнуць з берага ў ваду...

Лодку, што належыць бацьку Чэсіка і Мечыка, аднаму спіхнуць у ваду немагчыма. Змайстраваная з тоўстых, глыбока прасмоленых дашок, яна на палову сваёй даўжыні ўчэпіста трымаецца за вільготны пясок, на які, ціха хлюпаючы, разпораз набягае хваля. Але нават хваля, нават вялікая не гойдае лодку, толькі бездапаможна б'ецца ў карму. Не дзіва, бо пласкадонка прызначана для руплівай рыбацкай працы, не для прагулянак. Іншых у нарачанскіх рыбакоў няма. Праўда, бацька братоў не рыбак, начальнік над станцыяй «Купа» — канцавой ці першай, як адкуль лічыць, на вузкакалейцы, што праз лясы ды паўз азёры вядзе аж да Лынтупаў...

Якая асалода — ухапіцца за медныя, нашараваныя да сонечнага бляску, парэнчы, падняцца ў адзін з двух вагончыкаў, уціснуцца паміж вяскоўцамі, што пазбіраліся ехаць па розных справах, і нецярпліва чакаць, калі пачуецца кароткі вясёлы гудок і, чмыхаючы парай, паравоз пачне круціць па рэйках чырвона-чорныя колы! Праз нейкі час, калі лес па абодва бакі зусім схавае свае змрочныя таямніцы, машыніст па дамоўленасці прыпыняе цягнічок. А надвячоркам, калі мы са старэйшай сястрой, пляменнікам і з поўнымі кошыкамі суніцаў, чарніцаў, бліжэй да верасня — дурніцаў ды баравікоў, стомлена тупаем па шпалах, ззаду ўжо чуваць, як напружана звіняць рэйкі і добразычліва пыхкае «зязюлька-паравоз».

«Здравствуй, моя Купа, Купа дорогая! Звонкая кукушка-паровоз...» Гэта Аркадзь Куляшоў жартуе. Чамусьці па-руску. На матыў «Муркі» чамусьці...

Замест Купы сёння «курортны пасёлак Нарач», замест «зязюлькі-паравоза» — нейкая размаляваная падробка, што чадзіць смуродам па асфальце, замест вузкакалейкі — зарослы быллём колішні насып, замест вяскоўцаў — спрэс «муркі». Калі з пэўнай доляй умоўнасці лічыць «муркамі» багаценькіх расейцаў, што за бесцань скупляюць па ўсёй Нарачы і наўкол вясковую нерухомасць...

Але дзе ж сёння Чэсік і Мечык? Толькі ў памяці.

Чэсік старэйшы, Мечык малодшы. Абодва чарнявыя, хударлявыя, нервовыя ў рухах. Абодва ад пачатку знаёмства ставяцца да мяне варожа, бы да чужынца. Мо і сапраўды гарадскі хлопчык успрымаецца як чужынец? Засталіся ў Мінску Воўка, Віцька, Генка... А тут Янэк, Стасік, Тадзік, Валюсь... З усімі пасябравалі ці не адразу. А з Чэсікам і Мечыкам аніякага сяброўства. Толькі нейкі пагрозлівы погляд спадылба. Погляд, які, імаверна, нараджаецца ад заўжды панурага бацькі.

Гэта сёння я разумею, што за той панурасцю хаваўся невядомы мне цяжкі лёс. Мо нават такі, у якім былі вінаватыя ўсе гэтыя людзі, што панаехалі з Мінска. Ну, не менавіта гэтыя, але адтуль...

Разумець гэта ў мае 12 гадоў не выпадае. І няёмка, крыўдна і нават страшна, калі на маё ныццё даць лодку «пакатац-

ца» Чэсікаў і Мечыкаў бацька адказвае не проста адмовай, а нейкай грэблівай забаронай звяртацца да яго па лодку калі-небудзь яшчэ...

Я не ведаю, чаму браты раптам дагналі мяне.

«Слухай, бацька хутка з'едзе ў Лынтупы. Хадзем з намі на касу, "на дарожку", на шчупака? Будзеш веславаць...»

На касу! Веславаць! Веславаць я ўжо ўмеў.

...Праз гадзіну, азіраючыся, адчаплялі лодку ад ланцуга, напята сцягвалі ў ваду — пясок скроб па дне... Лёгкі штуршок, і вось ужо лодка ўпэўнена слізгоча па ціхай вадзе да «сіняга» — так купаўцы пазначаюць мяжу, за якой пачынаецца празрыстая, аж да дна, глыбіня. Вяслуецца лёгка, з уздымам, хаця цяжкія вёслы нехлямяжа боўтаюцца ў расхістаных качотах. Вёрткія Чэсікавы і Мечыкавы блешні, самаробкі з бліскучай, абцяжаранай волавам, бляшанкі, круцяцца далёка за лодкай, спакушаючы неабачлівага шчупака.

Але да шчупака справа не даходзіць.

Справа даходзіць да чорнай, падпаленай па краях знікаючым сонцам, хмары. Праз якую хвіліну хмара ўжо на ўсё неба, і яно абрынаецца такой залевай, што знікаюць берагі, знікае каса, да якой амаль даплылі, знікае Чэсік на карме, нават Мечык, што сядзіць бліжэй да мяне, амаль знікае з вачэй... Мяне ахоплівае нейкая невытлумачальная адважнасць, я нават не ўсведамляю, што хутка патонем. Бо што з таго, што Мечык пачынае ліхаманкава вычэрпваць ваду каўшом, Чэсік — склаўшы далоні, а я вяслую што ёсць падлеткавай моцы ў нікуды, паставіўшы лодку кармой да стромкай, звыш за метр, напэўна, ці нават больш, хвалі?!

І мы патанулі. Лодка паціху сышла пад ваду. Выпрасталіся. Мечыку — па грудзі...

Рагочам, абдымаемся, пырскаемся вадой, хаця мокрыя ўшчэнт. І не зважаем на тое, што возера раптам сцішылася, хмара расхінулася, пусціла сонечны прамень, што асвяціў хаты на беразе. Так, Чараўкі. Дзе каса, а дзе Чараўкі! Праз усё возера ратавалі нас бацькоўская лодка і нарачанская хваля.

З таго часу не пакідае мяне пачуццё, што было народжана ва ўлонні Нарачы, — быццам сам у ім нарадзіўся.

...«Беларусь удалася», — сцвярджае Віктар Марціновіч. Так, удалася. На бігбордах.

Але ці ж Беларусь?!

## АДНОЙЧЫ Ў ВІЛЬНІ

Пачалася гэта дурная гісторыя з таго, што мой пляменнік Генадзь прывёз мне з Поўначы, дзе падзарабляў мастакомафарміцелем, шкуру аленя, а для жонкі — мяккія, упрыгожаныя арнаментам, утульныя скураныя чуні. Магчыма, іх трэба было называць макасінамі, але макасінамі тады называлі чамусьці вастраносыя мужчынскія чаравікі, таму чуні і чуні.

Гэта, безумоўна, быў бы шыкоўны падарунак па тым часе, каб не слёзы з пачырванелых вачэй дачушкі, апухлы нос і надрыўны кашаль — ужо праз паўгадзіны поўсць лётала па ўсёй аднапакаёўцы. Што рабіць?

Ужо і не памятаю, каму першаму, мне ці жонцы, прыйшла ў галаву думка паехаць у Вільню на таўкучку.

Трэба сказаць, што ў Вільні, як і наогул у Літве, мы бывалі неаднаразова, але па зусім іншых, не такіх, умоўна кажучы, нізкіх матывах. Чурлёніс... Вострая брама... Сярэднявечча... чорная кава з маленькіх кубачкаў у кавярні, што месціліся ў адноўленых сутарэннях, не тое, што са шклянак у мінскім *кафэ* «Вясна», ды яшчэ з малаком...

Да таго ж ні я, ні жонка ніколі нічога не прадавалі. Але ж не выкідаць такі шыкоўны і такі недарэчны падарунак!

Я патэлефанаваў Віцю: «Ты калі-небудзь прадаваў на таўкучцы шкуру паўночнага аленя?» Мне здавалася, што хто-хто, але Віця з ягоным дзетдомаўскім і ўвогуле цяжкім жыццёвым вопытам...

Карацей кажучы, на наступны дзень мы ўжо імчэлі на бацькавым «масквічыку» па сухім, выбеленым першымі лістападаўскімі маразамі, асфальце...

Днямі я натрапіў у інтэрнэце на паведамленне аб экскурсіях па старым віленскім тракце... Сапраўды, мала хто помніць гэты стары шлях, роўна 205 кіламетраў. Калі праклалі новую шашу, скарацілі на 30 кіламетраў і адпаведна хвілін на 15 хут-

кай язды. Зручна, але нудна, пустэльна... Люблю стары віленскі шлях, хаця ўжо і не памятаю, калі ездзіў па ім апошні раз. Ці стаіць яшчэ за Красным валун са шчымлівымі купалаўскімі радкамі: «Мінск, Маладзечна, Вільня... Як жа знаёмы шлях гэты! Змерыў яго я калісьці, як шукаў шчасця па светах»?..

...Даімчэлі да Смаргоні і вырашылі заначаваць. Ведалі, што ў Вільні патрапіць у гатэль амаль немагчыма, а на таўкучцы лепш апынуцца зранку.

Зранку цяжка было не тое што ехаць, але нават дайсці да машыны — вільготны снег, што падаў усю ноч, ад раніцы быў укатаны ў суцэльную галалёдзіцу. Што праўда, ад літоўскай мяжы шаша ўжо была пасыпана пяском. Але ўсё ж ехалі мы ад Смаргоні гадзіны тры. Пра зімнюю гуму на той час ніхто і не ведаў. Хіба толькі пра ланцугі...

Віленская таўкучка, адзіная мо на ўвесь захад СССР, месцілася побач са звычайным рынкам па вуліцы Дзяржынскага, каго ж яшчэ. Што гэта — віленская таўкучка? Я думаў, што гэта вынаходніцтва пасляваенных савецкіх гадоў. Але не, у слоўніку 1928 года ёсць «толкучка», па-беларуску — ці чулі вы? — тандэт...

Дык што гэта — віленскі *тандэт* пачатку 70-х? Гэта гразь і неймаверны натоўп, што гэтую гразь месіць. А снег усё сыпле і сыпле. А гразі ўсё больш і больш...

Я пайшоў уздоўж шэрагу гандляроў, што прадавалі (без прылаўкаў, з зямлі) аўтазапчасткі, большасць якіх здабывалася тут жа з аўто, што прыехалі на таўкучку. На *тандэт*. А Віця адшукаў месца ў натоўпе, разгарнуў шкуру, падвесіў яе на адну руку, а на другую — чуні. Ці макасіны...

На дзіва, усё прадалося даволі хутка, нават заставаўся час, каб прасадзіць набытыя 80 рублёў у славутай «Нерынзе». Ого, 80 рублёў! Інжынер зарабляў 120...

Але «Нерынга» аказалася не для мяне — правае задняе кола, як зараз памятаю, было наскрозь прабітае тоўстым шклом. І пакуль я шукаў, дзе завулканізаваць кола, пакуль угаворваў у таксапарку нейкага дробнага начальніка, а Віця і жонка прасаджвалі ў «Нерынзе» нечаканы здабытак, на Вільню сышла апраметная цемра...

Пачалі шукаць гатэль, каб пераначаваць, ды дзе там!.. І тут я ўспомніў пра Леанарда.

Са сваім братам Леанардам мяне пазнаёміў Жэня, калі мы ездзілі з ім у піўны рэстаран, таксама першы ў СССР. Былы палкоўнік Леанард узначальваў усю экскурсійна-турыстычную гаспадарку Вільні.

Даведка дала нумар, я нагадаў Леанарду пра наша знаёмства, распавёў пра віленскія прыгоды і папрасіў дапамагчы з гатэлем. «Навошта? — пачулася ў слухаўцы. — У мяне вялікая кватэра...»

Праз гадзіну пошукаў мы апынуліся ў новым мікрараёне на ўскрайку Вільні, ля доўгага дома, за якім пачынаўся лес і ўгадвалася рака... Адчыніліся дзверы. На парозе стаяў Жэня. Толькі вельмі стары...

Хвіліны ўзаемных тлумачэнняў, хто чаго недачуў і хто каго з кім паблытаў, і вось ужо мы смокчам нейкі салодкі лікёр і ямо смачны літоўскі сыр. Адно ведаў я пра Даменіка, бацьку Жэні, — стары бальшавік, штурмаваў Зімні... Але ён больш маўчыць, а Ядвіга, ягоная жонка і мачыха сябра, з усмешкай слухае нашу балбатню пра прыгоды, зрэдку кідаючы на нас, незнаёмцаў, насцярожаны позірк...

Сярод ночы мяне распіхаў Віця: «Тваю машыну раздзяваюць!» Якую маю? Бацькаву! Я кінуўся да акна. Вакол аўто, пад ліхтаром, што ў адзіноце асвятляў маўклівую завіруху, завіхалася цёмная постаць...

Пакуль нацягвалі боты, пакуль адчынялі безліч замкоў, засавак і ланцужкоў, толькі і паспелі крыкнуць наўздагон: «Кінь, што ўзяў!» Не кінуў. Ды і што ўзяў! Так, дробязь — дадатковы паваротнік з крыла, толькі што выдраў з мясам. Але дзе шукаць? Праз тыдзень зноў на таўкучку? «Слухай, — кажа Віця, — а давай у машыне даспім...» — «Змерзнем». — «А коўдры навошта? Хадзем па коўдры...»

Спачатку пачуўся нейкі грукат, і ў калідор, кульгаючы на драўляным пратэзе, уварвалася мачыха Жэні, чамусьці са свечкай. Дасюль чую той немы лямант з націскам на другім складзе: «Жулікі!» А што б вы падумалі, убачыўшы незнаёмцаў з вашымі пярынамі ды падушкамі?

Во смеху было...

Паснедалі кавай з літоўскім сырам і паехалі дадому. Ехалі восем гадзін па суцэльным лёдзе.

Але што тыя восем гадзін і што той суцэльны лёд, калі адлегласць да іх вымяраецца ўжо нават не гадамі, а стагоддзем?!

...Так, ледзь не забыўся дадаць, што Жэня ў якасці Яўгена Будзінаса напісаў шмат нарысаў, некалькі аповесцяў, стварыў Дудуткі і заўчасна памёр.

Віця стаўся адным з найлепшых беларускіх пісьменнікаў Віктарам Казько.

Ну, а мне застаўся гэты ўспамін.

А вы ўсё «Акропаліс», «Акропаліс»...

## КАРУНКІ З НАЧОСАМ

Нібыта лёгкі землятрус страсянуў Савец... прабачце, Мытны саюз — забарона на карункавыя трусы.

Землятрус выклікаў хвалю пратэстаў — пад сцягам барацьбы за жаночую прыгажосць. Казахстанскія дзеўкі нават начапілі трусы на галовы. Там, праўда, усё сышлося ў адно — трусы, дэвальвацыя і дыктатура...

Ведалі б забаронцы і абаронцы жаночай прыгажосці, якая з дасягнутых імі вышынь духу адкрываецца гістарычная далячынь! Хай сабе не далей за 1944 год. Але ж і гэта не мала. Бо паспеў пражыць тры гады, вярнуцца з эвакуацыі ў Мінск і трапіць з цёткай Надзеяй у жаночую лазню...

І што ж бачыцца сёння ў той далечыні?

Бачацца нейкія рэйкі, цяплушка, што па тых рэйках грукоча да паўразваленага дома на Маскоўскай, бамбёжка і страшэнны восеньскі ўраган.

Бамбёжка, на дзіва, мяне зусім не палохала. Мо таму, што ўражвала прыгажосцю начнога неба, па якім соўгаліся промні пражэктараў, асвятляючы лёгкія карункавыя — так, менавіта карункавыя! — аблокі... Дый ці была яна, тая бамбёжка? Я ўдакладняў у цёткі Надзеі, калі ёй было пад сто гадоў. Так, пацвердзіла яна, была... Але недзе за горадам, да горада не даляцелі...

А вось ураган ахапіў усю маю дзіцячую істоту неймаверным жахам. Ён так раз'юшана грукатаў жалезам па спехам залапленым даху, свістаў па таямнічых завуголлях, хістаў за акном дрэвы, з ляпаннем кідаўся ў шкло пажоўклым лістападаўскім лісцем, нават у пакоі хістаў цемру разам з цьмяным агеньчыкам газоўкі. Цётка Надзея туліла мяне да сябе, а потым пачала апранаць, каб ісці ў нейкую лазню. І вось тут ужо я напалохаўся да енку. Бо лазня, па-руску баня, адразу ўявілася жытлом жахлівага Бабая, што няўмольна сочыць за маімі паводзінамі...

Лазня месцілася праз вуліцу, яна і зараз там, схавалася за гмахамі пазнейшых будынкаў. Я ўпіраўся, нават біўся, калі цётка Надзея падхапіла мяне на рукі... Да таго часу яна заўжды купала мяне ў тазіку. Ставіла ў закутку пакойчыка, дзе мы з ёй жылі, палівала з глечыка цёплай вадой... А тут ураган, цемра, нейкая лазня, Бабай...

Страх сцішыўся адразу, як толькі скрозь гарачую вільгаць я ўбачыў мноства аголеных жаночых целаў. Сёння я разумею, што мо ўпершыню ў жыцці да маёй дзіцячай душы дакранулася *сапраўдная* прыгажосць.

Так, я ведаў, што ў мяне прыгожая мама, вельмі прыгожая, асабліва калі цалуе на ноч; ведаў, што прыгожы тата — на здымках, якія ён дасылаў з вайны, бо ягонай калючай шчакі яшчэ трэ было дачакацца; у рэшце рэшт, бачыў прыгожае, у промнях пражэктараў, неба... Пра цётку Надзею нават не думаў, што яна прыгожая. Жылі ў адным пакойчыку, яна ніколі не саромелася распранацца пры мне... Але якая тут прыгажосць? Звычайная з'ява...

А вось тут, у лазні, мяне ахапіла зусім незвычайнае, незнаёмае пачуццё. Сорам? Мо і сорам. Хаця чаго магло саромецца трохгадовае хлапчанё? Пачуццё жаночай прыгажосці? Таксама не вельмі дакладна. Бо як магло трохгадовае хлапчанё адрозніваць жаночыя целы па прыкметах знешняй прыгажосці? Адно што па прыкмеце ўласнага адрознення. Але што магло разумець у тым адрозненні трохгадовае хлапчанё?

...Цётка Надзея пайшла па ваду. «Паглядзіце за ім, каб не слізгануўся». — «Не хвалюйцеся, — жанчына, што мылася по-

бач, ласкава пагладзіла мяне па галоўцы, — табе падабаецца мыцца?» І з нейкай таямнічасцю ціхенька засмяялася...

Я не ведаю, чаму запомніў тую жанчыну на ўсё жыццё. Мо таму, што праз яе ціхую пяшчотнасць у маёй няўцямлівай дзіцячай падсвядомасці ўпершыню нарадзілася адчуванне таго, што сапраўдная прыгажосць заўжды таямнічая...

Як прыгажосць Моны Лізы.

...Але прабачце, забыўся на забарону карункавых трусоў — найвялікшага на былой савецкай прасторы дасягнення дэмакратыі, яе, так бы мовіць, сцяга. А тут такі замах на святыню, на жаночую прыгажосць, што насамрэч сталася сімвалам часу!

То бок сімвалам спалучэння сумнеўнага бізнесу і палітыкі — ад конкурсаў прыгажосці да Femen...

Дарэчы, пра Femen: іх акцыі былі б куды круцейшымі, каб яны намагаліся ратаваць свет не аголенымі грудзьмі, а выродлівымі, ад савецкага часу, рэйтузамі з начосам. Ды й пратэст іх казахстанскіх паслядоўніц быў бы больш выразным, калі б начапілі на галовы тыя ж самыя рэйтузы. А так што? Адрыжка савецкага дэфіцыту...

Нехта вырашыць, што жартую. Які жарт? Дагэтуль памятаю, як скаланулася напачатку 60-х грамадства, калі вялікі сябра СССР Іў Мантан зладзіў у Парыжы выставу савецкай жаночай бялізны. А міністр лёгкай прамысловасці СССР Тарасаў? Сам чуў, як ён адказаў на пытанне калегі-журналісткі пра калготкі: «Савецкім жанчынам, — глыбакадумна прамовіў былы футбаліст, — калготкі не патрэбны». Не паверыце, гэта быў пачатак 80-х...

У пэўным сэнсе выродлівасць савецкай бялізны і адсутнасць калготак даканалі СССР. Так што абаронцам карункавых трусоў ёсць на што спадзявацца ў барацьбе з дыктатурамі. Вось толькі каб памяталі, як рэйтузы з начосам ратавалі іх бабуль на лесапавалах, у халодных бараках, на скразняках заводскіх цэхаў, на калгасных палях і на ўкладцы чыгуначных шпалаў... Вядома, прыгажэй было б, каб тыя трусы з начосам аздабляліся карункамі...

Дык дзе ж яна, сапраўдная прыгажосць?

Гляджу на Мону Лізу, і думаю: чаму не ўзнікае пытанне, якія на ёй трусы?..

**АСЕЧКА,**
**альбо НОЧ НА 23 ЛІСТАПАДА**

...Ужо і не памятаю, які то быў дзень, калі, скончыўшы заняткі, я вырашыў наведаць сябра, што працаваў настаўнікам у мястэчку О. Не даваў спакою нечаканы званок ад Соні, яго-най сяброўкі, таксама настаўніцы. «Прыедзь, — у дрыготкім голасе чулася занепакоенасць, — з Арнольдам нешта не тое...»

Ехаць не выпадала — ні траскага аўтобуса, ні так званага грузавога таксі на той час ужо не было. Пайшоў пешшу. Што для маладых ног сем кіламетраў па цвёрдым, трошкі прыхопленым лістападаўскім марозікам прасёлку? Але йшоў аж да ночы, якая абрынулася раптам сцюдзёным ветрам з дажджом і снегам. Да Арнольдавай хаты на ўскрайку мястэчка дайшоў у поўнай цемры.

«Няма, няма твайго Арнольда, сышоў некуды», — трымаючы ў руцэ газавую лямпу, сустрэла мяне старая Тэкля. «Дык я пачакаю?» — «Чакай, калі дачакаешся...» — «Лямпу дасцё?» — «А газы прынёс?» Бразнуўшы завалай, старая зачыніла за мной дзверы і пайшла на сваю палову хаты, прамармытаўшы нешта пра нястачу газы...

Хату старой Тэклі, ці не найбольшую ў мястэчку — з двух прасторных пакояў, падзеленых гэткай жа прасторнай кухняй, з высокім гарышчам пад жалезным дахам, — збудавалі ёй два сыны, што час ад часу наязджалі з Польшчы. Адзін пакой яна здала Арнольду. Але адносіны з гаспадыняй у яго не заладзіліся, хаця дапамагаў бабылцы як мог — пілаваў дровы, насіў з мястэчка газу, запалкі ды хлеб, прывозіў з Мінска балгарскія цыгарэты, бо старая смаліла, а ніякіх цыгарэт, увогуле аніякага тытунёвага тавару нават у райцэнтры не было. Усё зусім сапсавалася пасля таго, як Арнольд прынёс з крамы алею. «Ці ж гэта алей?! — трэсла патэльняй старая Тэкля. — Вось пры Польшчы быў алей дык алей, не тое, што за тваімі Саветамі...» І тое праўда: замест пырскання пад бульбянымі аладкамі алей умомант знікаў з патэльні, бы вада...

...Арнольда ўсё не было. Мусіць, у Соні, вырашыў я. Не распранаючыся, прылёг на шырокі драўляны ложак, падсу-

нуўшы пад шчаку зледзянелую падушку. Трохі ўгрэўся. Дзьмуў праз шыбы лістападаўскі вецер, ляпілася на вокны чорнае лісце, грукацела жалеза на даху, скрэблася па ім аголенае галлё старой бярозы.

Раптам нешта бліснула ў цемры, і я заўважыў на падваконні «Спідолу»....

Якая ж гэта асалода — вольна, сам-насам з усёй планетай, блукаць уначы па хвалях сусветнага эфіру! Праз трэсканне, абрыўкі незразумелых слоў і далёкіх мелодый прарывацца да нечага невядомага, нават забароненага... Вось... вось... «Голас Амерыкі»... Кенэдзі... Далас... замах... паранены... забіты... кубінцы... Освальд...

Які Освальд? Ці не той чарнявы хлапец, што сціпла туліўся да светлавалосай дзяўчыны на адной студэнцкай вечарыне ў старой хатцы ля Бетоннага моста? «Знаёмцеся, — прадставіла хлопца гаспадыня, — амерыканец...» Так, гаспадыня працавала на «Гарызонце», і хлопец быў адтуль...

Мяне ахапіў нязвыклы, аж да дрыжыкаў, жах. Чаму? За што? Няўжо кубінцы? І прычым тут Освальд? Згадаўся Рыкарда, з першых кубінцаў у БДУ. Не паспелі мы падчас знаёмства паціснуць рукі, як ён прачарціў у паветры вялікую дугу: «Нікіта.. Ракета... Амерыка... Бум!» — тыцнуў пальцам у далонь. І весела, як здольны толькі кубінцы, зарагатаў.

...Бліжэй да раніцы жах змяніўся нейкай асаблівай чалавечай блізкасцю, якая насамрэч завецца жалем. Такі малады, такі прыгожы! Здавалася, увесь свет зайздросціў Амерыцы...

...У прыцемках згадваўся за вокнамі першы снег. Паціху, каб не пабудзіць старую, я адчыніў дзверы і пайшоў, слізгаючы, да Соні шукаць Арнольда і паведамляць ашаламляльную навіну.

— А Арнольд з’ехаў... — Соня захінула халат, — у Мінск, апошнім аўтобусам.

— Кенэдзі забілі...

— Як... забілі? Хто? За што?

— Гавораць, што кубінцы. За тое, што прымусіў Хрушчова звезці з Кубы ракеты... Слухай, дык што з Арнольдам?

— Не ведаю. Але стаў такі маўклівы. Ноччу гляджу — святло ў настаўніцкай. У школе анікога, а там святло. Думала, нехта пакінуў. Пайшла патушыць, а там Арнольд. Занерваваўся, не-

куды пайшоў. Потым вярнуўся і сказаў, каб ішла дадому, бо тут ёсць электрычнасць, і ён хоча папрацаваць. А потым прыбег і сказаў, што тэрмінова яму трэба ехаць у Мінск... Слухай, там у настаўніцкай стрэльба, ты б схадзіў яе прыхаваў...

Дробнакаліберка ляжала на пацёртай скураной канапе. На падлозе, у шчыліне, пабліскваў патрон...

Вярнуўшыся з Мінска, Арнольд застаўся ў Соні. А ў траўні яны пажаніліся. Усё вяселле рагатала, калі Соня расказвала, як замяніла алей гарбатай, і старая Тэкля ці не з месяц смажыла на ёй Арнольду бульбяныя аладкі.

...Арнольд зрабіў добрую навуковую кар'еру. Аднойчы, калі адзначалі ягоны чарговы юбілей, ён у добрым падпітку вырашыў распавесці мне пра той выпадак.

— Бог выратаваў... Калі б не асечка...

— Калі б не Соня, — хацеў сказаць я. Але падумаў: можа, і Бог.

* * *

Карыбскі крызіс скончыўся 20 лістапада 1962 года. Сусветная ядзерная вайна дала асечку. Джон Кенэдзі быў забіты 22 лістапада 1963 года, у ноч на 23-е па маскоўскім часе. Менавіта ад той ночы скончылася мая асабістая «халодная вайна» з Амерыкай. Верагодна, што не толькі мая.

## АХВЯРЫ ЧАСУ

Прачытаў у «Нашай Ніве» урывак з новага рамана Уладзіміра Някляева «Аўтамат з газіроўкай».

І скаланулася памяць.

Стылягі... дысідэнты... паэты... філосафы... геніі...

Кадэбэшныя зладзеі, шпікі, ціхары, правакатары і сексоты...

Мастацтву дазволена не лічыцца з тым, што амаль нікога, каго згадвае творца, ні ў Мінску, ні на свеце ўжо няма.

Але ёсць тумба.

І чаго я прычапіўся да таго, што ў 60-х вершы чыталіся не толькі на прыступках тэатра юнага гледача, як піша Някляеў, а і з бетоннай тумбы ля кінатэатра «Піянер»?

Ці, можа, гэта не я, уражаны ўласнай бессаромнасцю, нахабна ўзлез аднойчы на тую тумбу і, падхоплены вершаванай плынню, намагаўся выкрычаць праз сціснутае горла свой адзіны на тую часіну верш?

Не, мяне не душыла прага ні паэтычнага, ні тым больш дысідэнцкага, як сталі пісаць пазней, самавыяўлення. Толькі помста Вадзіму, якога я заўважыў у натоўпе поруч з прыгажуняй Вікай, таксама былой аднакласніцай...

...1956 год, ці то канец сакавіка, ці то пачатак красавіка, і я, быццам упершыню ў жыцці, чую, як трашчыць, ламаецца лёд на Свіслачы, і натхнёна складаю верш: «...Не верьте кандалам! Кто был хоть раз закован в стальные цепи зла, молчания и сна, тот знает, как весна нужна, чтоб лёд был сломан... Не верьте кандалам! Придет весна!» — і спяшаюся ў школу, дзе з паўгода ўжо навічок, і, забіўшыся ў цёмны канец калідора, чытаю, размахваючы рукой, Вадзіму — прызнанаму лідару класа, камсоргу і рэдактару насценнай газеты. «Здорава!» — гаворыць ён і чамусьці расшпільвае аплікі стаячага каўняра школьнага кіцеля...

Ён быў вельмі прыгожы, наш камсорг, нагадваў маладога Маякоўскага. І гэны кіцель, які сляпуча блішчэў нашараванымі крэйдай ці зубным парашком гузікамі... Як я зайздросціў ягонаму ўладальніку, маўкліва пагаджаючыся з тым, што яму, сыну міністра, выдатніку і непадкупнаму прыхільніку камсамольскай маралі, па рангу належыць быць першым у нашэнні новай школьнай формы мышынага колеру, уключаючы фуражку з лакавым брылём...

Але што кіцель, калі ў яго была Віка, на якой усё часцей затрымліваўся мой позірк?!

— ...Здорава! — усклікнуў ён. А ўвечары класная пакінула мяне пасля ўрокаў.

— Ану, ану, — вочы яе прамяніліся шчырай цікавасцю і сабранай у маршчыністую сетачку дабрынёй, — што ты там наскладаў?

Я моўчкі працягнуў лісцік, вырваны са школьнага сшытка.

— Сам, сам пачытай... Што ж, нядрэнна. Толькі вось кайданы... Ну, якія ў наш час могуць быць кайданы? І якое зло?

Што ты маеш на ўвазе? Ты што, не разумееш, што гэта палітычна непісьменна, — сухія пальцы пабеглі па стале, — і нават палітычна шкодна! Табе ж уступаць у камсамол...

Халодны пот струменіўся ў мяне па спіне. Подлы страх, што мяне могуць не прыняць, прасочваўся ў душу, прымушаючы мармытаць у апраўданне, што нічога такога я не меў на ўвазе, што гэта ўсяго толькі лёд ды цурчанне талай вады ў блакітных прамывінах... «Ну, добра, — пальцы яе загнуліся ў пабялеўшых костачках, — спадзяюся, сам зразумееш. Толькі гэта трэба даказаць справай. Мы з Вадзімам хочам даць табе камсамольскае даручэнне. У цябе ж няма даручэнняў? Дык вось. Але ўлічы — яно сакрэтнае. Ты павінен будзеш дакладаць нам пра ўсё, што гаворыцца і што робіцца ў класе. Спадзяюся, ты разумееш, што мы павінны ведаць пра ўсё? Гэта твой абавязак!»

Не ведаю, адкуль — магчыма, з жульвернаўскіх альбо джэклонданаўскіх кніжак, ці мо з дваровых гульняў — знайшліся ў мяне сілы з гарачнасцю ўсклікнуць, што ніколі не быў і не буду даносчыкам.

— Як хочаш, — сцепанула яна плячыма, — ты мяне не так зразумеў... Толькі ўлічы — усё паміж намі. А даручэнне я табе дам іншае. Будзеш рабіць палітінфармацыі. Згода?

І яна падпіхнула мяне да дзвярэй...

Я нядрэнна рабіў палітінфармацыі. Тэмай нумар адзін быў XX з’езд КПСС і выкрыццё культу асобы. А 22 красавіка, у дзень нараджэння Леніна, мяне прынялі ў камсамол. Характарыстыку пісаў Вадзім. У ёй было сказана, што я добра разбіраюся ў палітыцы і складаю вершы...

...Нешта канчаткова сціснула горла, я папярхнуўся і пад жарты сяброў пачаў злазіць з тумбы, шукаючы вачыма Вадзіма з Вікай. Але іх нідзе не было...

Выплылі яны аднекуль з цемры жыцця праз пяцьдзясят гадоў пасля заканчэння школы, на апошнім традыцыйным зборы. Вядома было, што пэўны час ён круціўся на нейкай дробнай партыйнай пасадзе, потым абараніў дысертацыю і стаў выкладчыкам у адным з інстытутаў. Хадзілі чуткі, што дысертацыю па нейкай марксісцка-ленінскай метадалогіі напісаў

яму за грошы Кім Хадзееў. Праз колькі год, пры Андропаве, Вадзіма судзілі за хабар. Адседзеўшы, пачаў піць. Разам з Вікай, якую нават пазнаць было ўжо амаль немагчыма...

А Вадзім, сівы і п'яны, лез да ўсіх абдымацца і запытальна дзёўб адно і тое ж: «Ты ж разумееш, што я — ахвяра?» Потым усклікнуў за агульным сталом: «Усе мы ахвяры!»...

Праз год ці два памёр.

Але першай адышла Віка.

...Дзіўная ўсё ж з'ява — чалавечая памяць. З цягам часу ператвараецца ў «белага карліка», губляючы жыватворную гарачыню, сціскаецца да невялічкай плямкі, амаль нераспазнавальнай у бездані космасу. І раптам выплюхне жывы пратуберанец, асвеціць прастору пражытага жыцця і апячэ подыхам мінулага Часу.

## ВЯРТАННЕ ДА СУЦІНА,
## альбо КОЛА ЖЫЦЦЯ

Нацыянальны мастацкі музей выставіў карціны мастакоў славутай парыжскай школы, што нарадзіліся ў Беларусі. «Ты чуў? — спытаў я ў Вілена. — Там ёсць карціна Суціна...»

Вілена я адшукаў у шпіталі ветэранаў вайны. Што ж, надышоў, відаць, час дзецям вайны лячыцца ў шпіталях для яе ветэранаў...

Мы не бачыліся амаль пятнаццаць гадоў, за якія ён паспеў у сваім Валожыне намаляваць мноства карцін, нарэзаць з дрэва мноства скульптур, якія раз'ехаліся па розных краінах, і зусім пасівець. «Ты памятаеш, як вы з Гольбам ездзілі ў Смілавічы?» — запытаўся я...

Гэтую гісторыю — як яны з Віленам ездзілі ў Смілавічы — я чуў менавіта ад Гольбы.

Быў 1960, магчыма, 1961 год. Яны толькі вярнуліся з Казахстана, дзе пасля школы тры гады будавалі чыгунку ў Кітай. Гольба падаўся на філфак, Вілен — у тэхналагічны, на лесавода. Абодва захапляліся Ван Гогам, Пікаса і Далі, самі малявалі, спавядалі ідэалагічна недазволеныя абстракцыянізм ды сюррэалізм, а Гольба яшчэ і пісаў вершы: «...Когда парное молоко сольётся с древних колоколен...»

Так, абодва былі таленавітыя, Гольба — таленавіты шалёна. І даволі хутка заззяў у сутарэннях мінскага андэграўнда.

Якім сярэднявечным скразняком занесла на Беларусь семя невядомага, мусіць іспанскага, габрэя? Так, не толькі прозвішчам, але і знешне Гольба быў вельмі падобны да вытанчанага іспанца. Праўда, бацька ягоны выглядаў значна прасцей. Магчыма, таму, што ўсю вайну сядзеў, скурчыўшыся, у бамбавозе і здымаў з вышыні нябёс наступствы бамбёжак. Гольба паказваў мне тыя здымкі. Пякельны пейзаж...

«Так, — адказаў Вілен, — пра Суціна і пра тое, што ён са Смілавіч, мы ўпершыню даведаліся з мемуараў Эрэнбурга... Ну, і паехалі ў Смілавічы. Якраз быў кірмаш, нейкі дзядок-габрэй падказаў адрас: Камсамольская ці 15, ці 115...» — «Вы нешта шукалі? Гольба распавядаў мне, што ўзлазілі нават на падстрэшша...» — «Не-не, пляменніца Суціна так напалохалася, што далей парога не пусціла...»

Гольба з'ехаў у Амерыку ў 1975-м. Гадоў за сем да таго яго адшукаў Сяргей Параджанаў, які амаль употай прывёз у Мінск свой апошні шэдэўр — «Цвет граната». Убачыў у мастацкім салоне ластавак, якіх Гольба дзеля заробку маляваў на фарфоры, набыў усе і папрасіў Алега Белавусава зладзіць сустрэчу. Алег патэлефанаваў мне...

Да Параджанава, у гатэль «Мінск», мы пайшлі з Гольбам удвух. У нумары было шмат народу, ліўся каньяк... Параджанаў дастаў з кішэні «ластавак»: «Вашы?» І адразу прапанаваў Гольбу папрацаваць мастаком на здымках новага фільма. Але тут, зварухнуўшы паветра, з грукатам расчыніліся дзверы, і нехта хударлявы артыстычна бухнуўся каленямі аб падлогу: «Сярожа, ты — геній!» Мы паціху сышлі...

Параджанава праз нейкі час кінулі за краты. А Гольба з'ехаў у Амерыку.

Апошні раз мы выпадкова сустрэліся на плошчы Перамогі, на тралейбусным прыпынку... «Ну, усё, стары, атрымаў дазвол. Еду... Не-не, праводзіць не трэба, у цябе будуць непрыемнасці. Давай тут развітаемся...» І ён моцна сціснуў мяне ў абдымках.

Падышоў тралейбус. Гольба ўскочыў ў яго, развітальна замахаў з-за шкла, а я раптам убачыў, як кіроўца нацягвае гума-

выя пальчаткі, каб перавесці штангі на правады, якія вядуць па коле плошчы ў парк... «З вяртаннем на радзіму!» — абняліся зноў. «Так, стары, жыццё — замкнёнае кола...» — стрымана ўсміхнуўся Гольба...

Праз колькі год па Мінску разнеслася чутка, што Гольба вярнуўся і нават жыве, дзе жыў.

Гэтую чутку данёс да мяне яшчэ адзін тагачасны ягоны сябра. Заўважна было, што ён неяк палахліва ўзрушаны нечаканай весткай. І сапраўды, адносіны паміж імі былі складанымі: ці то варожае сяброўства, ці то сяброўская варожасць... Сёння ён знакаміты, паспяховы, так бы мовіць, мастак — персанальныя выставы, замежныя пакупнікі...

Я, вядома, паехаў у стары драўляны барак. Зараз на тым месцы ўздымаюцца шкляныя гмахі, а тады я прасунуўся па трухлявай падлозе, праз прыкра-салодкі пах газовак і воглую бялізну, развешаную на вяроўках, у канец цьмянага калідора. На абдрапаных дзвярах вісеў вялізны замок. Раптам з-пад прасціradлы высунуўся п'янаваты мужчына з мурзатым дзіцёнкам на руках. «Тут вось жыў мастак, — нагадаў я, — з'ехаў у Амерыку, а зараз, кажуць, вярнуўся...» — «Сюды?!»

Калі-нікалі ад агульных знаёмых, што бачыліся з ім, даходзілі да мяне весткі пра ягонае амерыканскае жыццё. «Ён піша цудоўныя карціны, — распавядаў адзін з іх, — апошняя проста геніяльная, "Зорка, што ўпала ў кубак з малаком"...» — «Купляюць?» — «Не, мусіць, не...» А пяць гадоў таму наладзіліся паміж намі тэлефонныя размовы. «Стары, — усклікнуў аднойчы Гольба, — я за адзін крок да мільёна!» Але я так і не даведаўся, ці ступіў ён гэты крок — у хуткім часе тэлефон у начлежцы для бяздомных канчаткова аглух...

...Карціну Суціна «Вялікія лужкі ў Шартры ля віядука», адзіную на выставе, мы ўбачылі неяк знянацку. Вілен то набліжаўся да яе, то глядзеў здалёк. Раптам прамовіў: «Ведаеш, чымсьці нагадвае Лошыцу. Гольба вельмі любіў маляваць Лошыцу...»

* * *

«...У Суціна былі вочы зацкававанага звера, мусіць, ад голаду. Ніхто не звяртаў на яго ўвагі. Ці магчыма было ўявіць, што пра працы гэтага кволага падлетка, нараджэнца беларускага мястэчка Смілавічы, будуць марыць музеі ўсяго свету?»

Ілля Эрэнбург, «Люди, годы, жизнь», 1960-я.

## ДОМ НА ПЛОШЧЫ УСПАМІНАЎ

Сяргей Харэўскі, адзін з найлепшых знаўцаў мінскай гісторыі, яе духоўнай спадчыны, падзяліўся ў Фэйсбуку здымкам сучаснай плошчы Незалежнасці 50-х гадоў. І спытаў: ці ж не прыгажэйшая яна была за тую, што мы бачым сёння?

Я ўглядзеўся ў здымак. І падумаў, што параўноўваць тую плошчу з сённяшняй не выпадае. Бо насамрэч плошчы сёння няма. Камусьці, магчыма, тое, што завецца плошчай Незалежнасці, лашчаць погляд шкляныя пухіры са схаванага пад зямлёй камерцыйнага пекла. Але ці можа называцца плошчай бязлюдная пустэча? Бо плошчы ўтвараюцца ў гарадах дзеля таго, каб людзі адчулі подых вольнага паветра.

У 50-х, адкуль з'явіўся згаданы здымак, як ні дзіўна, плошча была, хаця напалову яе сціскалі яшчэ дарэвалюцыйныя збудаванні, што ўратаваліся ад вайны, а пасярэдзіне стаяў шматпавярховы будынак, так званы «дом Кастравіцкай». На здымку бачна толькі ягоная частка. Але большасць каментароў якраз пра гэты дом і знакаміты па тым часе гастраном на ягоным першым паверсе. Не пра пальмы — гэткі водгалас паўднёвых курортаў, дзе вельмі любіла адпачываць савецкая знаць, разбэўленая перадавікамі вытворчасці. Менавіта пра дом і пра плошчу.

Яно зразумела, чаму пра дом. Таму, што яго няма. І плошчы няма. Той, што належала людзям...

Я таксама не ўстрымаўся. «Дзякуй, Сяргей, — напісаў у сваім каментары, — нагадаў... І гастраном той, і пах селядцоў з бочак. Гэткі мінскі "Елісееўскі". А над гастраномам месціўся МЗС і жылі ягоныя супрацоўнікі. Апошні з тых, каго ведаў, Валеры Лашчынін, з якім разам вучыліся на гістфаку. Адразу

пасля заканчэння гістфака ён быў прыняты ў МЗС. Студэнтам быў вялікі аматар мастацкай самадзейнасці да іншых камсамольскіх забаў. Пры тым трымаўся трохі наводдаль... Ну, а здымак, што называецца, перадае... Толькі вось таго, што было справа, на здымку няма. А справа стаялі яшчэ драўляныя хаты з агародамі і садамі. У адной з іх жыла Галя, аднакласніца. Пасля выпускнога вечара да раніцы праседзелі з ёй на лаўцы ля плота, пад язмінам. Дасюль памятаю, як дурэў ад ягонага паху... Недзе на пачатку 80-х Галя памерла. Ад гарэлкі...»

Што ж яшчэ дадаць да гэтага салодка-сумнага ўспаміну? Мусіць, пра бегавыя канькі з Нарвегіі, што ў спартова-дваровым ужытку называліся «нажы». Уявіце сабе хваляванне хлопчыка, які ўсё дзяцінства адкатаўся на «снягурках», што прыкручваліся аборкамі ды драўлянай палачкай да валёнак, а зараз падымаецца па цёмнай жалезнай лесвіцы на апошні паверх загадкавага дома да матчынага знаёмага дыпламата, які з'язджае ў Маскву і прадае тыя канькі. Чаравікі аказаліся не па памеры, ціснулі нагу... Але што гэта ў параўнанні з позіркамі дзяўчат, калі ты, як сапраўдны канькабежац, нарэзваеш колы па катку на стадыёне «Харчавік» у парку Горкага, на той час ці не адзіным у горадзе! Да таго ж на нарвежскіх нажах!

...Усё ж незвычайная, таямнічая з'ява — чалавечая памяць. Столькі важных, лёсавызначальных падзей адбываецца за жыццё, ажно эпахальныя зрухі, а памяць перш-наперш захоўвае нязначнае — пах селядцоў з бочак... жалезнай лесвіцы на апошні паверх... язміну пад першымі промнямі развітання з дзяцінствам...

Там, сярод язмінаў, стаяла недзе і хатка, у якой жыў Міхайла Станюта, вядомы мастак, бацька легендарнай Стэфаніі, дзед Аляксандра Станюты — журналіста, доктара філалогіі, пісьменніка і сябра цягам паўстагоддзя жыцця. На пачатку 2000-х Саша паказаў мне цудоўныя малюнкі алоўкам, якія дзед рабіў падчас нямецкай акупацыі і першых дзён пасля вызвалення. Гэта былі выявы розных людзей — малых і старых, жаўнераў і мінакоў... Сціплая, стрыманая, параненая душа горада таго часу.

Але чаму, скажыце, калі я ўглядаюся ў гэты здымак, памяць выкідвае на паверхню не толькі малюнкі, што зразумела, але і мяккую шурпатасць зжаўцелай паперы, вобраз хаты, дзе яны маляваліся, нават зледзянелай сцежкі, па якой маленькі Саша тупаў праз плошчу да дзеда з вуліцы Талстога, дзе падчас акупацыі жыў у сваякоў?

Ці ўзяць парады, што грукаталі танкамі па плошчы, пра якія таксама хаваецца недзе дзіцячы ўспамін. Вось не хвалююць мяне сёння тыя танкі. Толькі рукі маці, што захутвалі ў жаночую хустку ад першых лістападаўскіх маразоў. Толькі рукі бацькі, што ўздымалі над галовамі...

Дык чаму?

Мо таму, што ад эпахальных падзей застаюцца календары, а са штодзённага і адыходзячага чалавечага жыцця — Душа.

Душа дома... плошчы... горада... краіны...

Яно, магчыма, і было неабходна — прыбраць «дом Кастравіцкай» і хаты, дзе жылі мая аднакласніца Галя і мастак Міхайла Станюта, дзеля «самай вялікай у Еўропе» плошчы. Хаця ўжо на той час існавалі тэхналогіі перамяшчэння старых будынкаў. Але гэта так проста — пазносіць іх, як першую мінскую электрастанцыю і старыя вакзалы. І разам з імі зруйнаваць Душу.

У Беластоку, у Любліне, дзе давялося бываць, ніхто не зносіць старыя, нават паўразваленыя будынкі, што стаяць у чаканні рэстаўрацыі ці новых гаспадароў. З вокнаў глядзяць на вас вялізныя фотавыявы людзей, якія жылі калісьці ў гэтых дамах, на гэтай вуліцы, у гэтым горадзе...

Там разумеюць, што ўсе мы жывём на плошчы Успамінаў. І што менавіта з гэтага жыцця тчэцца бясконцае палатно Гісторыі.

## ЗНІКЛЫ ЯНЭК

Кожны год, як толькі надыходзіць 7 лістапада, адчуваецца млявае ўзбуджэнне грамадскай думкі і чарговы ўсплёск дзяржаўнага этыкету. Вось і сёлета кіраўнік дзяржавы павіншаваў суайчыннікаў са святам Кастрычніцкай рэвалюцыі, адзначыўшы, што беларусы «...не адмаўляюцца ад свайго мінулага, але і не жадаюць адступацца ад суверэннага права самастойна вызначаць сваю будучыню». Напярэдадні, праўда, ён запэўніў грамадства, што не надае святу палітычнага сэнсу, адное што яно — нагода для падарункаў народу, які сумуе па святах...

Шчыра кажучы, я не ведаю, як паставіцца да ўсёй гэтай блытаніны. Мусіць, Аляксандр Рыгоравіч калісьці так пранікнёна ўспрыняў ідэі сацыяльнай справядлівасці па-бальшавіцку, што дасюль лічыць крывавы кастрычніцкі пераварот святочнай часткай беларускай мінуўшчыны. Больш за тое — падмуркам для беларускай будучыні. І яшчэ больш — гістарычным шчасцем беларусаў.

Я не ведаю, як вучыўся Аляксандр Лукашэнка гісторыі, але пачыналася тое прыкладна ў тыя часы, што адлюстраваліся на гэтым здымку. 1963 год, вёска Далёкія на Браслаўшчыне, 7 лістапада, 8 клас, мае вучні. Валюсь, Алег, Юзік, Рэня, Ванда...

Няма Янэка. Янэк знік. Толькі я ведаў, куды знік Янэк за тыдзень да 7 лістапада.

Дзве падзеі адбыліся ў вёсцы за той тыдзень.

Першая ледзь не скончылася збіццём фінінспектара з раёна, што прыехаў вышукваць у вяскоўцаў парсюкоў, на гадаванне якіх была накладзеная забарона. Рохканне чулася амаль з кожнага падворка, малады хлопец, трасучы нейкай паперай, апантана пёрся ў хлявы, пакуль яму не звязалі ногі, не кінулі ў драбіны і не сунулі ў рукі лейцы: «Едзь, адкуль прыехаў...»

Такая вось мясцовая «кастрычніцкая рэвалюцыя». Дзіўна, але наступстваў не было...

У той жа «рэвалюцыйны» дзень у чарговы раз была абрабаваная вясковая крама. Што, як на сёння, дык дзіўна, бо акрамя «чарнілаў», зброснелых балгарскіх цыгарэт «Jebel» і кансерваваных балгарскіх памідораў у краме нічога ніколі не было.

Другая падзея была справай рук Янэка: выстругаў з дошкі нешта накшталт маўзера, прыладзіў металічную рулю, нейкі спускавы механізм... Стрэлы ля рэчкі пачула Раіса Пракопаўна, завуч. Адабрала самапал, прынесла ў настаўніцкую, тыцнула мне ледзь не ў твар: «Вось што робіць ваш Янэк! Усё, хопіць, хай ідзе ў калонію... Краму ён абрабаваў, няма сумневу...»

І навошта я націснуў курок? Прагучаў стрэл, з чорнай дзіркі ў столі пасыпалася вапна, пыл. Усе збялелі.

...Янэк... Янэк... У яго былі па-ваўчынаму вострыя, прыціснутыя да галавы, вушы і калючы натапыраны позірк. Сам ён быў не па сваіх пятнаццаці гадах малы, лядашчы, але ўсё, што здаралася ў вёсцы — ад кінутай у комін здохлай вароны да крадзяжу з крамы, — валілася на яго.

Мы пасябравалі. Ён прыходзіў да мяне гуляць у шахматы, я даваў яму кнігі...

...На ложку, пад зашмальцаванай пярэстай коўдрай, ляжала хворая маці. «Хто тут? Настаўнік? Не, няма Янэка, шчэ не прыходзіў... Дапамажыце, настаўнік, загіне хлапец... Каб жывы быў бацька...»

Бацька Янэка глядзеў на мяне з пажоўклых фотаздымкаў, уціснутых па вясковай звычцы ў адну раму на пабеленай вапнай, таксама зжаўцелай сцяне. Вось ён трымае пад аброць каня, намагаючыся не губляць ганарлівую постаць польскага жаўнера. А вось напружана сядзіць у форме таго ж жаўнера, паклаўшы на калені шаблю...

Я пажадаў хутчэй папраўляцца і моўчкі пайшоў з хаты.

...У апошні раз Далёкія палілі ў 1953-м. Тады ж загінуў старшыня сельсавета, муж завучыхі. Янэк стаўся яе асабістым ворагам: турма, калонія — не самае страшнае, што рыхтавала яму яе пашкоджаная няўтольнай помстай свядомасць...

А бацька Янэка загінуў у тым жа 53-м, калі ягоны атрад «лясных братоў» абклалі ў лесе з усіх бакоў.

У кастрычніку, калі асіны асвятляюць змрочны яловы лес барвова-крывавым полымем, Янэк павёў мяне ў ягоную непазнавальную глыбіню. На паляне, да якой дабіраліся гадзіны тры, захаваліся яшчэ паўзруйнаваныя зямлянкі, сляды

ад вогнішчаў, вакол былі раскіданы рэшткі нейкай амуніцыі, лопнутыя катлы, іржавыя вёдры, у дрэвах — пазелянелыя дзіркі ад куль...

Я падумаў тады: хто ж каго насамрэч вучыць гісторыі?

З якой яе далечыні прыляцелі тыя кулі?

...А Янэку ўсё ж дапамог, уратаваў ад калоніі ці турмы. Пасля васьмі класаў ён пайшоў у ПТВ, дасылаў адтуль лісты з падрабязным пералікам пэтэвэшных падзей і пытаннямі, як ставіцца да таго, што гаворыць той ці іншы настаўнік... Аднойчы я атрымаў ад яго пранізлівы ліст, у якім літаральна кожнае слова крычала: я не краў! Так, яго зноў западозрылі ў крадзяжы. Нібы скраў гадзіннік. Дырэктарам ПТВ, дзякуй Богу, быў мой аднакурснік... Потым Янэк працаваў механізатарам у калгасе, потым з’ехаў у Латвію — многія з браслаўскіх мясцін напрыканцы савецкіх гадоў шукалі там працу, уладкаваны побыт і сямейнае шчасце.

Знік Янэк з Далёкіх.

А ў гэтым годзе знікла з Далёкіх і школа.

Углядаюся ў здымак паўстагадовай даўніны. Дзе яны — Валюсь, Алег, Юзік, Рэня, Ванда?.. Дзе іх дзеці, унукі?

Ці здабылі яны сабе сваё беларускае шчасце?

## СЛЕД У ГІСТОРЫІ

Аднойчы, прачытаўшы мае нататкі пра стары Мінск, у якіх узгадваўся знакаміты фантан «Хлопчык з лебедзем», патэлефанаваў Аляксандр Аляксандравіч Ломаць. «У маёй метрыцы, — сказаў ён, — у графе “месца нараджэння“ пазначана: “747-ы км”...»

Я паехаў знаёміцца.

Размова наша пачалася гэтага дзіўнага запісу ў метрыцы.

Нарадзіўся Аляксандр Ломаць, канешне ж, у Мінску, у 1938 годзе, а 747-ы кіламетр быў адным з тых, што абслугоўваў ягоны бацька, дарожны майстар на чыгунцы. Сёння гэта станцыя Усходняя, практычна цэнтр горада. А ў 1938-м тут быў «747-ы кіламетр» ад Масквы. Сам Ломаць не ведае, адкуль узяўся гэта запіс, а спытаць бацьку ўжо не выпадала.

Калі дарос да 16 гадоў і ўпершыню пацікавіўся запісам, след ягонага бацькі згубіўся недзе ў Комі, у паўночных капальнях, куды ў 1944 годзе, адразу пасля вызвалення Мінска ад акупацыі, бацька быў сасланы «за супрацоўніцтва з акупантамі». «Супрацоўніцтва» зводзілася да таго, што ён і пры немцах працаваў дарожным майстрам. Апошні эшалон на ўсход, у адзін з вагонаў якога ён, сам чыгуначнік, ледзь уціснуўся з жонкай і дзецьмі, не прайшоў пад бомбамі і дваццаці кіламетраў... Куды было дзецца? Пехатой да Крамля?..

Ён здолеў выратаваць жонку і пяцёх дзетак.

Ужо не першы год напярэдадні 3 ліпеня Мінск трасецца і глухне ад грукату танкаў і бэтээраў, а потым з тым жа грукатам адзначае нейкае самаробнае свята, якое не мае аніякіх адносінаў да сапраўдных падзей амаль сямідзесяцігадовай даўніны. Збіраецца мноства гараджан і прыезджых. Але Ломацця сярод іх няма. 3 ліпеня — не ягонае свята.

Ніхто не ведае ўсяго маштабу мінскай трагедыі 40-х гадоў, у якой былі не толькі Трасцянец і жахі гета, аблавы і шыбеніцы, калабарацыя і гераічны Супраціў, але і самаратаванне на мяжы жыцця і смерці, і жорсткасць «вызваліцеляў» у фуражках з сінімі аколкамі, якія аселі ў Мінску, калі жаўнеры пайшлі далей на захад...

Але дзяржава, улада, лязгаючы пераможнымі гусеніцамі, пра гэтую ганебную старонку мінскай гісторыі маўчыць. Бо не маўчаць — значыць, зрабіць крок да таго, каб галасна пакаяцца перад тысячамі прысуджаных да знікнення без следу на лесапавалах, у паўночных капальнях толькі за тое, што, кінутыя ў малох гітлераўскай машыны знішчэння, здолелі выжыць самі і зберагчы дзяцей для будучага жыцця...

Пасля хуткага разбіральніцтва ў сценах НКУС і хуткага суда ад Ломацяў адвярнулася амаль уся радня, якой ад самага пачатку мінулага стагоддзя назбіралася ў Мінску шмат. Па бацькоўскай лініі — усе вакол чыгункі. Гэта таксама мінская гісторыя: горад прырастаў чыгуначнай, як сказалі б зараз, інфраструктурай, а галоўнае — высокакваліфікаванымі рабочымі і майстрамі са сваім адмысловым статусам і побытам... Гэта былі па-сялянску вялікія сем'і, але ўжо з іншай, га-

радской афарбоўкай, з іншай, гарадской традыцыяй і даробкам на будучыню. Ломаць з гонарам распавядае пра тое, як ягоны дзед, саставіцель цягнікоў, адзін утрымліваў вялікую, сем душ, сям'ю...

Якім жа моцным ды ўсёпранікальным быў страх, што здолеў раструшчыць не проста трывалыя — звыштрывалыя сваяцкія сувязі!

Ломаць цікавы тым, што не ўпусціў у сябе, як ні намаўлялі яму абставіны жыцця, гэты страх. Не дзіва, што, займаючы немалую пасаду на адным з мінскіх заводаў, падаўся напачатку 90-х у апазіцыю. Стачкам, мітынгі, дэманстрацыі пратэсту...

Ён паказвае фотаздымкі, выразкі з газет... А я думаю аб тым, што пазбавіцца страху магчыма, калі ўсвядоміць значнасць сваёй асабістай гісторыі. Усвядоміць, што кожны твой крок у супраціве страху — гэта гістарычны крок. А крок пакідае след.

...Размова наша й была ў большасці пра Мінск. Ломаць узгадваў, на якіх вуліцах рос, успамінаў тое, што засталося ў дзіцячай памяці з часу акупацыі... А потым раптам сказаў, што «Хлопчыка з лебедзем» пасля таго, як яго ўсярэдзіне 80-х разбурылі вандалы, нанова адліваў ягоны сын. «Тамака пад крылом у лебедзя пазначаны ягоныя імя і прозвішча — Зміцер Ломаць»...

Ужо больш за дваццаць гадоў Зміцер Ломаць жыве ў Аўстрыі, працуе ў буйной фірме. Аб тым, як і чаму з'ехаў, бацька гаворыць з хваляваннем. Але штосьці, мабыць, перадалося ад сямейнай трагедыі, калі больш не захацеў заставацца ў «краіне-пераможцы».

А след пад крылом у лебедзя застаўся.

Яшчэ адзін след у мінскай гісторыі.

## ЗЭКС КІНДЭР,
## альбо БАЦЬКАВА ПЕРАМОГА

Незвычайны ўсё ж сёлетні травень — спалучыў на кароценькім адрэзку дзён Уваскрашэнне Хрыста, Дзень Перамогі і Радаўніцу...

Здаецца, якое ж тут можа быць спалучэнне?

Ці ж можна спалучаць спрадвечныя народныя святы са святам перамогі «расейскіх акупантаў» над нямецкімі, якія, па ўспамінах некаторых бабулек, ратавалі беларускіх дзяцей ад голаду, а калі што палілі ці каго забівалі, дык вінаватыя ў тым партызаны з іх злачыннымі правакацыямі...

Вось так: перагледзела бабулька Нюрнбергскі працэс. Мо памыліліся суддзі.

Мо памыліўся месяц травень, спалучыў...

Але сёння, калі пішу гэтыя нататкі, Радаўніца, звяртанне да продкаў. Звярнуся і я.

...У жніўні 1944 года маці піша ўжо з вызваленага Мінска бацьку на фронт: «...Вялікае гора не прамінула і нас — немцы па-зверску закатавалі Веру... Вера ўвесь час была ў партызан сувязной. 24 чэрвеня 1944 года яе схапілі, а 27-га немцаў у гэтым раёне ўжо не было. Не дажыла толькі 3 дні... Яе жорстка збілі, а потым нацкавалі сабак, якія разарвалі цела... Потым зламалі рукі і, не дамогшыся ад яе ані слова, раскрыжавалі на сцяне хлява...»

ВераМіснік — пляменніца маці, мая стрыечная сястра. Вось што па просьбе музея гісторыі Айчыннай вайны піша пра Веру яе маці, цётка Вольга: «...У маёй сям'і не было камуністаў. Аднак была любоў да Радзімы. Асабліва праявілася гэта ў гады вайны... Сыны пайшлі на фронт. У тыле ворага засталася Вера з малюсенькай дачушкай. Мабыць, яна здолела б эвакуіравацца, але, як стала пазней вядома, пашкадавала кідаць бездапаможных старых бацькоў мужа, што ваяваў пад Ленінградам...»

Так, яны не былі камуністамі, Вера і Апанас, маладыя настаўнікі з Сямёнавіч пад Уздой, дзе пра іх памятаюць дасюль.

Што ж вымусіла іх, кроўных беларусаў, ваяваць супраць немцаў? Толькі савецкае выхаванне?

Што ўвогуле вымусіла савецкіх беларусаў ваяваць супраць немцаў?

Страх перад партызанамі і дыверсантамі НКУС?..

Вера ў камунізм з бальшавізмам ды ў калгасны лад?

Ці, можа, нешта большае за смурод сталіншчыны?

Ці, можа, усё ж «клапатлівыя адносіны да Радзімы»?

Здавалася, калі не гісторыкі, дык вялікая беларуская літаратура пра вайну адказала на гэтыя пытанні. Але чамусьці не згадвала пра нямецкія булкі. І не ганіла савецкіх беларусаў за тое, што баранілі Айчыну ў складзе СССР...

Мне зразумелае жаданне праз пераадоленне крамлёўска-лукашэнкаўскіх спекуляцый і спробаў адмыць сталінізм дамагчыся ўсёй праўды пра вайну, бо не ўсёй праўда не бывае. Знойдзецца, безумоўна, ва ўсёй праўдзе ганебнае месца і партызанскаму, розных колераў, рабаўніцтву, і нямецкім булкам з цукеркамі, і злачынствам НКУС, і трагедыі антысавецкага супраціву...

Адно не вытрымае ўся праўда — адкрытага ці прыхаванага, што яшчэ горш, апраўдання нацызму тым, што ён быццам змагаўся з камунізмам за незалежную Беларусь.

У згаданым вышэй лісце да бацькі маці піша і пра Фіру Рахманчык: «...Спачатку на яе вачах схапілі дзіця за ногі і аб кузаў разбілі галаву. Фіра адразу страціла розум, і яе прыстрэлілі...»

Такая вось барацьба.

Я не ведаю, хто яна, Фіра Рахманчык. Мабыць, даваенная знаёмая бацькоў. Нехта з сучасных самадзейных тлумачальнікаў гістарычных падзей можа думаць, што ў немцаў проста не хапіла для ейнага дзіцяці цукерак і булак. Але я, дзякуй Богу, яшчэ не страціў розум і мушу думаць, што калі б не тыя эканомныя немцы, жылі б сёння на зямлі дзіцёнак Фіры Рахманчык, ягоныя дзеці і ўнукі. Разам з мільёнамі загубленых немцамі ды іх памагатымі яўрэйскіх дзяцей...

Я свядома пішу «немцы», а не фашысты ці нацысты.

Фашыстаў і нацыстаў пакараў Нюрнберг.

Немцы пакаралі сябе самі — прынялі ў душу і ўзвалілі на плечы ўвесь цяжар гістарычнай адказнасці за тое, што дазволілі нацызму ачмурыць і атруціць сябе, за ўдзел у неверагодных злачынствах. З балючай рашучасцю вытравілі яго з сябе.

І менавіта таму яны пераможцы. А не толькі таму, што ў іх больш цукерак і булак...

Дык ці памыліўся травень, спалучыўшы на караценькім адрэзку святочных дзён Уваскрэсенне Хрыста, Перамогу над нацызмам і Радаўніцу?

Адказ я знайшоў ва ўспаміне пра бацьку.

Як і ўсе сапраўдныя франтавікі, ён ніколі не расказваў пра тое, што вытрымаў на вайне. Толькі аднойчы распавёў, як недзе пад Кёнігсбергам падчас атакі перад ім апынуўся пажылы немец, які заваліўся на спіну і, паказваючы на ўзнятых труках шэсць пальцаў, адчайна заенчыў: «Зэкс кіндэр! Зэкс кіндэр!» — «Ты забіў яго?»— «Не, пабег далей...» — «А калі б ён стрэліў у спіну?»

Бацька моўчкі паціснуў плячыма...

Нешта тут было па-за межамі сэнсу, дзеля якога вядзецца вайна, калі ўвогуле можна шукаць у вайне сэнс. Тым больш, што на той час заклік «Забі немца!» ужо ўзбудзіў усё савецкае войска. Але я адчуў, як бацька ціха ганарыцца тым, што немца не забіў.

Быццам здабыў больш значную за тое, каб забіць ворага, перамогу...

## КАРА

Час ад часу некаторыя чытачы папракаюць мяне за тое, што, закранаючы з'явы сучаснага жыцця, згадваю тыя ці іншыя выпадкі са свайго дзяцінства. Маўляў, якое яны маюць дачыненне да сучасных падзей і праблем?!

Яно, вядома, так. Але і не так.

Калі ад сёння, напрыклад ад 26 чэрвеня 2013 года, адкруціць 60 гадоў, абавязкова натрапім на арышт Берыі. І я абавязкова ўспомню, што партрэт Берыі вісеў у «жывым кутку»...

Не, паважаны чытач, што хочаш рабі са мной, але і праз 60 гадоў, нібыта ўчора, я памятаю зарасці бузіны над рэчкай Пціч, цяністую дуброву, што называлася «калоннай залай», сыпучы акопчык на ўзгорку, дзе ў вільготным пяску я знайшоў алавяную лыжку і спражку ад салдацкага рэменя, руіны касцёла з бярозкамі на рэштках сценаў з пашкрабанай рудой цэглы... І зноўку, вядома, барабанны дробат... «труба зовёт»...

«по долинам и по взгорьям»... марш, марш... уздым сцяга роснай раніцай, вячэрнія вогнішчы, выкладзеныя пяціканцовымі зоркамі, і штодзённыя — фізкультпрывітанне! — піраміды, што будаваліся з нашых лядашчых даўгатрусых целаў...

І раптам Берыя, ангельскі шпіён!

Дык вось, партрэт Берыі ў маршальскім мундзіры вісеў у «жывым кутку». Дакладней, «жывы куток» мы прыладзілі ў тым закутку атраднага барака, дзе вісеў партрэт Берыі. Астатнія правадыры віселі паблізу, а Берыя якраз над клеткамі, дзе жылі вожык, чарапаха, два вужы, вавёрка і некалькі трусоў. Мы кармілі іх, даглядалі. А вось да сарок Саша, наш важаты, студэнт-біёлаг, не падпускаў.

З гэтымі сарокамі адбылася цэлая гісторыя. Ладзячы нашы ваенна-індзейска-тарзанавыя гульні, мы гнулі лукі з дубовых галінаў, вастрылі стрэлы, увенчвалі іх кулямі, што здабывалі з патронаў, балазе такога дабра ў лесе і навокал было навалам. Нават цяжка ўявіць сёння, як высока ляцелі тыя стрэлы...

Аднойчы, спаборнічаючы, мы забілі сароку. Прынеслі да Сашы — глядзі, якія трапныя. Ён узяў сароку, агледзеў і, не сказаўшы ні слова, пайшоў у лес.

Саша кульгаў. Дакладней, цягнуў нагу. Мы ведалі, што хлопчыкам ён ваяваў у партызанскім атрадзе, быў паранены. Яму цяжка было ўзлазіць на высачэзную бярозу, дзе пасярод галля чарнела сарочае гняздо. Але ён не пусціў анікога з нас, нават самага спрытнага, — узлез на дрэва сам і асцярожна зняў гняздо, у якім бездапаможна папісквалі птушаняты. Ён прынёс да сябе ў каморку і да сканчэння ліпеня нікога з нас да птушанят не падпускаў. Сам даглядаў іх, а потым, калі падраслі, выпусціў на волю...

Сёння мне зразумелы патаемны сэнс ягонай кары. Бо калі б мы самі даглядалі птушанят, дык і віну сваю быццам бы загладзілі і як бы заслужылі дараванне... Не, занадта простым было б тое загладжванне віны. І нават не сёння, а тады ж, не ведаю, праз каторае, шостае ці дзясятае, пачуццё ўвайшло ў нас разуменне таго, што віну за замах на чужое жыццё загладзіць наўпрост немагчыма. Ніякім чынам. Ніколі...

...А партрэт Берыі вісеў у «жывым кутку». Божа, як кідалася вавёрка ў сваёй клетцы, палахліва туліліся адзін да аднаго трусы, калі мы, падсаджваючы самых высокіх, намагаліся сцягнуць яго са сцяны. А потым, ламаючы запалкі, выпальвалі яму вочы праз ненавіснае пенснэ, што нават на партрэце блішчэла халодным шклом... Смерць! Смерць шпіёну!..

І зноўку Саша спыніў экзекуцыю, жорсткі дзіцячы самасуд. Адабраў знявечаны партрэт і пацягнуў, кульгаючы, на гаспадарчы двор у цёмны, зарослы дзядоўнікам, падплотны кут, куды звальваліся разнастайныя адходы піянерскага энтузіязму — зламаныя крэслы, падраныя мячы, паламаныя ложкі з паржавелымі спружынамі, сеткамі...

Што? Шкадаваць шпіёна?! Мы рынуліся за ім, ён азірнуўся: «Хлопцы, — сказаў спакойна, — вавёрка галодная...»

Не, не жадаў ён, каб мы, пазбаўляючыся страху, спалілі сябе нянавісцю. Бо нам прадвызначана было жыць і жыць яшчэ. Можа быць, вечна.

Бо калі хто і мяркуе жыць вечна, дык гэта толькі дзеці і правадыры...

* * *

Дык ці маюць дачыненне да сучаснасці ўспаміны дзяцінства пра Сашу, Берыю і сароку?

Берыя быў расстраляны 23 снежня таго ж 1953 года. Адразу пасля хуткага, некалькі гадзінаў, так бы мовіць, суда генерал-палкоўнік Баціцкі па ўласным, кажуць, жаданні стрэліў яму ў патыліцу. А можа, і ў лоб...

Рознае кажуць.

Адное толькі хавалася і хаваецца дасюль у тагачасным смуродзе злачынных крамлёўскіх гульбішчаў: кара, на якую выраклі Берыю паплечнікі па крывавых справах, мэтай сваёй мела ўвесці людзей, грамадства, народ і нават чалавецтва ў зман ілюзіяй таго, што Зло нібыта пакарана. Ад чаго і карнікі нібыта загладзілі віну і заслугоўваюць даравання.

Але за гэтай ілюзіяй канчаткова хавалася адно: пазбегнуць Вышэйшага Суда над сталінізмам. Назаўсёды.

Ці мо ёсць сумненні ў тым, што пачвара жыве?

А цыркуляр, што прадпісваў паўсюдна ліквідаваць усе партрэты ды іншыя выявы Берыі, быў разасланы па ўсіх установах СССР толькі праз месяц пасля арышту, 27 ліпеня.

Сапраўды, дзеці больш прадбачлівыя за дарослых. Вось такі ўспамін...

**МАЛІТВА**

Пішу з Ніды — вядомага па сённяшнім часе курортнага мястэчка на балтыйскім узбярэжжы Літвы, на Куршскай пярэспе.

На савецкіх мапах Куршская пярэспа пазначалася як Курская, быццам ў гонар Курскай дугі. Насамрэч найменне ёй далі куршы, старадаўняя народнасць са сваёй мовай і культурай. Напрыканцы 60-х гадоў, калі я ўпершыню апынуўся на пярэспе, у Нідзе жыў апошні курш, цясляр і рыбак, як і амаль усе тагачасныя нідскія жыхары. Яму было за 90 гадоў, я вельмі шкадую, што забыўся ягонае імя...

Але памятаю імёны іншых літоўскіх сяброў. Іх шмат, не ўсе яны літоўцы. Але першай, безумоўна, трэба лічыць Стасю, прыбіральшчыцу адзінага тады на ўсю Ніду дома адпачынку.

У залатым верасні 1968-га, якраз у тую хвіліну, калі нечакана сыпануў дождж і я стаяў, не ведаючы, куды ісці далей, яна павяла мяне на сваё падстрэшша, а бліжэй да ночы, што грукатала навваламі ветру, прынесла па рыпучай лесвіцы свечку: «Будзешь, як Пушькін...»

Стасі было недзе каля пяцідзесяці, яна жыла ў адзіноце і шмат піла. Аднойчы я спытаў у яе, чаму яна п'е. «Мужя ўпамінаю...»

Ці доўга здолее жыць чалавек са сваім мінулым — з лесапавалам у жахлівай далечыні з нязвыклым для літоўскага вуха найменнем Комі? Роўна столькі, колькі трэба, каб нарэшце даведацца, з якой зямлёй перамяшаўся прах каханага мужа. Усё жыццё яна намагалася дазнацца пра ягоны лёс у жахлівым каўнаскім 9-м форце, куды нацысты забралі яго за тое, што дапамагаў яўрэям. І дазналася, што «...Ваш муж быў асуджаны... і пахаваны ў г. Ленінск-Кузнецкі Кемераўскай вобласці...».

Хутка Стася памерла, яе суседзі сказалі мне, што «ад водкі». Але я разумеў, што памерла яна не ад гарэлкі — ад немагчымасці далей жыць...

Наведаўшы яе магілу, я зняў пакойчык у Эдзіты з Ёнасам і маленькім Рэмігіусам, у такой жа, як у Стасі, тыпова куршскай, пад чаротавым дахам, хаце.

Эдзіта працавала на метэастанцыі, кожную раніцу я ведаў, якое будзе надвор'е ўвечары і нават заўтра. Ёнас піў.

Аб тым, што Ёнас піў, я даведаўся выпадкова, калі напрасіўся пайсці з ім на рыбацкім баркасе ў Куршскую затоку. Увогуле бачыліся мы зрэдку («Лаба дзена!» — «Лаба дзена!»), таму што Ёнас быў рыбак, а рыбакі бываюць дома зрэдку. Ці ж толькі коратка, да трох раніцы начуюць, а потым, да новай глыбокай ночы, у затоку... Безумоўна, я прыхапіў з сабой пару бутэлек «Маскоўскай», мабыць, нават тры, бо іх было тры чалавекі — Ёнас ды ўся ягоная брыгада з двух негаваркіх мужыкоў у шырокіх, з цяжкай гумы, куртках і высокіх, амаль пад падпярэзак, ботах. Ледзь адплылі па цёмнай вадзе, Ёнас выставіў бутэлькі на стол...

Ёнас таксама памёр праз некалькі гадоў. І таксама ад гарэлкі. Так сказала Эдзіта.

Сёння я думаю, што Ёнас памёр ад немагчымасці прадбачыць будучыню для Рэмігіуса. Што, уласна кажучы, і было для яго немагчымасцю жыць.

Рэмігіус прадбачыў сваю будучыню сам.

Я быў сведкам, як пачыналася яна восенню аднаго з апошніх 80-х гадоў мінулага стагоддзя, не памятаю ўжо, якога дакладна. Памятаю толькі халодную, у пене, сінь Балтыкі, двух лебедзяў, што праляцелі нізка над морам, і тысячы, шмат тысяч падлеткаў, юнакоў і дзяўчат, што апусціліся на калені ў бялюткі берагавы пясок. Потым яны падняліся, узяліся за рукі і заспявалі сваю літоўскую песню, хістаючыся ў такт мелодыі і балтыйскай хвалі. Я ўбачыў Рэмігіуса, пайшоў да яго, правальваючыся ў пясок, ланцуг разамкнуўся. Я стаў паміж ім і дзяўчынай у вязанай шапачцы і, ні слова не разумеючы, таксама нешта падпяваў, намагаючыся пераадолець свіст ветру.

На вартаўнічай вышцы яшчэ савецкай памежнай заставы нікога, здавалася, не было. Толькі час ад часу, мусіць, ад шкла бінокля адсвечвала сонца...

Апошні раз я бачыў Рэмігіуса ў мінулым годзе, калі, не маючы сілы забыцца на Ніду, зноўку наведаў яе, амаль не пазнаўшы. Рэмігіус завітаў да маці па дарозе ці то ў Аўстралію, ці то ў Кенію, ці то яшчэ кудысьці. Увогуле, не важна — малады доктар, навуковец, менеджар буйной медыцынскай фірмы свабодна гойсае па ўсім свеце. Распавядаючы пра гэтыя вандроўкі, пра сваю працу і жыццё, ён увесь час паўтараў гэта слова — СВАБОДНА. Я запытаўся ў яго, аб чым яны тады маліліся на беразе мора? «Аб Літве... Гэта старадаўняя малітва: "...мы разам дзякуем Богу за дар свабоды..."»

Вось тады я і пачуў гэта сугучча: малітва — Літва...

Час ад часу мы пытаемся ў саміх сябе: чаму ў літоўцаў усё атрымалася, а ў нас не? Для сябе ў мяне ёсць адказ на гэтае пытанне: каб усё атрымалася, трэба гэтага вельмі жадаць.

І не забывацца на малітву.

## МІМА ТАНКА,
## альбо НЕПРАЧЫТАНЫ ВЕРШ

Спадар Гігін, галоўны спец па рэдагаванні «беларускай думкі» ў патрэбны ўладзе бок, нарадзіў думку, здавалася б, нечаканую. «На мой погляд, — сказаў Гігін, — Танк варты манумента ў Мінску, роўнага помнікам Купалу, Коласу і Багдановічу». Нагадаўшы пра набліжэнне 100-годдзя паэта, Гігін у якасці доказу літаратурных заслуг Максіма Танка выказаўся так: «...ён жа быў сапраўдным песняром вызваленчай барацьбы народа Заходняй Беларусі».

Апошні раз пра «песняра вызваленчай барацьбы» я чуў недзе ў 6-м ці 7-м класе. Калі адлічыць ад 100-годдзя паэта, атрымаецца 1954 ці 1955 год.

...Нарач, шэраг высачэзных таполяў, што збягаюць з высокага ўзгорка да вады, за ім — руіны былога яхт-клуба Пілсудскага, ад якіх нават у хмарны дзень, праз бягучыя па вадзе цені аблокаў, відно было аж да «сіняга» — як тутэй-

шыя пазначалі колер глыбіні, нарачанскае дно... Ну, а далей, на ўзгорку нават вышэйшым за «пілсудскі» — тры хаціны, яшчэ не пацямнелыя ад часу, назаўжды, здавалася, стварылі нарачанскі пейзаж.

Гэтыя тры хаціны — першае, што я бачыў, прачнуўшыся, праз акенца Мацеевай хаты на ўскрайку Купы. Хата тулілася да самага возера, яно ці не плёскалася ў тое акенца, цэдзячы праз счарнелае шкло сваё неверагодна сіняе святло...

Раз на тыдзень я сядаў на Мацееў ровар са старымі, тоўстымі коламі і пёрся, налягаючы на скрыпучыя педалі, міма тых хацін да невялічкай крамы па хлеб, пазіраючы на жыццё за плотам, што аточваў тры тыя хаты — паміж імі плоту не было. Вось Танк, нахіліўшыся над нізенькімі дрэўцамі саду, фарбуе іх вапнай, Куляшоў, прыгладжваючы валасы, чытае на лаўцы кніжку, прытрымліваючы старонкі ад ветру, а сівы Лынькоў у цяльняшцы нешта майструе ў лодачным рухавіку...

Я так хацеў прачытаць Танку ягоны верш пра Нарач! Вывучыў яго на памяць: «Люблю твае, Нарач, затокі і тоні...»

Не атрымалася... Не адважыўся... Толькі міма...

Ці не прайшла міма Танка Беларусь?

З уладай і яе намаганнямі зрабіць з песняроў Беларусі песняроў рэжыму ўсё ясна. Гэта яна ўслед за сваімі папярэднікамі з іхняй меліярацыяй, хімізацыяй ды курортнай зонай амаль канчаткова знішчыла Нарач з наваколлем, ператварыўшы ўсё ў смярдзюча-задымленую квадрацыкламі «зону» для сафары. Знішчыла, па сутнасці, жывы помнік Паэту, а зараз клапоціцца аб помніку «песняру вызваленчай барацьбы»...

Але чаму антылукашэнкаўская, незалежніцкая Беларусь прайшла міма? Асабліва тая яе частка, якая ўзводзіць платы паміж пакаленнямі і па-бальшавіцку разбурае пад сабой гістарычную глебу, вышукваючы, падобна патолагаанатамам, у волатаў беларускага духа нешта прыкра савецкае, нібыта здрадніцкае... Як быццам у тыя, савецкія, часы на Беларусі панавалі толькі нейкія пачварныя прыблуды, а беларусаў з іх болем і радасцю, стратамі і здабыткамі, з іх мужнасцю і неверагоднай цярплівасцю быццам бы і не было...

...Аднойчы я ўбачыў, як да берага набліжаецца нешта ядавіта-памаранцавае, зусім нязвыклае для нарачанскіх коле-

раў. У невялічкай гумавай лодцы сядзеў светлавалосы хлопчык і ляпаў рукамі па вадзе. «Дай пакатацца!» — жартаўліва папрасіў я, а хлопчык моўчкі адвярнуў ад берага і хуценька заляпаў у бок трох хацін...

Пяць гадоў таму Максімка, а зараз Максім Яўгенавіч, узгадаў, распавядаючы пра бацьку ў адным з інтэрв'ю, што ён завяшчаў «...не называць яго імем ні вуліц, ні ўстаноў. І не ставіць помнікаў, не вешаць мемарыяльных дошак. А на пахаванні не несці ордэнаў...».

Нехта можа палічыць, што за гэтым завяшчаннем хаваецца нейкая крыўда на звар'яцелы час і на ўласныя расчараванні. Мне ж здаецца, што ён так любіў, разумеў, адчуваў і бачыў Беларусь, да такой глыбіні яе «сіняга», што наўпрост прасіў не замінаць яму ў гэтай любові...

А той непрачытаны верш, дарэчы, напісаны ў 1937 годзе, у час сапраўды вызваленчай барацьбы за Беларусь...

## НА КРУШНЯХ ПАМЯЦІ

Незадоўга да адыходу з жыцця сястра сказала, што калі б пасля вяртання ў Мінск яна прыйшла на крушні дома, у якім жылі да вайны, то «нешта, магчыма, і знайшла б...». Я спытаў: «А што б шукала перш за ўсё?» — «Альбом. Альбом фотаздымкаў. У нас быў вельмі добры альбом фотаздымкаў...»

Перш чым сысці з Мінска, сястра паспела забегчы дадому, заклеіць, як вучылі, вокны крыж-накрыж газетнай паперай ды спакаваць чамадан...

Дом ператварыўся ў друз пад першымі ж бомбамі, пахаваўшы чамадан і альбом фотаздымкаў.

Сястры было 16. Яе ўжо няма.

...Мы сыходзілі з Мінска ўтрох: мама, сястра ды я, на шостым месяцы мамінай цяжарнасці. Сыходзілі ў чым былі: мама, сястра ў адных сукенках, я — у маміным жываце.

Было гэта 24 чэрвеня, на трэці дзень вайны, надвячоркам, гадзін у пяць.

Спачатку ішлі ўсе разам — жанчыны газеты «Советская Белоруссия», дзе тады працавалі бацька і мама. Ішоў з намі

і адзін мужчына, у яго была бронь. Астатнія, бацька таксама, адразу пайшлі ваяваць.

Яны сябравалі да вайны — мае бацькі і той мужчына. Пасля вайны ён стаў буйным урадавым чыноўнікам. Але сяброўства больш не было: маці не здолела дараваць яму баязлівасці...

Быў яшчэ адзін мужчына, з якім да вайны сябравалі мае бацькі, — Леў Няхамкін, адказны сакратар той газеты. Ён загінуў у 1942 годзе недзе пад Курскам, у атацы. У яго таксама была бронь. Ягоная жонка Мера Ілінішна, цётка Мера, заставалася лепшай сяброўкай нашай сям'і да самай смерці. Калі памерла, пад падушкай знайшлі лісты, якія яна пісала мужу ўсё жыццё. З ягонымі дзецьмі — адзін з іх пісьменнік Уладзімір Мехаў — мы сябруем да сёння. Толькі нядаўна яны даведаліся, што іх бацька за тую атаку пад Курскам узнагароджаны ордэнам Баявога Чырвонага Сцяга. Пасмяротна...

...Спачатку ішлі ўсе разам. Дом на вуліцы Карла Маркса, дзе жыла Паліна Касаева, машыністка рэдакцыі, ужо гарэў. Маці ўтрымлівала яе, але яна вырвалася, заскочыла праз полымя ў пад'езд, хутка, дзякуй Богу, выбегла з нейкім скруткам. «Вось табе, жывот падперазаць...» Гэта быў адрэз тканіны, бацісту, зараз, мусіць, такой тканіны й няма...

...Спачатку ішлі ўсе разам. На Маскоўскую шашу. Раптам нехта абвясціў, што пад Барысавам нямецкі дэсант. Усе павярнулі на Магілёў.

Я спытаў у сястры: «А дзе ж начавалі? Сышлі ж надвячоркам...» — «Лета, дзень доўгі. А начавалі ў жыце».

Пасля начлегу прайшлі зусім мала. Далей маці ісці не магла.

Па шашы адна за адной імчаліся паўтаратонкі з мэбляй і людзьмі. Кагосьці з цэкоўскіх ды саўмінаўскіх маці паспявала пазнаць. Але яны, мусіць, яе пазнаць не паспявалі. Калі б пазналі, цешуся думкай, мусіць, прыпыніліся б.

Машыну спыніў нейкі міліцыянт. Стаў упоперак плыні і дастаў пісталет...

Маму са мной ледзь упіхнулі ў кузаў. Сястру не бралі, давялося з адчаем уговорваць...

Трошкі праехаўшы, машына прыпынілася. Кіроўца выцягнуў з кабіны мужчыну ў белай фуражцы, той крычаў нешта пагрозліваe...

Далей мы з мамай ехалі ў кабіне. «Вось, бярыце, — сказаў кіроўца, калі давёз да Чэрвеня, — мне ўсё роўна ў войска, а вам спатрэбіцца...» Развярнуўся, памахаў рукой ды пасунуўся ўбок Мінска.

Маці распавядала, што коўдра, пашытая з рознакаляровых абрэзкаў, цёплая мужчынская бялізна, кашулі пайшлі потым на пялюшкі і ратаванне ад жудасных маразоў у маю першую зіму — тэмпература ў пакойчыку, дзе жылі, дасягала мінус 14... Яшчэ яна казала, што ніколі не даруе сабе таго, што не даведалася ў кіроўцы ягонае прозвішча, імя...

...У Чэрвені, на плошчы, стаяла агромністая чарга па хлеб...

Мамін голас дрыжэў, калі яна ўзгадвала, як чарга расступілася: «Прапусціце цяжарную!»

Праз шмат гадоў, у 1984-м, у Чэрвені, у чарзе па рыбу ледзь не забілі інваліда, чатыры разы параненага на вайне. Замест горла у яго была ўстаўлена трубка, ён намагаўся нешта сказаць людзям, але яго не разумелі і за яго не заступіліся... Не заступілася і ўлада, апраўдаўшы ў судзе і партыйных разборах тых, хто збіваў. Калі проста сказаць — здрадзіла.

Я пісаў пра гэта, артыкул называўся «Пятае раненне», атрымаў каля пяці тысяч лістоў...

І тады, чытаючы гэтыя лісты, я канчаткова зразумеў, што здраджваць свайму народу — любімы занятак антынароднай улады, брудная прапагандысцкая забава пад літаўры лозунгаў і парадаў. Насамрэч — ператварэнне памяці ў руіны.

...Аднойчы, разбіраючы крушні памяці, я знайшоў здымак бацькі, зроблены 25 кастрычніка 1941 года. Усмешка на твары, кубікі ў пятліцах гімнасцёркі, белы падкаўнерчык... Ён яшчэ не ведае, што ўжо дваццаць дзён жыве ягоны сын. Ён увогуле не ведае, хто нарадзіўся і ці нарадзіўся, ці жывыя жонка і дачка... Не ведае, ці застанецца сам жыць і помніць.

Але на адваротным баку здымка надпіс: «Дарагому сябру жыцця Марыі Ваганавай у памяць аб незабыўных днях Айчыннай вайны».

...Праз дзень — 22 чэрвеня. Вайна...

## ПЕРШЫ ВОІН

Сёння 22 чэрвеня, панядзелак.

Нават дзіўна, што панядзелак.

У маі тэлефанавала Наташа з Яўрэйскага абшчыннага дома, яго яшчэ называюць хэсэд.

Я не знаёмы з Наташай. Маладым прыгожым голасам яна спытала, ці няма сярод маіх сваякоў ахвяр халакосту — Яд Вашэм, ізраільскі мемарыял халакосту, усё яшчэ збірае прозвішчы і імёны. Я адказаў, што маім сваякам, то бок і мне, пашанцавала, ахвяр халакосту сярод іх няма.

Праз тыдзень Наташа тэлефанавала зноў і спытала, ці не загінуў хто з маіх сваякоў на вайне. Я адказаў, што загінула Вера, стрыечная сястра, але яна не яўрэйка. Наташа памаўчала, а потым папрасіла распавесці пра Веру падрабязней. Я зразумеў, што яна запісвае, і пачаў апавядаць павольна. Назваў дзявочае прозвішча Веры — Міснік, яе мужа Апанаса Макарэвіча. Да вайны яны абое былі маладымі настаўнікамі ў Сямёнавічах, што непадалёк ад Узды. Апанас адразу пайшоў на фронт, а Вера з двухгадовай дачушкай Святланай засталася. Гестапа арыштавала яе літаральна за тыдзень да вызвалення, потым яе, люта збітую, бачылі ў двары уздзенскай турмы, потым бачылі, як на яе нацкавалі сабак, якія разарвалі цела, потым — раскрыжаванай на сцяне хлява... Потым ужо ніхто яе не бачыў. Нідзе і ніколі...

Засталася фотакартка са студэнцкага білета Мінскага педвучылішча. З гэтай фотакарткі потым зрабілі вялікую, яна доўга вісела ў музеі Айчыннай вайны побач з аднайменным ордэнам, якім Веру пасмяротна ўзнагародзілі за тое, за што гестапа закатавала, — за сувязь з партызанамі. Яна і была сувязной.

Святлану, дачку Веры, выгадавала бабуля Вольга, мая цётка. Святлана скончыла школу з сярэбраным медалём, хаця магчымы быў і залаты. Каб не нямецкая мова. Яна ненавідзела гэтую мову, адмаўлялася яе вучыць, нават сышла з адной школы ў іншую — так урэзалася тая «варожая мова» ў дзіцячы слых і памяць арыштам і гібеллю маці...

Яны ўжо пакінулі гэты свет — бабуля Вольга і Святлана. Памёр і Апанас. Пасля вайны вярнуўся ў Сямёнавічы, зноў ажаніўся, зноў настаўнічаў, разводзіў пчол. Усе мы — сваякі Веры, Апанас, ягоныя новыя жонка і дзеці — сябравалі. Апанас, калі наведваўся ў Мінск, прывозіў рыбу і мёд...

Наташа ўсё гэта цярпліва выслухала, тое-сёе ўдакладніла, а праз тыдзень пазваніла яшчэ раз: ці не ўспомніў я, хто яшчэ з маіх сваякоў загінуў на вайне? Ёй, мусіць, здавалася, што загінулых сваякоў павінна быць болей.

Я падумаў пра Мікалая, сына цёткі Надзеі, сярэдняй матулінай сястры. Я запомніў яго першае з'яўленне ў нашым доме, у 1945 годзе, калі ён вяртаўся з войска, дзе ваяваў танкістам і нават у танку гарэў. Запомніў, мусіць, таму, што ён узяў ліст паперы і намаляваў прыгожы імклівы танк з зоркай, а потым як гэты танк гарыць...

Я ніколі не распытваў у яго пра вайну, хаця амаль кожную восень ён прыязджаў з Баку, дзе ўсё пасляваеннае жыццё працаваў пажарным на здабычы нафты, пабачыцца з матуляй і з'ездзіць пад Стоўбцы, у Коласаўскі лес па грыбы, мінчукі добра ведаюць гэты знакаміты грыбны лес...

У 1992 годзе Мікалай павесіўся. Жонка напісала, што ён не вытрымаў распаду СССР...

Не, вядома, я не стаў распавядаць Наташы пра Мікалая, ён жа не загінуў на вайне, толькі гарэў...

«Не ўспомніце?» — яна паўтарыла пытанне.

І я ўспомніў.

Я ўспомніў цёмны сыры паўпадвал на вуліцы Мяснікова, у доме з вышчарбленай чырвонае цэглы. Недзе напрыканцы 90-х яго знеслі, каб не засланяў моднае казіно...

У тым паўпадвале з аднаго пакойчыка і нечага падобнага да кухні жылі бабуля Гіта — матуля бацькі, ягоная сястра Эма і трое яе дзяцей: старэйшы Сёмік, Ліля і Мулік. Бабуля Гіта, памятаю, увесь час размаўляла на ідыш сама з сабой, а Мулік вучыўся граць на скрыпачцы, хаця рабіў гэта з адпаведнай узросту нянавісцю. Сёмік, а следам і Мулік, скончылі з залатымі медалямі школу, потым МДУ, сталі вядомымі

фізікамі-ядзершчыкамі. Спачатку ў Ерэване і Новасібірску, потым у Каліфорніі...

Да сяброўства і сваяцкай сувязі стала зусім далёка.

Я ўспомніў партрэт іх бацькі ў вайсковай форме на сырой, у разводах, сцяне.

Я мала што ведаў пра іхняга бацьку. Ведаў толькі, што імя ягонае Абрам, што прозвішча Хейфец і што ён загінуў на вайне.

Я паабяцаў Наташы што-небудзь пра яго даведацца. І пазваніў у Каліфорнію.

Сёмік, Сэм — яму ўжо дзявяты дзясятак — паведаміў, што іх бацька Абрам Гілялевіч Хейфец загінуў недалёка ад Мцэнска, ля вёскі з незвычайнай назвай — Первый Воин, там і пахаваны. У гэтай вёсцы яму пастаўлены помнік, а школа носіць яго імя...

Час ад часу інфармацыйныя агенцтвы паведамляюць пра смерць апошняга жаўнера Першай сусветнай. Спачатку гэта быў француз, за ім — брытанец, потым аўстраліец...

Не ведаю, ці пачуем мы калі пра смерць апошняга жаўнера Вялікай Айчыннай, ці даведаемся ягонае імя — у былым Савецкім Саюзе лічыць жаўнераў да апошняга не прынята.

Ад першага — таксама.

Але ж ён быў, Першы Воін, забіты на той вайне.

У кожнай сям'і — свой першы.

Мільёны, дзясяткі мільёнаў — першых.

...Абрам Хейфец загінуў 6 кастрычніка 1941 года. Якраз у гэты дзень я з'явіўся на Божы свет.

Такое вось гістарычнае супадзенне.

Зрэшты, я ўсяго толькі адказваў на пытанні незнаёмай Наташы.

## ПЛАЧ БЕЛАЙ КРЫВІ

У цэнтры Мінска, на задворках вялікіх дамоў, сярод павуціння пратаптаных сцежак, што скарачаюць шляхі, прыляпілася да цаглянай сцяны высокая галубятня.

Кожны раз, праходзячы міма, я бачу галубоў, што паселі на седале за высокай металічнай сеткай, зусім не падобных

на растлусцелых суродзічаў, якія акупавалі плошчы і двары Мінска. Бачу, калі ўжо цёмна, святло ў іх дыхтоўным доміку, бачу мужчыну сярэдняга веку, галубятніка.

Яшчэ нядаўна я бачыў яго з хлопчыкам, амаль падлеткам з безабаронна аблыселай, да сіняватасці, галавой. Аднойчы хлопчык нешта казаў галубам, і я расчуў гаворку, што завецца палескай, — дзіўную пявучую вязь з беларускіх, польскіх, украінскіх і ўласна палескіх слоў. Галубы ціхім буркаваннем нешта адказвалі яму на той жа, як падалося, гаворцы. І гэта была адзіная, можа быць, магчымасць, калі я, збочыўшы са сцежкі, мог без боязі падысці, каб распытаць мужчыну і хлопчыка аб іхнім папярэднім, далёкім, як па ўсім відаць было, ад сталічнага, жыцці. Жыцці, ад якога, здавалася мне, толькі й засталіся галубятня і галубы. Але падысці да іх, да іхняга жыцця я не адважыўся.

Потым іх не стала, мужчыны і хлопчыка. Потым мужчына з'явіўся адзін. Я спыніўся наводдаль. «Памёр, — вымавіў мужчына, — белая кроў...»

Не, я так і не адважваюся падысці з размовай, калі бачу, як ён нерухома, моўчкі сядзіць на скрыні за металічнай сеткай з галубамі, таксама маўклівымі і нерухомымі на сваіх седалах.

Калі-нікалі, праўда, які-небудзь узмахвае крыламі ўслед...

Быў у маім жыцці яшчэ адзін выпадак, калі я хацеў, але так і не адважыўся распытаць чалавека аб ягоным мінулым жыцці.

Той выпадак быў у 1968 годзе. А чалавекам тым была старая з вялікай вёскі Сігневічы, што ў Бярозаўскім раёне, на ўскрайку знакамітага Спораўскага балота. Дакладней, не з вёскі, а з хутара непадалёк, ад якога засталіся толькі перакручаныя ствалы груш, рэшткі печы, комін ды магутны, у тры абхваты, дуб.

У тыя часы ці не ўвесь народ, асабліва камсамольскі, троссе ад ліхаманкі меліярацыі. І не проста меліярацыі, а МЕЛІЯРАЦЫІ ПАЛЕССЯ. Гэта сёння страшнавата гучыць. А тады гучала натхнёна і бадзёра. Вельмі ўжо карцела камсамольцам выблытацца са «спрадвечнай галечы і адсталасці».

Яны працавалі як звяры, тыя сігневіцкія камсамольцы, што асушалі балота! Я пасяліўся ў іх па газетнай справе, дапама-

гаючы ўкладваць дрэнажныя трубкі, абгортваць шклопаперай швы паміж трубкамі дзеля надзейнай фільтрацыі...

У перапынках, у цішыні чутны быў звон празрыстай вады, што імклівым ручаём сцякала ў меліярацыйны роў. А далей — Ясельдай, Прыпяццю ды Дняпром — у Чорнае мора...

А потым яны ўзяліся за хутар. Але ўпёрліся ў дуб. Я глядзеў, як яны катавалі яго бульдозерам з розных бакоў, але нічога зрабіць не маглі, толькі здзіралі кару...

Вось тады я і ўбачыў старую.

У нейкай непрытомнасці яна бадзялася па хутары, як бадзяюцца пагарэльцы па папялішчы, нешта вышукваючы ў рэштках мінулага жыцця. Я быў памкнуўся да яе паразмаўляць. Але яна, не заўважаючы мяне, раптам бухнулася на калені, молячыся і асяняючы дрэва крыжом...

Ну, як тут было замінаць?!

А хутка на вялікай нарадзе ў Пінску, адкуль распаўзалася тады пошасць меліярацыі, зноўку вяшчалася аб «спрадвечнай галечы і адсталасці», грымелі апладысменты, пакуль на трыбуну не падняўся нейкі вучоны арнітолаг, зусім замухрышка па выглядзе, і не заплакаў па шэрых жоравах. «Зноў птушкі! — абурыўся Машэраў. — Пра што гэта вы нам зноў?!»

Машэраў, мабыць, і падумаць не мог, што «спрадвечная галеча і адсталасць» ад кесараў, а не ад Бога спрадвечнай палескай дрыгвы...

Сёння ім, сучасным кесарам, зноў перашкаджаюць «птушкі», ім зноў не церпіцца пагнаць на балоты, нават тыя, што адроджаны на сродкі ААН, жалезных страшыдлаў і ўбіць чарнобыльскі кол у самае сэрца нарачанска-астравецкага раю.

...Два табу засталіся нам ад нядаўніх беларускіх трагедый — на меліярацыю Палесся і будаўніцтва АЭС. У іншых краін і народаў ёсць, мусіць, свае табу. У нас — гэтыя.

Аніякая ўлада, нават народ з рэферэндумам, калі ён не самагубца, не маюць права распараджацца Боскімі дарункамі, дзякуючы якім народ яшчэ жывы і не страціў канчаткова сваю гаворку, памяць і душу.

...Не, не звон празрыстай вады я чуў на Палессі амаль паўстагоддзя таму, а плач. І не вады, адфільтраванай да бела, да адсутнасці жыцця, а белай крыві.

Але і сёння даносіцца да мяне гэты плач, калі праходжу паўз галубятню ў цэнтры Мінска і, не азіраючыся, чую ўзмах галубіных крылаў услед...

## ПРАЗ МЕЖЫ

...Мая маці — Маня, Марыя, Маруся, Марыя Міхайлаўна, Манюня, — малодшая пасля двух братоў і двух сясцёр, выйшла замуж у 1924 годзе. У пятнаццаць з паловай. Памежнік з заставы на савецка-польскай мяжы звёз яе ў глыбіню Калужскай губерні, у вёску Чэрцень.

Падобна на тое, што іх бацькі, то бок мае дзед Міхайла і бабуля Софія, не пярэчылі. Гэта дзіўна, бо ва ўсім, што тычылася хрысціянскай маралі, дзед Міхайла, царкоўны вартаўнік, быў вельмі крутога нораву. Але ў мястэчку панавала рэвалюцыйная мараль. Нават назва змянілася — з Мікалаёва на Луначарскае. Хаця, думаю, лёгкасць, з якой бацькі пагадзіліся на ранні шлюб маёй маці, была хутчэй прагматычнага кшталту — пазбавіцца лішняга рота. Ды і насуперак маці, нораў якой пазней ужо зведаў я, пайсці было амаль немагчыма. Думаю, што з тых самых часоў...

Праз год, у 1925-м, дзед Міхайла і бабуля Софія памерлі.

Не тое, каб я нічога не ведаў пра першы шлюб маці. Але пра хуткі пасля таго сыход дзеда Міхайлы і бабулі Софіі дазнаўся ўпершыню, калі яна прывезла мяне на радзіму. Адбылося тое ў 1959 годзе. Мне ўжо 18, студэнт...

На радзіму маці прыехала, каб адшукаць магілы бацькоў.

Могілкі, на якіх месцічы спрадвек хавалі памерлых, прыгожа ўзвышаліся над скрыжаваннем шляхоў да бліжэйшых вёсачак і да Дрысы, то бок сучаснага Верхнядзвінска. Падчас страшэнных паводак, якімі стагоддзямі наводзіла жах Заходняя Дзвіна, людзі шукалі паратунак менавіта на могілках, сярод продкаў...

Шукаць магілы маіх продкаў дапамагала Юлька, сяброўка матулінага дзяцінства, адзіная нітачка, што яшчэ звязвала яе з радзімай. «А ё... тваю матухну! — сустрэла «нітачка» сяброўку, кінуўшы плуг, лейцы і задаволенага выпадковым спачынкам каня. — Дзе ж ты згубілася?!»

Яны не бачыліся амаль 30 гадоў, з таго часу, як маці кінула свайго былога памежніка, вярнулася з дачушкай Маяй у Луначарскае і хутка з'ехала адтуль у Мінск, каб вучыцца ў Камуністычным інстытуце журналістыкі, больш вядомым як КІЖ...

«Здаецца, тут...» — Юлька адхінае зараснікі бэзу, што ўжо буяе між векавых соснаў. Але нічога, што нагадвала б магілы, не бачна, аніякіх узвышшаў... «Што ж, — адгукаецца маці, — хай будуць тут...»

Замаўляць помнік падаёмся мы ў Дзісну, якраз насупраць Луначарскага, на левы бераг Заходняй Дзвіны. Паром цяжка пераадольвае быстрак. «Бачыш унь тыя прысады ўздоўж берага? Яшчэ дзецьмі мы глядзелі, як шпацыравалі па іх польскія афіцэры з дамамі...»

Маці сумна ўсміхаецца, а я амаль фізічна адчуваю, як упершыню маё жыццё пераадольвае нейкую загадкавую, што хвалюе, мяжу.

...1973 год, пачатак мая. Мы з маці едзем на «масквічыку» паўднёвай шашой на Маскву, ад Смаленска праз Раслаўль — маці хоча наведаць Чэрцень, адкуль як з'ехала на пачатку 30-х, так ніколі ўжо там і не была. Хто там жывы, не ведае. Але ў Чэрцені магіла Рэмы, другой дачкі.

Пра сястрычку Рэму, што сямігадовай памерла ад шкарлятыны, я чую ўпершыню...

Ад галоўнай шашы — дваццаць вёрст ушчэнт павыбіванага асфальту. На ўездзе драўляная арка, абвітая дзеразой, з чырвонай зоркай наверсе, намаляванымі паабапал гербамі горада і надпісам «Добро пожаловать в старинный русский город Мосальск!»

Гумавыя боты ў багажніку. Яны заўсёды там, бо бацькі заўзятыя рыбакі. Але пад аркай з гасцінным запрашэннем выйсці з машыны немагчыма — гразь, у якой патанулі Напалеон

і Гітлер, праз шчыліны ўжо трапіла ў салон. Інтэлігентна кажучы — па самыя вушы...

Паратунак клічуць Васяткам. Немаведама якога ўзросту, у бліскучым шэрым гарнітуры, белай кашулі з развязаным гальштукам і рудым капелюшы на тырольскі манер. Крычыць нешта неразборлівае, махае рукой, а ў другой гойдаецца сетка з апельсінамі... Задзірае калашыны, дабіраецца да нас. «Зараз, зараз, — супакойвае і працягвае руку, — Васятка». Потым лезе ў кішэню: «Шклянкі ёсць?» А як жа, у бардачку. Васятка шчодра разлівае па шклянках «Маскоўскую»: «Ну, за перамогу!» Закусваем апельсінам. «Не хвалюйцеся, тут унізе асфальт, гэта коламі нацягалі... Чакайце, я хутка...»

Праз паўгадзіны Васятка цягне нас на «Беларусе» да гасцініцы. З-пад колаў плёскае гразь, ляпае па шкле. Каго ні ўбачыш праз каламуць, ва ўсіх сеткі з апельсінамі, у каго й з «Маскоўскай». Масальск святкуе Дзень Перамогі...

«Да раніцы, — развітваецца Васятка, — раніцай адцягну...» — «А ў Чэрцень не дацягнеш?» — «Не, туды ніхто не дацягне. Нават па п'янцы...»

Прачынаюся сярод ночы — з матулінага ложка чуецца стрыманы плач...

І зноўку маё, здавалася, ужо асэнсаванае жыццё праз несуцішны боль маці пераадольвае яшчэ адну таямнічую мяжу...

Мая маці была моцнай характарам і, нягледзячы на маленькі рост, дужай фізічна, магла рабіць любую сялянскую працу.

У верасні 1939-га яна кінула дачку на сяброў і пайшла вызваляць Заходнюю Беларусь. Потым у Пінску ачольвала рэдакцыю «Палескай праўды»...

У чэрвені 1941-га яна пешшу, на шостым месяцы цяжарнасці, данесла мяне аж да Магілёва. І далей, да Казані...

У 1945-м яна выратоўвала з Нямеччыны і Польшчы тагачасную Ленінскую, зараз Нацыянальную бібліятэку, якую пачалі ўжо раскідваць па вайсковых «ленінскіх пакоях», «чырвоных кутках» ды генеральскіх «трафеях». Смяялася, калі ўзгадвала, як танчыла вальс з Ракасоўскім. Пасля вальса Ракасоўскі аддаў загад кнігі вярнуць...

Што б ні здаралася, з тае ночы ў Масальску я больш не бачыў, каб маці плакала. Нават на пахаванні майго бацькі. Толькі збялелы твар.

Але гэта ўжо іншая гісторыя, іншыя межы, з іншымі стратамі і набыткамі.

Межы часу, памяці і бязмежнага болю...

*P. S.* Чытач мусіць ведаць, з якой нагоды напісаны гэты ўспамін. Адказваю: з нагоды глыбокага роздуму Сяргея Харэўскага пра траўмы, што нанесла беларусам гісторыя.

## ІМЯ МЕЛЬЦЭРЗОНА

Апошнім часам усё часцей чую пра Якава Барысавіча Мельцэрзона, які пасля вайны мо з чвэрць стагоддзя выкладаў фізіку ў 42-й мінскай школе.

Чытаю раман Някляева пра аўтамат з газіроўкай, і ці не на першых старонках сустракаю Якава Барысавіча, 42-ю школу, таго-сяго з раманнай гоп-кампаніі і нават Жарэса Алфёрава, Нобелеўскага лаўрэата, які «быў стылягам, насіў порткі-дудачкі ды стракатую кашулю з малпамі»...

Трохі загадкавае сцвярджэнне. Бо які стыляга з пералічанай атрыбутыкай пры Сталіне, у 1947 годзе, калі Жарэс Алфёраў з'ехаў з Мінска назаўжды?..

Але справа не ў тым.

Гартаю папулярную газету і дазнаюся, што вучні 42-й школы, зараз гімназіі, звярнуліся да Жарэса Алфёрава па дазвол надаць ёй ягонае праслаўленае імя. Ён адказаў: «З удзячнасцю дазваляю». І «ўсе мы, — паведамляе адзін з вучняў, — з заміраннем чакаем гэтай падзеі»...

Трохі двухсэнсоўнае чаканне, бо звычайна імёны знакамітых людзей надаюцца розным установам па-за межамі іх жыцця. Да таго ж не пашкодзіла б спытацца дазволу ў Бялінскага, чыё імя цягам дзесяцігоддзяў насіла 42-я. А што калі ўзбунтуецца «палкі Вісарыён»?

Але справа не ў гэтым.

Справа ў Мельцэрзоне. Бо менавіта ён, сціплы мінскі настаўнік фізікі, праклаў Жарэсу Алфёраву сцяжынку да Нобеля.

Каб не Нобель, ніхто, за выключэннем, можа, яшчэ жывых вучняў, не ведаў бы пра Якава Барысавіча Мельцэрзона. А сёння дзе Жарэс Алфёраў, там і Якаў Барысавіч Мельцэрзон. Няма аніводнага інтэрв'ю ці якога яшчэ аповеду пра сваё жыццё і прафесійныя дасягненні, дзе знакаміты фізік не згадваў бы першага настаўніка.

Я таксама вучыўся ў Мельцэрзона і добра памятаю ўсмешлівае шкадаванне ў вачах за акулярамі з тоўстым шклом, з якім ён выводзіў мне выратавальны «трайбан», як мы тады называлі адзнаку «здавальняюча». На вучняў, што атрымлівалі ў яго «выдатна», я глядзеў не тое што з зайздрасцю, а як на іншапланетных істотаў, якім падуладныя неабсяжныя таямніцы.

Адным з такіх «іншапланецянінаў» быў Генік Шыдлоўскі.

Някляеў піша, што ў Мельцэрзона «на фізіка вывучыўся толькі Жарэс Алфёраў»... Гэта, мусіць, мастацкая выдумка. Бо на фізіка вывучыўся ў Мельцэрзона яшчэ і Генік Шыдлоўскі.

Дарэчы, Генік Шыдлоўскі таксама згадваецца ў рамане Някляева — у нейкай неакрэсленай постаці, у неабавязковым, праз коску, пераліку.

Але справа не ў тым.

Справа зноўку ж у Мельцэрзоне. Бо і Геніка Шыдлоўскага ён таксама паставіў на сцежку да Нобеля.

Алфёраў, праўда, тупаў па той сцежцы ўжо 10 гадоў. А Шыдлоўскі зрабіў па ёй толькі два крокі — скончыў школу з залатым медалём і паступіў на фізфак БДУ.

БДУ ўзначальваў таксама фізік — акадэмік Сеўчанка. І былі ўсе падставы спадзявацца на тое, што сцежка да навуковых вышынь падоўжыцца без перашкод.

Але хто ж тады думаў пра Нобеля, акрамя Мельцэрзона? Ну, і, вядома, Алфёрава, які зведаў паўпраўду аб сталіншчыне ў сталым узросце і ў добрым, так бы мовіць, фізічным стане...

Шыдлоўскі зведаў тую паўпраўду яшчэ школьнікам — з натхнёнай ілюзіяй пра сцежку, што вядзе да свабоды.

У рамане Някляева мноства сапраўдных імёнаў тых, хто, як і Шыдлоўскі, пакрочыў па той сцежцы.

Крочылі, праўда, хто як: адны нібыта танчылі, іншыя з усёй шчырасцю біліся лбом у сцяну...

Але справа не ў гэтым.

Справа ў Мельцэрзоне, які не здолеў спалучыць у сваіх вучнях прагу да фізікі з прагай свабоды.

Так разышліся напрыканцы 50-х гадоў сцежка да Нобеля і сцежка да свабоды, на якую ўжо чакаў Геніка іншы павадыр у выглядзе дамарослага Вяргілія — Кіма Хадзеева. Ці Палкоўніка, як у Някляева...

А напачатку 60-х па ўніверсітэце пракаціліся суды.

Іх называлі «судамі гонару». Вывешваліся аб'явы з прозвішчамі «падсудных», біткам набіваліся залы...

Суд над Шыдлоўскім адбываўся ў актавай зале нядаўна пабудаванага галоўнага корпуса.

Судзіў сам Сеўчанка, сухарлявы стары з гожай акадэмічнай знешнасцю. Ён зачытваў вытрымкі з асабістага дзённіка Шыдлоўскага, нікольկі не саромеючыся ганебнасці гэтага акта, і, звяртаючыся ў асноўным да жаночай паловы залы, біў напавал: «Вось бачыце, што ён пра вас піша!» Наколькі памятаю, гэта было даволі нервовае, у простых выказваннях, разважанне — у тыя гады! — пра прастытуцыю ў СССР, яе вытокі і, так бы мовіць, перспектывы. Нехта ўскрыкваў, нехта ўсхліпваў... «Ды ён падрывае падмурак нашага грамадства! — усклікнуў акадэмік. — Ведаеце, хто ягоны кумір?!» Мы падрыхтаваліся пачуць нешта жудаснае. «Ну, гэты, як там яго... Эрэнбург!»

Акадэмік Сеўчанка лічыўся выдатным фізікам, але яго, на жаль, не вучыў Мельцэрзон. Шыдлоўскі быў страшэнна дасціпны, дакладней, невычэрпна кплівы з усяго і ўсіх, аднак без аніякай абразы. Вось і тады, атрымаўшы слова быццам для пакаяння, ён сказануў нешта неймаверна смешнае, ад чаго ўся зала грымнула рогатам і адразу змоўкла, аглушаная рэзкім, на брынклівай ноце, крыкам: «Во-о-н!»...

Шыдлоўскага выключылі з універсітэта, праз год, здаецца, аднавілі, але хутка, і гэта ўжо дакладна, ён памёр. Ад перадазіроўкі наркотыкаў... Па справядлівасці, калі сапраўды прысвойваць 42-й школе, ці гімназіі, іншае імя, то хай гэта будзе імя Мельцэрзона.

Вядома, людзі будуць пытацца: а хто такі Мельцэрзон?

А гэта, пачуюць, той настаўнік, што вывучыў Жарэса Алфёрава, Нобелеўскага лаўрэата, і Геніка Шыдлоўскага, які заўчасна памёр.

## СТАЛІНІЯДА, альбо Д'ЯБЛАВА КОЛА

...Першы сапраўдны спалох у сваім дзіцячым жыцці я зведаў у калідоры Опернага тэатра, па якім, нібыта па нейкім коле, мы, вучні музычнай школы, гойсалі ў перапынках паміж рэпетыцыямі хору.

Рыхтавалася Дэкада беларускага мастацтва ў Маскве, яе заключны канцэрт. І каго толькі не сустракалі мы ў тым калідоры! Вось паважна плыве па ім Ларыса Пампееўна Александроўская — перахоплівае дыханне ад яе прыгажосці; вось маленькі, з пахам адэкалону, рыжаваты, у чорным фраку з залатым медалём народнага артыста, заўжды з чырвоным тварам, знакаміты тэнар Балоцін — ягонае імя Ісідар чамусьці падаецца нам недарэчным. Як, зрэшты, і «Пампееўна» Александроўскай. А вось Мікалай Ворвулеў —задраў галаву і нечым прапалосквае свой барытон... Усяго паўвека пражыве, памрэ ўжо ў Кіеве. «Мой бацька, мой Нёман»... Ды што там! Сам Мікалай Ахлопкаў, бялявы, з трохі лупатымі вачыма, узвышаецца над усімі, бы Гулівер, пляскае ў далоні: «Стоп! Стоп! Яшчэ раз...» — рэпетуе канцэрт і не ведае, што ён адкладзецца разам з дэкадай на тры гады. Бо які там канцэрт, калі кола гісторыі, пакінуўшы за сабой рэкі крыві, набліжаецца да 5 сакавіка 1953 года, да ўсенароднай жалобы...

А тады, мо недзе ў студзені, калі мы з Сашкам Ахраменкам ганяліся адзін за адным, я раптам утыкнуўся ў чыйсьці цвёрды жывот. Падняў вочы. На мяне глядзеў... Сталін. «Ты чаго, хлопчык? Спужаўся?»...

Прайшло звыш 60 гадоў. Але коціцца і коціцца па краінах былога СССР д'яблава кола сталіншчыны. То, як прывід, з'явіцца і пакоціцца з Сант-Пецярбурга «сталінобус» з выявай сатлелага генералісімуса... То нейкія «групы таварышаў» пачнуць збіраць грошы на новы помнік у Мінску...

Апошнім разам кола пушчана з Крамля, ад імя нібыта «ветэранаў» — вярнуць Сталінград. Маўляў, да чалавека са злавесным імем Сталін гэта не мае аніякіх адносінаў.

Сапраўды — што чалавек?! «Нэт чэлавека — нэт проблемы...»

Дык вось жа чалавека няма, а праблема ёсць.

Чалавека, дакладней ягоную мумію, меў я сумніўнае шчасце бачыць у 1958-м, праз шэсць гадоў пасля жахлівай сустрэчы ў Оперным.

Больш за ўсё мяне ўразілі нізкі лоб і рэдкія бялявыя валасы, з-пад якіх адсвечвала сінюшная скура абяскроўленай галавы.

Калі згаданым «ветэранам» пашанцавала пабываць у тым падземным увасабленні пекла, наўрад ці яны здолелі ўявіць сабе іх куміра, якім быў ён насамрэч. Патрэбная сапраўды д'ябальская фантазія, каб надзяліць ідала хоць троху прывабнымі чалавечымі рысамі. Але «ветэранам» гэта не трэба. «Ветэранам» патрэбны менавіта ідал, а не карла на крывых нагах. «Чэлавечышча» ім патрэбны, пад уладарніцтвам якога было «не ўсё дрэнна».

«Чэлавечышча», што праўда, «харчаваўся» чалавечынай на шостай частцы сушы.

Але гэта «ветэранаў» не бянтэжыць.

«Чэлавечышча», што праўда, быў сааўтарам самай крывавай бойні XX стагоддзя, што ўзяла дзясяткі мільёнаў жыццяў.

Тых дзясяткаў мільёнаў, без галасоў якіх будзе подласцю любы рэферэндум па вяртанні Сталінграда.

Але і гэта «ветэранаў» не бянтэжыць.

Зазірніце ў Рымскі статут — збор законаў для Міжнароднага крымінальнага суда. Няма злачынства, якога не здзейсніў бы «бацька народаў» супраць гэтых народаў...

Але і гэта «ветэранаў», пакуль яны будуць, не збянтэжыць.

І выглядае на тое, што «ветэраны» будуць заўжды.

Праблема, аднак, не ў асобе Сталіна, і нават не ў «ветэранах», якія, можа быць, толькі на постсавецкай прасторы не страцілі здольнасць размнажацца.

Праблема ў мільёнах сталінчыкаў, што затаіліся ў свядомасці прыхільнікаў «жалезнага парадку» і «цвёрдай рукі».

Праблема ў мільёнах сталінчыкаў, што хаваюцца ў павуцінні імперскасці ў чаканні новых ахвяр.

Ды ці хаваюцца? Ужо, мусіць, рыхтуюцца да «маршу ватовак» у падтрымку так званай «Наваросіі», да якога заклікае Валеры Трэцьякоў. Імаверна, стаміўся ад інтэлектуальных практыкаванняў вакол украінскай трагедыі... Яно так, у ватоўках прасцей. У чым жа яшчэ вяртацца ў сталіншчыну?!

А мы ўсё верым у тое, што адбыліся вялікія змены, што звароту да сталінскай мінуўшчыны няма. І тыя ці іншыя праявы ўсёй гэтай сталініЯДы лічым містыфікацыяй, клаўнадай і фарсам.

Але Крым — не фарс.

Данбас — не фарс.

Вяртанне Сталінграда — не фарс.

Нельга лічыць фарсам тое, што адбываецца пад смяротную завіруху.

...«Ты чаго, хлопчык? Спужаўся?» — Сталін ласкава паклаў мне на стрыжаную галаву цёплую далонь. Супакоены, я зноў падняў вочы. У вусах — усё тая ж спагадлівая ўсмешка. Але погляд жоўты, рысіны... «Правільна, хлопчык. Баісь...»

Увайшоў у ролю.

## ТРЫ ГРУЗІНЫ

Я не быў у Грузіі, але ведаю трох грузін.

Адзін з іх — Чабуа Амірэджыбі, знакаміты пісьменнік, у маіх вачах — жывы Сервантэс, калі лічыць ягоны геніяльны раман «Дата Туташхіа» грузінскім «Дон Кіхотам». Ён і сам нагадвае Дон Кіхота — высокі, хударлявы, з вачыма, поўнымі сумнай іроніі і прыроджанай высакароднасці. Да таго ж па паходжанні ён князь і тройчы ўцякаў са сталінскіх лагераў.

Апошні раз уцёк у Беларусь.

Недзе ў сярэдзіне 1980-х мне разам з Віктарам Казько і Яўгенам Будзінасам пашанцавала з’ездзіць з ім у мястэчка Іллю, непадалёк ад Вілейкі. На здзіўленне хутка, калі мець на ўвазе час, што прайшоў ад канца 1940-х, мы знайшлі лесапільню на ўскрайку Іллі. Праз пяршысты пах апілак прабі-

ваўся смалісты — пах выробленай драўніны. Бярвёны ляжалі покатам, навокал — ані душы.

Мы шукалі чалавека, на жаль, забыўся ягонае імя, які напрыканцы 40-х працаваў на лесапільні галоўным бухгалтарам. Адшукалі нарэшце зусім паблізу. Зморшчыўшы старэчы, у плямах, лоб ды жмурачы вочы, ён углядаўся ў нечаканага госця, пакуль не з'явілася жонка і не пляснула рукамі: «Левон!»

Левонам звалі чалавека, які працаваў у тыя гады дырэктарам лесапільні, а насамрэч быў збеглым зэкам Чабуа Амірэджыбі...

Левон быў вельмі добрым дырэктарам і паважаным чалавекам. Яго нават ледзь не ўзнагародзілі ордэнам Леніна, але ён упрасіў міністра не ўзнагароджваць, маўляў, не заслужыў...

Яшчэ ў Левона былі два сябры — былыя партызаны, дырэктары мясцовых цагельнага і шклянога заводзікаў. Калі на «шкляра» завялі крымінальную справу за тое, што прадаў у Літву грузавік бутэлек, ён прыйшоў да Левона раіцца, што рабіць: уцячы ці рыхтавацца да плахі ў разліку на паратунак сяброў-партызан, што сталі вялікімі начальнікамі. «Я параю табе, каб ты ўцёк, — адазваўся Левон, — а цябе зловяць. Я параю табе, каб ты ішоў на плаху, а сябры-партызаны не выратуюць. Скажы лепш, чым дапамагчы?» — «Звязі адсюль, схавай жонку і дзетак».

Звёз, схаваў. Але сам быў вылічаны і зноўку кінуты ў лагер на 25 гадоў. Вызвалены ў 1959-м.

І галоўны бухгалтар лесапільні сваё адседзеў — за тое, што быў у нямецкім палоне, але да часу здолеў гэта ўтаіць. Чабуа, вядома, пра тое не ведаў і напружана слухаў, пакуль мы дапівалі самагонку і даядалі хатнюю кілбасу.

Былога дырэктара цагельнага завода мы таксама знайшлі — ужо ноччу, здаецца, у Радашковічах ці ў Красным, даўно было...

«Цагельшчык» блытаўся ва ўспамінах, гаварыў пра тое, як разам партызанілі, з насцярогай адказваў на пытанні — відавочна вырашыў, што і па яго ў рэшце рэшт таксама прыйшлі... А потым, пасля тостаў «за сустрэчу», што суправаджалі даволі змрочнае застолле, паведаміў, што «шкляра» ўсё ж пасадзілі і ў турме ён павесіўся...

Пры звіядзістах Чабуа Амірэджыбі зноў абвяшчалі «ворагам народа», палілі кнігі... Але дзеці працягвалі гуляць у Дату Туташхіа.

Апошнія гады Чабуа хварэе на горла, яму цяжка размаўляць. Але, адказваючы на пытанне аб «крываточнай асецінскай праблеме», сказаў: «Асеціны сталі ахвярамі імперскай палітыкі, а ў выніку зрабілі ахвярамі і нас...»

Пра гэта распавёў мне другі грузін, якога я ведаю, журналіст Амар Чыхладзэ. Насамрэч ён селянін — прыкупіў кавалак зямлі непадалёк ад Тбілісі і працуе на ёй амаль увесь год. Я ўяўляю, як цяжка ён працуе — у яго няма нагі.

У Мінск ён прыязджаў праз два ці тры месяцы пасля жніўня 2008-га. Мы абняліся, і я спытаў у яго: «Сын?»

Ягоны твар скрывіла грымаса болю, і ён узняў рукі да нізкай столі старой «хрушчоўкі», нібыта там было неба: «За што?! За што ты забраў майго хлопчыка? Д'ябал сумленнейшы за цябе, ён не хлусіць, калі забівае...»

Я спытаў, як загінуў ягоны Гіга.

«Я стрымліваў яго, а ён сцвярджаў, што вайны там ужо няма. Але гэты нягоднік (Саакашвілі. — *С. В.*) схлусіў, і яны з Сашам Клімчуком паехалі — Гіга пісаць, Саша здымаць, яны з дзяцінства сябравалі, грузін і рускі. Яны ўжо вярталіся, калі ўбачылі жаўнераў у грузінскай вайсковай форме. Спыніліся, выйшлі з машыны, нават паспелі прывітальна памахаць рукой: «Гамарджоба!»... Яны вырашылі, што гэта грузіны...

Я паглядзеў у асleплы ад гора твар майго сябра і прыгадаў, што ведаў яшчэ аднаго грузіна, каторага ведалі ўсе. Але ён не быў грузінам. Ён і ягоныя падручныя не былі ні грузінамі, ні габрэямі, ні рускімі, ні беларусамі, ні асецінамі... Яны былі катамі і рэзалі па жывым. Па людзях, сем'ях, народах ды землях гэтых народаў. Каб у катле «дружбы народаў» не стала ў рэшце рэшт ні рускіх, ні асецінаў, ні грузін.

# IV. МОСЦІК НАД ВЕЧНАСЦЮ

*Няма, мусіць, чалавека, які хаця б раз у жыцці не задумваўся над тым, дзеля чаго ён з’явіўся з нябыту, якая сувязь існуе паміж ім, продкамі і нашчадкамі, як адбіваецца гэтая сувязь на ягоным жыцці і жыцці, што віруе навокал, пакуль ён сам бездапаможна не сыдзе ў нябыт...*

## ГОЛАС З НЯБЁСАЎ

Час ад часу ў мяне пытаюцца: чаму назва рубрыкі, пад якой друкуюцца мае калонкі, «Камертон»?

У пытанні адчуваецца, а калі і наўпрост чую, папрок у нясціпласці. Маўляў, ці не зашмат бярэ на сябе аўтар, прэтэндуючы на абсалютны слых, на бездакорнасць думак і абагульненне пачуццяў?

Насамрэч усё значна прасцей.

...Ужо і не памятаю, хто прапанаваў з’ездзіць у вёску па самагон і сала. Хутчэй за ўсё, я сам. Бо на чым яшчэ было ехаць, акрамя бацькавага «масквічыка»? Тым больш, што да Новага года заставалася 5–6 гадзінаў і паспець на нашу студэнцкую складчыну інакш было немагчыма.

Што да вёскі, то і назву яе не памятаю, і скажы хто зараз знайсці яе, не знайду. Памятаю толькі, што ў накірунку Паперні, а потым яшчэ кудысьці ўбок, агулам кіламетраў 30 ад Мінска. Ці 40...

Снежань у тым годзе быў марозны і маласнежны. Не тое, што восень, калі пад халодным, бесперапынным, з ветрам, дажджом поркаліся ў пошуку падгнілых бульбін у гразкіх барознах. Да хаты дабіраліся ледзь жывыя, гаспадар, здаецца Пятро, наліваў у жалезную конаўку, адну на трох, пякучай каламутнай вадкасці, кожнаму па глытку, а Ганна, гэта памятаю дакладна, ужо смажыла яечню з мінулагодняй скваркай... Цяпло бегла па венах, і, павячэраўшы, мы адразу валіліся

на шырокі сяннік, што быў раскладзены на падлозе. Хата, аб адным пакоі, яшчэ будавалася. Ні ложкаў, ні канапаў не было — толькі печ ды падлога. Пятро, Ганна... Па тагачасным уражанні гадоў недзе за 70, мо нават і болей. Але кожную ноч праз паўсон толькі і чулася з печы валтузня і бясконцае: «Ды адчапіся ты... хлопцаў пабудзіш...» Ага, пабудзіш...

Пятро, дарэчы, быў без нагі, але кульгаў на драўляным пратэзе даволі спрытна. Дзе страціў нагу, ды і ўвогуле пра жыццё сваё ніколі не распавядаў. А цікавіцца здавалася непрыстойным. Страціў і страціў. Аднойчы толькі, калі мы заспрачаліся пра культ асобы, пра Сталіна і Хрушчова, зірнуў з-пад сівізны слязістымі вачыма: «Кіньце, мальцы, што вы пра тое ведаеце...» Нам бы дазнацца, чаму ён на старасці будавацца пачаў, ці была і куды падзелася ягоная родная хата. А мы ўсё Хрушчоў, Сталін, культ асобы...

...Самагону Пятро наліў ад душы, у вялікую, мо літры на тры, бутлю. Адрэзаў кавалак сала, Ганна наклала кіслай капусты. На развітанне глынулі па глытку, усё з той жа жалезнай конаўкі. Абняліся, павіншаваліся з надыходзячым... Я глянуў на гадзіннік — яшчэ гадзіны тры, паспею...

Недзе праз паўгадзіны распачалася завіруха, першая на тую зіму. Снег заляпляў шкло, фары сляпілі ўжо мае ўласныя вочы...

Усё ж добрае было аўто — «Масквіч-402»! Жалеза файнае, шведскае... 16 гадоў па ўсіх рыбацкіх мясцінах ад'ездзіў, як прадавалі, бацька, стрымліваючы слязу, усё ляпаў яго па даху: «Як званочак... як званочак...»

«Званочак» трошкі вільнуў задам, споўз у кювет і мякка лёг на правы бок. Кювет не кювет, так, равок. Не, усё ж кювет, самому выбрацца немагчыма. Мо хто паедзе, дурням заўжды шанцуе... Не пашанцавала. Добра хоць паліва амаль бак і печка спраўная...

Хвілін за пяць да дванаццаці я дастаў з бардачка кілішак, наліў з Пятровай бутлі і ўключыў радыё. Прамаўляў, здаецца, Левітан: «С Новым, 1961-м годом, дорогие товарищи! С новым счастьем!»

...Ужо трошкі прыснуў, калі раптам пачулася: «Уладзімір Алоўнікаў, «Песня аб Радзіме». Спявае дзіцячы хор Мінскай музычнай школы-дзесяцігодкі».

Я расплюшчыў вочы, заглушыў рухавік. Завіруха скончылася, і ўсё навокал сталася белым. Усё, наколькі хапае далягляду, іскрыцца ў ззянні маладзіка, што, мусіць, ужо адольвае першую квадру. І нібыта з нябёс ліецца мелодыя: «Радзіма-а мая дарага-а-я...» Няўжо Сярожа? Так, я чую, гэта ён. Мабыць, стары запіс, мо нават з дэкады, недзе там уплецены і мой голас...

Я зноў заплюшчваю вочы. І бачу канцэртную залу з высокімі, у прыгожых пераплётах вокнамі, што глядзяць на плошчу Свабоды, чорны раяль і Мікалая Хведаравіча Маслава — ледзь прыўзнятай рукой заклікае да цішыні. Секунды на тое, каб услухацца ў цішыню, і вось яна поўніцца высокім меладычным гукам, нібыта пачынае гучаць паветра, пранікае не толькі ў слых, у лёгкія, але і ў душу. Так Мікалай Хведаравіч распачынае рэпетыцыю нашага хору — лёгкім ударам металічнай палачкі па такім жа металічным прадмеце, падобным на тоўсты двухзубы відэлец. Мы ўжо ведаем, што прадмет завецца камертонам, а гук, каторы здабываецца з яго, нотай ля... Кароткі ўзмах, і...

...1955 год, сцэна Вялікага тэатра, хлопчыкі ў белых кашулях і чорных, пашытых на заказ, штанах з шавіёту, дзяўчынкі з бантамі і ў белых фартухах. І ўсе з чырвонымі піянерскімі гальштукамі. І ўсе ўглядаюцца ў пазалочаную пячору цэнтральнай ложы, нібыта там, у загадкавай цемры, Сталін... І так шчыра, ані ноткі фальшывай, усе спяваюць «Радзіму...». А саліруе Сярожа Мінчонак — бялявы хлопчык, мо гадкоў дзесяць, з зайздросным, дзівосным, крынічным голасам...

І вось гэты голас зноў ліецца з нябёс. Разам са святлом маладзіка, што ўжо адольвае першую квадру.

...Не злічыць, колькі месячных квадраў прайшло, а штогод, калі на гадзінніку дванаццаць, узгадваю, як сустракаў 1961-ы — сам-насам з Прасторай і Часам.

І з Сярожам Мінчонкам.

Ад тае пары ні яго, ні пра яго я не чуў. Акрамя таго, што, па звестках, у яго зламаўся голас.

Шмат чаго зламалася з таго, ува што свята верылася. Але камертон цэлы: «Красуйся і ў шчасці жыві...»

## ПАМЯЦЬ СУСВЕТУ

...У гэтым было нешта сімфанічнае: вогненны шар... успышка на ўсё неба... далёкі выбух і супакоены, бы лёгкі ўспамін, шлейф...

Потым замільгацелі твары ў крыві, рукі і галовы ў бінтах, выбітыя шыбы, знесеныя дахі...

Роўна тры дні сатрасалі інфармацыйную прастору касмічная сімфонія ў небе і жах на зямлі.

Больш за стагоддзе чалавецтва затрымлівае дыханне, узгадваючы Тунгускі метэарыт.

А нядаўна паказаў сябе метэарыт Чалябінскі.

Навукоўцы сцвярджаюць, што абедзве катастрофы ці не роўныя па паходжанні і маштабах.

Няўжо інфармацыйныя тэхналогіі так спрасавалі Час, што за тры дні магчыма даведацца амаль аб усім тым, на што не хапіла стагоддзя?

Верагодна, так.

Тунгускі метэарыт бачыла толькі Усёвідушчае вока.

Чалябінскі — тысячы мабільнікаў, сотні відэарэгістратараў...

Тунгускі выбух дасюль гучыць над маўклівай пустэчай Часу...

Чалябінскі выбух закрэслены піскливым «афігець!».

Чалавецтва пазбавілася страху. І гэта мо самае страшнае, што здарылася з ім.

У тыя ж дні, калі выбуховая хваля неслася па Сеціве, кацілася па тэлеэкранах, адбылася сціплая, амаль незаўважная падзея — былому савецкаму афіцэру Станіславу Пятрову ўручылі Дрэздэнскую міжнародную прэмію міру. У ноч з 25 на 26 верасня 1983 года падпалкоўнік Пятроў выратаваў свет ад ядзернага Армагедона.

Я вось думаю зараз: што змусіла дзяжурнага па савецкай сістэме ранняга папярэджвання аб ракетным нападзе ў той момант, за тыя некалькі хвілін, якія заставаліся да націскання чырвонай кнопкі, не паверыць, што пяць амерыканскіх міжбалістычных ракет ужо запушчаныя і ляцяць? Парушыць усе статуты, правілы, абавязкі і не паверыць сістэме, а спакойна, удумліва, не зважаючы на ліхаманкавы бег секунд, шукаць памылку...

Адказнасць? Безумоўна. Прафесійнасць? Бясспрэчна. Але найперш страх. Не за сябе. Нават не за дзяржаву. Бо калі б так, кнопка была б націснутая.

Не, гэта быў іншы страх — чалавецтва, за чалавечнасць у чалавецтве, за апошні момант яго жыцця...

Але ці не чалавецтва падвяло сябе да апошняй рысы і вырашыла, што ўтрымае самазнішчальную моц? І які сэнс страшыцца нябеснай кары, калі мы самі здольныя насланць яе на каго захочам — на сябе?

Якая там кара? Фігня... Афігець...

У 2011 годзе пад тым жа Чалябінскам быў выяўлены найвялікшы ў свеце геогліф — выкладзеная камянямі 5–8 тысяч гадоў таму выява велізарнага лася. Навукоўцы не ведаюць, як тое было магчыма...

Я ўяўляю сабе таго мастака — з якім страхам углядаецца ён у бязмежнае зорнае неба, а з першымі промнямі сонца выкладвае свайго лася, каб параўнацца з таямнічым небам і пераадолець страх.

Уся чалавечая культура нарадзілася з таго першабытнага страху перад таямнічай неабсяжнасцю неба.

Сёння калі страх, дык толькі за тое, каб хто варожы не скраў інфармацыю, не авалодаў знішчальнымі тэхналогіямі і не стаў панаваць над светам.

Я добра памятаю, якога страху на савецкія ўлады нагнаў у 1985 годзе артыкул у газеце «Труд» пра НЛА, які бачылі экіпажы двух грамадзянскіх самалётаў амаль што над Мінскам. Хто пацікавіцца, можа і зараз прачытаць пра тое, калі заб'е ў пашукавік назву «Ровно в 4.10». Але там наўрад ці хто знойдзе паведамленне пра заўчасную смерць Іллі Мелянеўскага, загад-

чыка адзела навукі, добрага і вельмі адказнага журналіста. Пра містычнае супадзенне назвы і нумара ягонага кабінета — 4-10 — знойдзе. Пра вымовы, тэлефонныя нагонкі і нават амаль што міжнародны скандал — знойдзе. Але пра скрамсаную душу Іллі і сэрца, якое не вытрымала, разарвалася, — анічога...

Сёння НЛА сталіся ці не штодзённай кармушкай для СМІ — і тых, што адсвечваюць жаўцізной, і тых, што прэтэндуюць на разважлівую грунтоўнасць. Я нават не ведаю, ці сапраўды ёсць цікавасць да іх — такой звыклай сталася іх прысутнасць у паўсядзённым жыцці...

Ды што там НЛА, калі Апазнаны Лятаючы Аб'ект над Уралам хваляваў чалавецтва ўсяго тры дні і не стаў нагодай, каб углядзецца не толькі ў неба, а і ў самога сябе?

Чаму?..

Ці не ў тым праблема, што, авалодаўшы тэхналогіямі, якія здольныя працяць паверхню Марса, мы застаемся няздольнымі адмовіцца ад ядзернай зброі і прадухіліць Армагедон?!

Ці не ў тым справа, што парушаны знакаміты кантаўскі імператыў пра зорнае неба над намі і маральны закон унутры нас?!

«Сёння раніцай, — з горыччу піша сучасны філосаф Эміль Чоран, — пачуўшы, як нейкі астраном распавядае пра *мірыяды сонцаў*, я не стаў прыводзіць сябе ў парадак: навошта цяпер мыцца?»

Афігець!

* * *

16 лютага, у суботу, у кожнага, з кім давялося размаўляць, я пытаўся, ці глядзеў хто-небудзь трансляцыю НАСА пра астэроід, што апоўначы праляцеў паблізу Зямлі. Нехта глядзеў, але большасць супакоена адпачывала. «А што там такога было?! — усклікнуў знаёмец. — Ну, рухалася нейкая кропка...» — «Не баяўся, што жахне?» — «Ды кінь ты, усё ж пралічылі...»

Яна, тая кропка, рухалася няспынна, пагрозліва, бы жывая істота, што ўвабрала ў сябе дрыготкую памяць Сусвету. Сцвярджаюць, праўда, што звычайны камень.

## ЦІ ЁСЦЬ ЖЫЦЦЁ НА ЗЯМЛІ...

Натрапіў у Фэйсбуку на здымкі з Аральскага мора. Дакладней, з Муйнака, горада і калісьці паўвыспы, вакол якой, гэта дакладна вядома, тое мора было...

Звычайна ў такіх выпадках кажуць — «нахлынулі ўспаміны». Але я ўбачыў карабель пасярод пустыні. І зразумеў, што ані ў якія ўспаміны ён не адплываў, проста апусціўся на дно...

Па нейкім дзіўным супадзенні карабель завецца «Белоруссия», хаця на здымку назвы не відаць. Ды і адкуль яна на саржавелым касцяку? Некуды падзелася разам з морам. Але я ўпэўнены, што гэта менавіта «Белоруссия» — невялічкі рэфрыжэратар для перавозкі замарожанай рыбы.

Толькі вось што марозіць? Рыбы няма. Увесь флот, што заўжды здабываў рыбу ў заліве, на беразе. Уздоўж берага нерухома ляжаць на спякоце дварнякі, уткнуліся пысамі ў гнілаватую ваду, на якой павольна гойдаюцца водарасці. Калі-нікалі пратрусіць мімаходам ішак з вязанкай чароту на спіне. Сабакі цяжка ўздымаюць галовы і зноўку — пысамі ў ваду...

Заліў створаны Аму-Дар’ёй, але жывой вады ў ім усё меней і меней, бо ўсё болей і болей адбіраецца яе на арашэнне баваўняных палёў. Недзе ў плаўнях яшчэ варушыцца жыццё, можна нават сустрэць тыгра. А ў Муйнаку, акрамя сабак, ішакоў ды свінняў, што рохкаюць у гарачым пяску проста пасярод вуліц, жыцця няма. Мо толькі яшчэ ў сталоўцы, дзе побач з апустошанымі бутэлькамі з-пад гарэлкі спяць тварамі ў талерках з халоднымі макаронамі заезджыя ў пошуках працы людзі.

Ці ж гэта жыццё?

Мы з Гольбам таксама заезджыя. Але жывём у Кашыных. Спім у прахалодзе, сёрбаем украінскія баршчы, ямо разварыстую — дзіва, як яна тут расце! — бульбу. Кашын грошы з нас не бярэ. Ды й з чаго ўзяць? Акрамя таго, што я зарабіў папярэднім настаўніцтвам у піянерлагеры, у нас нічога няма — толькі на зваротную дарогу. Намер, праўда, быў шыкоўны — зарабіць на ўлове рыбы, на траўлерах, сейнерах... «Зорныя хлопчыкі», знакамітая па тым часе аповесць Васіля Аксёнава, рабіла сваю справу. Толькі вось да якога месца Кашыну тыя

«хлопчыкі»?! Студэнтыкі, 1963 год... Калі што сапраўды да месца, дык гэта запіска Лёні Макаранкі, сваяка Кашына і нашага сябра. Жывём, чакаем, пакуль з'явіцца якая нагода разлічыцца, скончыць з нахлебніцтвам...

Насамрэч проста жывём.

Аднойчы ўлезлі ў нейкую спрэчку паміж мясцовымі хлопцам і дзяўчынай, заступіліся за яе. Увечары невялікі натоўп прыціснуў нас да белай сцяны, з хаты выбег той хлопец — у трусах, далоні абмотаны нейкімі анучамі, падскоквае, размахвае нажом, вішчыць: «Што, жыць надакучыла? Тут край свету, ніхто не знойдзе...» Раптам нехта з натоўпу выгукнуў: «Пачакай. Яны ў Квашыных гасцююць...» — «У Квашыных?!»

Кашыны тут — найвялікшы аўтарытэт, закон і парадак. З сямей сасланых на Муйнак украінскіх кулакоў, што, як я цяпер разумею, выратавала іх ад Галадамору. Муйнак спрадвек ссыльнае месца — ад Кацярыны Другой, што ўтварыла тут рэзервацыю пракажоных, а потым саслала сюды пугачоўскіх казакаў. Але ў рэшце рэшт ссыльныя ды іх нашчадкі зладзілі на Муйнаку сваё, сяброўскае з каракалпакамі, разумна-працавітае жыццё. У асноўным, на ўлове і перапрацоўцы рыбы. Ды якой! Ад печкуроў да асётраў. Толькі вось сыходзіць вада...

Камбінат, што праўда, нешта яшчэ перарабляе ў кансервы. І Кашын нарэшце прыстроіў нас збіваць пад іх скрыні. Першую збівалі больш за гадзіну, хаця, здавалася, што тут складанага — бі ды бі... Спякота, плюс 50 у цені, але ценю няма. Нават слова такога няма. Толькі «халадок». Дасведчаныя збівальшчыкі з «халадка», то бок з навеса, і пачынаюць. Але нам так карцела хутчэй зарабіць!

Кінулі скрыню на зямлю, яна і развалілася. Паглядзелі адзін аднаму ў вочы і — на мора.

Мора!

Што ні дзень — мора... мора... мора...

Гольба — мастак, на кашулі вышытая галубка Пікаса, робіць на паперках нейкія замалёўкі. Раптам бачыць над абрывам чалавека з эцюднікам, цішком падыходзіць, стае ззаду: «Ці ж трава зялёная, а мора сіняе? Наадварот, трава сіняя, а мора зялёнае. Не бачыце?» Чалавек, усходні па знешнасці, вузіць

вочы, спрачаецца. А я гляджу на мора і ніяк не магу дакладна вызначыць ягоны, быццам з нейкай іншай планеты, колер. Такога колеру, мусіць, на Зямлі больш няма.

...Знясіленыя спёкай, мы дапамагаем зносіць у трум «Белоруссии» скрыні з кансервамі, за што стары капітан у белым кіцелі і фуражцы з «крабам» абяцаў даставіць нас да Аральска — праз усё мора. Пляшку гарэлкі ўзяў з годнасцю прафесіянала, бы сапраўдны марскі воўк, падняўся ў сваю рубку. Больш мы яго не бачылі.

Мы ўвогуле больш нікога не бачылі на тым караблі, акрамя адзін аднаго і жанчыны з дзіцём, што везла ў Аральск ці не з дзясятак валізаў з агромністымі пунсовымі памідорамі.

Праплылі дзень, а надвячоркам Гольба забіўся ў куток цеснага кубрыка, а я ўлёгся спаць на палубе, у ратавальнай шлюпцы. Доўга ўглядаўся ў чорнае, спрэс у буйных зорках неба. Такіх блізкіх, што, здавалася, ліхтары на мачце літаральна плывуць сярод іх. Поўнае адчуванне Космасу, тваёй асабістай еднасці з ім.

Час ад часу па небе праносіўся нейкі вогненны шлейф, за ім — гулкае вухканне. Я ўжо ведаў, што недзе побач тут выспы Адраджэння, дзе, па чутках, выпрабоўваюць ды выпрабоўваюць касмічную, а трохі далей, недзе ў Казахстане, пад зямлёй, і ядзерную зброю. Мы бачылі тыя выспы, калі плылі на Муйнак. Але зараз ноч, зоркі, неба...

Апоўначы на твар пападалі першыя пырскі...

Такое мо здараецца раз у жыцці — калі душа з касмічнай хуткасцю адлятае да Бога і ў той жа момант зваргаецца ў чорнае пекла, а цела ледзь трымаецца за металічныя парэнчы ў бясконцым і безнадзейным чаканні душы... Гольбы няма. Нікога няма. Чорная вада, белая пена ды памідоры, што катаюцца ў пене разам з валізамі ад носа да кармы і ад кармы да носа...

Толькі ў Мінску зямля супакоілася пад нагамі.

Колькі ж нам яшчэ плыць на караблі пад назвай Зямля?

Бо калі нехта ўглядаецца ў нас, як мы ўглядаемся ў Марс ці Венеру, і бачыць касцяк карабля пасярод пустыні, дзе яшчэ нядаўна пляскалася, бушавала і адышло ў нябыт «зялёнае»

мора, наўрад ці ён атрымае адказ на пытанне, ці ёсць жыццё на Зямлі...

## А 7-Й ВЕЧАРА ПАСЛЯ ВАЙНЫ

Прамільгнула вестка, што ў Мінску распачынае прадстаўленні цырк шапіто. Ужо нават прывезлі сланоў...

Шапіто... Шапіто...

Так, цырк завецца шапіто. Ён сапраўды падобны да слана — вялікі, шэры і варушыцца.

Сланоў вядуць з Таварнай станцыі па Маскоўскай вуліцы. Яны плывуць паміж крушняў нібы аэрастаты. Ці дырыжаблі. Яшчэ заспеў пабачыць аэрастаты ў мінскім небе. А вось дырыжабляў ніколі не бачыў. Толькі на малюнках у календарах і школьных падручніках...

Маскоўская выкладзена брусчаткай. Пачынаюць квітнець старыя каштаны. Значыць, хутка па вуліцы зноў будуць грукатаць танкі. Першае мая, парад...

А пакуль паважна плывуць сланы. Палахліва спыняюцца перад Заходнім мостам, уздымаюць хобаты, трывожна трубяць...

Сланоў вядуць у цырк шапіто. За імі — пацаняты і пацаны, дзяўчаткі ў стракатых сукеначках. Такі вось дзіцячы парад. Пакуль дойдуць да парку, да ракі — суцэльны натоўп...

А там, у парку, за ракой ужо нацягнуты цёмна-шэры купал.

І да нешматлікіх святаў пасляваеннага дзяцінства — парадаў з танкамі, салютаў з ракетніц і футбола на стадыёне «Харчавік» у тым жа парку, а потым і на «Дынама», дабаўляецца яшчэ адзін — цырк.

А 7-й вечара — першае прадстаўленне. Трэба паспець заняць месцы на дрэвах, каб хаця б нешта пабачыць праз шчыліны. І дачакацца антракту.

У антракце ўсе гледачы выходзяць на вуліцу, да ракі, нетаропка ласуюцца марожаным. І вось тады можна папрасіць: «Дзядзечка, правядзіце». Калі-нікалі гэта спрацоўвае. І вось мы ўжо сядзім побач з новымі «татамі» і забываемся на ўсё. Нават на марожанае, што застаецца ад добрых «татаў»...

Які гэта дзівосны, казачны свет! Уся ў зорках узлятае пад самы купал дзяўчынка. А там, у прагале, бачна неба, і здаецца, што дзяўчынка ўзлятае ажно да яго. Раптам дождж, кроплі барабаняць па купале, падаюць на арэну, нават на твар, калі шанцуе сядзець побач з манежам. Шанцуе, бо на манежы з'яўляецца блазен з сабачкам Кляксай. Блазна клічуць Карандаш. І гэта цудоўна — сядзець каля манежа і качацца ад рогату, і лічыць, што Карандаш смяшыць толькі цябе. А ён часам і насамрэч нязграбна пералазіць цераз бар'ер і выкідвае з табой нейкую штуку... «Ведаеш, хто гэта? — пытаецца аднойчы матуля і паказвае на высокага статнага мужчыну, што прагульваецца з сабачкам уздоўж Свіслачы, — гэта Карандаш, ягонае сапраўднае прозвішча Румянцаў...» Не, Карандаш застаецца на манежы...

Нарэшце, выводзяць сланоў. Аркестр грае вальсы, сланы танчаць, круцяць хобатамі і раскланьваюцца. Паміж імі лётае маленькі чалавечак, пляскае па хобатах, частуе цукрам... Потым цішыня, нарастае барабанны дробат... Чалавечак кладзецца пад самага вялікага слана, каб усе думалі, што слон вось-вось яго расплюшчыць. І сапраўды, слон павольна апускаецца ўсё ніжэй і ніжэй... Але чамусьці шкада слана, а не таго чалавечка...

Бліжэй да восені цёмна-шэры купал выцвітае ад сонца і дажджоў. У парку аблятае лісце, па ім стукаюць халодныя кроплі. Купал здымаюць і, здаецца, звозяць кудысьці далёка. Хаця, магчыма, ён і застаецца ў горадзе...

Пройдзе шмат часу. Пачнуць будаваць новы цырк, ці не самы буйны ў Еўропе. Мы, студэнты, таксама працуем на будоўлі. Аднойчы нас накіроўваюць прыбраць будаўнічае смецце з падстрэшша. То бок з-пад купала. Я пераадольваю салодкую хвалю страху і гляджу ўніз.

Мабыць, так глядзяць з вышыні жыцця ўспаміны.

А потым нас запрашаюць на першае прадстаўленне. Але гэта ўжо іншы цырк, без прагалу ў купале, праз які бачна неба. Ад шапіто застаўся толькі пах. Ледзь вільготны пах апілак і конскага поту...

Апошнім разам цырк вернецца да мяне з Юрам Нікуліным, мо ў 1965-м.

Ён з'явіўся, і ўсе засмяяліся. Ён не смяяўся, проста глядзеў на ўсіх троху вінаватым і адначасова дапытлівым позіркам. І ўсе засмяяліся яшчэ мацней... Цесны чорны пінжачок, кароткія ў палоску нагавіцы, белая кашуля з гальштукам і плюскаты, нібы талерка, капялюш...

Ужо прайшоў па экранах фільм «Калі дрэвы былі вялікімі», ці не першы праўдзівы фільм пра драму чалавека, які пеpажыў вайну. І ў цырку Нікулін быў куды бліжэй да свайго Кузьмы Іарданава з таго фільма, чымсьці да традыцыйна-звыклага «кіношнага» Балбеса. Так, нібыта гаворыць ягоны герой, я смешны, нязграбны, зорак з неба не хапаю, люблю груба пажартаваць і выпіць... Але гэта таму, што мне не шанцуе ў жыцці. Часам я прашу вас пакінуць мяне ў спакоі. Але паверце, у мяне добрае сэрца. Як і вы, я маю права на чалавечыя пачуцці. І я больш не хачу ваяваць...

Усё сапраўднае мастацтва — літаратура, кіно, жывапіс — вынікала з гэтай усёабдымнай прагі жыцця.

Праз дваццаць гадоў пасля вайны.

Праз сорак...

Праз семдзесят гадоў у мяне знянацку, паміж іншым, пытаюць, ці думаў я, што дажыву да новай вайны.

Праз семдзесят гадоў у Мінску ладзіцца дыскусія аб тым, «наколькі сур'ёзна выглядае зараз пагроза баявых дзеянняў для Беларусі, і якія наступствы выклікае выкарыстанне ядзернай зброі».

Якраз падчас цудоўнай красавіцкай навіны пра цырк шапіто.

Так, яны пойдуць у свой цырк, нашы дзеці, унукі і праўнукі.

І будуць заміраць ад захаплення і страху, гледзячы, як высока, пад самым купалам, ляціць хлопчык. Ён куляецца ў паветры. Мужчына трымае моцнымі рукамі пругкі шост з чырвоным аксамітным сядзеннем наверсе. Але-оп! Хлопчык у сядзенні. Ён разводзіць рукі. Ён усміхаецца.

А хлопчык каля самага манежа забыўся на марожанае. Ён хоча быць такім жа моцным, спрытным і вясёлым.

Ён хоча жыць.

Дай Бог ім шчасця дажыць да 7-й вечара пасля вайны.

А мяне чакаюць мой цёмна-шэры купал у старым парку і мае пацаны на дрэвах — праз шчыліны ў купале яшчэ магчыма нешта ўбачыць.

Калі прыжмурыцца.

## БЫВАЙ, ПЕТРУЧЫА...

Паліў восеньскае лісце.

Ёсць нешта салодка-сумнае ў тым, як, паміраючы, агонь з нейкім уздыхам зноў падхопліваецца паветрам, дзе праз імгненне ўжо лётае лёгкі, нібы птушыны пух, попел...

Раптам пачуў: «Хавайце, усё хавайце...»

За дымам і не заўважыў, як прыпынілася ля плота вартаўніца Алена. Ну, якая вартаўніца? Алене ўжо за 80, з усяго дачнага насельніцтва яна мо адна не з'язджае ў горад, зімуе ў адзіноце. Не памятаю, каб з нейкай іншай прыказкі пачынаўся яе штогодні абход...

«Што, ужо хаваць? Не зарана?» — «Хавайце... А сусед ваш памёр...» — Алена паправіла хустку і накіравалася да хаты, да новай зімы...

Усё ж памёр. Памёр Петручыа. З вясны з'явіўся на свае соткі толькі аднойчы, намагаўся нават пакасіць страшэннае, у рост чалавека, быллё. Але адразу адклаў касу...

Я зірнуў на ягоную хатку. І толькі зараз убачыў, якая падобная яна да яго: такая ж маленькая, скасабочаная, па вокны ўрасла ў зямлю.

Але дзе «Запарожац», дакладней, ягоны шкілет? І не заўважыў, калі ён кудысь падзеўся. Мо звёз на звалку?..

Сямнаццаць гадоў... Божухна, ужо сямнаццаць гадоў, як я набыў тут дзеля народжанай унучкі недабудаванае, усё ў бадыллі, лецішча! «Не хвалюйцеся, усё будзе добра, па-суседску, — з першага ж знаёмства супакоіў Петручыа і па-філасофску дадаў. — Зямлі, канешне, малавата. Але паветра хопіць на ўсіх...» З чаго ж хвалявацца? Вочы добрыя, усмешка чамусьці

трошкі вінаватая, нязграбная старэчая постаць і салодкі, быццам вось гэты восеньскі дым, пах таннага пітва...

Усе сямнаццаць гадоў яно і было ўсё добра, па-суседску, то бок ніяк. Кампаніі Пятручыа не шукаў, піў паціху ў адзіноце, а потым тупаў, нешта мармычучы сабе пад нос, па дачных вуліцах і лясных сцяжынках.

Насамрэч яго звалі Пятром, Нікіфаравічам па-бацьку. Пра мянушку Петручыа я даведаўся пазней, калі аднойчы ён пачаў згадваць, як лятаў у Рым. Той палёт, па ягоных словах, быў першым, але прайшоў класна. Чаму ж не класна? І Ту-154 «класная машына», і лётчык класны, пілот 1-га, як-ніяк, класа... «Лятаў, лятаў... А потым адмовілі. Пасябраваў з італьянцам, таксама лётчыкам, Пятручыа зваўся. Тут і паклікалі туды...» — «Куды туды?» — «Куды, куды... Туды...»

Не, нездарма ён казаў і казаў пра паветра. Не хапіла на ўсіх...

Дарэчы будзе паведаміць, што садовае таварыства, да якога я прытуліўся, нарадзілася ў сярэдзіне 60-х гадоў мінулага стагоддзя на лясным балоце. Утварылі яго цывільныя лётчыкі. І я паспеў яшчэ пачуць, як яны асушалі і карчавалі тое балота, высякалі хмызняк і хваравітае лясное сухоцце навокал; як лічылі і дзялілі соткі, а потым будавалі хаціны, хто з чаго...

У тыя ж гады, кінуўшы дзяржаўную працу, атрымала свае шэсць сотак і мая маці. Усю зіму цягалі мы на сабе неабгабляваныя дошкі, цяжкія лісты шыферу і фанеры, каб вясной хуценька збудаваць павець для рыдлёвак ды грабляў. Цягалі, а я ўсё жартаваў: «Памятаеш, мама, як ты ў 45-м лятала да бацькі ў Германію, а потым захаплялася параўнаннем: “Калі ляціш над Польшчай, адразу заўважаеш, як зямля падзелена на лапікі? Іншая справа — нашы абшары, нашы калгасныя палі...”»

Маці так гаспадарыла на сваіх сотках, як быццам намагалася вярнуць доўг свайму сялянскаму паходжанню і кампенсаваць усё тое, што было не дабрана на калгасных палетках. А вакол павеці для рыдлёвак з'явіўся спачатку адзін пакойчык з дошак, потым другі, затым яшчэ адзін пад самой страхой...

Мінулай восенню я апынуўся ў тых мясцінах і пайшоў паглядзець, ці пабудавалі там што-небудзь новыя гаспадары,

якім за год да смерці прадала лецішча сястра. Яшчэ здалёк пацягнула дымам: падалося, што, як і паўсюль, там паляць лісце. Але, падышоўшы, убачыў, як дагараюць дошкі з хаты, стол, за якім збіралася ўся наша сям'я — бацькі, жонка, дачка, сястра, пляменнік; як чакаюць таго ж лёсу прапоратая з паржавелымі спружынамі канапа, на якой любіў адпачываць бацька, і пацёртае ўтульнае крэсла, якое ў якасці трафея прывёз ён з вялікай вайны...

І вось стаю ля свайго вогнішча з восеньскага лісця, удыхаю салодкі дым... Каму ж паведаміць пра Пятручыа, што памёр? Галіну з Юрам наўрад ці тое ўсхвалюе. Схаваліся за высокім жалезным плотам ў вялікім катэджы, пабудаваным на грошы з гандлю сантэхнікай, прарыпелі рассоўнымі варотамі, калі ўязджалі ў шыкоўным джыпе...

Пайшоў да калодзежа, мо сустрэну каго. А вось і Яўген Іванавіч корпаецца на градцы, таксама былы лётчык, тутэйшы майстра на ўсе рукі, чалавек трохі сквапны ў тым, што тычыцца бескарыслівай дапамогі... «Петручыа памёр...» — «Памёр? — выпрастаўся Яўген Іванавіч, уваткнуў рыдлёўку ў зямлю. — Пойдзем свой мерседэс пакажу... Вось, — ён расчыніў гараж, — усё лета працаваў»...

Чорна-белы гарбыль «Запарожца» ззяў свежай фарбай і ганарліва ўсміхаўся жоўтым замежным нумарам на азадку. «Колькі год стаяў раструшчаны! А зараз вось па грыбы буду ездзіць ды смецце на звалку вазіць...» — «З гэтым нумарам?» — «А што? Італія... Еўразвяз...»

...Кінуў у попел апошняе лісце, узнялося полымя, выбухнула, абдало твар гарачынёй і горкім дымам.

Бывай, Петручыа! Яно і сапраўды зямлі малавата. Затое паветра хопіць на ўсіх.

## ВЯРТАННЕ БЕЛАГА КАНЯ

7 студзеня, на Раство, памёр Коля Іваноў.

Мы не бачыліся з чэрвеня 1963 года. Атрымліваецца паўстагоддзя, паўгода і сем дзён.

І вось я бачу яго, а ён мяне — не...

Я намагаюся пазнаць яго ў чалавеку, што ляжыць, склаўшы рукі, у дамавіне. Але як ні ўглядаюся, твару не відаць — у рытуальнай зале недзе на гразкіх, у ямінах, задворках 10-й мінскай лякарні змрочна і цесна. Вакол мноства трунаў розных гатункаў і коштаў — пастаўлены ўздоўж сцен, пакладзеных адна на адну ў чаканні сваіх, на вечнасць, насельнікаў... Раптам аднекуль з'яўляецца малады хлопец у зялёнай лекарскай вопратцы, нешта папраўляе на Колевым твары... Не паспелі, мусіць, падфарбаваць. На развітанне — усяго паўгадзіны, толькі вынеслі аднаго, а ўжо чакае наступны...

Спяшайся і ты, Коля, не затрымлівайся на гэтым свеце...

Папраўдзе, я не ведаю, чаму паехаў на Колева пахаванне. Мы ніколі не сябравалі, за ўсе гады пасля заканчэння ўніверсітэцкага гістфака не тое што не бачыліся, нават не чулі адзін аднаго. Ды і не першым з аднакурснікаў ён пайшоў з жыцця, паміраць пачалі ці не з пачатку 80-х. Але пра іх сыход я звычайна даведваўся значна пазней і збольшага выпадкова. Што ж, у кожнага сваё жыццё, свае сябры з летуценнага студэнцкага юнацтва...

Сябраваць з Колем ніяк не выпадала. Ён быў на шэсць гадоў старэйшы за мяне. Да таго ж пасля Балтыйскага флоту. І ўсе пяць універсітэцкіх гадоў хадзіў у марацкім бушлаце. А я гарадскі, толькі пасля школы, у акулярах... Коля цікавіў мяне толькі тым, што разам з Хрушчовым плаваў на сваім крэйсеры ў Англію, бачыў там нешта такое, што здавалася мне недасягальнай фантастыкай. Карацей, Коля бачыў свет. А мой свет абмяжоўваўся Мінскам, нават толькі ягоным цэнтрам — ад Заходняга моста да Круглай плошчы, пазней плошчы Перамогі...

Не, не толькі. Яшчэ былі ў маім свеце Нарач, вёска Купа, Мацей і белы Мацееў конь. Па прыналежнасці той конь быў ужо калгасны, але ўтрымліваўся ў Мацея, былога гаспадара, і насамрэч нічога калгаснага ў тым кані не было. Ад ранку да вечара ён цяжка працаваў на жабрацкую Мацееву гаспадарку, а на ноч я адганяў яго на луг пад Урлікі, спутваў... «Хочаш, навучу?» — спытаў Мацей. І навучыў амаль усяму, што патрабуецца для абыходжання з канём, нават ездзіць на ім без

сядла. Аднойчы я пагнаў яго ў ноч напрасткі, праз балотца, па якім вілася ледзь бачная сцежка. Навошта я не паслухаў яго, калі адчуў, што хада праз балотца яго ніяк не прываблівае? Пырхае, чмыхае... Да сёння бачу слязу, што коціцца з глыбокага, бы калодзеж, вока, калі цягну яго, зусім стомленага ад маёй бездапаможнасці, з багны, чую ўласны лямант... Усё ж неяк вылузнуліся. Ці ж забыцца на тое, як спагадліва дакрануўся ён храпай да пляча?!

Было тое ў 1954 годзе. Дарэчы, па ўсходнім календары — годзе Каня...

Калі б Коля ведаў, што сяк-так я ўмею абыходзіцца з коньмі, наўрад ці стаў бы спрачацца.

Аб заклад пабіліся ў першую ж студэнцкую восень, на так званай бульбе: на марацкі бушлат і акуляры.

Ішоў 1958 год, з паўсотні студэнтаў толькі пяцёра паступілі на гістфак адразу пасля школы, астатнія — пасля арміі і флоту. Хрушчоў даў былым вайскоўцам неймаверныя льготы, бо лічылася, што армейская школа стварае моцны ідэалагічны падмурак. Акуляры ў той падмурак не ўпісваліся...

Ад сёння адчуванне тагачаснай перавагі бушлатаў над акулярамі, над «салагамі», над гнілой, так бы мовіць, інтэлігенцыяй, падаецца менш выразнай. Але менавіта з той прыхаванай перавагі нарадзілася з'едлівая Колева насмешка: «Бач ты, знайшоў дзе рукі грэць... Глядзі, кусіць...»

Грэць рукі ў пахвіне каня навучыў мяне Мацей. «Не страшыся, — казаў, — гэта ззаду нельга падыходзіць, а тут найцяплейшае ў каня месца...» Ну, і дзе ж было мне сагрэць іх на пранізлівым восеньскім холадзе пасля таго, як выскрабеш з раскіслага глею і накідаеш мех бульбы? А тут, дзякуй Богу, два кані — гняды і белы...

Урэшце дамовіліся: хто хутчэй даімчыць вярхом да стайні... Кінулі жэрабя. Высокі, недзе пад два метры, Коля нязграбна ўзлез на гнядога, ногі — амаль да зямлі. Мне ж дастаўся белы.

Як паімчэў ён! Якую адчуў я забытую асалоду! Але раптам раскруціліся павады вуздэчкі, я намагаўся падцягнуць іх і хіліўся ўсё ніжэй і ніжэй... І зноўку выратавала Мацеева

навука: самому ўпасці з каня. Скінуўся. На чатыры кропкі. І пятая — носам. Добра, што ва ўзаранае поле.

Разбітыя акуляры адшукаў Коля.

А белы мой конь нават не спыніўся, паімчэў у далячынь...

Нас няшмат ужо засталося, былых аднакурснікаў. У мінулым кастрычніку сустрэліся, хто здолеў, адсвяткавалі паўвека, дамовіліся сустракацца часцей.

Сустрэліся на Колевым пахаванні.

Я ўглядаюся ў ягоны твар, а з вачэй не знікае, як ён поўзае на каленях па полі, шукае мае акуляры.

...На памінках прагучэла: «...заслужаны настаўнік рэспублікі Мікалай Рыгоравіч Іваноў...»

Але са школы, дзе ён працаваў усё жыццё, ніхто не прыйшоў.

## ГОРАД ЦЕНЯЎ,
## альбо ТУТ БЫЎ...

За што я насамрэч удзячны Фэйсбуку, дык за тое, што ў ім жыве і дыхае стары Мінск. І той, якога няма і ўжо ніколі не будзе. І пасляваенны, што нечакана стаўся стары.

Шчыра кажучы, пэўнай нечаканасцю для мяне было і тое, што шмат маладзейшыя за мяне, мінчука ад 1944 года, не проста цікавяцца мінскай гісторыяй, а робяць адчайную і таленавітую спробу ажывіць мёртвы горад, ягоныя дамы, вуліцы, паркі, масты... Сяргей Харэўскі, Дзмітрый Маслій, Уладзімір Усевалажскі, Вадзім Зелянкоў... Нават не ведаю, з чым лепей параўнаць іх працу — з эксгумацыяй ці з рэанімацыяй, а мо і з тым, і з другім. Дадайце «Галоўную вуліцу» Леаніда Маракова, які здолеў ажывіць не толькі дамы, але і амаль усіх жыхароў, што ў розныя часы ў тых дамах жылі...

Што ж тут незвычайнага і нечаканага? Старыя фотаздымкі, паштоўкі заўжды выклікаюць хвалюючы водгук. Мо яшчэ і таму, што ў падсвядомасці хаваецца адчуванне канечнасці ўласнага існавання. Адчуванне таго, што калісьці і ты застанешся толькі на старых фотаздымках з іх унікальнай магчымасцю супрацьстаяць Часу.

Праблема ў тым, ці застанешся ты на іх разам з горадам, дзе жыў, ці пазнаюць у табе — у тваёй постаці, у тваім твары, у тваім позірку, нават у тваім адзенні — твой родны горад.

Горад, у які вяртаюцца цені.

...22 чэрвеня 1965 года, дзень летняга сонцастаяння. Менавіта так — «День летнего солнцестояния» — мы назавём свой рэпартаж. А пакуль Саша ўзлазіць на будаўнічы кран, што ўзвышаецца над будучым «Мінскпраектам», а я ўглядаюся ў рэшткі роспісу, што засталіся на сцяне знесенай сінагогі на пачатку Нямігі...

Крушні сінагогі нас мала цікавяць. Ці ж не бачылі мы горад у крушнях? А сёння ён заліты сонцам. Мы захоплены ягонай сонечнай будучыняй. Што не замінае крытычна ставіцца да сталінскай архітэктуры. «Торты, торты...» — паўтараем услед за Назымам Хікметам, турэцкім паэтам-камуністам. Гэта ён пра дамы-вежы на Прывакзальнай плошчы выказаўся. Нам падабаецца...

— А бачыш там хлопчыка з глобусам? — Саша паказвае на скульптуры, што паўсталі на франтоне мінскага «Парфянона», Палаца культуры прафсаюзаў, ці не самага брыдкага, на наш погляд, архітэктурнага вычварэнца. — Гэта Жора, яго з Жоры ляпілі...

Я ведаю Жору. Год таму працаваў з ім у «Чырвонай змене». Дакладней, у яго. А зараз працую ў «Знамёнцы», у адзеле інфармацыі і быту, у Сашы. Саша вучыць мяне працаваць у газеце. Жора не вучыў. Выцягнуў аднекуль з нетраў вялізнага пісьмовага стала гару зжаўцелых тэчак і кінуў на абдзёрты верх: «Тут лісты чытачоў за дванаццаць гадоў. Трэба адказаць». Ледзь не да столі ўзняўся едкі пыл...

Так, беларускамоўная «Чырвонка» не раўня рускамоўнай «Знамёнцы», добра, калі 30 тысяч чытаюць. А «Знамёнку» — усе трыста тысяч. І наклады безупынна растуць. Аднойчы Жора, на той момант дзяжурны рэдактар, выпусціў нумар на дзвюх мовах. Наклад вынішчылі, а Жору... Не, не пасадзілі. І не звольнілі. Усё скончылася працяглай шматгадовай нудотай...

Саша з Жорам аднакурснікі па журфаку, сябруюць. З імі сябруе яшчэ адзін Саша са «Знамёнкі», насамрэч Самсон, які

кіруе аддзелам культуры. Я ў захапленні ад ягонага артыкула «Прорвут ли цветы заборы?», пра ўласніцкія перажыткі — вось як трэба пісаць!

У Жоры оперны голас, калі-нікалі ён дэманструе ягоную моц. Разам з кучаравасцю, тварам, нагадваючым конскі, і непадробнай сур'ёзнасцю Жора часцяком становіцца аб'ектам добразычлівых насмешак і розыгрышаў.

...Першы надпіс «Тут быў Жора Клябанаў з Мінска» абодва Сашы пакінулі на нейкай скале, калі адпачывалі ў Місхоры. Так яно ці не так — сцвярджаць не рызыкну. Але распачалася ці не ўсесаюзная гульня. Хто куды ні ездзіў, хто дзе ні быў, паўсюль — «ад Буга да Курыл» — сустракаў ці сам пакідаў надпіс «Тут быў Жора Клябанаў з Мінска». І на Далёкім Усходзе, і на блізкім Захадзе, і на Поўначы, пра благаславёны Крым ужо і гаворкі няма... Нехта нават бачыў у Маскоўскім метро...

26 красавіка 1966 года здарыўся землятрус у Ташкенце, увесь цэнтр ператварыўся ў суцэльны друз. Але тое, што над ім лунаў надпіс «Тут быў Жора Клябанаў з Мінска», ведаю дакладна. Нават здымак бачыў, Саша прывёз адтуль разам з рэпартажам. Рэпартаж называўся «Розы над грохотом». І Розай звалася дзяўчына, журналістка з Ташкента, якую Саша прывёз для Жоры, каб урэшце яго ажаніць.

Спатканне ладзілася па-суседстве, бо я жыў у 9-й кватэры, а Саша ў 10-й, такая вось прыхамаць лёсу. Памятаю, як адчынялі Жору дзверы, як ён хаваў сарамлівасць... Назаўтра Роза выправілася назад, у свой разбураны Ташкент. Твару не памятаю. Памятаю толькі саламяна-агністыя валасы... «Солома волос, ресниц синева...» — любіў паўтараць Саша. Усё з таго ж Назыма Хікмета...

Гульня з надпісам скончылася недзе напачатку 70-х, калі Барыс Пастарнак, вядомы зараз маскоўскі журналіст і кнігавыдавец, служыў у Днепрапятроўску, у ахове завода, дзе дырэктарам быў Кучма і дзе выраблялiся ракеты. Клянецца, што сам накрэмзаў на якімсьці спадарожніку — «Тут быў Жора Клябанаў з Мінска».

...Аляксандр Станюта, пісьменнік, прафесар, доктар філалогіі, сышоў у жніўні 2011 года, пакінуўшы кнігу размоваў

са сваёй легендарнай маці «Стэфанія», а напрыканцы — два шчымлівыя раманы пра Мінск: «Городские сны» и «Сцены из минской жизни».

Самсон Палякоў, Саша, вядомы кінадраматург, аўтар сцэнарыяў мноства беларускіх фільмаў, прарваў усё ж «заборы» і ляжыць зараз на могілках у Іерусаліме.

Пахаваны і Жора. Недзе ў Філадэльфіі. Чамусьці здаецца, што на магільным камені выбіты надпіс — «Тут быў Жора Клябанаў з Мінска».

Так, быў. Бо дзе ён зараз, ведае толькі Бог.

Адно суцяшае: мо праз нейкія тысячагоддзі археолагі з іншай цывілізацыі альбо іншапланецяне ў космасе натрапяць на той надпіс і даведаюцца, што быў на Зямлі такі горад.

Горад Сонца, якое адкідвала доўгія цені.

## ДОБРАЯ НАВІНА СЯРОД НОЧЫ

Нешта штурханула ў паўсне, і я расплюшчыў вочы.

Праз шчыліны ў жалюзі прабівалася дрыготкае святло, але ў пакоі панавала цяжкая цемра. Я намацаў гадзіннік на тумбачцы, углядзеўся ў цыферблат — палова на трэцюю, ноч...

Хто ведае, па якіх лабірынтах блукае падсвядомасць людзей сталага веку, чаго шукае ўначы? Але гэтым разам я ведаў, што зруйнавала сон. Быццам нейкая птушка дзяўбла стомленую падкорку — «добрая навіна»... «добрая навіна»...

Што за добрая навіна?

Напярэдадні ў мяне запыталіся: ці думаў я, народжаны ў 41-м, што дажыву да вайны? Я адказаў нешта няўцямнае. А позні вечарам настойліва заенчыў скайп. «Ну, што, — з’едліва спытаў Гедымінас, — чуеш, як набліжаецца Армагедон?»

Гедымінас — былы калега, ад студзеня 1991-га, ад пачатку крывавых літоўскіх падзей — сябра. Як сышоў на пенсію, бавіць жыццё з малымі ўнукамі на фазэндавых сотках. І, па ўсім, задаволены гэтым жыццём. Нават кніжку напісаў пра цяпліцы, гуркі, памідоры і перцы...

Але ёсць іншы, непрыкметны бок ягонай істоты: цікавасць да глабальнай геапалітыкі. Не тое што ён нейкі палітолаг,

аналітык ці проста заўзятар палітычных гульняў на стадыёне пад назвай Зямля. Але амаль пры кожнай сустрэчы, яўнай ці віртуальнай, размовы пра будзённыя турботы, пра бядоты і ціхія радасці жыцця ён пачынае і сканчае прадбачаннем канца свету.

Усё кладзецца ў падмурак жахлівага прадбачання, важкія і не вельмі цагліны аргументаў і доказаў: і глабальнае пацяпленне, і глабальнае пахаладанне, і нафтаперапрацоўчы завод у Мажэйкяі, скрадзены амерыканцамі, і фінансавы крызіс, і тэхнагенныя катастрофы, і нават маючае хутка адбыцца вывяржэнне вулкана Тэйдэ на выспе Тэнерыфе, дзе Гедымінас з Юратэ вельмі любяць адпачываць...

Апошні «Армагедон» тычыўся Украіны, дакладней, падзей вакол.

— ...Што, не чуеш? А я ўжо назапасіў мукі...

— Чаму мукі? Звычайна пачынаецца з запалак і солі. Ці ў літоўцаў — з мукі?

— Соль я ўжо назапасіў. А канец свету пачнецца са знікнення мукі і паліва...

— Ну, наконт мукі забыўся, а знікненне паліва мы перажылі. З сярэдзіны 80-х. Памятаеш чэргі на запраўках? Па 5–6 гадзін. Вось дзе быў сапраўдны Армагедон! Я трымаў тады ў гаражы бочку на 200 літраў...

— А дзе яна зараз?

— На фазэндзе.

Вось так, на паўжарце, доўжылася наша размова, пакуль Гедымінас не пачаў гладзіць паголеную галаву — прыкмета сапраўднага хвалявання: «Не. Я не жартую. Будзе вайна. Сусветная. Расія не саступіць. І Амерыка не саступіць... Геапалітыка, стары... Барацьба за рэсурсы, рынкі збыту...» — «Пачакай, ёсць і добрая навіна. Ты слухаў прэс-канферэнцыю Пуціна?» — «Абрыўкамі. І што?» — «А тое, што тармазнуў. Круціўся, як вужака, хлусіў на кожным кроку, але тармазнуў...» — «А, стары, кідай глядзець тэлевізар, ідзі па муку...»

...Я падняўся з ложка, рассунуў жалюзі. У доме насупраць было цёмна, свяцілася толькі адно акно — нехта таксама не спаў...

Узгадалася восеньская ноч 1962 года. Удзень да мяне завітаў Раберта, мой, так бы мовіць, падшэфны з ліку першых кубінскіх студэнтаў універсітэта. Мы расклалі на стале мапу. «Вось, глядзі, — Раберта тыцнуў рудаватым пальцам у Маскву, — Мікіта... ракета... Амерыка...» — палец апісаў даволі дакладную траекторыю і ўпёрся ў Нью-Ёрк. Раберта задаволена засмяяўся. «Пачакай, ракеты ж на Кубе, вось тут...» — «Ты верыш імперыялістам? Ніякіх ракетаў на Кубе няма!»

Чамусьці я, студэнт савецкага гістфака, верыў.

Апоўначы ўключыў радыёпрыёмнік, як рабіў гэта падчас Карыбскага крызісу штоноч, калі трохі сцішваліся трэск і скуголенне глушылак, — шукаў добрых навінаў. Але навіны былі спрэс дрэнныя. Свет таропка і безупынна каціўся да ядзернай вайны. Хаця ў пакоі было ціха, мірна, і толькі мігатлівы зялёны агеньчык прыёмніка сведчыў, што ў суцэльным свеце я не адзін. Амаль па Вазнясенскім: «Мой кот, как радиоприёмник, зелёным глазом ловит мир...» Толькі наадварот.

...Азірнуўся — ні ката, ні радыёпрыёмніка, ні зялёнага вока. Толькі прытушанае святло ў акне насупраць. Хаця не, міргае зялёны агеньчык мадэма, кліча ў сусвет...

Я націснуў кнопку, адкрыўся Фэйсбук. Божухна, колькі сяброў не спіць! Алена, Андрэй, Саша, Юра, Зміцер...

«А добрыя навіны ёсць?» — пытаецца Алена з Масквы. «Сёння серада. — адказвае Саша з Мінска. — Чаго калаціцца? Усе войны пачынаюцца ў нядзелю, калі няма аніякіх навін...»

Серада, серада... Ужо серада, перадранішні змрок, 5 сакавіка. Памёр Сталін. Ніхто і не ўспомніў...

Шкада. Бо, калі ўдумацца, гэта за ўсё маё свядомае жыццё ў савецкай гісторыі мо адзіная добрая навіна... Сярод ночы.

## МОСЦІК НАД ВЕЧНАСЦЮ

Усё ж такі ёсць нешта настальгічнае ў святе Новага года. Асабліва калі ў свеце пажывеш. У дзяцінстве нас прываблівалюць казкі і падарункі, у маладосці, ды і ў сталым веку, усё яшчэ нешта мроіцца наперадзе, нейкі цуд...

Не ведаю, ці мроілася што старым, амаль двухсотгадовым ліпам у парку імя Горкага, калі ў іх безабароннае цела

ўразаліся бензапілы, — я ўбачыў толькі агромністыя, без аніякіх слядоў гніласнай гангрэны, круглякі, раскіданыя ўздоўж схаладнелага восеньскага ручая. Цяжка верылася ў тое, што гэтым дрэвам наканавана было памерці пад націскам ветру, нават ураганнага, што яны толькі і чакалі эўтаназіі, незваротнага смяротнага часу...

Я спрабаваў падлічыць гадавыя кольцы на зрэзах і думаў пра тое, што ў гэтых адбітках доўгага жыцця хаваецца і жыццё многіх пакаленняў мінчукоў, у тым ліку маё. Навошта ж, падумаў я тады, было так бязлітасна абрываць калі не мроі старых дрэў, дык іх успаміны?

Успаміны пра тыя часы, калі яны былі яшчэ дрэўцамі Губернатарскага саду, потым дрэвамі саду «Прафінтэрн», потым «парку культуры і адпачынку імя Горкага», а потым і Цэнтральнага дзіцячага парку ўсё таго ж імя «вялікага сябра беларускіх дзяцей»...

Успаміны пра тое, як пасля апошняй вайны, недзе напрыканцы 40-х гадоў людзі ў кепках, пінжаках з хлясцікамі і ў галіфэ са скуранымі латамі ўпершыню вялі ад Таварнай станцыі праз увесь зруйнаваны горад сланоў, падобных на аэрастаты — туды, у парк, дзе ўжо разгарнуў свой шэры шацёр, упрыгожаны рознакаляровымі сцяжкамі і гірляндамі лямпачак, цырк шапіто...

Потым пабудавалі новы цырк, а на месцы, дзе раз на год узнікаў цырк шапіто са сланамі, з ліліпутамі і блазнам Карандашом, з’явіўся драўляны, упрыгожаны разьбой, кінатэатр «Летні», пабудаваны, мусіць, замест і ў перайманне кінатэатра «Першы». На той час «Першы» ўжо разбурылі, на яго месцы падрастаў гатэль «Мінск». Дзіўна, але я не памятаю фільмаў, якія глядзеў у «Летнім». У «Першым», які застаўся ад немцаў, памятаю амаль усе фільмы ранняга дзяцінства, усе «Тарзаны», «Падзенне Берліна», «Аляксандра Матросава»... Памятаю нават, як зручна, з нямецкай разважлівасцю, былі пастаўлены крэслы — кожнае якраз пасярэдзіне двух пярэдніх, каб усім усё было відаць, нават дзецям. А вось у «Летнім»... Цьмяна памятаю нейкія індыйскія фільмы, якія абрынуліся на савецкі экран пасля хрушчоўскага «бхай-бхай...». Але гэта

пазней, напачатку 60-х. А вось марожанае ў цёмнай прахалодзе залы і *яе* перарывістае дыханне — памятаю.

Потым кінатэатр згарэў.

Але заставаліся танцы пад духавы аркестр, лаўкі ў самых зацішных — такіх у парку зараз няма — кутках...

А бясконцыя кругі па велатрэку? Самым першым, паміж іншым, аж з пачатку XIX стагоддзя, спартовым збудаваннем у горадзе. Ад Заходняга моста на «Арлёнку» (быў такі падлеткавы ровар), потым, кіруючы ад праспекта да Дома афіцэраў і адпусціўшы тармазы, з вар'яцкай хуткасцю па бруку на падвесны мосцік над Свіслаччу, ён жа ўваход і ўезд у парк... А вы кажаце — экстрым...

Асобна — каток. Адзіны ў горадзе. На стадыёне — не жадаю нават удакладняць, як ён зараз завецца — а тады па-расейску «Пищевик», дзе летам гуляўся футбол, а ўзімку тыя ж каманды біліся ў хакей з мячом, можа, і з шайбай. Не, з мячом... Увечары ў прамёрзлым да шэрані бараку-раздзявальні не прапіхнуцца, холад сабачы. Адзінае выйсце — абуць канькі ў кватэры, і ўсё ад таго ж заходняга моста па абледзянелых ходніках паблізу вакзала ўздоўж трамвайных пуцей... А вось там, у парку, заклаўшы руку за спіну, на бліскучых нарвежскіх «нажах», замяніўшых «снягуркі», якія прычапляліся да валёнак з дапамогай вяровачак і дзеравяшак, па-сапраўднаму наразаць кругі, рызыкуючы трапіць у расколіну альбо сутыкнуцца з кімсьці, хто таксама заглядзеўся на цэнтр катка, дзе, узяўшыся за рукі, выпісвалі свае павольныя «па» знаёмыя дзяўчынкі. Круг за кругам, пад завіруху ў святле ліхтара, пад «воды арыка бегут как живые», пад першае, а для кагосьці адзінае каханне...

...Аднойчы ўвосень, у самы барвяны колер яе, узняліся мы з унучкай — яна ўпершыню — на коле агляду. Над горадам, над старымі, яшчэ не спілаванымі, дрэвамі парку... «Якое шчасце! Якое шчасце!» — у захапленні паўтарала ўнучка, упершыню адчуўшая такую *страшэнную* вышыню.

Больш за ўсё з гэтай вышыні мне шкада зніклага падвеснага драўлянага мосціка праз Свіслач. Ён так хістаўся і паскрыпваў пад нагамі...

Жыццё, падумаў я тады, таксама мосцік. Мосцік над вечнасцю, ідучы па якім, нашы дзеці і ўнукі становяцца намі...

Падчас, праўда, думаючы, што яны лепшыя за нас.

## НЕПРЫГОЖАЕ ПРОЗВІШЧА, альбо УЖО БЫЎ ЗАБІТЫ МІХОЭЛС

*Аматарам калупацца ў чужым нацыянальным паходжанні прысвячаецца*

Выпадкова натрапіў на чарговае шоу, з тых, якімі без пачуцця меры і густу атручвае гледачоў дзяржаўнае расійскае тэлебачанне. Усе яны на адзін капыл, нават удзельнікі адны і тыя ж, мяняюцца толькі назвы. Тое, што з невядомай прычыны ўтрымала палец ад націскання наступнай кнопкі, называлася «Универсальный артист».

Уласна кажучы, прычына была — «Хава нагіла»...

«Ларыса, — пытаецца вядучая шоу, — адкуль гэта ў цябе? Адкуль такое пранікненне ў габрэйскую душу?» — «А ты не ведаеш?» — Доліна пакусвае губы, нервова кідае позіркі некуды ў нябачную столь. «Я дык ведаю, — вядучая загадкава ўсміхаецца, — але трэба, каб ведалі ўсе». — «Так, я габрэйка. Маё сапраўднае прозвішча Кудэльман...»

Зала ўзрываецца воплескамі...

«А Доліна скуль?» — «Гэта прозвішча маці. Дарэчы, таксама габрэйскае... Калі пачынала, мне параілі змяніць прозвішча...»

Зала ўзрываецца воплескамі. Да допыту далучаецца нехта з журы.

«А вось Кабзон не мяняў». — «Кабзон — гэта нешта звонкае, пасуе спеваку. А Кудэльман гучыць непрыгожа...»

Зала ўзрываецца воплескамі.

Праз колькі доўгіх хвілін заўзятага, на ўздыме, абмеркавання ці не ўсё журы спрычыняецца да габрэйства. Асабліва лютуе Надзея Бабкіна. З чаго ў рэшце рэшт усе даведваюцца, што паходжаннем яна нібыта з нейкага габрэйскага казацтва, а зараз знаходзіцца ў цесным сваяцтве з цёткамі... Забыўся на імёны, што назвала, нешта накшталт Сары і Цылі, жывуць у

Данецку. Апошняе вымаўляецца з такім натуральным націскам, што мімаволі цёткі Сара і Цыля ўяўляюцца ратавальніцамі «русского мира». Вядома, на чале габрэйскага казацтва...

Зала ўзрываецца воплескамі.

Але памяць прагне цішыні.

...Яна была вельмі цяжкой, тая цішыня, у якой прагучала аднойчы: «...Да таго ж, прозвішча не зусім прыгожае, немілагучнае...»

Гэта быў апошні аргумент, якім бацька і маці, хаваючы позіркі, даціскалі мяне, каб я пагадзіўся змяніць татава прозвішча Пінхасік на матуліна.

Ішоў 1957 год, надыходзіў час атрымліваць пашпарт.

Ніхто з бацькоў, вядома, не тлумачыў мне, што краіну захлынае хваля антысемітызму, што пад пагрозай далейшая вучоба, кар'ера, поспех у жыцці... Абое былі камуністамі, шчыра верылі ў інтэрнацыянал, у сусветнае братэрства працоўных. «За слова "жыд" да вайны ў турму садзілі!» — усклікнула маці, калі малым дзіцёнкам я паскардзіўся ёй на пачутую ўпершыню абразу. І я доўга яшчэ ўяўляў сабе, як хараша было да вайны...

Калізія, што ўтварылася напярэдадні атрымання пашпарта, тычылася 5-га пункта. То бок габрэем пісацца мне ці беларусам. «Ну што ў цябе габрэйскага?» — пыталася маці. Бацька моўчкі ківаў галавой. Што праўда, ягонае габрэйства ўяўлялася мне толькі праз бабулю Гіту і доўгія, паўшэптам, недзе ў кутку, незразумелыя іхнія размовы на ідыш.

Не, не толькі. Яшчэ праз матулін дакор, які раз-пораз прамаўляўся, калі яна была ў чымсьці бацькам незадаволеная: «Няміга!»

Не, не толькі ў дакор. Здаралася і ў жарт...

Дакоры дакорамі, жарты жартамі, але вера ў інтэрнацыянал была непахісная. Мабыць, з таго інтэрнацыяналу і ўзгарэлася паміж імі каханне. Бо ўявіць сабе, каб да трыумфу інтэрнацыянала знайшлі адно аднаго вясковая беларуска і габрэй з жабрацкай мінскай Нямігі, проста немагчыма. Немагчымым, адпаведна, было б і мне з'явіцца на свет.

О, якое то было каханне!

Праз сумесную працу ў газеце; праз вызваленчы паход у Заходнюю Беларусь; праз біблейскі сыход цяжарнай маці з Мінска ў чэрвені 41-га; праз доўгае няведанне, хто дзе і ці жывы; праз нараджэнне сына; праз пагібель адных лепшых сяброў і здрадніцтва іншых; праз каварны на бацьку данос і пагрозу арышту; праз шчаслівае — жывы! — вяртанне з вайны...

Патаемна ад бацькоў я чытаў схаваныя ў пісьмовым стале іх лісты з вайны і на вайну, амаль трыста лістоў. І ўжо нават дзіцячым розумам цяміў, што ратаваліся яны ад жахаў вайны толькі каханнем.

І маленькім Пінхасікам.

А тут — на табе: «Няміга...»

Праз тую «Нямігу» мне было асабліва шкада бацьку.

Праз тую габрэйскую Нямігу, дзе ён насамрэч нарадзіўся; праз тую, дзе ягоны бацька, мой дзед Саламон, рабочы разніцы, памёр ад сухотаў, калі бацьку было два месяцы; праз тую Нямігу, дзе бабуля Гіта, працуючы прыбіральшчыцай, адна здолела выхаваць чацвярых дзяцей, а зараз ляжыць у прыцемку вільготнага сутарэння, у старэйшай дачкі, і слухае, як грае на скрыпачцы ўнук Мулік...

«Не, я застануся Пінхасікам! І буду пісацца габрэем!» — чамусьці з выклікам абвясціў я.

Маці сядзіць, абхапіўшы рукамі галаву, нібыта ўтрымлівае на твары счарнелую хмару. «Давід, скажы яму...»

«Я забараняю! — дрыжачым голасам вымаўляе тата. — Не, я прашу цябе, сынок...»

З жахам гляджу, як ягоныя вочы набрыньваюць слязамі...

Я не ведаю яшчэ, што ў 37-м расстраляны Лазар Пінхасік, старэйшы бацькаў брат.

Я не ведаю яшчэ, чаму колькі год таму з такой насцярогай шапталіся бацькі за сцяной, чулася толькі нешта пра касмапалітаў і Бірабіджан.

Я не ведаю яшчэ, што Міхоэлс быў забіты, а не выпадкова трапіў пад колы...

Так, я нічога яшчэ не ведаю. Нічога з таго, пра што ведаюць яны.

Але маўчаць...

Хаця ведаюць, што я ўжо пра ўсё ведаю.
Але маўчаць...
Усё жыццё маўчаць пра тое.
Да сыходу ў вечную цішыню.

## ПЫТАННЕ НА БЕЛАЙ ТКАНІНЕ

Напачатку кастрычніка лёс падараваў мне аўтавандроўку ў Люблін. Дакладней, падараваў сам Люблін, гэты нечаканы ад першага разу цуд...

Зазнаў я ў тым падарожжы і яшчэ адзін, тэхнічны, так бы мовіць, цуд — навігатар.

Для кагосьці, магчыма, і не цуд. Хтосьці, магчыма, да апошняй рысачкі і кропачкі разумее, як гэты цуд адбываецца, і дакладна ведае, што за істота кіруе з касмічных вышынь тваім зямным рухам.

Па мне дык лепш не ведаць і не разумець. Бо калі чалавек усё зведае і зразумее, на тым і скончыцца ягоны рух на Зямлі.

...Якраз на той дзень, калі, узіраючыся ў прыкметы малазнаёмага жыцця, я павольна шпацыраваў па Кракаўскім прадмесці да гарадской брамы, настала бабіна лета. Пасля халоднага імглістага тыдня сонейка зноў лашчылася да горада, ягоных старадаўніх вежаў, чарапічных дахаў, жыхароў і бестурботных турыстаў, нібыта супакойвала: «Не хвалюйцеся, нікуды я не падзелася, усё яшчэ тут...»

Шпацыраваў...

І раптам нешта вымусіла спыніцца.

Трэба сказаць, што спыняцца ў Любліне можна ці не на кожным кроку. Ну, як, напрыклад, не спыніцца ля помніка Люблінскай уніі? Ці ля рэштак згарэлага яшчэ ў XVI стагоддзі касцёла, адкуль адкрываецца чароўны, насычаны шматвяковай гісторыяй далягляд. Далягляд, які ўбірае ў сябе Прастору і Час, мірыць іх паміж сабой, з чаго і ствараецца непаўторны люблінскі цуд...

Дык вось я спыніўся. Але адчуў, што спыніўся не па ўласнай волі, не сам.

Знешне магло падацца, што спыніла мяне пытанне, якое кінулася ў вочы з кавалка белай тканіны, прымацаванага да

агароджы невялікага гаўбца двухпавярховага будынка. На першым паверсе месцілася аптэка. Можна было меркаваць, што аптэка і пытанне на белай тканіне нейкім чынам суадносяцца між сабой. То бок незвычайны піяр аптэчнага бізнесу. Але тканіна вісела на агароджы балкона так, быццам нехта вывесіў яе на сонейка пасля пральні. Якая ж гэта рэклама, які піяр?

Колькі хвілін я вагаўся паміж сэнсам пытання і звыклай журналісцкай цікаўнасцю да таго, адкуль яно ўзнікла пасярод няспешнага пешаходнага руху, хто і чаму звяртаецца з ім да людзей, ці мо да самога сябе. Але нешта працягвала стрымліваць, не дазваляла нават зварухнуцца...

Падобнае, мусіць, здараецца з кожным, хто натыкаецца на нейкую раптоўную, амаль містычную нечаканасць.

Са мной здарылася ў 1968 годзе, таксама бабіным летам, калі зусім нечакана я натрапіў на магілу Імануіла Канта. Не тое, каб не ведаў, дзе ён жыў і памёр. Але шукаць ягоную магілу на той момант не было маёй мэтай. Да таго ж я страшэнна стаміўся ад шматчасовага бадзяння па Калінінградзе, дзе апынуўся ўпершыню. І цягнуцца яшчэ да паўразваленага сабора пасярод агромністай, у рэштках крушняў, пустэчы не вельмі выпадала. Але вось нешта вымусіла. І я пацягнуўся.

І ўбачыў танкі, якія, пыхкаючы смярдзючым дымам, спачатку расцягвалі вялізныя валуны з падмурка Каралеўскага замка, а потым цягнулі да кучы.

Той замак ва ўсёй ягонай гістарычнай велічнасці і змрочнай прыгажосці я бачыў у кватэры добрых знаёмых на карціне, што засталася ад колішніх нямецкіх гаспадароў. «Схадзі, паглядзі, — параіла гаспадыня, — бо хутка нават ад ягоных разваліна ў нічога не застанецца...»

Так я стаў сведкам гістарычнага, дакладней, антыгістарычнага моманту, бо знос Каралеўскага замка, які, дарэчы, вайна пашкадавала, меўся канчаткова знішчыць у Калінінградзе Кёнігсберг. А ў якасці сімвала пабудаваць на месцы замка Дом Саветаў. То бок пакінуць нашчадкам, як тое і адбылося, выродлівы напамін...

Але гэта пазней. А тады я спалохаўся, што і сабора больш не пабачу...

Магіла Канта мясцілася ў адзіноце ля ацалелай сцяны.

Я сунуў руку ў кішэню і дастаў кавалачак бурштыну, шчасліва знойдзенага напярэдадні на сыходзе балтыйскай хвалі па пясочку Куршскай касы. Сапраўды пашанцавала — у кавалачак заляцеў і навечна застаўся там маленькі камарык. Ці не той, падумаў я, якога Кант прасіў загаварыць? «О маленькі камарык! Калі б ты загаварыў, нашы веды былі б зусім іншыя...»

Не загаварыў.

...Сабор ўратаваў Кант. Нешта ўсё ж спыніла бальшавікоў ля ягонай магілы.

Мо палахлівае разуменне таго, што яе немагчыма адарваць ад сабора, ад бязмежных вышынь, да якіх імкнецца ён, спалучаючы «маральны закон унутры нас і зорнае неба над галавой»...

А мо і пытанне на белай тканіне пасярод Любліна.

Зрэшты, звычайнае: «A co, jeśli BÓG jest?»...

## СЛЯЗА БОГА

Зноў абвешчана, што ў Нарачы купацца непажадана, у лепшым выпадку з вялікай перасцярогай — нейкі цэркарыёз...

...1953 год, канец мая, мне адзінаццаць з паловай гадоў. З татам і мамай я ўпершыню еду на Нарач. Напярэдадні глядзеў мапу, знайшоў возера, падобнае, як вырашыў, на бацькоўскую, з вайны, кабуру, лясы вакол, азёры паменей, балоты, вёску Купу на паўночным беразе, наводдаль — Кабыльнікі... Едзем доўга, ужо ноччу, па пясках ды разбітым ушчэнт бруку. У паўсне чую напеўныя, таямнічыя назвы — Ілля, Куранец, Вілейка, Любань, Мядзел... Начуем у лесе. Мужчыны, іх некалькі, ужо і не памятаю хто, раскладваюць вогнішча ды выстаўляюць ахову — ціха, амаль шэптам, гавораць між сабой, што ў тутэйшых лясах неспакойна. Я падбіраю сякеру ля вогнішча, напружана ўглядаюся ў густую цемру між соснамі, потым засынаю...

Раніцай у вочы хлыне невыказная, немагчымая сінь.

Хто б забыў гэтую сінь?!

...Па беразе цягнуцца развешаныя на драўляных драбінах сеткі, паветра прасякнута ранішняй прахалодай і азёрным пахам рыбы, адчутым упершыню. Бацька кліча мяне да вады, я

ўваходжу ў яе і нечакана правальваюся ў ледзяную ямку, адкуль нейкая таямнічая падземная сіла бурліць фантанчыкамі пяску. Потым яшчэ, яшчэ... «Крынічкі», — тлумачыць бацька, нахіляецца, зачэрпвае ваду падабраным на беразе драўляным каўшом і прагна п'е, нібыта ўсё жыццё пакутаваў ад смагі. Потым працягвае коўшык мне...

Хто б забыў смак гэтай вады?!

...З узлеску на ўзвышшы відаць Купу, яе саламяныя, а дзе-нідзе са старой дранкі, стрэхі. І вось мы ўжо спускаемся ўздоўж брукаванай шашы цераз масток над празрыстым струменем да Мацеевай, амаль на беразе, хаты. На дварышчы хударлявы, смуглявы, цемнаскуры мужчына ў надарванай прапацелай кашулі хамутае каня. «Тафіля! — кліча ён, паразмаўляўшы з бацькамі. — Тафіля! Глухавата яна, прабачце...» З размовы я чую нешта пра калгас, які забраў каня, але пакінуў яго Мацею, каб даглядаў. «Вось, будуць у нас жыць», — крычыць Мацей Тафілі проста ў вуха. Маўклівая Тафіля ківае галавой. Потым я даведаюся, што Тафіля аглухла аднойчы ад п'янага Мацеева кулака. Але на той момант усе мае думкі — пра каня і човен на беразе. Конь, скалячы зубы і пускаючы сліну, пераржоўвае жалезную аброць, час ад часу па скуры прабягаюць дрыжыкі. Човен гойдаецца на хвалях, чутно, як рыпяць цяжкія драўляныя вёслы... «Валюсь, хадзі сюды!» З хаты выкочваецца хлопчык гадоў васьмі. «Бачыш? — Валюсь паказвае паўкруглы чырвоны шрам на лбе, — Белка гвазданула, ты ніколі ззаду да яе не падыходзь...» Недзе праз месяц я ўжо тросся, коўзаючыся, на спіне Белкі, трымаючы скручаныя, каб не трапілі пад капыты, павады і што моцы сціскаючы нагамі яе крутыя бакі... Я ўжо нікога і нічога не баяўся, бо Тадзік, Янэк, браты Чэсік і Мечык, старэйшыя і дужэйшыя за мяне, ужо прыладзілі да чорнага чоўна мачту, чорны ветразь з нейкай тканіны, намалявалі на ветразі чэрап, косці і кінулі мяне ў возера аж на «сінім», у глыбіню. Я бачыў, як імкліва набліжалася дно, але чамусьці заставалася недасяжным. Я ведаў, што зараз патану, але чамусьці быў упэўнены, што мяне выратуе, выштурхне з сябе празрыстая да дна глыбіня...

Хто б забыў гэту крынічную глыбіню?!

...Нам здаецца, што створанае Богам даўжэйшае за чалавечае жыццё. Але чаму майго жыцця, нават незавершанага, хапіла на тое, каб зніклі Купа з Мацеевай хатай і Кабыльнікі з іх нядзельнымі кірмашамі, нават з назвамі зніклі; каб перасохлі крынічкі па берагах, зацягнуліся граззю чысцюткія струмені, а ў замутнёных сёння нарачанскіх водах пасялілася нейкая брыдотная набрыдзь?

...Гады тры таму, наведаўшы Нарач, я пайшоў да знаёмай крыніцы, мо пашчасціць папіць. Дзе там! Забраная ў бетонныя кольцы, яна ці жывая была пад іржавым замком. «Как не паганілі, — ідучы па сцежцы міма, патлумачыла мясцовая кабета ў белай хустцы, — а так трошкі ціўкае... Прыезджы?» Я спытаў у яе, ці ведае яна што пра Янэка, Тадзіка, Мечыка, Чэсіка, назваў прозвішчы. Не, не ведае. Валюсь? Можа той, што працуе ў пасялковым Савеце прыбіральнікам?

...Прытуліўшыся да сцяны ў цяньку на ганку, ён, цяжка ўздыхаючы, нешта мармытаў у сне.

З кім размаўляў? Каму на што скардзіўся?

Я прыгледзеўся. Падобны на Тафілін круглы твар, такі ж трохі пляскаты нос. І той жа шрам на лбе, цяпер не такі ўжо чырвоны.

Будзіць не стаў, сабраўся пайсці, але раптам заўважыў, як выкацілася з-пад павекі і затрымалася ў маршчыне на дрэнна паголенай шчацэ празрыстая сляза...

Ці не тая, якую, ствараючы Сусвет, некалі выпусціў Бог на твар Беларусі?

А мо тая, з якой Ён пакідае нас назусім...

## ЧОРНАЯ ДЗІРА

Тыдні два таму на адной вечарыне да мяне падсела незнаёмая, сталага веку жанчына і працягнула здымак: «Пазнаяце?» На здымку, ужо кранутым жаўцізной часу, ляжаў на шырокай канапе, падпіраючы галаву, нейкі стары чалавек у тоўстых акулярах... «Так, — не чакаючы адказу, прамовіла жанчына, — гэта Саша Ахраменка... Яго ўжо няма...»

Нешта цісканула ў сэрцы і захаладзела пад дыхам — толькі ўчора я бачыў яго, углядаючыся ў чорную бездань былой купалаўскай сцэны...

Я падышоў да тэатра незнарок, спрабуючы наўскос, праз Аляксандраўскі сквер, скараціць шлях да метро. Але наткнуўся на там-сям падратую агароджу, абапал якой валялася на брудным снезе будаўнічае смецце і ляжалі рэшткі дрэў — непазбежных, як заўсёды сцвярджаюць будаўнікі, ахвяр рэканструкцыі.

Я, безумоўна, ведаў пра рэканструкцыю Купалаўскага тэатра, не аднойчы ўглядаўся ў яе намаляваны на тканіне фасадны твар. Але ўпершыню ўбачыў яе з чорнага, так бы мовіць, увахода.

Увахода, праўда, не было. Замест яго зеўрала агромністая чорная дзіра, уцягваючы позірк у нейкую неабсяжную касмічную далячынь. Нават лямпачкі, зрэдку падвешаныя на нябачнай столі, зіхцелі падобна зоркам...

Тут я і пабачыў Сашку. Мы не бачыліся амаль 60 гадоў.

Вось ён кліча мяне да чорнага ўвахода, дзе сустракае нас ягоны бацька, скрыпач з тэатральнага аркестра, і цішком, бо спектакль ужо пачаўся, вядзе ва ўрадавую ложу, адкуль з заміраннем сэрца сочым, як каварства забівае любоў... У антракце мы, тузаючы адзін аднаго, бяжым вузкім калідорчыкам у грымёрную Фердынанда, хіхікаючы з назвы таямнічага памяшкання. Фердынанд, ён жа знакаміты ў хуткім будучым Барыс Кудраўцаў, зняўшы шпагу, частуе нас шакаладам, налівае нешта з гранёнага графіна ў гранёную шклянку, выпівае, падносіць да носа рукаў вышытага срэбрам камзола...

...Я ўглядаўся ў чорную дзіру, і адтуль з'явілася раптам Стэфанія: «Ну што, дадому?»

Па праве чалавека, адоранага не тэатральным — простым чалавечым сяброўствам, я часцяком падвозіў яе пасля спектакляў, асабліва на сыходзе дзявятага дзясятка гадоў. Мы доўга жылі з ёй у адным доме, на адным паверсе, дзверы ў дзверы. Потым яна перабралася ў іншы дом, паверх апусцеў...

Апусцеў паверх, думаў я, калі яна сышла на зломе стагоддзяў у іншы свет. Паверх, на якім яна жыла побач з намі і які называўся XX стагоддзем. Так, мы перабяромся, ускараскаемся

на новае. Але ці ўздымемся? Ці засвоім вышыню Духу, якую явілі нам — не, не сведкі — творцы Стагоддзя?..

...Я ўглядаўся ў чорную дзіру, яшчэ не ведаючы, што праз дзень-два нейкія зверападобныя страшыдлы з надпісам «Hitachi» на даўжэзнай жоўтай шыі канчаткова зруйнуюць старыя, з пазамінулага стагоддзя, сцены.

...Я ўглядаўся ў чорную дзіру, яшчэ дрэнна разумеючы, на што падобна гэтая «рэканструкцыя» з чорнага ўвахода. І толькі ўвечары, гледзячы, як сакураўскі Фаўст у пошуках душы вымае вантробы з анатаміраванага трупа, я зразумеў гэтае вар'яцкае падабенства...

Але душу «рэканструктары» не шукаюць. Выкідаюць яе разам з вантробамі...

Сёння яны кажуць пра немагчымасць захаваць старыя сцены, нешта лапочуць пра сучасную «сцэнічную каробку» і зручныя падлакотнікі для гледачоў.

Так, ён паўстане праз нейкі час, новы тэатр для новых мінчукоў. Але душы ў ім не будзе. А калі і будзе, то невядома якая. Толькі не тая, якая жыве спрадвек.

Бо душа жыве разам са старымі сценамі.

Разам з памяццю жыве і захоўваецца душа.

...Я паехаў да Сашкавай жонкі, мы доўга размаўлялі, кожны са сваімі пытаннямі і ўспамінамі. З прыхаванымі гонарам і пяшчотай яна распавядала, якім ён быў выдатным музыкам, як граў і ствараў джазавыя кампазіцыі ў знакамітым аркестры Барыса Райскага... «Ён усё жыццё ўзгадваў вас, усё пытаўся сам у сябе, як вы там...»

Ну, вось, падумаў я, яшчэ адна чорная дзіра. Памерам з жыццё.

...У астрафізіцы чорная дзіра — гэта такое ўтварэнне, у якім касмічная гравітацыя дзейнічае з такой звышмоцай, што святло, якім там зіхацяць зоркі, нават са сваёй неверагоднай хуткасцю не можа пераадолець яе. Таму яны і нябачныя нам.

Але яны ёсць.

# V. ПОСТАЦІ

*Пра тых, з кім зvяло жыццё...*

## ВАЙНА І МІР ВІКТАРА КАЗЬКО

*Віншавальны, і не толькі, ліст да сябра*
*з нагоды яго юбілею*

Дарагі Віця!

Сёння табе 75. Цяжка паверыць, але гэта так.

Галоўны рэдактар, ведаючы пра наша 45-гадовае сяброўства, прапанаваў напісаць пра цябе «як пра чалавека».

— Эпізоды, — сказаў ён, — самае цікавае — эпізоды...

Эпізодаў процьма. Можа, і сапраўды яны цікавыя некаму, акрамя нас, нашых жонак і, як бачыш, галоўнага рэдактара?

Можа, і сапраўды камусьці цікава, як недзе напачатку 70-х, вяртаючыся «с дружеской попойки» пасля твайго афіцыйнага ўваходжання ў пісьменніцкае братэрства, мы скралі з тралейбуснага слупа вялізную металічную зорку? Ты памятаеш, якая яна была цяжкая? Мы цягнулі яе праз начны горад, хістаючыся ці то ад цяжару, ці то ад скразняку ў галаве, але дацягнулі да кватэры, пакінулі на лесвічнай пляцоўцы.

А раніцай яе ўжо не было...

Каб тое здарылася сёння, я б вырашыў, што гэта папрацавалі бамжы. Але якія тады бамжы?

І сёння я думаю, што нікуды тая зорка не падзелася. Проста нехта дужэйшы за нас ціхенька ўзяў яе той цудоўнай ноччу і прымацаваў да небасхілу Беларусі. І не толькі літаратурнага — менавіта Беларусі. Бо ты і ёсць для мяне Беларусь.

Але не тая Беларусь, што галасуе. А тая Беларусь, што галосіць...

Я працягваю руку да паліцы, дзе стаяць твае кнігі, бяру самую танюткую з іх, першую, і зноў праз 45 гадоў чытаю пра хлопчыка, якому ты даў такое мірнае, такое дзіцячае прозвішча — Прыгода, Дзіма Прыгода.

І зноў, як і сорак пяць гадоў таму, калі ў часопісе «Новый мир» я ўпершыню прачытаў «Высакосны год», б'е мяне бязлітасны калатун...

Можа, ты памятаеш, як адзін «гісторык і эканаміст», а па сумяшчальніцтву распарадчык рэсурсаў цэлай дзяржавы, надзвычай заклапочаны станам беларускай літаратуры, паабяцаў умомант адарваць трохі ад гэтых рэсурсаў таму пісьменніку, каторы напіша і пакладзе яму на стол нешта роўнае «Вайне і міру» Льва Талстога. У абяцанні чуўся радасны намёк на тое, што рэсурсам нішто не пагражае, бо нічога роўнага «Вайне і міру» ў беларускай літаратуры няма і не будзе.

Я, дзякуй Богу, рэсурсамі не валодаю, да таго ж не літаратурны крытык, і магу, Віця, сказаць проста: ты — геній.

Нехта крыва ўсміхнецца, палічыўшы гэтае сцвярджэнне прыхаваным здзекам з братоў па пяру. Нехта проста пацісне плячыма. Ты, мусіць, пачуўшы такое, у лепшым выпадку рассмяешся, у найлепшым — момантам знойдзеш *непаўторнае* слоўца...

І ўсё ж настойваю: геній. І гэтым роўны зямлі і небу, дрэву і траве, вадзе і ветру, птушцы і зверу, а таксама графу Льву Мікалаевічу Талстому — у тым, як чуеш ты, і толькі ты, галасы існуючага свету. А галоўнае — як высеклася тваё Слова з болю, якім акрывавіла гэты свет вайна.

Як высякаецца яно з болю, якім акрываваціў гэты свет і працягвае крывавіць Чарнобыль.

Як высякаецца яно з болю, якім акрывавіла і працягвае крывавіць Палессе так званая меліярацыя. З болю, якой стогнуць гінучыя палескія дубы, выратаванне якіх можна таксама назваць тваёй справай жыцця. «Ведаеш, — сказаў ты аднойчы, — і ў дубоў ёсць памяць. Ужо пасеклі амаль усе бары, дзе-нідзе засталіся дубы ў адзіноце пасярод поля, а ўсё роўна родзяць пад імі баравікі. Ды якія!»...

Як высякаецца яно, тваё Слова, з болю, якім акрывавіла гэты свет і працягвае крывавіць сталіншчына.

Як высякаецца яно з болю, якім адвеку крывавіць гэты свет сусветнае Зло.

Я зноў чытаю тваю першую кнігу, і зноў, як тады, 40 гадоў таму, а магчыма, яшчэ бясспрэчней разумею, што здольнасць вымавіць геніяльнае Слова нараджаецца не столькі з літаратурнага дару, колькі з Боскага дару чуць галасы жывых і мёртвых, ці то дрэва, рыба, звер, птушка альбо чалавек. І не проста чуць, тым больш спачуваць... Не, самому прамаўляць гэтымі галасамі, самому адчуваць боль жывых і мёртвых і прымаць на сябе віну за гэты боль...

Не ведаю, ці пагодзішся ты са мной, але я ўпэўнены, што ўсё, што ты напісаў дагэтуль, усе твае раманы, аповесці, апавяданні, кінасцэнарыі, эсэ — ад «Высакоснага года» і «Суда ў Слабадзе» да «Бунта незапатрабаванага праху», «Сказа пра ката, каторы смяяўся» і «Часу збіраць косці» — выраслі з жахлівых «прыгод» трохгадовага хлопчыка, які ў неўсвядомленай празе жыць пакінуў на маці, забітай асколкам снарада, яшчэ жывую малодшую сястру, а потым, вярнуўшыся, пабачыў на яе тварыку змёрзлую слязінку...

Ты б ніколі не здолеў напісаць пра гэты, прабач, «эпізод» з пачатку твайго жыцця, калі б добраахвотна не ўзваліў на сябе ўвесь цяжар гэтай слязінкі, усю віну за яе.

Усе твае кнігі выраслі з гэтай слязінкі.

Усе яны — добраахвотнае асабістае пакаянне за паўсюднае зло.

Пакаянне, якое ты нясеш у сабе замест нас — ці то чытачоў, ці то грамадзян, ці то народа...

Таму я не ведаю, дзе правесці падзел паміж табой пісьменнікам і табой чалавекам. Нават калі ў чарговы раз абрабавалі тваю хату ў знакамітых старажытных мясцінах пад агульнай назвай Дудуткі, ты шкадаваў аб гэтым так, быццам сам вінаваты ў тым, што свет нарадзіў гэткіх зладзеяў. І зладзеяў, якіх у чарговы раз злавілі, ты шкадаваў: вясковыя падлеткі, амаль дзеці, два хлопчыкі і дзяўчынка... Я быў сведкам таго, як дапытвалася ў цябе следчая, колькі грошай каштуюць зрабаваныя і знойдзеныя рэчы, які выставіць рабаўнікам іск. Ты нешта мямліў у адказ, махаў рукой у нейкай роспачы, табе было відавочна няёмка...

— Што ж, — прамовіла следчая, — пашанцавала рабаўнікам з пацярпелым.

— Яго цярпення, да вашага ведама, хопіць на ўсіх рабаўнікоў свету, — пажартаваў тады я. І падумаў: ну, чым не Талстой разам з Махатмам Гандзі?!

Але які жарт, калі ты і сапраўды пераканаactive, жыццёва пераканаactive ў тым, што Зло не выціскаецца злом. Што колькасць Зла ў гэтым свеце залежыць ад колькасці Дабра, што толькі павелічэннем Дабра можна зменшыць і нават пераадолець Зло...

Не, я не ведаю, дзе правесці падзел паміж табой пісьменнікам і табой чалавекам, калі ты водзіш мяне па сваім садзе ад адной яблыні да другой, ад адной грушкі да другой... Густалістае, трохі пажоўклае ад жнівеньскага сонца галлё свеціцца цяжкімі сакавітымі пладамі, я каштую іх і слухаю, як распавядаеш ты пра дзічкі, якія прыносіш з лесу, і прышчэпліваеш да іх культурныя, так бы мовіць, чаранкі...

— Адно не магу, — прызнаешся ты, — абразаць дрэвы. Не магу рэзаць па жывому...

І ва ўсім тым мне таксама бачыцца нейкі сімвал, нейкая метафара: перакручаная вятрамі дзічка, да якой прышчэплена сусветная культура, з чаго і нараджаецца сапраўднае мастацтва слова, сапраўдны мастацкі твор. Але тое, што для мяне, ці кагосьці яшчэ, сімвал, метафара, для цябе — само жыццё.

Я зразумеў гэта яшчэ тады, калі мы ўпершыню паехалі разам на *тваё* Палессе, на *тваю* Случ, у *тваю* Вільчу, дзе быў пасля вайны *твой* дзіцячы дом, з якога пачалося тваё фэзэушніцкае, потым шахцёрскае і журналісцкае блуканне па раздарожжах Сібіры.

Мы ехалі цэлы дзень, праз Бабруйск і Парычы на Рагачоў, а потым у вялікую вёску з палохаючай назвай Кісцені, на ўскрайку якой археолагі раскопвалі феадальную, па навуцы, сядзібу XII–XIII стагоддзяў і ўжо дакапаліся да папялішча, на якім тая сядзіба і скончыла свой кароткі век. Ты памятаеш, як знайшлі яны загорнуты ў рэшткі нейкай анучкі скарб з залатых і срэбраных ювелірных вырабаў, прыхаваны гаспадарамі, а хутчэй за ўсё самой гаспадыняй сядзібы ад нейкай навалы перад тым, як сысці ў гістарычны нябыт? Мы зана-

чавалі там, у археолагаў, ледзь не на гарадзішчы, на высокім беразе Дняпра, адкуль адкрываўся воку чароўны, не змераны вокам, далягляд. І ўсю ноч нехта стагнаў і плакаў жаночым голасам над гарадзішчам і тым даляглядам. Раніцай мы даведаліся, што гэта была Галоска, час ад часу яна з'яўляецца на гарадзішчы, калі хто-небудзь яе пакрыўдзіць ці напалохае. У тую ноч яна шукала, мабыць, свой скарб...

У Вільчу мы дабраліся надвячоркам, калі стомленае сонца пафарбавала чырвоным золатам бялюткі пясок на Случы. Як роднага, сустрэла цябе Ніна Рыгораўна, удава Мірона Сарокі — дырэктара дзетдома і твайго выхавацеля пасля вайны. Ніколі не забуду, як частавала яна нас палескімі клубніцамі з малаком, а потым паклала мяне, стомленага доўгім падарожжам, у такія пухавікі, якіх ніколі ў маім жыцці не было. Ты ж, пакуль я сніў сябе ў дзяцінстве, пайшоў на Случ. Мы доўга плюскаліся ў ёй, калі я прачнуўся, а потым пайшлі да той хаты, якую вы, дзетдомаўцы, выратавалі калісьці ад пажару...

Ты паехаў тады ў Вільчу не проста дзеля таго, каб наведаць мясціны дзяцінства. Ты купіў тую хату, доўга і працавіта ладзіў у ёй жыццё, сведкамі і нават удзельнікамі якога былі многія добрыя людзі: ад былых дзетдомаўцаў, раскіданых па свеце, да Алеся Адамовіча і Васіля Быкава...

Мяне заўсёды ўражвала, як цягнуцца да цябе добрыя людзі, многім з якіх ты падараваў працяг жыцця на старонках сваіх кніг. Нават тады, калі яны паміраюць там раней, чым у жыцці. Я добра памятаю тваё сяброўства з Васяткам Дзятлавым, тваім Лецечкам, з якога эсэсаўскія нелюдзі-дактары высмакталі дзіцячую кроў, аб чым ты напісаў, мабыць, самую пранізлівую сваю аповесць «Суд у Слабадзе». Як мог, ты дапамагаў свайму сябру. А потым яго не стала. Няма.

Няма зараз таго гарадзішча ў Кісценях — накрыў Чарнобыль, накрыў, як бачыш, не толькі прастору, але і час.

Няма зараз у цябе і той хаты ў Вільчы.

Няма Быкава і Адамовіча, тваіх папярэднікаў, а па сутнасці, прадвеснікаў твайго літаратурнага жыцця.

Але ёсць ты.

І ёсць Галоска з «Нерушы» — твая Беларусь.

Твая душа, твая мова, твой лёс.

...У фільме «Знакі лёсу. Віктар Казько» ёсць адзін жахлівы і адначасова... не, не знайду я патрэбнага слова, твой успамін. З некалі пачутага ад роднай бабулі ты распавядаеш, як знайшла яна цябе ў Азарыцкім канцлагеры, куды падаўся ты ад загінулых маці і сястры, пайшоў за дарослымі. Знайшла і панесла да сябе ў вёску, бо сам ісці ты ўжо не мог. Несла яна цябе праз поле, напрасткі, а на мяжы крычаў нешта, скакаў, лямантаваў і махаў кіёчкам нейкі дзядок. Калі дайшла да яго, высветлілася, што несла яна цябе праз міннае поле. Уздыхнуў дзядок з палёгкай і кажа:

— Нехта, відаць, вельмі хоча, каб гэты хлопчык жыў...

Нехта, відаць, вельмі хоча, каб жыла Беларусь.

## ДРЭВА НАД СХОВІШЧАМ

*Працяг размовы з Вячаславам Дубінкам*

...не, не атрымліваецца ў мяне працягваць размову з табой на рускай мове. Не таму, што ты, як мо камусьці падавалася, пагардліва ставіўся да яе, вымушаючы суразмоўцу збянтэжана падпарадкоўвацца то разважлівай, то вірліва-ўсмешлівай плыні тваёй беларускай гаворкі. Не. Проста я чую твой голас, тваё, з падвышэннем на апошнім складзе, быццам ты хацеў упэўніцца, што цябе чуюць, «Прывітанне!» І згадваю, як мы аднойчы наладзіліся з табою ў Польшчу, каб паўдзельнічаць у аўтамабільным ралі журналістаў Еўропы. Я ў якасці кіроўцы, ты — штурмана, а на самай справе фоталетапісца нечаканай падзеі ў нашым жыцці...

Было тое ў 1989 годзе, у сонечным кастрычніку, напачатку цёплага бабінага лета. Памятаеш, як на нейкай заводскай базе адпачынку пад Жэшувам, дзе збіраліся ўдзельнікі тых аматарскіх спаборніцтваў, мы сустрэлі нашых калег з маскоўскага часопіса «За рулём» і тальяцінскай шматтыражкі? З Тальяці хлопцы былі сціплыя і чулыя, адразу пачалі спачуваць нам, бо над намі навісла пагроза недапуску да спаборніцтваў праз тое, што я не захапіў з сабой шлемы.

Давай патлумачым чытачам: я ведаў пра тое, што трэба было мець шлемы, аднак пакінуў іх у Мінску. Па-першае, каб

з імі нічога не здарылася — так неахвотна пазычылі іх знаёмыя аўтагоншчыкі... А па-другое, ім увогуле не знайшлося месца ў «Волзе», дзе мы прыхавалі розныя побытавыя прылады, *бэбехі* па-твойму, якія, па чутках, мелі вялікі попыт у тагачаснай Польшчы. Якое ралі?! Ні я, ні ты ніколі не былі аўтагоншчыкамі, атрымаўшы прапанову Саюза журналістаў, са зразумелай ахвотай паехалі паглядзець на краіну, якая толькі-толькі выблыталася з камуністычнай няволі і рабіла першыя крокі па новым шляху. На тое, зразумела, патрэбныя былі грошы, зарабіць іх магчыма было ад продажу згаданых прылад. Так нам здавалася. Ведаючы пра твой недасягальны досвед вандроўніка, я тады спытаўся ў цябе, ці прадаваў ты хоць што-небудзь хоць калі-небудзь. Адказу я не пачуў, толькі нейкі ўсмешлівы гук, маўляў, не хвалюйся, усё будзе як след... Пра тое, чым гэта скончылася, трохі пазней. А пакуль згадаю (ты мусіш памятаць тую сцэну), як поўзаў па «Волзе» мытнік, пакуль я не ткнуў яму ледзь не ў твар пасведчанне тады яшчэ ўсесаюзнай газеты «Труд». Непрыгожа, але што было рабіць?!

Дык вось: дасталі мы бутэльку «Белавежскай», шматок сала, цыбулі, яшчэ тое-сёе з часова пакінутай радзімы, сядзім з тальяцінскімі хлопцамі, добра сядзім, чакаем, пакуль масквічы з'явяцца. З'явіліся апоўначы, маладыя, амбіцыйна вяртлявыя, і адразу ў камандзірскі тон: «Почему без шлемов?» Высветлілася, што адзін з іх узначальвае так званую «команду СССР», у якую быццам уваходзім і мы. Вось тут ты і пачаў размаўляць з імі на сваёй мове.

Тады падалося мне, што ёсць у гэтым нейкая непавага. «Навошта так?» — спытаўся я ў цябе, калі ўсе разышліся. Ты неяк сумна паглядзеў на мяне: «А хай не лічаць беларускую мову "плохой русской"...» І дадаў: «Ці табе спадабалася, як яны з намі размаўляюць?»

І тое праўда: без усялякіх добрых пажаданняў на ноч загадалі заўтра раніцай ехаць «в разведку», 350 кіламетраў у адзін бок. Інакш не выдадуць камандзіровачных і паведамяць аб нашых паводзінах кіраўніцтву ў Маскве. Як кіроўца, я адмовіўся. Заўтрашні дзень быў вольны, палякі абяцалі цікавыя экскурсіі. Якая «разведка»?

— Вам что, не дорога честь команды?

— Не-а...

— Может, и честь страны не дорога?

— Не-а... Мы не спортсмены, проедем, как сможем...

Заўважу: ніякіх «команд» у тых спаборніцтвах не было, кожны змагаўся, ці проста руліў, як мог, сам за сябе. Прычым тут «честь страны»?

Я бачыў, як ты ледзь утрымліваўся ад рогату, слухаючы гэты «дыялог». Мяне таксама душыў смех ад таго, як чырванее, нібыта грэбень у пеўня, твар «капитана команды». Ды непатрэбныя нам твае грошы, вунь уся «Волга» будучымі «грашыма» набіта...

І ўсё ж хваляваліся мы назаўтра, калі вярнуліся з экскурсіі, а іх да поўначы не было. Памятаеш, як увайшлі яны з перавязанымі галовамі ў пакой, кульгаючы і падтрымліваючы адзін аднаго... А ўдзень з'ехалі паціху ў Маскву, хаваючыся ад ветру за прарэзаным, як у танку, лістом фанеры замест шкла. Шкада іх было. Але ж засталіся нам ад іх два шлемы...

Вось пра што я думаю зараз, Слаўка, узгадваючы тыя нязначныя, на першы погляд, падрабязнасці польскага сюжэта. Быў то, паўтаруся, 1989 год, мы паспелі з табой пабываць у Вільні на Першым з'ездзе БНФ і адчуць на Дзяды мярзотны пах «Чаромхі» ля Маскоўскіх могілак і на шляху ў Курапаты... Пад штуршкамі нацыянальнай свядомасці ужо чутны былі тэктанічныя зрухі, і ты адчуваў іх куды лепей за мяне. Не таму, што быў актыўным, так бы мовіць, палітбайцом, ці мудрагелістым аналітыкам, ці, не дай Божа, прарокам. Проста Беларусь жыла ў табе ад нараджэння, і ты не мог не адчуваць, як выкараскваецца яна з-пад імперскай навалы, як па-новаму, пад ціскам новый крыві, б'ецца яе сэрца. Яшчэ не было аніякіх вонкавых прыкмет таго, што праз якія два гады савецкая імперыя, якую ты ледзь не пешшу, з адным заплечнікам, прайшоў, як тады казалі, «от Буга до Курил», разваліцца, быццам картачны дом. Але ты ўжо адчуваў набліжэнне развалу «команды СССР». Мо дзякуючы таму, што гэты распад адбыўся спачатку ў свядомасці нечаканага на той час мноства людзей, абышлося без «югаслаўскай» крыві...

Тут, мусіць, трэба сказаць, чаму мы распавядаем чытачам менавіта пра польскую эпапею, хаця маглі б узгадаць яшчэ нямала цікавага. Ну, напрыклад, як наведвалі ў Лунінецкім раёне Івана Бушылу, мясцовага селяніна, які, вярнуўшыся з вайны, больш за сорак гадоў хаваўся ў лесе ад супрацоўнікаў савецкага КДБ. Але ж ты пісаў пра гэта, друкаваў той успамін, і мне няма чаго дадаць. А вось пра ралі... Тут, дарагі дружа, я проста не магу не завяршыць распачатую табой працу — твой (прабач, пазычу з адной з тваіх караЦелек) «мумуар».

Я доўга, амаль з паўгода, не мог уцяміць, навошта ты раз ад разу прапануеш нешта напісаць пра... мяне. Я ўжо чытаў у габрэйскай газеце «Авіў», з якой ты супрацоўнічаў у апошнія гады, твае нарысы-ўспаміны аб нашых калегах, сябрах, аб часінах нашай маладосці. Яны падабаліся мне, хаця я заўважаў памылкі і недакладнасці. Ну, напрыклад, светлай памяці Алег Белавусаў ніколі не працаваў у «Знамени юности», а вядомы цяпер маскоўскі кнігавыдавец Барыс Пастарнак не мог у 1963 годзе пасылаць табе з той жа «Знамёнки» ліст с запрашэннем супрацоўнічаць, бо яго тады ў газеце і блізка не было. Але ўсе гэтыя недарэчныя дробязі можна было дараваць табе за тое глыбокае адчуванне часу і абставін мінулага жыцця, якое таілася ў толькі табой захаваных падрабязнасцях і было аздоблена тваім непаўторным гумарам.

Я не ведаю, што мяне ўтрымлівала ад тваёй прапановы. Можа быць, недахоп часу. Магчыма, лянота. А хутчэй за ўсё неразуменне таго, што нішто, як спявалася некалі ў вядомай песні, «не проходит бесследно», усё, нават самае будзённае, мае свой сэнс, які з цягам часу, як пад павелічальным шклом, набывае глыбіню, шырыню і вышыню, адным словам, аб'ём. Не, гэта не той аб'ём, які ствараецца сёння лічбавымі тэхналогіямі. Камусьці, можа, і падаецца, што з дапамогай такіх тэхналогій яго можна стварыць «тут і цяпер». Не, дзеля гэтага трэба пражыць жыццё, прычым так таленавіта, як пражыў яго ты. І толькі тады, як пісаў другі, дакладней, першы Барыс Пастарнак, атрымаецца «привлечь к себе любовь пространства, услышать будущего зов»...

Як бы там ні было, ты ўсё ж выцягнуў мяне на першую размову і фатаграфаванне, бо ўсе твае нарысы-ўспаміны аба-

вязкова павінны былі ілюстравацца фотапартрэтамі, на якія ты быў выдатны майстра. Павесіўшы на шыю сваю, прабач, фотазбрую, ты скіраваў мяне ў старадаўні гарадскі сквер непадалёку ад тваёй майстэрні па вуліцы Ленінградскай. Распытваючы аб розных падзеях мінулага, ты павёў мяне да старога, магутнага, у некалькі абхватаў, дрэва, здаецца таполі, адышоў на які дзясятак метраў і, не перапыняючы гаворкі, пачаў здымаць мяне з розных бакоў. Я ведаў, што ты любіш здымаць людзей на фоне старых дрэў, цябе прыцягвала іх спрадвечная памяць. Дзіўна, але тое дрэва вымахала, учапіўшыся за пагорак, пад якім і сёння месціцца яшчэ даваеннае бамбасховішча, зараз, вядома, зачыненае. Памятаеш, я сказаў табе, што падчас першых налётаў на Мінск у гэтым сховішчы хаваліся ад бомбаў мае сястра і маці, на шостым месяцы цяжарная мной. «Так?» — трохі здзіўлена перапытаў ты, працягваючы здымаць мяне на тле таго дрэва. А я тады толькі аб адным думаў: за што трымаюцца ягоныя карані?..

Мы дамовіліся сустрэцца праз тыдні два, калі, спадзяваліся, спадзе амаль невыносная сёлетняя спякота.

Праз два тыдні ты быў ужо на нябёсах, сярод зорак Млечнага Шляху, па якім доўжыцца твая няспынная вандроўка...

А на Зямлі засталося тваё дрэва над сховішчам, якое трымаецца каранямі за ўсё пакуль затоенае ў нашай гісторыі, у нашым жыцці.

*P. S.* Але ж размова наша, як бачыш, не скончылася. Ад жонкі тваёй Таццяны я даведаўся, што ты пачаў пісаць той успамін. І вось яны ляжаць перада мной, тры з паловай ад рукі напісаныя старонкі, з якіх відавочна, што тая наша вандроўка ў Польшчу цікавіла цябе больш за ўсё. На жаль, друкаваць іх асобна не выпадае, наўрад ці гэта было б табе даспадобы. Вось я і вырашыў завяршыць распачатую табой працу. І паведаміць чытачам, як рванулі мы з-пад Жэшува ў Кракаў да знаёмага, еўрапейскай вядомасці, археолага Казіміра Гадлоўскага, бацька якога згінуў у Катыні, як апынуліся на званай вячэры ў гонар двух аўстрыйскіх калегаў і, седзячы ў пацёртых джынсах побач з імі і рэктарам Ягелонскага ўніверсітэта, апранутымі ў фракі,

пад'ядалі грэчневую кашу, закусваючы вогнепадобны крупнік, які Казік усё падліваў і падліваў нам пад круглым дубовым сталом... Як угледаліся мы ў посткамуністычную Польшчу, дзе ў крамах нічога не было, акрамя гумавых ботаў, а за тое, каб прыкурыць, трэба было аддаць 20 злотых, бо і запалак тады не было. Але ж высіліся над малымі гарадамі і скрыжаваннямі вясковых дарог новыя, фантастычнай архітэктуры касцёлы, а ў вёсках мала-памалу будаваліся сучасныя двух- ці трохпавярховыя дамы. Памятаеш, як абагналі мы на дарозе ржавы «Паланез», да якога быў прычэплены сялянскі, на гумавых колах, воз, з верхам набіты новенькай цэглай? А доўгія чэргі ля бензазаправак? Тут нам трохі пашанцавала, і мы здолелі, па-руску кажучы, «толкнуть» каністру паліва, нават не далі сябе абдурыць. А вось з *бэбехамі*... Памятаеш, як да самага цямна чакаў я цябе ў нейкім варшаўскім завулку і як не мог спыніць смех, калі, нешта мармычучы, вярнуўся з імі з кірмашу, так нічога і не прадаўшы? Высветлілася, што канкурэнты ўвогуле пагналі цябе адтуль, бо ты пачаў збіваць цану... У сваіх нататках ты таксама згадваеш гэты момант, нават тое, чым менавіта спрабаваў гандляваць: помпай для калодзежа і бульбадзёрам завода «Чырвоны барацьбіт». А я помню яшчэ пыласос і мытніка на мяжы, таго самага, якому два тыдні таму тыкаў пасведчанне. І помсту ягоную помню — як задаволена круціў ён пальцам ля скроні...

Так, Слаўка, ледзь не забыўся: усё ж узялі мы з табой на тым ралі «II miejsce w klasie V», абставіўшы «Сааб», два «Мерседэсы» і адзін «Нісан». А іншых, акрамя яшчэ аднаго «Сааба» і нашай «Волгі», у тым «V klasie» і не было.

Абставілі, дарэчы, атрымаўшы ў якасці прыза цудоўны, неверагодна бліскучы новенькі шлем...

## МАЙСТЭРНЯ ВЯЧАСЛАВА ДУБІНКІ

27 чэрвеня ў сталічным Палацы мастацтваў адкрылася выстава выцінанак Вячаслава Дубінкі — знакамітага пісьменніка, журналіста, фотамастака, які заўчасна памёр у жніўні 2010 года.

Сярод маіх сяброў і калег па журналістыцы я не ведаю і не ведаў аніводнага, да якога так падыходзіла б слова «майстар», ці «майстра», як любіў казаць сам Слава.

Ніколі не забуду, як ехалі мы ў Вільню на І з’езд БНФ. Апроч нас у аўто былі яшчэ журналісты, а ўзначальваў гэтую, так бы мовіць, экспедыцыю не абы-хто — сам Рыгор Барадулін. Амаль увесь шлях, не спыняючыся, Рыгор Іванавіч распавядаў розныя смешныя гісторыі, анекдоты, усе рагаталі... У нейкі момант я заўважыў, што толькі Слава не адгукаецца, сядзіць цішком, нібыта яго ў машыне няма. Я адарваў позірк ад дарогі... З цёплай усмешкай, без якой, дарэчы, ніколі я не ўяўляў свайго сябра, ён, нічога не губляючы з падарожных размоў, вялізнымі кравецкімі нажніцамі выразаў з паперы чарговую выцінанку...

Я нездарма ўзгадаў ягоныя знакамітыя выцінанкі. Калі ўважліва прыгледзецца да іх, а потым таксама ўважліва чытаць карацелькі, можна пабачыць, якія яны падобныя адна на адну сваімі мастацкімі якасцямі. Інакш кажучы, карацелькі — гэта выцінанкі ў прозе. Толькі замест нажніц — пяро, а замест паперы — мова. Родную мову Слава не проста ведаў, нават не проста чуў — ён быў яе творца. Ці сутворца — тут не трэба шматслоўных доказаў. Дастаткова нагадаць, як цягнік у адной з карацелек не «прыйшоў» з Асіповіч, не «прыпоўз» нават, а «прысоп»... І адразу вы бачыце не толькі сам цягнік як жывую істоту, але і ягонае мітуслівае насельніцтва, адчуваеце пах жалеза, вугалля, чуеце лязг ягоных колаў і цяжкі подых пары...

Журналістыка, зразумела, не мастацкая проза. Але яна вельмі шмат губляе ад таго, што гэтак мала карыстаецца жывым, гаваркім словам, выразам. Зрэшты, для гэтага трэба быць мастаком.

Чытаючы Слававы карацелькі, не цяжка заўважыць, што гэта не дзённікавыя нататкі і не нататкі ўвогуле. Апавяданнямі ў звыклым сэнсе іх таксама назваць нельга. Між тым гэта сапраўднае майстэрства — у сціслых радках, праз будзённыя, на першы погляд, жыццёвыя выпадкі і сюжэты данесці да чытача глыбокія пачуцці, перадаць адметныя рысы характараў. Мне падаецца, я ўпэўнены у тым, што падобнае майстэрства,

падобная сцісласць нараджаецца не толькі з жыццёвага і прафесійнага досведу, але перш-наперш са стаўлення да чалавечай асобы, з непадробнай цікавасці да жыцця.

...Трэба сказаць, што слова «майстэрня» было ці не самым любімым Слававым словам. «Буду ў майстэрні», «калі ты, нарэшце, завітаеш да мяне ў майстэрню», «заходзь у майстэрню, пагамонім»... Той утульны падвал — адзінае, што засталося некранутым на вуліцы Ленінградскай побач з вакзалам. Вакол месцяцца нейкія крамы, фірмы і фірмачкі... Толькі майстэрня ад апошніх хвілін Славінага жыцця пад замком.

Але сапраўдная майстэрня Вячаслава Дубінкі адчынена. Яна не толькі за вокладкамі кніг, выдадзеных пры ягоным жыцці. Яна ўсё шырэй і шырэй расчыняецца і цяпер. Намаганнямі жонкі Таццяны і сяброў у выдавецтве «Кнігазбор» выйшлі асобнай кнігай карацелькі, выдадзены альбом выцінанак і мастацкіх фотаработ...

Гэтая майстэрня адчыненая назаўсёды.

## ПРЫВІТАННЕ АД БУЛАТА

У нястрымным ланцужку паведамленняў аб тым, як маскоўская паліцыя ганяе з месца на месца антыпуцінскіх пратэстоўцаў, нейкай невыразнай тапаграфічнай дробяззю прамільгнула: «на Арбаце... ля помніка Акуджаву...»

Не ведаю, ці адзначаюцца нейкім чынам юбілеі помнікаў. Між тым помніку Булату Акуджаву на Арбаце роўна 10 гадоў і два тыдні. Самому паэту — 88 і два тыдні, калі лічыць ад 9 мая, дня народзінаў. Праз два гады, калі будзе 90, магчыма, нехта ўспомніць, напіша: «...споўнілася б...»

А магчыма, і не ўспомніць, і не напіша.

...1961 год, студзень, вестыбюль галоўнага корпуса МДУ, два дзясяткі студэнтаў на мармуровай падлозе, штармоўкі, заплечнікі, лыжы, гітара... Побач нейкі чалавек каменданцкага выгляду — цёмна-зялёны фрэнч, сінія, з чырвоным канцікам, галіфэ ўвабраны ў цёплыя, белыя з рудым, буркі. Спыніўся, заклаўшы рукі за спіну, гаворыць, узвышаючы голас, нешта непрыемнае, потым зрываецца: «Разысціся, я сказаў! Бач ты, парасселіся тут, спяваюць...»

Ніхто не зварухнуўся. «Фрэнч» чакаў, заклаўшы рукі за спіну ды вагаючыся з наскоў на пяткі... І тут грымнула пад гітару акуджаўскае: «...кричат дуракам: “дураки, дураки!”... А им это очень обидно...»

...Праз 10 з нечым гадоў Акуджава завітаў у «Знамёнку». Разам з Горыным, адсунуўшы на час літаратурныя справы і сустрэчы з мінскімі сябрамі.

У невялічкі пакой народу набілася ці не з усяго тагачаснага Дома друку. Людзі таўкліся і ў калідоры, хаця, канечне, тыя, хто запрасіў куміраў, намагаліся трымаць сустрэчу ў таямніцы. Я не памятаю, пра што канкрэтна йшла размова. Памятаю толькі, што ўсё, сказанае Булатам, было без намёкаў ды іншасказанняў. Казалася наўпрост, што, дарэчы, стварала некаторыя нязручнасці пільным персанажам, ад чаго па іх тварах блукалі крывыя ўсмешкі — Юпітэру, маўляў, дазволена...

А потым прагучаў нейкі стогнучы гук, і аднекуль з калідора, над галовамі, чапляючыся струнамі за нечыя пальцы, паплыла гітара... «Мы ж мужчыны... Мы ж дамовіліся», — без воклічу, але з націскам вымавіў Акуджава, звяртаючыся да аднаго з арганізатараў сустрэчы. Ён не любіў, калі яго ўспрымалі толькі як барда...

Стала няёмка. Нават сорамна. І я тады ўпершыню адчуў сорам за тое, у чым сам быў зусім невінаваты.

Гэта потым я зразумеў асаблівасць з’явы з імем Акуджава. Яна ў тым, што да ўсіх уласцівасцяў сапраўднай паэзіі дадаецца яшчэ адна, самая важная — сорам за ўсе знявагі, заганы быцця. Нейкім чынам яна выклікае гэты сорам у кожнага, хто хаця б нешта здольны зрабіць дзеля пераадолення зла. І ў сабе, і звонку...

Ён усё ж спяваў тады. Праз колькі гадзін, у вузкім, семвосем чалавек, коле. «Я праспяваю песню, якую напісаў нядаўна», — і крануў струну...

«Когда внезапно возникает ещё неясный голос труб... Надежды маленький оркестрик под управлением любви...»

...Яшчэ праз 25 гадоў я апынуўся на сустрэчы з Акуджавам у адной з маскоўскіх рэдакцый. Ізноў было многа народу,

Акуджава бесперапынна смаліў. У гаворцы ягонай была тая ж адкрытасць, толькі дадаўся нейкі стомлены неспакой.

Надышоў час задаваць пытанні. Я папрасіў прабачэння за брыдотную непрыстойнасць, якую ў 1993 годзе ўчынілі ў Мінску пасля яго выступу ў філармоніі ягоныя палітычныя, так бы мовіць, ненавіснікі — ламалі і білі пласцінкі... І спытаў, ці памятае ён даўнюю сустрэчу ў беларускай маладзёжнай газеце. Ён сказаў, што выбачацца мне няма за што, а сустрэчу не памятае. «Вы яшчэ спявалі нам “Надежды маленький оркестрик”, казалі, што толькі напісалі і спяваеце ўпершыню», — нагадаў я. Не, не памятае... Тады я спытаў, ці не збіраецца ён ізноў прыехаць у Беларусь, у яго там шмат сяброў. «Не, — адказаў ён, — я зараз вельмі рэдка куды езджу». І з маркотнай усмешкай дабавіў: «Вы перадайце прывітанне маім беларускім сябрам»...

Летам таго ж 1997-га ён памёр...

15 гадоў... Юбілей...

А сёння, з адчуваннем віны за затрымку, я перадаю тое прывітанне.

Але каму?..

## ЗАГАДКА РАБЦЭВІЧА

У мінулую пятніцу развіталіся з Валянцінам Рабцэвічам.

Пасмяротная ацэнка таго, што ён зрабіў у навуцы, дасягнула найвышэйшых ступеняў. Выдатны навуковец, заснавальнік беларускай нумізматыкі, сусветная знакамітасць...

Я не памятаю ў апошнія гады гэткага грамадскага рэзанансу на смерць навукоўца. Раптам высветлілася, што яго і пра яго ведалі людзі, аніяк не датычныя да гістарычнай навукі. Як быццам ён быў грамадскім дзеячам, палітыкам, вядомым пісьменнікам ці папулярным артыстам.

Магчыма, тут адыграў ролю ягоны ўдзел у гісторыі са знакамітым «поясам Вітаўта», пра які пісалі і гаварылі вельмі шмат.

Але, па-мойму, загадка і адказ на яе значна глыбей.

...Я ведаў Валянціна Навумавіча з 1963 года, са свайго апошняга курса на гістфаку. Ён толькі з’явіўся там са сваёй прыватнай нумізматычнай калекцыяй, падараваў яе ўніверсітэту, стварыў на яе падмурку нумізматычны кабінет. Я памятаю, як, стрымліваючы дыханне, мы ўваходзілі ў той паўцёмны пакойчык у галоўным універсітэцкім будынку. І з якім страхам перад неабсяжным космасам ягоных ведаў пазіралі на невысокага, хударлявага чалавека, які ні аблічччам сваім, ні паводзінамі — нічым, па сутнасці, не адрозніваўся ад студэнтаў.

Рамантык...

Тое рамантычнае самаадрачэнне, якое было даведзенае да абсалюту і складала ягоную чалавечую сутнасць, заставалася ў ім да канца. Да няпоўных 75.

Жыццё не аднойчы рабіла мне падарункі — сустрэчы з Валянцінам Рабцэвічам.

Ці то на пачатку, ці то пры канцы зімы 2001 года прыязджаў у Мінск дацкі журналіст Пер Далгаард, мой даўні сябра. У нейкі дзень, магчыма самы халодны, я прапанаваў яму апрануць нешта цяплейшае за ягоную лёгкую скураную куртачку.

— Ды ўсё добра, — аджартаваўся ён, пацепваючыся ад калючага ветру, — я ж вікінг...

— А ведаеш, — раптам успомніў я, — у нас тут нядаўна знайшлі меч вікінга...

Праз пяць хвілін мы ўжо тэлефанавалі Рабцэвічу, а яшчэ праз дваццаць «вікінг» мучыў яго роспытам, зусім не турбуючыся пра час, які адрываў ад ювелірнага занятку: Рабцэвіч шыў адмысловы пояс, каб употайкі ад магчымых выкрадальнікаў і ў поўнай захаванасці давезці фрагменты знаходкі да Санкт-Пецярбурга, паказаць іх А. М. Кірпічнікаву, найбуйнейшаму адмыслоўцу ў старажытнай зброі.

...Увесну, калі троху падсохла і пацяплела, археолагі Алег Іоў, Аляксандр Егарэйчанка, Аляксандр Плавінскі і, вядома, Рабцэвіч выправіліся на Бярэзіну ля вёскі Брылёва, дзе і былі знойдзеныя меч вікінга і манеты з ягонага кашаля. Я напрасіўся з імі ў тую незабыўную паездку.

Пра саму знаходку шмат пісалася, паўтарацца не стану. Пашэнціла, што яна выпадкова трапіла ў рукі аматара гісто-

рыі, які шукаў на знакамітым Брылёўскім полі рэшткі, што засталіся ад бітвы з напалеонаўскім войскам. Развернутая зямля раз за разам адгукалася піскам металашукальніка. І на адным з фотаздымкаў, што засталіся ад той паездкі, відаць, як засяроджана, амаль з дзіцячай цікаўнасцю Рабцэвіч разглядвае чарговую знаходку — арабскі дырхем 841 года. Як быццам першы ў ягоным жыцці...

Манеты манетамі, але больш за ўсё нас хваляваў лёс без вестак зніклага ажно ў IX стагоддзі вікінга: як загінуў, з кім схапіўся...

Рабцэвіч захоплена рэканструяваў далёкую падзею, аніякае кіно, аніякія гульбішчы ў гісторыю, што сёння так распаўсюдзіліся, не йдуць у параўнанне з ягонымі фантазіямі, уяўленнямі...

Ніколі і нідзе, як на тым кавалачку беларускай зямлі, я, уцягнуты Рабцэвічам у гульню гістарычнага ўяўлення, так моцна і выразна не адчуваў еўрапейскую радаслоўную гэтай зямлі, арганічна ўплеценую ў радаслоўную свету.

Сёння я думаю, што загадка Рабцэвіча, якая нечакана выявіла сябе пасля ягонай смерці, разгадваецца проста: ён быў Сапраўдны Гісторык.

Іх, на жаль, вельмі мала, Сапраўдных Гісторыкаў. Але дзякуючы ім жыве надзея, што не згубім сябе.

## У ПОШУКАХ КРЫЖА

9 лютага 2009 года Валянцін Тарас адзначаў 79-ы дзень народзінаў.

Напярэдадні ён папрасіў з'ездзіць з ім на Паўночныя могілкі, наведаць магілы сяброў — Аляксандра Дракахруста і ягонай жонкі, журналісткі Дзіны Манаевай. Зіма непазнавальна сказіла могілкавы пейзаж. І хаця ад мінулагодняга лістапада, калі хавалі Аляксандра Дракахруста, прайшло ўсяго тры месяцы, давялося шукаць. Шукалі цяжка, па калені ў сумётах. Тарас задыхаўся. Я нават пашкадаваў, што не стрымаў яго ад паездкі. Тым больш, што асаблівай нагоды, каб сярод зімы наведваць магілы сяброў, не было: ні датаў іх народзінаў, ні смерці. Але сяброўства пазначаецца не датамі...

Увечары 9 лютага, калі нешматлікія госці, у асноўным блізкія сваякі, сабраліся за цеснаватым, на ўтульнай кухні, сталом, я зразумеў, чаму Тарас паехаў на могілкі: адзначаць дзень свайго нараджэння без тых, з кім адзначаў яго цягам дзясяткаў гадоў, ён не мог. І вось наведаў іх — і нібыта адрадзіўся: увесь вечар сыпаў жартамі, чытаў свае даўнія вершы, быў шчодры на ўспаміны і тосты...

13 лютага Тарас памёр.

Не памятаю, у каторы з тых трох, паміж жыццём і смерцю, лютаўскіх дзён ён нечакана згадаў пра танкі: «А вы ведаеце, Сярожа, што ўсё дваццатае стагоддзе прайшло пад знакам танкаў? Вось, — ён выцягнуў са старой друкаркі апошнюю паперчыну, дадаў да астатніх, — пачытайце, тут пра танкі...»

Вайна не адпускала яго.

З дзвюх плыняў, з дзвюх крыніц нарадзілася літаратурная і маральная з'ява, што носіць імя Валянціна Тараса — вайна і сяброўства.

Сяброўства, народжанае вайной.

Вайной з найвялікшым злом — нямецкім нацызмам.

Вайной з найвялікшым злом — савецкім сталінізмам.

Дзве вайны, два ворагі... Але зброя адна — Сумленне...

Каб зразумець гэта, перагартайце старонкі ягоных мемуараў «На выспе ўспамінаў» — насамрэч шчымлівай і пранізліва-самаахвярнай споведзі. Разам з быкаўскай «Доўгай дарогай дадому» яна ставарае і захоўвае непаўторны свет адышоўшага часу.

Так, менавіта разам, а не побач.

Разам, а не побач — з Алесем Адамовічам, Мікалаем Крукоўскім, Навумам Кіслікам, Алегам Сурскім, Барысам Забораўым, Міхасём Стральцовым... — выдзіраліся яны з кіпцюроў сталінізму, абуджалі, адраджалі і напаўнялі айчынным беларускім дыханнем ідэю гуманізму — стрыжнявую, з крыві і гразі войнаў і рэвалюцый, з супраціву злачынным праявам таталітарызму, ідэю XX стагоддзя. І справа тут не ў маштабах талентаў, не ў розніцы ва ўзростах, жыццёвым досведзе і творчых занятках.

Справа ў тым, што на «доўгай дарозе дадому» творцы, з'яднаныя пакутлівым пошукам адказаў на пякучыя пытанні Часу, становяцца Пакаленнем.

Сёння ў Беларусі шмат таленавітых, высокаадукаваных, высокаінтэлектуальных творцаў — літаратараў, філосафаў, палітолагаў...

Але Пакалення няма. Ёсць тусоўкі.

Я вось думаю: чаму тыя ж Быкаў, Адамовіч, Кіслік прынялі ў сваё сяброўскае кола нашмат маладзейшага Тараса? Толькі з-за ягонага партызанскага медаля?

Так, безумоўна, і з-за медаля, з-за апаленага вайной маладзецтва. Але не толькі.

З-за таленту?

Так, безумоўна, і з-за таленту. Але не толькі.

Яны адчулі ў ім творцу, які не жыве з гатовага, не карыстаецца палёгкай здабытага, а літаратурную справу перадусім лічыць справай маральнай. І ў гэтым сэнсе цягне на Галгофу Часу свой крыж.

Крыж, які злучае пакаленні.

Сёння замест цяжкай дарогі на Галгофу — прага Алімпа, замест крыжа — кол.

Дзіўнаватая і страшнаватая з'ява нарадзілася ў гэтыя пяць гадоў, што мінулі з таго дня, калі Тарас сышоў з жыцця: забіты ў савецкае мінулае кол не вызваліў ад яго, а, насуперак дэклараваным чаканням, увагнаў у пагрозу паўтору. Мо нават яшчэ горшага...

Магчыма, гэта маё суб'ектыўнае адчуванне, але раней, калі Валянцін Тарас яшчэ быў жывы і ці не апошнім увасабляў згаданае Пакаленне, здавалася, што ягоны, таго пакалення, крыж злучыць XX і XXI стагоддзі.

Сёння паміж стагоддзямі — прорва.

Бо мінулага не выракаюцца, тым больш — яго не забіваюць. Мінулае пераадольваюць. Найперш у саміх сабе...

Так рабіў Валянцін Тарас — Пісьменнік, Паэт, Публіцыст, Грамадзянін.

Чалавек, што быў раскрыжаваны на вайне і сяброўстве.

Вось толькі мала хто з народжаных на мяжы стагоддзяў ведае, дзе, на якіх занесеных сённяшнімі завеямі могілках шукаць гэты крыж.

## УСМЕШКА БОГА

Адышоў у вечнасць Алег Сурскі.

Падчас развітання, яшчэ да таго, як прагучалі апошнія словы, Уладзімір Мехаў нахіліўся да мяне і ціхенька сказаў: «Калі Алег прыйшоў у «ЛіМ», недзе напрыканцы 50-х, яму цяжкавата было з мовай. Аднойчы, памятаю, адчыніў дзверы і з вінаватай усмешкай, трохі саромеючыся, спытаў: «Нябожчык — гэта божественный?»

Алег ляжаў у труне, аточаны кветкамі, з заспакоеным, нават задуменным тварам.

Не хапала толькі ўсмешкі.

Сёння я думаю, што калі Бог ставіў на ім сваю пячатку, то менавіта ў выглядзе ўсмешкі, якая ніколі не сыходзіла з ягонага твару.

Усмешкі, з якой малады хлопец, выхаванец тбіліскіх дворыкаў і завулкаў, раптам адчуў праз беларускае слова боскую сутнасць жыцця.

Так, ён, безумоўна, быў чалавекам ад Бога. І жыў так, як наканаваў яму Бог, які адарыў яго не толькі рознымі мастацкімі талентамі, але і найгалоўнейшым для чалавека талентам — талентам жыць.

Ён быў цудоўным журналістам, вядомым на ўсёй культурнай прасторы СССР мастацтвазнаўцам, зачынальнікам і творцам беларускага дызайну, увогуле майстрам на ўсе рукі...

Не ўсялякі талент спалучае ў сябе рукі, сэрца і галаву.

Усё гэта спалучалася ва ўсім, што рабіў Алег Сурскі.

Але найперш у самім жыцці і пабудаваным для жыцця ўласнымі рукамі невялічкім доме, што напачатку 60-х сціпла ўціснуўся ва Усходнім завулку паміж суседскімі гародамі ды садамі.

Доме, які, нібыта магніт, адразу прыцягнуў да сябе людзей, што сталіся пазней тварам цэлага пакалення.

Алесь Адамовіч, Навум Кіслік, Мікалай Крукоўскі, Валянцін Тарас, Вячаслаў Сцёпін, Барыс Забораў, Анатоль Анікейчык...

Звычайнае, на першы погляд, сяброўства, нават сем'ямі, ці то былых аднакурснікаў, ці то паплечнікаў па журналістыцы і мастацтву ператварылася з цягам часу ў яднанне сутворцаў цэлай эпохі ў беларускім жыцці.

Сутворцаў, з'яднаных высокім сумленнем і вольнай думкай.

Сутворцаў супольнасці, якое атрымала пазней назву «шасцідзясятнікаў».

Дзе яна сёння, гэтая супольнасць? Мо толькі ў энцыклапедыях і памяці аднаго-двух пакаленняў, што рушылі ўслед.

З цягам часу...

Пра час гавораць, што ён няўмольны.

Але няўмольны не час, а людзі, якія наракаюць на час, а па сутнасці абражаюць яго сваёй абыякавасцю, прыстасаванствам і канфармізмам.

У любой цывілізаванай краіне дом, падобны на колішні Алегаў, захаваўся б сярод гмахаў надыходзячых стагоддзяў, бо ў ім працягвалі б жыць вялікія цені і вялікія думкі.

Але няўмольным людзям нецікавыя драматычныя супярэчнасці часу, з якіх узнікаюць вялікія думкі, якімі рухаецца наперад гісторыя. Няўмольным людзям цікава толькі тое, з чаго ўзнікаюць персанальныя галерэі і наменклатурныя могілкі.

...З Алегам я пазнаёміўся напрыканцы 1961 года, калі атрымаў ад яго заданне напісаць у «ЛіМ» пра мастака Касмачова. Касмачоў дапрацоўваў тады карціну «Ленін у Разліве». Пасля нядаўняга зносу помніка Сталіну карціне, што сцвярджала вяртанне да «ленінскіх нормаў», прадракалася слава. Часовая.

Міхаіл Савіцкі, якога я заспеў у Касмачова, малады і задзірлівы, ганьбіў, рассеўшыся на пацёртай канапцы, сталінскіх мастакоў, а таксама ідэолагаў ад мастацтва. «А вы ведаеце, — раптам прызнаўся Савіцкі, — я партрэт Сталіна не выкінуў. Вось пабачыце, яшчэ спатрэбіцца».

І змрочна рагатнуў.

У ліпені 2009 года народны мастак, акадэмік і Герой Беларусі Міхаіл Савіцкі выставіў партрэт Сталіна ў Палацы мастацтваў...

У 1980 годзе ў тым жа Палацы Алег Сурскі тлумачыў Пятру Машэраву, чым абражае яўрэяў карціна Савіцкага «Летні тэатр» з цыкла «Лічбы на сэрцы». У рэшце рэшт Машэраў папрасіў Савіцкага замаляваць жоўтую зорку Давіда на персанажы, што разам з эсэсаўцам рагоча над трупамі.

Але Барыс Забораў, ці не самы знакаміты сёння з замежных мастакоў Беларусі, у знак пратэсту з'ехаў. У Парыж.

Сурскі застаўся. Бо трэба было яшчэ доўга тлумачыць...

Аж да таго страшэннага ўдару па галаве ва ўласным пад'ездзе, якім сустрэла яго XXI стагоддзе.

Удару, ад якога пахіснулася спалучэнне сэрца, думкі і рук.

Але ён вытрываў. І трываў амаль да апошняга. Як трывае пасля страшэннага ўдару маланкі магутнае дрэва.

...Дзве думкі прагучалі на развітанні.

Праз адну выказвалася шкадаванне, што чалавек, які столькі зрабіў для беларускага мастацтва, не атрымаў пры жыцці ні званняў, ні ўзнагарод, ні прывілеяў.

Другая думка пярэчыла: Богу ўсё адно, якія званні ды ўзнагароды ў нябожчыка. Богу важна толькі тое, ці жыў нябожчык адпаведна боскай сутнасці жыцця.

Я апошні раз паглядзеў на Алега, на ягоны заспакоены твар.

І раптам падалося, што Бог забіраў яго да сябе з вінаватай усмешкай.

## ЖМЕНЬКА ПОПЕЛУ

28 студзеня, калі ў Маскве адбывалася пахаванне Юрыя Ізраэля, у Мінску памёр Генадзь Грушавы.

Невядома, ад якой хваробы памёр Юры Ізраэль. На 84-м годзе жыцця хвароба, па сутнасці, адна — глыбокая старасць.

Вядома, ад якіх хвароб паміраюць на 64-м годзе жыцця, — сэрца альбо рак. Сэрца Генадзя Грушавога не вытрымала раку крыві.

Час развёў гэтых людзей, якія наўрад ці ведалі адзін аднаго, на дваццаць гадоў па нараджэнні, але містычна злучыў на сыходзе з жыцця.

Юры Ізраэль, акадэмік, сусветна вядомы адмысловец у пытаннях метэаралогіі, экалогіі, клімату, чалавек, ад маладос-

ці ўшанаваны высокімі ў СССР, а потым і ў Расіі званнямі, пасадамі і ўзнагародамі. Адну з іх — ордэн Леніна — ён атрымаў за Чарнобыль. Менавіта ён ствараў мапы радыяцыйнага забруджвання, маляваў ягоныя лічбы, што праўда, розныя ці не штодзень... У асаблівую заслугу яму ставяць прадухіленне панікі ў Кіеве і радыеактыўнага дажджу ў Маскве...

Генадзь Грушавы ніякіх узнагародаў ад беларускай дзяржавы не меў. Філосаф, палітык, гуманіст... Амаль чвэрць стагоддзя ён узначальваў фонд «Дзецям Чарнобыля». Вывозіў дзяцей на аздараўленне ў розныя чысцюткія мясціны планеты, шукаў гуманітарную дапамогу... Сцвярджаюць, што гэтай дапамогай скарысталася каля 2 мільёнаў чалавек, а колькасць аздароўленых дзяцей перавысіла паўмільёна...

У паведамленнях пра смерць Юрыя Ізраэля згадвалася, што яшчэ ў 50-х гадах мінулага стагоддзя ён ці не на сабе вымяраў уздзеянне радыяцыі пасля ядзерных выпрабаванняў пад Сяміпалацінскам. І быццам гэта дапамагло яму атрымаць праўдзівую карціну таго, што здарылася ў Чарнобылі, дзе ён, тагачасны старшыня Дзяржгідрамета СССР, апынуўся 27 красавіка, на другі дзень...

Генадзь Грушавы нічога не вымяраў на сабе ў навуковых мэтах. Наўрад ці ў каго ёсць медыцынскія доказы, што ён захварэў на лейкемію праз Чарнобыль. Але каб лічыць лейкемію чарнобыльскай хваробай, беларусам доказы не патрэбныя. І ў гэтым сэнсе Генадзь Грушавы вымяраў на сабе тое, што вымяралі і вымяраюць на сабе мільёны беларусаў. І не толькі апраменьванне так званымі «малымі дозамі радыяцыі», але і вялікімі дозамі хлусні.

Хлусні, да якой адразу, з першых дзён катастрофы, спрычыніўся Юры Ізраэль.

У велізарным чарнобыльскім дасье, на якое не забыліся сёння адно што навукоўцы, сабраны дзясяткі, сотні фактаў, прыкладаў і доказаў той хлусні. Дастаткова ўзгадаць, як з удзелам Ізраэля ў 10, а ў «асаблівых выпадках» у 50 разоў падвышаліся «нормы дапушчальных узроўняў апраменьвання»; як ён даваў заключэнні на вяртанне цяжарных жанчын і дзяцей у мясціны, якія сам жа месяц таму лічыў небяспечнымі; як з

дапамогай авіяцыі расстрэльваў над Беларуссю смертаносныя хмары, а потым няўцямна і супярэчліва, блытаючыся ў датах і мэтах, тлумачыў тыя «жоўтыя дажджы» ў адказ на абвінавачванні, на пальчатку, кінутую ў твар яму праз «Камсамольскую праўду» Алесем Адамовічам...

Упэўнены: калі б адбыўся суд не толькі над кіраўнікамі Чарнобыльскай АЭС, але і над усёй сістэмай татальнай хлусні, Юры Ізраэль фігураваў бы не сведкам, а падсудным. Абвінаваўцам на тым судзе, безумоўна, быў бы Генадзь Грушавы, пацярпелымі — беларускія дзеці. Бо ніхто так, як Генадзь, не ведаў усёй праўды пра «чарнобыльскіх вожыкаў». Мо медыкі? Але медыкі таксама хлусілі — маніпулявалі статыстыкай, хавалі чарнобыльскія прычыны хвароб і заўчасных смерцяў... Так, суда не было. І мы сёння маем тое, што маем: сістэма татальнай хлусні працуе спраўна — ад Чарнобыля да Майдана...

Між тым у афіцыйным паведамленні пра смерць Ізраэля, у неафіцыйных водгуках таксама анічога пра ягоную злавесную ролю ў наступствах Чарнобыля не ўзгадваецца. Больш за тое — ён названы «сапраўдным інтэлігентам».

Што ж вымушала «сапраўднага інтэлігента» хлусіць? З якіх прычын «сапраўдныя інтэлігенты» ператвараюцца ў адэптаў татальнай хлусні?

Такіх прычын процьма, перадусім страх. Але чаго страшыцца чалавеку, які ад маладосці нібыта дзеля навукі ахвяраваў сабой, адважна лётаў над ядзернымі палігонамі, ды і ў Чарнобылі не быў баязліўцам?

Не, не страх падпіхнуў Ізраэля ў абдымкі хлусні. «Ён быў сапраўдны дзяржаўнік», — кажа пра яго вядомы падарожнік і дэпутат Дзярждумы Чылінгараў. І гэта праўда. Бо ўсё, што рабіў Ізраэль у навуцы, у адміністрацыйнай дзейнасці, наогул у жыцці, было падпарадкавана самаахоўным інтарэсам таталітарнай, а потым аўтарытарнай дзяржавы. То бок улады. Улады, для якой хлусня — яе сутнасць, без якой яна не можа існаваць. Нездарма некаторыя замежныя навукоўцы лічылі Ізраэля «выкапнёвым камуністам, які змагаецца за выкапнёвае паліва»...

Тым не менш факт: яны абодва, Ізраэль і Грушавы, ахвяравалі сабой. Менавіта гэта і злучае іх — і разводзіць па розныя бакі на Боскім судзе.

Ізраэль — дзеля дзяржавы для ўлады.

Грушавы — дзеля дзяржавы для людзей.

Не той, што падкладвае пад людзей новую бомбу ў Астраўцы. А той, што ратуе. Бо якая ж гэта будзе дзяржава, калі ў ёй не будзе людзей?!

...Не ведаю, ці сустрэнуцца яны недзе па-за межамі бясконцага неба, ці спраўдзіцца надзея на Боскі суд. Адно несумненна: жменька попелу, што засталася ад Генадзя Грушавога, пераважыць на шалях Вышэйшай Справядлівасці цяжкую шыкоўную труну «сапраўднага дзяржаўніка».

Бо яна, гэтая жменька, сталася часцінкай чарнобыльскага попелу.

Попелу, што ніколі не знікне з роднай зямлі.

## КАПЛІЦА НА КРЫНІЦАХ

> Капліца... невялікае збудаванне... у выглядзе помніка, ці на расстанях, на крыніцах...
>
> *У. Даль*

Ужо і не памятаю, на якім дзяржаўным тэлеканале натрапіў на чарговае кіно пра Цытовічаў. Глядзеў з сярэдзіны без асаблівай цікавасці, бо такое аднолькавае, прыпудранае дазволеным зместам кіно было не першае. Сёлета, мусіць, здымуць нешта яшчэ. Набліжаецца стагоддзе Першай сусветнай вайны, і можна прадбачыць, што без усхвалення Цытовічаў усплёск дзяржаўнага патрыятызму не абыдзецца. Між тым цяжкі крыж і ўзнёслы сэнс жыцця Цытовічаў да такога патрыятызму не маюць аніякіх адносінаў...

Больш за палову гэтага жыцця прайшло ў невялічкай, менш за два дзясяткі двароў, вёсцы Заброддзе на Вілейшчыне, дзе Барыс, малады па тым часе мастак, пасяліўся разам з жонкай Валянцінай, тэатральным рэжысёрам па адукацыі і прызванню, а яшчэ працаўніцай, сялянкай і верным сябрам па таленту

сваёй чалавечай існасці. У Заброддзі ж нарадзіўся сын Даніла, цяпер таксама мастак, скульптар, майстра, але найперш, безумоўна, сын...

Грамадская цікаўнасць да жыцця Цытовічаў, што выяўлялася ў газетных публікацыях і дакументальных фільмах, накочвалася хвалямі, але без асаблівай практычнай карысці для іх. Спачатку яна выклікалася экзатычнасцю, асабліва па тым часе, факта: гараджане па паходжанні і выхаванні, яны самі, без дзяржаўнага прымусу, з'ехалі ў вёску, што, з аднаго боку, выклікала падазронасць і абгаворы, а з іншага — лічылася подзвігам і працягам народніцкіх традыцый.

Насамрэч яны шукалі сябе ў *няўдзеле ў хлусні* — так сфармуляваў крэда сумленнага савецкага чалавека, магчымасць заставацца сумленным Салжаніцын. Як у рэшце рэшт імперыя выкарыстала пісьменніка, прыстасавала да сваіх патрэбаў, добра вядома. Калі ён памёр, нават кіраўнік Беларусі, дзе *дзяржыншчына* на кожным кроку, паспачуваў «родным и близким выдающегося писателя и общественного деятеля»...

У мяне няма права сцвярджаць, што Цытовічы ўсвядомлена шукалі сэнс Богам дадзенага ім жыцця менавіта па Салжаніцыну. Але, як мала хто на пачатку 70-х гадоў мінулага стагоддзя, яны не збаяліся бездані той праўды, што адкрылася іх пакаленню, не спалохаліся, скажу па-іншаму, яе касмічнай вышыні. І вельмі хутка, калі не адразу, *няўдзел у хлусні* стаўся для іх немагчымым без *удзелу ў праўдзе*.

Свой удзел у праўдзе яны знайшлі ў вясковых дзецях, старых, зямлі, гісторыі і мастацтве.

Стварыўшы выяўленчую студыю і вандроўны лялечны тэатр «Ялінка», яны спасцігалі праўду разам з дзецьмі.

Пасадзіўшы на беразе Нарачанкі гай, дзе кожны дубок, кожная бярозка — імя і памяць пра загінулага ці сышоўшага ветэрана сусветных ды іншых войнаў, яны вучыліся праўдзе ў Гісторыі. Растуць у гэтым гаі і дрэвы, што пасадзілі Васіль Быкаў і Алесь Адамовіч — у іх яны таксама вучыліся праўдзе.

Узваліўшы на сябе ўсе клопаты аб забродскіх старых, яны спасцігалі кроўную сувязь з іх зямлёй, прыпалі да яе, а потым і яна пранікла ў іх душу, таксама сталася іх праўдай. І калі ў

блізкім лесе яны знайшлі ўсё тое, што засталося ад колішніх шпітальных могілак, дзе хавалі загінулых і памерлых ад ранаў жаўнераў Першай сусветнай, яны аднавілі магілы, вырвалі з забыцця імёны, усталявалі помнік, крыжы...

Крыжы на былых могілках, дзе калісь хаваўся нейкі ракетны дывізіён...

Было тое на мяжы савецкіх часоў з найноўшымі. А сёння галоўны іх і, падобна, пажыццёвы клопат — завяршыць стварэнне музея Першай сусветнай вайны. Глабальны праект, што ахоплівае тэрыторыю ад Вілейкі да Смаргоні і Нарачы. Так званы «театр военных действий»...

Вось пытанне: як скарыстаецца гэтай саматужнай, падчас Сізіфавай, працай улада? Як скарыстаецца праваслаўная царква, якая блаславіла пачынанне, але, як і ўлада, нічым, па сутнасці, не дапамагла? Калі не лічыць прэмію «За духоўнае адраджэнне», якая царкве і вярнулася — уся яна пайшла на будаўніцтва капліцы.

Хто сапраўды дапамагае Цытовічам у іх справах — гэта людзі. Мастакі і святары, артысты і музейныя работнікі, вайскоўцы і краязнаўцы, вясковыя людзі з Заброддзя ды розных іншых мясцін, нават дзеці... Магчыма, я памыляюся, але цягам нашага саракагадовага сяброўства заўсёды адчуваў, як улады, няважна якія, палохаюцца ўпартасці Цытовічаў, з якой яны дамагаюцца праўды, іх моцнага магнетызму, з якім яны прыцягваюць да *ўдзелу ў праўдзе* простых людзей.

...Дык скарыстаюцца? Несумненна. І там, дзе зраўнаваў з зямлёй шпітальныя могілкі згаданы ракетны дывізіён; і там, дзе бульдозер уціскаў у асфальт косткі ахвяр той вайны, а сёння Цытовіч паставіў помнік; і там... Там адбудзецца крывадушнае спалучэнне малітвы аб ратаванні душ тых ахвяр са «славой русского оружия» і «непарушным славянскім адзінствам»...

Між тым ва ўсім, што зрабілі і робяць Цытовічы, аніякай «славы...», аніякай афіцыёзнай героікі, аніякага імперскага патрыятызму няма. А ёсць толькі цяжар памяці, смутку і праўды...

Адважуся сцвярджаць, што падобны цяжар непад'ёмны не толькі для ўлады, але і для шмат каго з нас, хто імкнецца, у

лепшым выпадку, да няўдзелу ў хлусні, але бяжыць, як чорт ад ладану, ад удзелу ў праўдзе.

Цяжар — літаральны, у выглядзе бярвёнаў, якія Цытовіч узносіў на вянкі капліцы і званіцы побач з гаем на беразе Нарачанкі.

Капліцы і званіцы, у бярвёны якіх увайшоў не толькі боль душы, але і боль спіны, надарванай яшчэ на ўзвядзенні ветрака ў знакамітых «Дудутках»...

Капліцы і званіцы, ад якіх струменіцца ў Нарачанку празрыстая крынічка з конаўкай на ланцужку...

## МАЎЧАННЕ БЫКАВА, альбо ЖЫВЫМ НЕ БАЛІЦЬ

Адам Глобус выказаў у Фэйсбуку сваё стаўленне да творчасці Васіля Быкава.

«Ад прозы Васіля Быкава, — піша Адам Глобус, — тхне вайсковым шынялём... Шынялі, савецкая салдатня, чалавеказабойчы свет вайны — не маё зусім... Мой свет пахне дарагой парфумай з крамы “Шанэль”. Творчасць Како Шанэль з ідэальнымі флакончыкамі парфумы мне бліжэй за творчасць Быкава з цяжкімі і смярдзючымі шынялямі...»

Я не збіраюся бараніць пісьменніка Васіля Быкава ад пісьменніка Адама Глобуса, ад ягонага права мець і публічна заяўляць сваю эстэтычную пазіцыю.

Мяне больш хвалююць пахі. Дакладней, іх параўнанне.

Бо калі па прыкладзе Глобуса прынюхацца, пах шыняля быў для сыноў «савецкай салдатні» куды больш прыдатным за пах сусветна вядомай парфумы. Ну, не толькі прыдатным. Ратавальным, скажу так.

Ратавальным ад новай вайны.

Дастаткова «прынюхацца» да адышоўшага ў амаль ужо недасягальную далячынь паху бацькоўскага шыняля, каб зноў адчуць дзіцячую веру ў бясконцасць жыцця.

Жыцця, у якім кожнаму паху прадвызначана сваё месца. У тым ліку паху «Шанэлі» m-me Како...

Парадокс, аднак, у тым, што жыццё, пакуль яно доўжыцца, перамешвае ўсе пахі ў адзіны.

І ў гэтым сэнсе «Шанэль» m-me Како гэтаксама тхне быкаўскім шынялём.

Тут не трэба выдумляць аніякіх «сюжэтных канструкцый», якія, па Глобусу, нібыта «навыдумляныя Быкавым пра другую сусветную бойню і савецкага чалавека ў яе крывавай куламесе».

Мне пашчасціла аднойчы назіраць, як Быкаў гэтыя, з дазволу кажучы, канструкцыі «выдумляў».

...1966 год, залаты верасень, Гродна...

Я першы раз у гэтым горадзе. Стаю ў роспачы ля Каложы, перад трухлявымі дзвярыма, зачыненымі на вялізны, як на свірне, іржавы замок. Я ўжо закахаўся ў гэтую царкву, у яе маёлікавыя, жоўта-блакітныя, нібыта рамонкі ды васількі, крыжы, умураваныя ў старадаўнія сцены. Але не ведаю яшчэ пра яе амаль чалавечы лёс. Хаця ўжо відавочна, як яна хіліцца са смяротнай вышыні абрыву да Нёмана, нібыта рыхтуецца да апошняга кроку...

«Хочаце ўвайсці? Адчыніць?»

Азіраюся. Маленькая жанчына ў стракатай хустцы і рудой кофце дастае недзе з-пад старой спадніцы звязак ключоў. «Вось... зараз... зараз...» Я заўважаю, што яна амаль нічога не бачыць — нейкая хвароба на вочы зрабіла яе позірк прыжмурана-нерухомым. Мусіць, ён стаўся нерухомым у момант нейкай шчаслівай усмешлівай дабрыні... «Вось... вось... — жмурыцца яна на царкву, нібыта на сонейка, і асцярожна, ласкава так, расчыняе дзверы, — прымай госця...»

І я разумею, што Каложа для яе — параненае дзіця.

«Слухайце... слухайце...» — шэпча вартаўніца Каложы.

«...айце... айце...» — адгукаюцца няроўныя, пад белай вапнай, сцены з умураванымі галаснікамі...

І я разумею, што чую рэха ўсіх мінулых стагоддзяў.

Але думаю пра XX: няўжо так і застанецца замкнёным на ржавы замок ягонае трагічнае рэха?

Не-не, не павінна.

Яно ўжо гучыць рэхам салжаніцынскага «аднаго дня Івана Дзянісавіча»...

Яно ўжо гучыць рэхам быкаўскіх мёртвых, якім не баліць...

Я прагну пачуць Быкава. Ён тут, побач, у Гродне. Мне здаецца, што ён адкрые мне такую праўду, пра якую яшчэ ніхто не чуў. Я нават ведаю, пра што запытаю ў яго найперш: ці праўду мне кажа бацька, што не застрэліў у атацы немца, калі той лямантаваў, ускідваючы рукі: «Зэкс кіндэр! Зэкс кіндэр...»? Вядома, я верыў бацьку, не сумняваўся, што так і было. Але ж так карцела ў размове з Быкавым быць бліжэй да «праўды вайны»!

...Ён маўчаў. За ўвесь час — ані слоўца.

За колькі хвілін да таго, як усе, чалавек мо шэсць ці сем, сышлі ў сутарэнне, дзе месцілася фоталабараторыя «Гродненской правды», ён звычайна паціснуў руку, назваўся і прыязна ўсміхнуўся ў адказ на маё імя. І ўсё. Адно што ўразіла — усмешка. Усмешкі на ягоным твары я не чакаў...

Адзначалі дзень нараджэння Віктара Косціна, фотакара, былога франтавіка, танкіста, тройчы, а мо і болей параненага. Мне нават падаецца зараз, што без нагі. Але Іосіф Калюта, на той час гродзенскі сабкар «Знамёнкі», дзе я ўжо працаваў, сцвярджае, што памыляюся. Магчыма. Спрацоўвае, мусіць, тое, што пасля вайны шмат якія рэдакцыйныя фатографы былі без нагі, як былы падрыўнік Федзя Бачыла з «Чырвонкі», ці без ног, як легенда «Советской Белоруссии» Леў Папковіч...

Паселі дзе хто, пабралі хто шклянкі, хто конаўкі, Быкаў, дакладна памятаю, бляшаную... І паплылі па ўспамінах. Акрамя нас з Калютам — спрэс «савецкая салдатня». Толькі Быкаў маўчаў. Адсунуў конаўку і ўсё запісваў, запісваў нешта ў нататнік, у асноўным за Косціным...

Шкада, не памятаю, пра што.

...Тут вось якое пытанне ў звязку з «какотлівай» эстэтыкай Глобуса: ад чаго мацней тхне новай «крывавай куламесай», рэхам якой ужо грукоча па Зямлі XXI стагоддзе, — ад «Шанэлі» m-me Како ці шыняля Васіля Быкава?

Падаецца, што ад «Шанэлі». Пах, безумоўна, прыемны. Але наўрад ці прыдатны для бясконцага жыцця. Бо якое ж яно бясконцае без памяці?

То бок без паху быкаўскага шыняля.

То бок без болю.

## ПАМІЖ ПАЭТАМ І ТУРМОЙ

Мне ад Турмы ў турме нідзе
Няма ні сховы, ні збавення...

*Уладзімір Някляеў, паэма «Турма»*

Трымаю невялічкую кніжку — «Лісты да Волі». Са здымка на вокладцы глядзяць прыгожыя жанчына і мужчына з цудоўнай, амаль няўлоўнай усмешкай на вуснах і ў вачах. Нават не ведаючы, хто яны, адразу адчуваеш непарыўную сувязь Кахання — паміж імі; паміж імі і залатой восенню, што стварае пранізлівы фон здымка, а насамрэч — жыцця; паміж імі, залатой восенню і ўзнесенымі ў неба вежамі гатычнага храма...

Я адгортваю вокладку... «...сябру па жыцці і сведку на судзе (пакуль не на Боскім)... Ул. Някляеў, 24.03.2016, суд».

Мы чакаем прысуду.

Зараз у залу суда, павольна узмахваючы чорнымі крыламі судзейскай мантыі, уляціць чорная птушка, пакінуўшы за дзвярыма зграю драпежнікаў, навучаных толькі дзяўбці. І я зноў, як два тыдні таму, адчую сябе паміж прысудам Турме і прысудам Паэту...

Насамрэч, зразумела, усё значна прасцей. І птушка — не птушка, а суддзя Вікторыя Шабуня. І зграя — не зграя, а капітан міліцыі Аляксандр Кухта і два амапаўцы, Алег Баразноў і Андрэй Кампаніец, нібыта сведкі. І Паэт — не паэт, а грамадзянін Някляеў Уладзімір Пракопавіч, 1946 года нараджэння... І Турма — не турма, а Рэспубліка Беларусь, ад імя каторай адбываецца суд — па пратаколе, які на «правапарушальніка» Някляева завочна склаў згаданы капітан: «...28.02.2016 года около 15.30 по адресу г. Минск пл. Октябрьская 1 принял активное участие в несанкционированном пикете без разрешения Мингорисполкома, что выразилось в совместном массовом присутствии граждан по указанному адресу, выкрикивании лозунгов, чем нарушался установленный порядок...»

Мы чакаем прысуду.

А я ўзгадваю, як два тыдні таму суддзя суда Цэнтральнага раёна Мінска Вікторыя Шабуня ўжо прысуджала гр-ну Някляеву У. П. штраф у 10 мільёнаў рублёў — за ўдзел ў мі-

тынгу прадпрымальнікаў 15 лютага. І папярэдне — мо разоў шэсць...

Колькі ні здаралася ў жыцці прысутнічаць на судовых працэсах па розных справах, ніколі не бачыў, каб суддзя так лагодна ставіўся да падсуднага. І ўвогуле, так падрабязна, з цёплай, нават троху вінаватай усмешкай тлумачыла сваю цяжкую долю — ледзь варушыцца ў пракруставым ложы закона. Маўляў, зразумейце... увайдзіце ў маё становішча... інакш не магу...

Я глядзеў на яе — і ўвачавідкі бачыў чалавека, канчаткова зламанага Вялікай Хлуснёй, увасобленай на дадзены выпадак у так званым Законе «Аб масавых мерапрыемствах...». Бо не трэба быць юрыстам, каб зразумець, што гэты крывадушны закон адабраў у народа правы, замацаваныя Канстытуцыяй і міжнароднымі абавязацельствамі дзяржавы, і аддаў чыноўніцтву права іх адбіраць.

Не трэба быць юрыстам, каб зразумець, што і Канстытуцыя, і міжнародныя абавязацельствы апрыёры вышэйшыя за любыя супярэчныя ім законы, указы, дэкрэты і г. д.

Не трэба быць юрыстам, каб зразумець, што згаданым законам улада ПАРУШЫЛА Канстытуцыю. Нехта спытае: а дзе Канстытуцыйны Суд? А нідзе...

Мы слухаем прысуд, я гляджу на суддзю, якая ўтаропіла вочы ў паперу, на Някляева, і не нейкім шостым, а ўсімі пяццю пачуццямі адчуваю, як ён ператвараецца з правапарушальніка ў Паэта, які выносіць прысуд Турме, а ўлада, што зладзіла хлуслівы судовы канвеер, у сапраўднага правапарушальніка.

Ці ёсць у Паэта права выносіць прысуд Турме? Ёсць. Не толькі права, але і абавязак.

Сябруючы з Някляевым звыш паўстагоддзя, я не аднойчы пытаўся ў самога сябе: навошта гэта яму? Навошта лезці пад амапаўскія дручкі, выбухоўкі, рызыкаваць здароўем і нават жыццём? Навошта пляміцца плёткамі, ганебнымі чуткамі і абразамі, атрымліваць публічныя аплявухі, нават, здавалася б, ад паплечнікаў? Навошта, у рэшце рэшт, дазваляць уладзе раз ад разу ўлазіць у сваю кішэню, па сутнасці, рабаваць?

Навошта Паэту палітыка?

І толькі тут, у судзе, адшукаў адказ: ва ўмовах татальнай безадказнасці хлуслівай улады без палітыкі, без грамадзянскай адказнасці за Праўду немагчыма застацца Паэтам.

Каб абараніць Паэзію, якая роўная Праўдзе.

Каб супрацьстаяць Вялікай Хлусні.

Хлусні, якая ламае не толькі суддзяў і нібыта сведак, кожнага, хто ў той ці іншай ступені датычны ўладзе, але, па сутнасці, усё грамадства, ад падлеткаў да нямоглых пенсіянераў, робячы і яго бездапаможна хворым прыстасаванцам.

Хлусні, якая падмазвае ўсе ўладныя механізмы, у тым ліку рыпучы судовы канвеер, пад які безупынна трапляюць апазіцыйныя палітыкі і незалежныя журналісты.

Іншым разам канвеер пачынае торгацца, як у нядаўнім выпадку з Уладзімірам Мацкевічам, каторага падчас мітынгу, за які яго судзілі, увогуле не было ў Мінску.

Заторгаўся ён і з Някляевым.

...І вось ізноў мы чакаем прысуду.

Суддзя ўжо ведае, што каля 15.30 24.03.2016 года шасцёра чалавек, шасцёра сяброў узнімалі келіхі на памін усіх, з кім у 1960–70-х гадах мінулага стагоддзя працавалі ў «Знамёнцы» — самай папулярнай па тым часе газеце «Знамя юности» — і хто адышоў у лепшы свет...

На Кастрычніцкай плошчы віраваў мітынг, але Някляеў быў з намі, бо сяброўства для Паэта не менш святое за Палітыку. Мо нават і больш. Бо якая Палітыка без чалавечай еднасці з мінулым, без разумення і адчування сэрцам, што ёсць у мінулым Зло, а што — Дабро і чаму сённяшняе Зло так прагне будучыні?

Зграя драпежнікаў, між тым, дзяўбла і дзяўбла — быў... удзельнічаў... выкрыкваў... парушаў...

І вось вырак: «...вярнуць справу ў міліцыю для выпраўлення недахопаў».

Адно што вярнуць у гісторыю для «выпраўлення недахопаў» уладу бальшавікоў...

Але ці можна выправіць «ад недахопаў» Хлусню?

Можна. Калі ўлада адчуе недахоп Хлусні.

«Калі хочаце, — тлумачыць суддзя Някляеву, — вы можаце звярнуцца ў Следчы камітэт, каб ён распачаў крымінальную справу па ілжэсведчанню...» — «А чаму вы не спынілі яе? Яна ж відавочная, хлусня так званых сведак. Вы ж слухалі маіх сведак, бачылі, як чырванеў амапавец Баразноў, калі маніў...»

І зноў суддзя Шабуня нешта прамаўляе пра закон, які не дазваляе ёй спыніць справу.

Я пацікавіўся ў юрыстаў, паглядзеў той закон — Працэсуальна-выканаўчы кодэкс Рэспублікі Беларусь аб адміністрацыйных правапарушэннях, артыкул 11.10: «...суд... выносіць адну з наступных пастаноў: ...3) аб спыненні справы аб адміністрацыйным правапарушэнні»... Юрысты патлумачылі: каб суддзя спыніла справу, крымінальны пераслед ілжэсведак быў бы непазбежны...

Так і жывуць яны, ратуючы адзін аднаго, скаваныя адным ланцугом.

Ланцугом Вялікай Хлусні.

...Адгортваю вокладку невялічкай кніжкі «Лісты да Волі», ізноў чытаю: «...сведку на судзе...». І адчуваю, як нябачна прысутнічае на тым судзе яшчэ адзін сведка — няўмольны Час.

Час, чыё сведчанне на Судзе Гісторыі немінучае.

Сведка — ЧАС...

# VI. РАЗВІТАННЕ З БУДУЧЫНЯЙ

## СВЯТЛО З-ПАД ЗЯМЛІ

«...Дарэчы, і тваю школу ў Далёкіх з верасня зачынілі, — Ванда бездапаможна ўздыхнула, і размова доўжылася пра Опсу, пра школу-інтэрнат, у якой прайшло ўсё яе, цягам 40 гадоў, настаўніцкае жыццё. — Зачыненая, ужо другі год як зачыненая...»

Школа-інтэрнат, дзе вучыліся і жылі дзеткі-сіроты з усёй Віцебшчыны, пасля вайны месцілася ў былым, ад пачатку XIX стагоддзя, маёнтку Плятэраў, а потым, у 60-х, — праз дарогу, у вялікім, на тры паверхі, тыповым будынку. Што праўда, не ўсім пашчасціла тады жыць у новых, з пахам свежай фарбы, пакоях. Дзетак было шмат, і значная частка іх заставалася ў маёнтку, у палацы, што ўзвышаўся над возерам, да якога, з прыступкі на прыступку, спускалася шырокая лесвіца. Унізе, здаецца, па абодва бакі, стаялі на ўзвышэннях два вялікія, з граніту, шары, а троху злева, на беразе, і гэта ўжо дакладна, — вялізны, у некалькі абхватаў, старадаўні дуб. Калі верыць легендзе, што да кольца, замацаванага на ствале, вязаў каня Напалеон, атрымлівалася ці не тры стагоддзі...

### *1. ДАЛЁКІЯ*

## ЦВІК РЭВАЛЮЦЫІ

— ...Кагосьці шукаеце?

Я азірнуўся. Ля зачыненых дзвярэй крамы смалілі два мужыкі ў камуфляжы. «Мусіць, памежнікі», — мільганула. Яно так, у Опсе, ад якой да Літвы лічаныя кіламетры, стаяць памежнікі, казармы з чырвонае цэглы за высокім плотам мо самыя буйныя збудаванні ў мястэчку. Апроч касцёла. Я палез па пашпарт, але хутка схамянуўся — мужыкі яўна чакалі не мяне, а часу, калі адчыніцца крама.

— Так, шукаю, — адказаў я, — мінулае шукаю... Вось, адшукаў магілу Верам'ёва. Мо памятаеце?

— А то ж! — той, што выглядаў старэйшым і больш дужым, смачна зацягнуўся, папляваў на тлеючы попел і раскамячыў недакурак у тоўстых, з пачарнелай задубелай скурай, пальцах. — Сваяк?

Да Івана, на могілкі, што месцяцца на ўскрайку Опсы, я завітаў па дарозе ў Далёкія. Іван, Іван Кірылавіч Верам'ёў, муж Ванды, выкладаў біялогію ў школе-інтэрнаце і быў, як тое завецца, настаўнікам ад Бога. Жыццё пакінула яго раптоўна, 29 снежня 1997 года, падчас навагодняй школьнай вечарыны. І мы яшчэ даведаемся, як адгукнуўся праз паўвека ад пачатку працы ў Опсе ягоны настаўніцкі бог...

— Не, не сваяк. Сябравалі. Я таксама тут настаўнічаў. У Далёкіх...

— У Далёкіх?! — узрадаваўся мужык. — А я там дзесяць год участковым адбыў. Пасля Сняжка. Памятаеце Сняжка?

Канечне, памятаю. Як не памятаць, калі ўсю зіму раз на тыдзень ён ладзіў сваю любімую забаўку — так званыя «товарищеские суды» над старымі вяскоўцамі, што цягалі з лесу рэшткі сухастою ды падгнілага буралому. Па сутнасці, вычышчалі лес, які быў страшэнна захламлены, бо леснікоў, што павінны былі ахоўваць лес і сачыць за ягоным станам, штодзень адпраўлялі кудысьці за дзясяткі кіламетраў на лесанарыхтоўкі. Я добра ведаў гэта, бо жыў на кватэры ў мясцовага лесніка Генкі. Аж да апоўначы жонка Соня ўглядалася ў цемру, пакуль яшчэ здалёк не асвятляўся край неба, і па тым, як матляліся па аблоках промні ад фар матацыкла, беспамылкова вызначала ступень ягонага ап'янення...

Дык вось, дужыя і маладзейшыя, не без цяжкасцей, але ўсё ж здольныя былі самі, за грошы, забяспечыць сябе дровамі. А старыя і нямоглыя, што бавілі век у адзіноце? Як Сняжко здзекаваўся з іх! Мала што пратаколы, дык яшчэ і суды, выхаваўчыя, так бы мовіць, мерапрыемствы. Абстаўляў па ўсіх правілах судаводства: загадзя вывешваў па слупах ды на калодзежах красамоўную аб'яву, саджаў «злачынца» наводдаль, на краі сцэны на зэдаль, бы на лаву падсудных,

а сам, не здымаючы сіняй фуражкі з чырвоным аколышам, у шынялі, з-пад якога паблісквалі скураныя боты, — за стол з графінам на падрапаным зялёным сукне, бо насамрэч стол быў більярдны... «Падсудны» сядзеў, схіліўшы сівую галаву, камячыў шапку, расшпільваў рыжы, з кавалкаў, кажух, нешта мармытаў накшталт таго, што больш не будзе, і ніяк не мог зразумець, які ж гэта крадзеж — палка з лесу... Калі-нікалі да Сняжка далучаліся калгасны парторг ці старшыня сельсавета. Тыя збольшага маўчалі, бо былі з тутэйшых, а Сняжко яўна аднекуль здалёк заляцеў, ані ў Далёкіх, ані навокал такога прозвішча чуваць не было.

Мо і не згадваў бы я пра Сняжка і тыя суды, каб яны не тычыліся школы. Спачатку я адмаўляўся вадзіць «на выхаванне» свой восьмы клас, як тое патрабавала дырэктарка. Але аднойчы павёў. Што праўда, каб зладзілі нейкую «цімураўскую» дапамогу старым. І атрымаўся працяг урока гісторыі — пабачылі, што ў Сняжковым выкананні ўяўляе сабой цвік рэвалюцыі. «Што з'яўляецца цвіком рэвалюцыі?» — пытаўся я кожны раз, пачынаючы ўрок гісторыі СССР. «Сялянскае пытанне!» — дружна, хорам адказваў клас. І вось сядзяць мае выхаванцы ў прамерзлым клубе, слухаюць, глядзяць, як праз 47 гадоў пасля той рэвалюцыі паварочваецца яе цвік...

Я напісаў пра тыя суды, старых і безгаспадарчасць у лесе ў газету. Маленькая нататка ўзбударажыла ўвесь раён. Цягалі па інстанцыях, па розных абмеркаваннях, пакуль галоўны бухгалтар лясгаса не вымавіў: «Настаўніка праўда». Пасля чаго лясгас адвёў у змрочнай глыбі зімовага лесу дзялянку на дровы. Ці ж забыцца на тое, як з Алегам і Валюсем, самымі дужымі ў класе, ехалі, угразаючы ў глыбокіх каляінах, паўз лясныя карчы на двухвосевым «ГАЗ-63А», падарунку школе пастаўскіх лётчыкаў; як прывезлі бярвёны да Вікенцьевіча, самага старога і апошняга па часе «падсуднага»; як пілавалі іх і калолі на дровы, доўга распальвалі, а потым уграваліся ля печы, слухаючы, як яно да рэвалюцыі і «за польскім часам» было... «Так, школа ў Далёкіх адвеку існавала, сямігодка пры Польшчы, чай давалі з хлебам бясплатна, — расчулена распавядаў Вікенцьевіч. — Парфуму, як настаўніца пройдзе,

за вярсту чуваць было... У вайну партызаны спалілі, там пры немцах паліцэйская камендатура месцілася...»

...І вось еду праз паўвека з Опсы ў Далёкія, шукаю вачыма, дзе там, за полем наводдаль стаяў хутар Станкевічаў, мо што з яго засталося.

Здзіслава, якая пятая ў сям'і, была выдатніцай, наогул вучылася лёгка і весела. Чырванашчокая, з доўгай русай касой, з прамяністымі блакітнымі вачамі, яна проста ўражвала сваёй здаровай прыгажосцю. Ніхто не мог з ёй параўнацца. Не тое каб не было сімпатычных, але дзяўчаткі з Далёкіх ды іншых вёсак сваім знешнім выглядам, сумнаватым і беднаватым, саступалі ёй відавочна. Дый у вучобе, якая давалася ім значна цяжэй. Што хавалася за гэтым адрозненнем жыцця ў вёсцы і на хутары, дакладна не ведаю, выдумляць не буду. Але ж нешта хавалася. Бо аднойчы Здзіслава з'явілася ў роспачы і слязах. І не ў школу, а наўпрост да мяне: «Хутар зносяць... Хочуць у Мілашкі перасяліць. А бацька не хоча, спалю, кажа, калі з'явяцца... Прасіў у газету напісаць... Ведаеце, — захлынулася слязьмі Здзіслава, — гэны хутар яшчэ бацькаў дзед будаваў, калі вярнуўся з заробкаў з Амерыкі...»

Што ж, зноў напісаў у газету, у пракуратуру... Чакаў, што надрукуюць ды хто з'явіцца. З'явіўся Сувораў, імя не памятаю, сам першы партыйны сакратар раёна:

— Чаго вы лезеце не ў сваю справу? Палітыкі не разумееце?

— Як гэта не ў сваю? У мяне ж ягоная дачка вучыцца!

Сувораў памякчэў, бачу, нешта спагадлівае прамільгнула ў вачах: «Нічога зрабіць не магу. Вы ж ведаеце, хутары ссяляць трэба... Палітыка партыі. Ды і лепей ім там, у Мілашках, будзе, сярод людзей...»

Адбылося тое ў красавіку. У жніўні, калі з'язджаў з Далёкіх назаўсёды, хутар яшчэ стаяў. Але калі наведаўся праз тры ці чатыры гады, яго ўжо не было. Нехта сказаў мне, што Здзіславін бацька ўсё ж спаліў хутар. Падобна на тое, бо здалёк віднеліся толькі рэшткі саду, паўразвалены комін ды высачэзная старая бяроза — тут шмат было бяроз уздоўж дарог і ля хат...

І вось еду па шырокай гравійцы, аніводнага дрэўца. Акрамя мо гэтых жахлівых, нібыта пасля вайны, рэштаў на павароце

да Станкевічавага хутара. Але пра сам хутар аніякага напаміну. І пра Здзіславу — у каго ні пытаўся, ніхто пра яе нічога не ведаў, не чуў.

А так выдатна адказвала пра цвік рускай рэвалюцыі!

Сапраўды цвік...

## ПАРВАНЫ ЛАНЦУГ

Іван Антонавіч Пяткун — адзіны, хто застаўся з часоў майго настаўніцтва ў Далёкіх, сябра, адзіная, як тое завецца, нітачка ад мінулага. Зараз яму 76 гадоў, ён дрэнна чуе, хварэе на сасуды, але трымаецца, бо трэба завіхацца па хаце і даглядаць Веру, якая прыкаваная да ложка і раз-пораз, прыслухоўваючыся да нашай размовы, папраўляе мужа, калі ён нешта блытае...

Калі-нікалі я, вядома, у Далёкія наязджаў, сёе-тое пра вясковае ды Іванава жыццё ведаў. Але зараз было чамусьці такое адчуванне, што не быў там усе пяцьдзясят гадоў. І разам з тым — наадварот: нібыта тых пяцідзесяці гадоў і не было.

Я здагадваўся, з чаго адбылося тое дзіўнаватае спалучэнне адчуванняў — з фіранкі, што нерухома павісла за запыленым шклом акна старой, за сто гадоў дакладна, хаты насупраць Іванавай. Тая ж фіранка, тыя ж карункі на ёй... «Не, тут ніхто не жыве, — тлумачыць Іван. — Як пачалі вучняў вазіць аўтобусам, зімовы інтэрнат зачынілі... І ў тваім пакойчыку, як ты з'ехаў, ніхто не жыў...»

Як з'ехаў... Мне 23, Івану — 27, шафяруе ў калгасе. Калі з'язджаў, падарыў Івану электрабрытву «Харьков», на памяць. З той памяці праз колькі год — хата, напалову абкладзеная белай цэглай, шыльда на хаце — «Цырульня», зялёным па чырвоным... Зараз смяецца: «Нічога з таго цырульніцтва не атрымалася... Вучыўся, ага. У опсаўскага майстра. Мо памятаеш? Выбітны быў цырульнік, нават з Браслава да яго ездзілі. А да мяне мала хто пайшоў... Вярнуўся ў калгас, на трактар. Ну а потым — у школу, настаўнікам працы ды машыназнаўства. 33 гады, да званочка... 80 працэнтаў маіх выпускнікоў працавалі ў калгасе... Дык то ж калгас быў, адных трактароў звыш паўсотні... А сёння...» — Іван расчаравана махнуў рукой.

Пра калгас, што быў у Далёкіх, згадвалі амаль усе, у каго я пытаўся, чаму зачынілі школу. Усё ўпіралася ў калгас, што набыў выгляд нейкага ТАА, малазразумелую назву «Новая Гвардыя» і з'ехаў з Далёкіх ажно ў Казяны, за 70, праз Богіна і Відзы, кіламетраў. Дзе ж вы бачылі такіх памераў калгасы? Мо толькі на колішняй цаліне...

Калгас — праца — школа... Нібыта адзін ланцужок. Чаму ж такі слабы аказаўся? 18 настаўнікаў на 22 вучні...

Школу ў Далёкіх — драўляную, з мезанінам, ад чаго яна нагадвала былую сядзібу, адбудавалі, дакладней, прывезлі аднекуль і паставілі ў 1947 годзе. Ці быў тады калгас, не ведаю, мо і не быў, бо татальная калектывізацыя ў былой Заходняй Беларусі распачалася ад пачатку 50-х. А ў 1963-м, на мой першы настаўніцкі год, калгас ужо быў. Называўся чамусьці «Праўда». У тым, мусіць, сэнсе, што праўда, нарэшце, назаўжды сышла на далёкаўскую зямлю.

Што праўда, пачалося маё настаўніцтва з таго, што давялося абараняць ад некалькіх раззлаваных мужыкоў з віламі маладога хлопца фінінспектара, які прыпёрся на возе ажно з Браслава правяраць, ці трымае хто на падворку забароненую падчас хрушчоўскіх «рэформаў» скаціну і не здае яе ў калгас. Спрацаваў усё ж такі яшчэ не зароблены аўтарытэт настаўніка! Лупіць не лупілі, але з воза злезці не далі...

«Праўда» ў Далёкіх праіснавала нядоўга, праз які год ператварылася ў «імя Варашылава». Філіпаў, тагачасны старшыня, так патлумачыў: «У дзяцінстве нас было трое сяброў — Сталін, Будзённы і Варашылаў. Я быў Варашылавым». Што ні кажыце, а дзяцінства — гэта на ўсё жыццё...

Далей пералічваць назвы далёкаўскіх калгасаў можна стаміцца. Ліхаманкавыя спробы ратаваць праз розныя пераўтварэнні, зліццё і разліццё, узбуйненні і разбуйненні калгасны лад, да якога праз пакаленні цягнулася прыхаваная нянавісць, канчаткова дабілі вёску. Па сутнасці, закрыццё школы ў Далёкіх пачалося калі не з дня адкрыцця, дык разам з утварэннем калгаса. Калгасам пужалі. «Глядзі, Соня, не возьмеш на кватэру настаўніка, пойдзеш у калгас», — страшыў Філіпаў жонку згаданага лесніка Генкі. Ніхто з бацькоў, каго ўцягнуў

у сваё чэрава калгас, хай сабе ў нейкія часы і пасняховы, нічога іншага для сваіх дзяцей не жадалі, як толькі збегчы з яго. Хто куды, хто з чым, хто кім... Дочкі Івана, які ганарыцца тым, што 80 адсоткаў ягоных выпускнікоў калісьці заставаліся ў калгасе, разляцеліся па свеце. Адна, пажыўшы ў Чэхіі, прытулілася да Віцебска, другая ўгразла ў Грэцыі, абслугоўвае ў казіно іграввыя аўтаматы. «Нічога зайздроснага, — уздыхае Іван. — Толькі што зімы няма, заўжды цёпла...»

У 60-х, дый пазней, побач з Далёкімі, мо праз якія трыста метраў, цягнуліся ў бок Богіна яшчэ дзве вёскі — Друсевічы і Друсеўскі засценак. Усе тры налічвалі 110 двароў і 573 жыхары. Колькі было з іх дзяцей, цяжка сказаць. Але толькі ў маім 8-м класе іх было больш, чым ва ўсёй школе падчас закрыцця. Сёння Друсевічы і Друсеўскі засценак страцілі векавечныя назвы, сталіся таксама Далёкімі. Двароў пабольшала — 153. Але 26 з іх пустыя. І жыхароў усяго 371 — 17 дзетак да 6 гадоў, 30 — ад 6 да 17, 217 працаздольных, 107 пенсіянераў.

Пра гэту дэмаграфію я даведаўся ад Марыі Станіславаўны Баліко, старшыні сельсавета. Яна лічыць, што школу зачынілі таму, што бацькі не хочуць дзяцей заводзіць. «Яе ж можна было ўратаваць! — амаль што з крыўдай ускліквае Марыя Станіславаўна. — 13 дзяцей прапанавалі прыняць на выхаванне ў настаўніцкія сем'і. З Друі, з дзіцячага дома. Адмовіліся. І самі не раджаюць... А ўвогуле раджаць не хочуць таму, што вёску захлынулі гультайства і п'янка. Вось мой, напрыклад, — бянтэжыцца яна, — пакуль усё даводзілася рабіць рукамі, спрытны і гаспадарлівы быў. А як з'явілася розная тэхніка — угрэўся на канапе... Чаму? А перабудова ўсё сапсавала, разбурэнне звыклага жыцця... Я тут лагер збудавала б для ўсёй гэтай п'яні, дала б замест грошай хлеба, мукі, солі... Жывіце!» — па твары Марыі Станіславаўны пайшлі чырвоныя плямы...

Сама яна мясцовая, нарадзіла і выхавала трох сыноў. Я спытаў, дзе яны. У Віцебску.

Шмат пра што мы паразмаўлялі. У тым ліку, што і сельсавета, мабыць, не будзе, не тое што школы. А ўвогуле нічога тут дзіўнага. Сусветная, так бы мовіць, тэндэнцыя, усеагульны трэнд...

## РЭХА ЗДАЛЁК

Так, куды ні кінь позірк, паўсюдна бачны гэты вясковы «трэнд». «Вось тут пустая... вось тут... і вось тут ніхто не жыве... А вось тут, — Іван працягвае «экскурсію», — лазня... калгас будаваў... Не дабудаваў. Італьянцы прыязджалі, хацелі ў ёй свае сыры рабіць. Але нешта не сышлося... А вось тут сталярка была, зачыненая... Глухнем, глухнем канчаткова... Сталоўка, цырульня, медпункт... Нічога няма. А вось, бачыш, дах пабурыўся? Склад запчастак быў...»

Школа на тле гэтага разбурэння выглядае ці не толькі што збудаванай. Насамрэч пабудаваная ў 1972 годзе. Замест той, драўлянай, з мезанінам... Ля ўвахода на школьны двор завіхаўся з мятлой, зграбаючы да кучы апошні восеньскі ліст, ладны мужык у чорнай вязанай шапачцы. Былы фізрук, а зараз дворнік. Ад размовы ўхіліўся. Сфатаграфаваўся і адразу некуды знік...

Ад нядаўняга часу школа ў Далёкіх назвалася «школа-сад». Сёння ад гэтага ланцужка застаўся толькі сад. Дзіцячы садок, 6 дзетак і загадчыца, яна ж выхавацель. Гэтакая адчайная спроба выратаваць школу дзеля цьмянай будучыні, на ўсялякі, як тое завецца, выпадак. Бо папярэдні дзіцячы сад як стаяў у вёсцы, так і стаіць — прыгожы, чырвоны па белым, цагляны будынак. Але пусты...

Садок — адзінае жывое месца ў былой школе, па двух паверхах якой, па калідорах гуляе гулкае рэха. Сцерагчы рэха — абавязак двух вартаўнікоў. Насамрэч — каб не раскралі, нічога не зламалі, не разнеслі...

«Зламаюць, абавязкова зламаюць і разнясуць», — упэўнена сцвярджае Раіса Віктараўна Трафімава, у дзявоцтве Барткевіч. У Далёкіх яна з 1987 года, апынулася разам з бацькамі і пайшла ў 2-і клас, да Шарэнды. «Па-а-мёр! — б’е па паветры, нібыта па стале суддзя малатком, Іван. — Ногі адмовіліся трымаць Уладзіміра Гаўрылавіча...»

Я памятаю Шарэнду, амаль што легендарнае ў Далёкіх настаўніцкае імя. Мо таму, што разам з жонкай, Марыяй Якаўлеўнай Гатальскай, адпрацавалі тут болей за ўсіх, ажно

ад пасляваеннага пачатку. Ці ўтрымае іх імёны на далёкаўскай зямлі няўмольны час? Або згінуць разам са школай?

— А ваша прозвішча я сустракала. Мусіць, у летапісе, у музеі... Хочаце, адчыню? — Трафімава дастала звязку ключоў. — Толькі самі... Я праверку з РАНА чакаю...

Спадзявацца на тое, што знайду ў музеі непрыкметную пра сябе згадку, не выпадала. Ды і не шукаў: хутка з'ехаўшы, я закрыўся ад школы паўстагоддзем раней, чым яна закрылася ад мяне. Шукаў я старажытныя арабскія дырхемы, якіх, не шкадуючы, адсыпаў мне светлай памяці Валянцін Навумавіч Рабцэвіч, знакаміты ўжо на пачатку 60-х выкладчык нумізматыкі на гістфаку, у абмен на некалькі рымскіх, ажно з антычных часоў, срэбраных манет, што выкапаў Янак Ундруль на сваім агародзе ля Крывавага ручая. Ад ручая, дзе, па легендах, біліся ці то французы з рускімі, ці то рускія з немцамі, ці то з палякамі між сабой, ды так, што кроў лілася ракой, застаўся сёння амаль знікаючы струменьчык. А дырхемы тыя пакінуў школе. Каб той, хто прыйдзе пасля мяне, стварыў музей. Ну, і на памяць. Ды толькі ні манет, ні памяці не адшукаў.

Адшукаў фота сваіх вучняў. Хто з'ехаў немаведама куды, хутчэй за ўсё ў Латвію ці ў Літву, а хто і памёр. У Далёкіх — нікога.

І адшукаў верш:

Прыеду і прайдуся па вёсачцы роднай.
Змянілася, родная, зусім не пазнаць.
Куды ні зірні — шмат бязлюдных дамоў.
Знямеўшы, пасунуўшы, сумуюць, стаяць...
Шмат успамінаў тут, у роднай вёсцы.
І дзе я ні буду, на якой зямлі,
Жыві, мая радзімая старонка,
Матулька-вёсачка, жыві!

*Цыўнель Алена*

Алена... Ляпнула па жываце праз коўдру, ды моцна так. Расплюшчыў вочы, бачу дзяўчо трохгадовае — круглы тварык, шчочкі, уперылася блакітнымі вочкамі: «Ты хто?»

Хто… хто… хто…

Даляцела ўсё ж рэха ад першай маёй раніцы ў Далёкіх.

Рэха здалёк.

## ЖАННА, ГАСПАДЫНЯ СЯДЗІБЫ

Жанна таксама Станкевіч, зачапілася ўсё ж гэтае прозвішча за Далёкія. Адное што могілкі спрэс у Станкевічах. А Жанна мо апошні водгалас, апошняя галінка… Ёй 33 гады, але такі ўжо не дзявочы ўзрост хаваецца глыбока ў позірку, за промнямі маладой лагоднай усмешкі. Жанна не замужам, і на асцярожнае пытанне пра перспектывы адказвае, што ў Далёкіх на гэты конт цёмна: «Няма каго браць — ні замуж, ні так…»

Да хаты на ўскрайку Далёкіх мяне прывяла выстава яе карцін, што зладжана ў Доме культуры. Карціны своеасаблівыя: забраныя ў рамы вышыўкі розных кветак, жывёл, краявідаў, частка — з воўны, то бок у тэхніцы «ваўнянага жывапісу», якую Жанна засвойвае апошнім часам, для чаго раз-пораз ездзіць пад Міёры, у Перабродны, дзе робяць валёнкі. Мне здаўна падабаецца вясковы прымітывізм. Чаму ж не пазнаёміцца? Ды заадно даведацца, ці здольная прыгажосць ратаваць знікаючы свет…

Прыкметы гэтай спробы заўважны яшчэ здалёк. Што праўда, схаваць узрост хаты цяжкавата, я адразу пазнаў у ёй колішнюю аптэку ды прыгажуню аптэкарку ўспомніў. Звонку ад былой аптэкі засталося толькі падстрэшша, ашаляванае счарнелай вагонкай. Сама ж хата ўжо абкладзеная белай цэглай, ганак атынкаваны і пафарбаваны ў ружовы колер сонечнай раніцы, у вокнах шклопакеты, а на сцяне — дзве спадарожнікавыя талеркі. І ўсё гэта — пад чырвоным, з андуліну, дахам, з прэтэнзіяй на сучасную прыгажосць. Трохі псуе карціну паўразвалены хлеў. А мо і не псуе — падкрэслівае кантраст распачатага працэсу і, так бы мовіць, гістарычны маштаб.

Мо і не трэ было засяроджвацца на гэтым будаўнічым працэсе, каб не рабіўся ён саматужнымі намаганнямі і ўласнымі ручкамі самой Жанны. Нічога дзіўнага, бо Жанна, па яе прызнанні, з дзяцінства марыла стаць будаўніком і швачкай.

Ну, і матуля дапамагае, Марыя Аляксееўна. Разам з імі жывуць тры яе сыны, тры брата Жанны, штосьці зарабляюць... «У калгасе?» — «У якім калгасе?! Па чужых сотках...» Вось вам і 217 далёкаўскіх працаздольных. А Жанна працягвае: «Усяго нас было дзевяць дзяцей, засталося сем — тры браты ды чатыры сястры... Сёстры параз'ехаліся, а два браты загінулі — адзін на ровары забіўся, другі атруціўся...»

Здавалася б, вось яна, будучыня Далёкіх, што нараджалася ад 1975 года, калі бацькі ажаніліся. За Далёкія зачапіўся бацька са сваімі бацькамі. Родам з Понішак, ці з Лабінскага балота, як яшчэ называлася тая мясціна. На пытанне, што там, хутар ці вёска, Жанна адказала: «Нічога. Там нічога няма». Падобна на тое, што і па гэтых Станкевічах праехалася «палітыка партыі». Спярша тая палітыка малявала неблагую перспектыву: ажаніліся, уладкаваліся ў калгасе — матуля — даяркай, бацька — конюхам ды пастухом... Адзін за адным пайшлі дзеткі. Не сказаць, каб лёгка было, але ўсе скончылі школу... У 1997 годзе бацька памёр. Я не стаў дапытвацца, па якой прычыне, бо калі пра тое зайшла гаворка, Марыя Аляксееўна яшчэ хутчэй і гучней пачала нешта крышыць у вялікай місцы...

Пасля школы Жанна скончыла Відзаўскае СПТВ і атрымала прафесію — «гаспадыня сядзібы». У дадатак — кухарка, аператар машыннага даення і агароднік. Але аніводная з чатырох прафесій аніякага заробку не дае. Грошы на будаўнічыя матэрыялы і ўтрыманне сям'і з матулі і трох братоў Жанна зарабляе з працы сацыяльным работнікам — даглядае двух старых, з паслуг па рамонце і на прыватных будоўлях, што дзе-нідзе распачынаюць па азёрным наваколлі прыезджыя багатыя людзі, і з журавін, па якія ездзіць на ровары за 20 кіламетраў, туды-сюды — усе 40... Яшчэ конь ёсць, што пасвіцца паблізу, ды старыя колы — каму што падвезці...

З вышывак сваіх ды «ваўнянага жывапісу» не мае нічога. Толькі каб людзі глядзелі ды марылі аб шчаслівым жыцці... Але ці будзе ў Далёкіх каму глядзець? Жанна паціснула плячыма: «Будоўлю трэба скончыць. А там... Час пакажа...»

Калі паспее, падумаў я.

## *2. ДАЛЁКІЯ — ОПСА*

### «КОСКА! Я СКАЗАЛА — КОСКА!»

Калі вяртаўся ў Опсу, да Ванды, дзе спыніўся пажыць, насустрач пыліў жоўты аўтобус. Я міргнуў фарамі, ён — у адказ. Але, абдаўшы пылам, не спыніўся...

Гадзінай раней я намагаўся дамовіцца аб сустрэчы з Раісай Міхайлаўнай Койра, былой дырэктаркай Далёкаўскай школы і выкладчыцай гішпанскай мовы. Натуральна, мяне цікавілі абставіны закрыцця, а заадно — ці цяжка было выкладаць на роднай мове гішпанскую і як вучні пачуваюць сябе, патрапіўшы з беларускамоўнай школы ў рускамоўную, якой заўжды была сярэдняя школа ў Опсе. Але нечакана сутыкнуўся з катэгарычнай адмовай. «Няма пра што размаўляць», — у голасе Раісы Міхайлаўны чулася стомленая раздражнёнасць...

Пра тое, што Далёкаўская школа шмат гадоў была беларускамоўнай, я даведаўся выпадкова і, шчыра кажучы, для сябе нечакана. Нібыта зноў пачуў, як з суседняга класа, што месціўся за тонкай перагародкай, даносілася: «Коска! Я сказала — коска! Не понимаешь? За-пя-тая!» ... «Так і было, — смяецца Ала Леанардаўна, — яшчэ і па руках указкай лупіла...»

Ала Леанардаўна Шулья, у дзявоцтве Таранда, мастацкі кіраўнік Дома культуры. Прозвішчы мясцовыя, далёкаўскія, у маім класе былі абое. Пра тое, як яна выцягвае Дом культуры з агульнага заняпаду, патрэбны асобны аповед. Пакуль выцягвае. Бо з тых, пералічаных па пальцах, хто не знайшоў у сабе сілаў супрацьстаяць настальгіі па радзіме, вярнуўся ў Далёкія, збольшага з Латвіі. Выйшла замуж за аднакласніка і засталася «ў роднай хаце, родным гняздзе, што будаваў дзед...» Глядзім здымкі, што захоўваю ў ноўтбуку, мо каго пазнае, гартаем тоўсты альбом, на якім, як і ў школьным музеі, пазначана «Летапіс», а там ізноў верш:

...Хай будзе не сурочана
Твая краса, Далёччына,
Малечых вёснаў грай.
Няхай табе не плачацца.

Смяецца, тчэцца, скачацца...
Па ўдачы час звярай!
Хай вёска беларушчына
На тло не будзе пушчана...

А я згадваю педнараду, якая была склікана па заяве Раісы Пракопаўны, што я, замест каб весці ўрок, спяваю вучням «Выхожу один я на дорогу». Усё ж танюсенькая была перагародка...

Рускую літаратуру я выкладаў з-за адсутнасці адпаведнага настаўніка, методыкай, якая глушыла ўсялякую цікаўнасць да літаратуры, дзякуй Богу, не валодаў. І калі вывучалі Лермантава, палічыў за лепшае праспяваць любімы раманс. І як слухалі!

Педнарада скончылася на маім пытанні да Раісы Пракопаўны, чаму яна выкладае беларускую мову на рускай. «А каму яна спатрэбіцца, ваша беларуская мова?!»

Гэтае «ваша мова» згадалася напрыканцы траўня, калі пісаў характарыстыкі на сваіх вучняў, што меліся некуды паступаць. У ліпені мяне тэрмінова выклікалі з Мінска, з вакацый — ніводзін тэхнікум характарыстыкі не прымае. Не буду сцвярджаць, што з-за мовы, хутчэй з-за маёй наіўнай дурасці, бо напісаў нейкія партрэты — хто чаго варты. «Напішыце, як трэба, — дырэктарка нервова працягнула мне стос паперак, — і па-руску...»

...Прапыліў міма жоўты аўтобус, які штодня возіць былых вучняў і былых настаўнікаў былой школы. У Опсу і назад, у Далёкія.

## УДАР. ЯШЧЭ ЎДАР

У Опсу я вяртаўся ў дрэнным настроі. Вядома, засмучала адмова былой дырэктаркі. Але найгоршым падалося тое, што не было аніякага развітання са школай. Калі сыходзіць з жыцця чалавек, збіраюцца сваякі, нашчадкі, каб выказаць яму падзяку і праводзіць у апошні шлях. А калі памірае школа — матуля незлічоных сваякоў і нашчадкаў? Што, пакінуць усе пачуцці ў музеі і замкнуць на ключ? Няўжо настаўнікі толь-

кі і былі заклапочаны сваім далейшым лёсам? Які, дарэчы, склаўся даволі спрыяльна — ніводзін не застаўся без працы. Хто ў Богіне, хто ў Відзах, але ў асноўным у Опсе. А мо Раіса Міхайлаўна таму і адмовілася сустракацца, што цяжка?

— Так, хутчэй за ўсё так, — пацвердзіла Ірына Станіславаўна. — Каму прыемна паказваць свету нябачныя слёзы?

У Опсаўскую сярэднюю школу я наведаўся заўтрашняй раніцай і патрапіў якраз у перапынак. Звычайны школьны перапынак — з дзіцячым гоманам, з беганінай па калідорах і лесвіцах, з мімалётнымі сутычкамі і тузаннем за чупрыны... Але чамусьці я адчуў нейкае асаблівае хваляванне. Мо так пасля наведвання могілак хвалюе працяг жыцця...

За ўсім гэтым неспакойным жыццём моўчкі назірала мілавідная жанчына ў вязанай кофце і вольна накінутым на плечы шалі. Нешта цёплае, хатняе было ў яе абліччы, уласцівае толькі сельскім настаўніцам...

— Не ведаеце, хто тут з настаўнікаў з Далёкіх?

— А я з Далёкіх і ёсць...

Ірына Станіславаўна Высоцкая нарадзілася ў іншым кутку Браслаўшчыны, у Плюсах. Скончыла школу, потым педінстытут у Даўгаўпілсе, што, дарэчы, для моладзі з браслаўскага краю было не рэдкасцю. Даўгаўпілс прыцягваў да сябе, памятаю, як уразіла мяне блізкасць ад Далёкіх вялікага горада, якія 60–70 кіламетраў, што да згаданых вышэй Казян...

У Далёкіх Ірына Станіславаўна апынулася напрыканцы 80-х — намеснікам дырэктара і выкладчыцай фізікі. Па ўсім, здолела прывіць далёкаўскім вучням любоў да фізікі. Асабліва таму аднаму, хто паступіў вучыцца ў мінскі БАТУ і ў 1992 годзе вярнуўся ў Далёкія калгасным электрыкам і мужам прыгожай настаўніцы. Гэтакая аказалася прышчэпка да роднай зямлі. Ці ўтрымаецца?

Ці ўтрымаюцца галоўны калгасны, ад Далёкіх да Казян, электрык і ягоная жонка-настаўніца на тым гектары зямлі, што апрацоўваюць дзеля падтрымання жыцця? Ну, яшчэ свінні, куры... Апошнім разам муж прынёс ажно паўтара мільёны, дый то пасля шматмесячнай затрымкі. «Быў час, калі ён зарабляў у два разы больш за мяне. Зараз — я», — усміхаецца Высоцкая

і сцвярджае, што ніколі «не зацыклівалася» на заробку. Мо тое і маецца на ўвазе, калі ад Леніна і да Лукашэнкі лётае па гістарычным надхмар'ем абяцанне ўзняць «народного учителя на небывалую высоту»?

Пра многае размаўлялі мы з Ірынай Станіслаўнай. І з размовы той у справе аб закрыцці школы ў Далёкіх выявіліся новыя акалічнасці. Апошні ўдар, лічыць Ірына Станіславаўна, нанесла пераўтварэнне сярэдняй школы ў так званую базавую, за год да закрыцця. «Да аптымізацыі», — з горкай усмешкай папраўляе Высоцкая. Вынікам сталася тое, што адразу па-за межамі школы апынуліся вучні 10–11-х класаў і падлік пайшоў на адзінкі.

Але быў яшчэ ўдар перадапошні. І да вышэйзгаданага ланцужка «калгас-праца-школа» дадаўся ланцуг «Далёкія-мова-Богіна».

Богіна — вёска вядомая, у найноўшыя часы ажно да Піцера і Масквы. Ад яе і наўкол — спрэс азёры, лясы. Пабачыць тамтэйшыя катэджы, што павырасталі па берагах, часу не хапіла. Але ўявіць гэта было не цяжка — у Богіне, што месціцца ад Далёкіх на той жа адлегласці, што і Опса, толькі ў адваротным баку, бываў неаднаразова. Да таго ж, праз Богіна найкарацейшая дарога да Відзаў, адкуль давялося раз-пораз вазіць угнаенні для школьнай цяпліцы і саду, а ўзімку брагу...

Усё ж цяжкавата ўхіліцца ад успамінаў. Ды і як, калі стаіць перад вачыма асветлены поўняй відзаўскі касцёл, увесь у шэрані па чырвонай цэгле, нібыта з цукру... Ну а ўспамін пра царкву ў Богіне будзе дарэчы.

Школа ў Далёкіх, пакуль была сярэдняй і рускамоўнай, збірала пад сваё крыло вучняў з усяго наваколля, збольшага з Богіна, бо сярэдняй там не было. Зрэшты, і сёння няма, тая ж базавая. А тады для вучняў з Богіна ды з іншых вёсак нават інтэрнат быў на зіму, хай сабе ў старой хаце...

Даведацца, калі школа сталася беларускамоўнай, мне не ўдалося. «Заўсёды была», — кажа Ірына Станіславаўна. «Заўсёды» — гэта яе 26 гадоў... Але з таго часу богінскія бацькі пачалі паступова адпраўляць сваіх дзетак у Відзы, у рускамоўную школу. Такім чынам выявілася прыхаваная супярэ-

члівасць паміж праваслаўным Богінам і каталіцкімі Далёкімі: ланцуг паміж імі парваўся ў самым слабым звяне — у мове. Драўляныя прыгажуня царква ў Богіне і прыгажун касцёл у Далёкіх, пабудаваныя яшчэ ў XIX стагоддзі, і ў савецкія часы працавалі бесперапынна. У адрозненне ад Відзаў і Опсы, дзе ў касцёлах месціліся калгасныя сховішчы і склады. Мо таму, што вёскі хаваліся ўбаку, а мястэчкі — пры вялікім шляху на Браслаў і ў астатні свет...

Ці вернецца хто з вучняў Высоцкай у Далёкія, як знойдзе сябе ў астатнім свеце? «Зямля круглая», — філасофскі заўважае Ірына Станіславаўна і знімае з шафы глобус. Я жартую: «Мо адшукаем, дзе тут Далёкія?»

Не ведаю нават, навошта ён спатрэбіўся для здымка. Але чамусьці падумаў, што не толькі Зямля круглая, але і Час, што імкліва круціцца па коле жыцця.

## *3. ОПСА*

### ВАКОЛ ШАРА

Пацвярджэнне таму, што Час круглы, я нечакана сустрэў на падворку школы, убачыўшы наводдаль нешта падобнае на помнік. Падышоў бліжэй. У атачэнні цяжкіх металічных ланцугоў і дзвюх прыгожых елак на пастаменце стаяў вялікі, з граніту, шар. Я адразу пазнаў яго. Гэта быў шар з маёнтка Плятэраў, з тых, што ўпрыгожвалі лесвіцу ад палаца да возера і складзеныя з камянёў слупы ўязной брамы. Каму з настаўнікаў сярэдняй школы прыдумалася ставіць дзіўнаваты помнік маёнтку нашчадкаў знакамітага роду? Маёнтку, што захраснуў паміж зніклым мінулым і няўцямным будучым ці то ў коме, ці то ў летаргічным сне.

Яно было дзіўнавата яшчэ і таму, што сярэдняя школа заўжды мела да маёнтка ўскосныя адносіны, бо сапраўдным уладальнікам яго і гаспадаром ад пасляваеннага часу была школа-інтэрнат. І, трэба сказаць, гаспадаранне было, як тое зараз мовіцца, досыць эфектыўнае. Частка дзетак, я ўжо згадваў, жыла ў палацы, настаўнікі — у таўстасценных флігелях на

моцных, з вялікіх камянёў, падмурках. А ў былых гаспадарчых збудаваннях гадаваліся, для сталоўкі і на продаж, свінні і ўтрымлівалася стайня для двух коней...

І палац, і стары парк былі добра дагледжаныя. Да таго ж і ў школе, і ў маёнтку была электрычнасць, вёска, да якой мо кіламетр, патанала ў цемры. А тут, нібыта ў радасці ад «лямпачкі Ільіча», стаяў пасярод парку на белакаменным пастаменце маленькі кучаравы Валодзя Ульянаў. Што праўда, ад пачатку мінулага стагоддзя на тым пастаменце стаяў помнік ваўкарэзу, каторы выратаваў месцічаў ад звар'яцелага воўка, але і сам загінуў у жорсткай бойцы. З гэтай даўняй гісторыяй звязана, па легендзе, і назва вёскі, што існуе ажно ад XVI стагоддзя. Плятэры шанавалі гісторыю. Замазаны надпіс «О, псе!» бачыў на ўласныя вочы.

Першая невялічкая парафіяльная школка ў Опсе з'явілася ў 1781 годзе, згарэла разам з паловай мястэчка ў 1829-м і была адноўлена на пачатку XX стагоддзя. Ад таго часу існавала бесперапынна, нават падчас нямецкай акупацыі...

А падчас майго настаўніцтва сярэдняя школа месцілася ў адным са старых будынкаў далёка ад маёнтка і школы-інтэрната. І толькі ад 1975 года ў новым будынку — за якія дзве-тры сотні метраў. І калі хто з выпадковых вандроўнікаў запытаецца, навошта ў вёсцы дзве вялікія школы, давядзецца тлумачыць, што школы-інтэрната з 2013 года не існуе.

Знікала гэта школа-інтэрнат паступова, разам са змяншэннем на Віцебшчыне колькасці дзетак-сірот, а потым — дзетак з хібамі развіцця. Ёсць і іншае тлумачэнне: занадта далёка ад Віцебска. Але, на маю думку, усё значна прасцей: у дзяржавы, што ганарліва называе сябе сацыяльнай, няма грошай. Дакладней, у кагосьці яны ёсць. А ў дзяржавы — няма. І італьянцы ўжо не едуць, грошай больш не даюць.

Паўсюль італьянцы! Аднак у адрозненне ад Далёкіх у Опсе ў іх усё атрымалася. Што праўда, не ў тых, хто сыры хацеў вырабляць, а ў тых, хто ратаваў беларускіх дзетак ад чарнобыльскага апраменьвання — вывозіў пад міжземнаморскае сонейка. Размовы пра закрыццё школы ішлі цягам трох гадоў, але італьянцы, ды яшчэ ірландцы і шведы, усё клапаціліся

пра яе. І ў рэшце рэшт зрабілі на ўласныя грошы шыкоўны рамонт, усталявалі найноўшую тэхніку на кухні, у сталоўцы і пральні, аднавілі ўсю мэблю...

Зараз усё гэта багацце, што хаваецца за высокім плотам і зачынена на вялікі свірнавы замок, чакае аўкцыёну. «Ат добра было б, каб хто адкрыў тут дом прэстарэлых! — смяюцца Навойчыкі з Вандай. — Паздавалі б кватэры і — праз дарогу, да светлай будучыні...»

## ЦЯПЛО НА ЗЯМЛІ

Іосіф Браніслававіч і Ніна Мікалаеўна Навойчыкі ў Опсе з 1954 года, і з вяселля амаль 60. Ён фізік, яна — матэматык. Спачатку ў сярэдняй школе, потым у школе-інтэрнаце. Як і Ванда, Ванда Станіславаўна Верам'ёва, у дзявоцтве браслаўская Каралевіч, што выкладала рускую літаратуру. У школе-інтэрнаце настаўнічаў яе муж, Іван Кірылавіч, вучыў, нагадаю, біялогіі. Мы сябравалі. І калі ён раптоўна памёр, Ванда даслала мне сачыненні, што напісалі пра яго вучні. Амаль ва ўсіх паўтаралася звыклае «настаўнік ад Бога». Але чамусьці гучала нязвыкла, як у першы раз. Па сутнасці, гэта былі клятвы памятаць пра яго ўсё жыццё.

Я мала што ведаю пра тое, дзе і як, па якіх мясцінах краіны і свету доўжыцца жыццё шматлікіх вучняў маіх адзіных у Опсе сяброў. А вось іх жыццё так і засталося вясковым — з агародзікамі, хляўкамі для свінак і курэй, з паходамі на хворых нагах у далёкую краму па хлеб ды ўспамінамі. Што праўда, пры святле, цяпле, тэлефонах, з нядаўняга часу і пры інтэрнэце, што вельмі дапамагае зносінам з уласнымі дзецьмі і ўнукамі — ад Віцебска да Масквы, Піцера і Берліна... Збольшага ўзімку, бо на лета тыя прыязджаюць самі. І па сцяжынцы дзяцінства, праз маёнтак Плятэраў — да возера, да яго таямнічай глыбіні...

Хмары на жыццё былых настаўнікаў пасярод сціплых дасягненняў цывілізацыі насунуліся з трох бакоў. Адна — ад мясцовых камунальшчыкаў, што адмаўляліся браць на свой рахунак школьную кацельню; другая — ад энергетыкаў, што адключылі ў хляўках святло, бо, па-іхняму, «не прыватыза-

ваныя»; трэцяя — ад мінскага Цэнтра гандлю нерухомасцю «Пакадан» і яго «дачкі» ТАА «Сядзібы і замкі», што прыдбала былы маёнтак Плятэраў, каб стварыць з яго VIP-гатэль.

Усё трымалася тут на школе — і два панельныя, двухпавярховыя на некалькі кватэр, дамы, пабудаваныя ў 1980 годзе для настаўнікаў, і хляўкі, на якія школа давала дазвол, і соткі пад агародзікі, дый маёнтак. Апошні — да 90-х гадоў, калі яго прыдбала Беларускае таварыства інвалідаў і распачало рэстаўрацыю пад будучы дом адпачынку...

Разганяць хмары над старымі настаўнікамі ўзяліся іх выхаванцы з розных часоў. Як толькі пачулі пра пагрозу закрыцця школы, з'ехаліся, каб паспець развітацца, выслухалі скаргі і наваліліся, хто лістамі, а хто наяве, на віцебскае, ажно да Косінца, начальства. Цяжка нават зараз сказаць, ад чаго больш уграваюцца Навойчыкі з Вандай і астатнія жыхары настаўніцкіх дамоў — ад школьнай кацельні ці ад сардэчнага клопату сваіх выхаванцаў.

## СВЯТЛО З-ПАД ЗЯМЛІ

...«Памятаеш маю жартоўную прымаўку "А света в Опсе не будет вовсе"?» — «А як жа ж, — усміхаецца Ванда, — Іван, як што дрэннае ў Опсе здаралася, адразу згадваў. Нават калі ўжо і святло з'явілася...»

Школу зачынялі ад верасня. А ўлетку быў страшэнны ўраган з навальніцай, маланкі шугалі па ўсім небе. Раптоўна гвазданула недзе паблізу — адразу па ўсёй Опсе згасла святло і пачуўся жудасны трэск, нібыта зламалася тое, на чым трымаецца свет.

Мы ідзём да дуба Напалеона.

Да дуба Напалеона мы ідзём праз маёнтак Плятэраў. На слупах, што засталіся ад некалі велічнай брамы, дзве шыльды: адна абвяшчае пра «гісторыка-культурную каштоўнасць», другая — пра «частную территорию», якая «охраняется». Вакол тэрыторыі — плот з дошак, які звычайна ставіцца пад загарадзь для скаціны. На слупку — яшчэ шыльдачка: «Ведётся реконструкция».

Насамрэч ніякай рэканструкцыі няма. Адзінае, што засталося ад Беларускага таварыства інвалідаў, — бляшаны дах, што выглядае нейкім непаразуменнем над паўразваленымі сценамі. Астатняе, што паспелі зрабіць перадапошнія ўладальнікі, пакуль былі грошы, раскурочана дашчэнту — вокны, шыбы, падлогі... «Па начах грузавікамі звозілі, — гаворыць Ванда, — толькі ліфты ўратавалі...» — «Ліфты?» Ах, так, двухпавярховы палац чакаў інвалідаў...

За тры гады, што шматпакутны маёнтак Плятэраў ва ўласнасці ТАА «Сядзібы і замкі», не зроблена анічога. Акрамя шыльдачак ды пагрозлівых папярэджванняў, што паразвешаны па слупах, слупках ды дошках, якімі закалочаны вокны. Мо традыцыйна не хапае грошай, а мо згас імпэт, з якім «рэканструктары» наважыліся збудаваць VIP-гатэльны комплекс з усялякімі VIP-забаўкамі. Ды яшчэ шырока разрэкламавалі, намалявалі опсаўцам шыкоўную перспектыву з працоўных месцаў. Але спатыкнуліся на настаўніках. Ну, не маглі старыя людзі, што ўсё жыццё паклалі на будучыню краіны, аніяк зразумець, чаму яны «ушлые», па выразе сталічнай мадам. Чаму, каб нейкім VIPам нішто не мазоліла вочы, не замінала цешыцца прыродай ды адчуваць сябе датычнымі да гісторыі, трэба зносіць іх дамы і прадаваць за бесцань кватэры. Яно так, дамы тыя маюць непрэзентабельны выгляд. Але кватэры добрыя, утульныя, з усімі выгодамі. Насуперак хлуслівым сцвярджэнням новых уладальнікаў, што «...все удобства на улице, вода в колодце, колодец засорён. Воду приходится ежедневно привозить в бидонах...»

...Дуб ляжаў, нібыта магутны зубр, спасцігнуты раптоўнай смерцю, захаваўшы ў велічнай нерухомасці апошні момант жыцця. Я гладзіў яго па глыбокіх зморшчынах, угрэтых лістападаўскім сонейкам, адыходзіў, намагаючыся змясціць яго ў кадр. Але ён не змяшчаўся.

Апошнім разам я здымаў яго ў жніўні 2005 года, калі ўпершыню прывёз сюды ўнучку. З якім радасным здзіўленнем яна трымалася за колца, да якога прывязваў каня Напалеон! Дзе зараз тое колца? Шукаю па целе дуба — няма. Мо хто ўжо прывязвае да яго свайго каня...

«Так, — сумнавата згадвае Ванда, — Верам'ёў вельмі любіў гэты дуб... А дубок бачыш?» — «Не, не бачу. Які дубок?» Яна бярэ мяне за руку, падводзіць да мёртвага дуба з іншага боку. «Гэта нашы былыя вучні, як даведаліся, што дуб паваліўся, з'ехаліся і пасадзілі новы... Бачыш?»

Так, бачу. Цягнецца да сонейка танюсенькая галінка з трапяткімі жоўтымі лісточкамі.

Нібыта слупок святла з-пад зямлі.

## *4. БРАСЛАЎ*

### АПТЫМІЗАЦЫЯ КАТАСТРОФЫ

У Відзах, калі ў суме і нават у роспачы ад пабачанага вяртаўся дадому, у аўто падсела прыгожая маладая жанчына. «Выбачайце, спазняюся... Падкінеце да Казян?» Ірэна, так яна назвалася, спазнялася на ўрок у музычнай школе, дзе яна ужо колькі год вучыць дзетак граць на акардэоне.

Казяны, нагадаю, той самы цэнтр калгаса «Новая Гвардыя», у складзе каторага паміраюць Далёкія. Ну а што самі Казяны? Жывуць?

«Што вы! — усклікнула Ірэна. — З кожным годам дзетак усё меней і меней. Дык настаўнікі за кожнага змагаюцца. Мінулым летам адзін ажно ў Полацк лётаў, сілай забраў дакументы свайго вучня з тэхнікума, куды той пасля 9-га класа мусіў паступаць. Каб хаця б пяць вучняў у 10-м пакінуць і сярэднюю школу захаваць, пазбегнуць базавай». — «А дзе яна?» — «Школа? Дык няма яе...»

Так высветлілася, што будынка школы ў Казянах няма, настаўнікі працуюць, а дзеці вучацца па розных памяшканнях. Намагліся зрабіць школу ў клубе, падрамантавалі, шклопакеты паставілі, але... «...парушылі цэласнасць будынка, — усміхаецца Ірэна, — яшчэ халадней сталася... а грошы адмылі...»

Напярэдадні, у чаканні сустрэчы з Абаровічам, я вывучаў стэнд Браслаўскага РАНА.

Не ведаю нават, ці існуе сёння традыцыйная абрэвіятура, бо ўстанова, якой кіруе Абаровіч, называецца — па шыль-

дзе над уваходам — «...Аддзел адукацыі, спорту і турызму». «Аптымізацыя...» — не хаваючы іроніі, патлумачыў Іван Антонавіч, калі ўжо прыселі для размовы. Мяне цікавіла, ці катастрофа для будучыні дзяржавы, краіны, нацыі ў рэшце рэшт, знікненне вясковых школ, альбо яно — у сусветным рэчышчы, пра якое чуў неаднойчы: маўляў, аб'ектыўны працэс, ва ўсіх цывілізаваных краінах падае нараджальнасць і моладзь імкнецца ў вялікія гарады. Але думалася, калі чуў: паміж «імкнуцца» і «збегчы» вялікая розніца...

«Дэмаграфічная сітуацыя, — пачаў Абаровіч, — складваецца не на карысць адукацыі... Штогод мы губляем да 200 дзяцей...» Гучала катастрафічна.

Між тым катастрафічнасць я адчуў яшчэ калі вывучаў згаданы стэнд, шукаючы, як дзяржава, увасобленая ва ўладзе, ставіцца да праблемы. Адшукаў. Пад агульнай назвай «Проблемы района» пазначалася: «Оптимизация образовательного процесса в условиях модернизации региональной системы образования. Цель: создание условий для повышения качества образования через оптимизацию эффективных форм и методов работы». Падумалася: дзяржаўная машына, здольная ствараць такія тэксты, катастрофа сама па сабе.

Катастрофа для будучыні дзяржавы, краіны, нацыі — якраз улада, якая цягам дзесяцігоддзяў адбірала ў народа зямлю і мову і праз розныя «оптимизации», што раз-пораз патыхаюць крывёю і гвалтам, намагалася захаваць сябе і толькі сябе.

У 30-х гадах мінулага стагоддзя ў маёнтку Плятэраў працавала земляробчая школа, бо яшчэ былі земляробы. Дзе земляробы, там і дзеці — уласная зямля родзіць не толькі хлеб, але і нашчадкаў. Вядома, што ўтварыла бальшавіцкая ўлада: замест зямлі — вялікі, памерам з краіну, Калгас, замест земляробаў — калгаснікаў...

А мова?

«Мова — гэта святое, — гаворыць галоўны на сёння «оптимизатор». — І ў нас ёсць усё для таго, каб спакойна — калі трэба, дваццаць гадоў, каб паставіць беларускую мову ўпоравень з рускай...»

Мы ўжо дваццаць гадоў чуем пра «ўпоравень». І яшчэ дваццаць?! Я бачыў гэты «ўпоравень». За апошнія адзінаццаць гадоў у раёне знікла 15 школ, ці не ўсе беларускамоўныя. «А колькі зараз беларускамоўных школ?» — «60 працэнтаў», — адказвае Абаровіч. Гэта з 22, што засталіся, і ў палове каторых менш за 50 вучняў.

Але справа не толькі ў лічбах. У Далёкіх, дзе не адно дзесяцігоддзе школа была беларускамоўнай, вы не пачуеце беларускага слова, калі не загаворыце самі. Ведаць ведаюць, але размаўляць не спяшаюцца. Ні паміж сабой, ні самі з сабой. Ці ж магчыма вёсцы супрацьстаяць рускамоўнай тэлевізійнай, ды ад усюды, навале?! Не Лермантаву з ягонай адзінотай і падслуханай размовай зорак, а менавіта навале — варыву з папсы і нахабнай хлусні. Вось Пяткун, вучань з апошняга, перадсмяротнага 9-га класа, перамог на рэспубліканскай алімпіядзе па веданні роднай мовы. Гонар, вядома. Але ад мовы, на якой далёкаўскія размаўлялі яшчэ напачатку 60-х і, вядома, раней, нават крушняў не засталося. «Чаму?» — запытаўся я. — «Мо час прапушчаны, — Абаровіч пацiснуў плячыма, — мо...»

Я разумею яго. Пад партрэтам прэзідэнта адказу не будзе.

Я разумею яго — у вачах боль, успамін пра роднае, гэтаксама знікаючае Дварышча, што паміж Дрысвятамі і Опсай, і адзіны клопат — як не пакінуць без працы настаўнікаў і захаваць школьныя будынкі. На будучае. «А раптам! — летуценна ўсклікае Абаровіч. — Раптам усё яшчэ вернецца...»

Мне шкада ягонай надзеі, мары. Бо раптам будучыня не нараджаецца. І не раптам памірае.

Толькі пасля цяжкой працяглай хваробы.

## ЗМЕСТ

*Літаратурна-мастацкае выданне*

Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў
«Кнігарня пісьменніка»

Выпуск 85

**Ваганаў** Сяргей

**Мосцік над вечнасцю**
*Нарысы і эсэ*

Адказны за выпуск Аляксандр Пашкевіч
Рэдактар Барыс Пятровіч
Вёрстка Ларысы Гарадзецкай
Карэктар Алена Спрытніч

Падпісана да друку 22.09.2016. Фармат 84x108 1/32.
Рызаграфія. Папера афсетная. Ум. друк. арк. 14,28.
Ул.-выд. арк. 11,78. Наклад 200 ас. Зак. 68.

ТАА «Інбелкульт».
АДРН 1136733002120.
Пас. Малкамбіната, д. 21, 216790, г. Рудня Смаленскай вобласці,
Расійская Федэрацыя.

Паліграфічнае выкананне
ВУП «Воля».
Вул. Каперніка, 118-2, г. Львоў, Украіна.